# Гамарджоба, Грузія!

## Частка 1

### 1

Новая кватэра пахла нядаўна скончанай будоўляй. Асаблівы пах навізны, пах фарбы і фармальдэгідаў. Усё чыстае, бліскучае: ламінатная свежая падлога, па якой асцярожна ступаеш у тапках, каб не падрапаць, з трапяткім адчуваннем, быццам у музеі; сцены, якія асляпляюць святлом, выклееныя нерэальна белымі вінілавымі шпалерамі замежнага паходжання з прэтэнзіяй на стыль і фон для будучага інтэр’ера; абавязковы пластык шклопакетаў. Пройдзе час, кватэра абжывецца, дзесьці абатрэцца, дзесьці абдзярэцца, увабраўшы ў сябе паўсядзённасць, але пакуль выклікае трапяткія пачуцці і ілюзорнае адчуванне, што навізна — усур’ёз і надоўга, а для паўнаты шчасця застаецца толькі стварыць шэдэўр кватэрнага інтэр’ера па матывах моднага глянцавага часопіса.

Сямейная пара, муж і жонка абмяркоўвалі надзённыя справы ў праcторнай зале. Жонка прыкідвала, як зручней расставіць мэблю. У пустым, даволі вялікім пакоі, пабудаваным па сучаснай вольнай планіроўцы, адзінока пачуваўся ля сцяны мяккі куток: канапа і два крэслы, модна скамбінаваныя ў колерах слановай косткі і чорнай кавы. Астатняя мэбля была ў праектах і пражэктах.

— Слухай, а давай вось тут паставім светлую камодку, я думаю, будзе прыгожа. Зверху я ўладкую падсвечнік ці вазу, а на сцяне — карціна. Толькі я не ведаю, якой вышыні купіць камодку? — паспешліва гаварыла жанчына, быццам баючыся, што яе спыняць і не дадуць дагаварыць. Для падмацавання красамоўнасці яна размахвала рукамі. Рукі апусціліся ўніз, па-

казалі, дзе будзе стаяць камода, праз імгненне ўзляцелі над галавой, плаўны ўзмах пальцаў вызначыў месца для карціны, якая цудоўна дапоўніць меркаваны інтэр'ер. За спіной жанчыны вымалёўвалася ціхамірная хударлявая постаць мужа ў сарочцы з няроўна закасанымі рукавамі. У адной руцэ ён трымаў запылены перфаратар з доўгім кручаным джалам свердла. Цяжкі перфаратар адцягваў руку, амаль уторкваючы свердзел у падлогу. Бачна было, што чалавека адарвалі ад справы. Закатваючы ўгару вочы, у якіх безупынку скакалі прывіды насвідраваных дзірак, ён цярпліва выслухоўваў жонку і менш за ўсё ў тую хвіліну хацеў абмяркоўваць вышыню камоды.

У вобразе мужчыны не хапала адной дэталі — тапак на нагах. Гісторыя іх знікнення тлумачылася проста: жонка забылася свае тапачкі дома, на старой кватэры і, каб не хадзіць басанож, забрала мужавы — ён жа джэнтэльмен, павінен аддаць тапкі жанчыне. Беспардонна сканфіскаваўшы абутак мужа, яна важна праходжвалася па кватэры, зграбная, падцягнутая, апранутая па-спартыўнаму, у зручныя трыкатажныя штаны з белымі рыскамі лампасаў па баках калашын і кофту з капюшонам, які прыплюснутым касым вуглом вісеў за спіной. Праз адкрыты шырокі насок мужчынскага тапка пальцы вузкай жаночай ступні высоўваліся далёка наперад і дакраналіся да падлогі, падэшва тырчала на тры пальцы ззаду за пяткай. Муж застаўся ў адных шкарпэтках, як і належыць «джэнтэльмену». Кожная жанчына марыць зрабіць са свайго мужа «джэнтэльмена», то бок прыўлашчыць што-небудзь мужава: машыну, зарплату ці хаця б тапачкі. У гэтай сям'і «джэнтэльменства» знаходзілася ў зародкавым стане і абмяжоўвалася такімі дробязямі, як хатні абутак, садраны ў мужа з ног.

Гэтым суботнім днём муж і жонка, Павел і Надзея Сташэўскія прыбылі на новую кватэру ў Першамайскім раёне горада Мінска, каб працягваць яе абсталёўваць. Яны планавалі ў хуткім часе перабрацца сюды са старой

цеснай жылплошчы і між імі ішла размова, як найлепш уладкаваць сямейнае гняздзечка.

Перакаціўшыся нагамі ў шкарпэтках пару разоў з пяткі на насок, муж выказаў сваё мужчынскае аўтарытэтнае меркаванне пра інтэр'ер:

— Паслухай, Надзя, калі ты ў рэшце рэшт разродзішся? Можа, такую камодку? Можа, гэткую? Колькі ты будзеш мяне даставаць?

Надзя павольна, нібы гайдануўшыся на хвалі, павярнулася да мужа з імгнення загатоўленым пакрыўджаным выразам твару. Кіслая міна ёй не пасавала, намаляваная крыўда сцёрла частку жаночай прывабнасці, але гэта цяпер не мела ніякага значэння, яна ж не на спатканне прыйшла, а на разборкі з мужам. Страсянуўшы рухам назад стрыжанымі лесвічкай попельнымі валасамі, не марудзячы ні хвіліны, жонка пайшла ў атаку:

— З табой і пагаварыць няма як. Я ж параіцца хацела!

— Параіцца яна хацела. Няўжо? Хто б мог падумаць?! Усё адно ж зробіш па-свойму. Давай, адразу кажы, што там далей па «нашым» плане?

— Я хацела яшчэ камін… Паша, давай купім камін! Будзе ўтульна і арыгінальна, — цвёрда-капрызлівым голасам, абсалютна не па тэме камоды выдала Надзя, але мужа гэта ніколькі не здзівіла.

— Усё, я магу ісці? — Павел палічыў сваю місію нібыта дарадчыка выкананай і, павярнуўшыся да жонкі спіной, памкнуўся адправіцца дасвідроўваць дзіркі ў сцяне.

— Значыць, ты не хочаш купляць камін?! — кінула ўслед жонка, у яе голасе з'явіліся скандальныя ноткі.

Надзя пачынала заводзіцца, унутры пацiху закіпала. Асабліва яе выводзіла з сябе ўсведамленне, што насамрэч рэчаіснасць такая і ёсць, як яе акрэсліў муж: яна ўсё адно зробіць па-свойму. Надзя распальвалася, выбудоўваючы ў галаве, што б такое пранікнёнае сказаць мужу, як бы яго ўпікнуць. «Разумнік знайшоўся, бачыць мяне наскрозь. Ха-ха-ха! Рэнтгенам бы працаваў у паліклініцы — людзям карысць і сям'і прыбытак!.. Цяжка яму хвіліну паслу-

хаць, а мог бы і падыграць! Чаму ўсе мужыкі такія…» — у галаве круцілася слова, што пачынаецца з літары «к».

Мужыкі, вядома, былі ні ў чым не вінаватыя, але кожны раз, калі Надзя злавалася на мужа, да адказнасці прыцягвалася ўся мужчынская палова чалавецтва.

Павел затрымаўся перад дзвярыма і разглядаў свердзел. Замест вачэй Надзя бачыла павернутую да яе стрыжаную цёмнавалосую патыліцу мужа, і гэта здавалася ёй выклікам. Нарастала абурэнне, яно бруілася і клекатала ў сярэдзіне, гатовае вырвацца на паверхню. Надзя набрала паветра ў грудзі, наважыўшыся выказаць свае меркаванні наконт мужыкоў у цэлым і асобных прадстаўнікоў у прыватнасці, але тут Павел загаварыў, без лішняга шуму і пылу, размерана і спакойна. Бурная хваля жончынага гневу была спынена кароткай фразай:

— Чаму не хачу? Хачу. Абавязкова купім камін, — не паварочваючыся, адказаў ён жонцы і ўзняў цяжкі перфаратар перад сабой. — Дарагая, усё будзе, як ты хочаш, — гэтыя словы Павел прамовіў з адсутным выглядам, утаропіўшыся ў металічную шэрасць спіралі свердзела і разважаючы, як будзе свідраваць чарговую дзірку.

Даваць парады жонцы — марнаванне часу, у свеце ёсць толькі два меркаванні: адно — яе, другое — няправільнае.

Надзя, збітая з імпэту, сумелася і насупілася, бровы ссунуліся на пераноссі. Унутраная радасць ад атрыманай перамогі была нейкая млявая, муж неспадзявана лёгка даў згоду на пакупку каміна, а яна ж падрыхтавалася да барацьбы. Змаганне не адбылося. Яна адчувала сябе нібы спартсмен, які разагнаўся для скачка, а яго на паўдарозе спынілі і павесілі медаль пераможцы. А ён так хацеў скокнуць! Надзея прымусова сцішыла свае ўнутраныя парывы і праз хвіліну ўраўнаважана агалошвала мужу план на заўтрашні дзень па пошуку каміна…

## 2

Раніцай наступнага дня сямейная пара Сташэўскіх круцілася між кіёскамі-павільёнамі на будаўнічым рынку мікрараёна «Уручча». Гэты рынак узнік у часы хаатычнага капіталізму, у тую пару, калі планавы сацыялізм пасля распаду Савецкага Саюза на пятнаццаць незалежных рэспублік «накрыўся медным тазікам» і сышоў у нябыт, вызваліўшы пляцоўку для новых капіталістычных здзяйсненняў. Сфармаваны першапраходцамі беларускага прыватнага бізнесу, будаўнічы рынак уражваў сваёй бязладнасцю. Гандлёвыя кіёскі без усялякай сістэмы былі паўтыканыя ўздоўж разбітых асфальтавых праходаў і пазначаны загадкавымі лічбамі і літарамі: П2, П4, Е7, А3. Нумараваў іх, мабыць, шахматыст, які з'ехаў з глузду. Гэты нумаралагічны хаос мог узарваць мазгі і выклікаць псіхалагічны зрыў у любога слабанервовага чалавека, якому давялося б шукаць тут патрэбны гандлёвы павільён. Аднак людзі са слабымі нервамі па будаўнічых рынках не хадзілі, тут перамяшчаліся людзі мужныя, стойкія, стрэсаўстойлівыя, загартаваныя рамонтам кватэры ці будоўляй новага прыватнага дома. Гэтыя моцныя арэшкі засяроджана ўглядаліся ў вітрыны з бліскучай сантэхнікай, запоўненыя ўмывальнікамі і кранамі неверагоднага выгляду, сноўдалі сярод напілаванай драўніны, вышукваючы жыццёва неабходную ў будаўніцтве запаветную драўляную дошчачку, абавязкова без сучкоў і засечак, ці ўдыхалі ацэтон на поўныя грудзі ў павільёне «Лакі-фарбы», апантаныя марай знайсці фарбу адцення марской хвалі ў час усходу сонца над ранішнім морам. Тунькаючыся па разбітых сцежках, пакупнікі раз-пораз натыкаліся на павільёны, суседства якіх было надзвычай дзіўным: побач з павільёнам, завешаным зіхатлівымі крыштальнымі лямпамі-люстрамі, якія заваблівалі сваім чароўным вытанчаным бляскам, беспардонна ўторкваўся банальны і грубаваты, закіданы габляванымі драўлянымі брусамі пункт гандлю піламатэрыяламі, а над наступным павільё-

нам красавалася шыльда, на якой вясёлымі падкручанымі літарамі было напісана: «Усё для лазенкі».

Надзя курсіравала па перпендыкулярных праходах, чытаючы надпісы, злёгку прымружвала вочы: «Не, не тое!» — і ішла далей. І вось — жаданая шыльда. Яе твар радасна засвяціўся.

— О, бачыш, «Печкі, каміны»! — паведаміла яна мужу і, не чакаючы сужэнца, першая праслізнула ў павільён.

Унутры павільёна завісла цішыня, наведвальнікаў не было: самая раніца, толькі адчыніліся. За сталом у куце сціпла прымасціўся прадавец, які ў беларускіх традыцыях гандлю рабіў выгляд, што не звяртае ніякай увагі на пакупнікоў. Пакупнікі ўяўляліся яму нечым накшталт молі, якая выпадкова заляцела ў гандлёвую залу, палётае, палётае і адляціць. Такое абслугоўванне Надзі падабалася, бо яна не любіла, каб да яе чапляліся і нешта прапаноўвалі. Ёй патрэбны быў час, каб агледзецца, зарыентавацца і толькі пасля, калі ўзнікне жаданне, самой задаваць пытанні прадаўцу. Муж зайшоў услед за Надзяй і дапытлівым тэхнічным позіркам аглядаў каміны. Выбар быў небагаты: малагабарытныя прамавугольнікі і квадраты аднастайных электрычных камінаў сціпла размясціліся ўздоўж сцен павільёна. За пяць хвілін агляд скончыўся. Надзін запал згас, пакінуўшы на твары цень глыбокага расчаравання. Прапановы не падаліся цікавымі, не зачапілі — усё так будзённа, а Надзя жадала эксклюзіву!

— Гэта ўвесь выбар? — спытала яна ў прадаўца і скептычна скрывіла вусны.

— У асноўным, так, — пачуўся адказ з утульнага кутка. Прадавец не зварухнуўся.

— Хацелася б штосьці больш арыгінальнае. Можа, Вы б штосьці прапанавалі? — па інерцыі спытала Надзя.

Цела зрушылася з месца, рыпнуўшы стулам, і лянiва перамясцілася ў бок Надзі. Параўняўшыся з пакупніцай, мужчына выявіўся даволі буйнога памеру, магутны і шыракаплечы. Ад заўсёднага сядзення яго мускулісты торс пачаў павольна заплываць тлушчам. Такому б вагоны

разгружаць, а ён ціха праседжвае штонікі за сталом гандлёвага павільёна. Побач з ім Надзя адчула сябе мініяцюрнай дамай, чаго раней за сабой не заўважала. Прадавец і пакупніца разглядалі мармуровы камін, які адзін толькі і прыцягнуў Надзіну ўвагу.

— А што Вас цікавіць? Вось той камін, — кіўнуў прадавец, — мне здаецца, нядрэнны варыянт.

На гэтым яго красамоўства скончылася, рэкламная акцыя завяршылася.

Павел у цішы, якая зноў запанавала ў павільёне, шоргаючы нагамі па падлозе, пераходзіў ад аднаго каміна да другога і нешта мацаў рукамі з выглядам знаўцы. Гэта Надзю палохала, бо ён у любы момант мог сказаць: «О, нармальны камін. Бяром! І на сёння — усё!» Трэба было ёй хутчэй адсюль уцякаць, каб не спрачацца з мужам. Яна думкамі адляцела на вуліцу, на паветра, тут рабіць, бадай, не было чаго, агляд скончыўся. Машынальна, каб запоўніць паўзу і культурна сысці, Надзя вымавіла:

— Гэты камін быццам бы нічога, я падумаю наконт яго. Хацелася б яшчэ варыянты паглядзець.

Яна ўжо планавала змыцца, як прадавец зрабіў ласку дадаткова нешта вымавіць.

— Я Вам дам тэлефончык… Чалавек займаецца камінамі. Той, што вы глядзелі, ён зрабіў. А на рынку ўся прадукцыя аднолькавая. Можаце ў іншыя павільёны не хадзіць.

— Як ад адной мамы, — хмыкнуў Павел, які да таго часу абмацаў і пакратаў усё, што хацеў.

Прадавец прамаўчаў. Ён пісаў нумар мабільнага тэлефона акуратным каліграфічным почыркам, глыбай нахіліўшыся над сталом. У яго вялікай далоні аловак здаваўся маленькім і чужым. Сюды б укласці гіру!.. Напісаўшы радок лічбаў, прадавец працягнуў паперку Надзі, бо беспамылкова вызначыў, што парадам кіруе яна. Надзя ўзяла двума пальцамі цыдулку, беглым позіркам агледзела напісанае і звярнула ўвагу, што пад лічбамі тэлефоннага нумара красавалася нязвыклае імя «Рэзо».

Яна склала паперку напалову, шаргануўшы пазногцямі па згібе, і перадала мужу на захаванне, каб пасля ўпікаць яго, калі згубіць, не на сябе ж браць адказнасць.

Сташэўскія пайшлі далей вышукваць каміны. Зноў замільгалі нумары павільёнаў: А3, В2, Е5 — выйшаў зайчык пагуляць…

Прагулка па рынку скончылася нічым. Прадавец з першага павільёна казаў праўду: усе каміны выглядалі аднастайна, а душа ж прасіла эксклюзіву. Вырашана было званіць загадкаваму Рэзо.

Павел набіраў нумар тэлефона пад жончыну дыктоўку.

–8… 0... 29… — выразна вымаўляла яна кожную лічбу.

Пачуўшы гудкі, Надзя ўхапіла мужа пад руку і ператварылася ў слых, прыхіляючыся бліжэй, спрабавала ўлавіць голас з мабільнага і шэптам падказвала Паўлу, якія трэба задаваць пытанні. Павел, размаўляючы па тэлефоне, рабіў ёй знакі свабоднай рукой у выглядзе вінтоў «адвалі, мая чарэшня». Аднак яго захады мелі мінімальнае ўздзеянне. Жонка ўпарта працягвала нашэптваць:

— Спытайся ў яго, якіх колераў каміны? — журчаў мілагучна жаночы шэпт.

— У якім раёне вы жывяце? — не слухаючы жонку, высвятляў неабходную інфармацыю Павел.

— Пра ко-о-лер…

— Сухарава, ага, зразумеў… Так, так… А там да вас ёсць заезд з кальцавой?

— Пра колеры, кажу, спытай! — Надзя моцна тузанула мужа за рукаў, шэпт ператварыўся ў гучны голас, які прагрымеў напоўніцу.

— Адрас скажыце, калі ласка… Запісвай! — загадаў Павел жонцы і прадыктаваў назву вуліцы ды нумар кватэры, дзе жыў Рэзо.

Надзя, незадаволена нахмурыўшы бровы, разгарнула на далоні цыдулку і пад іменем Рэзо запісала адрас.

— Ты нічога не даведаўся, ні пра колер, ні пра памер камінаў, — вычытвала яна мужа.

— Чаго ты прычапілася з колерам? Зараз я табе па тэлефоне і колер вызначу, і адценне, і мастацкае ўздзеянне! Прыедзеш, на месцы паглядзіш.

— Ало, — Павел зноў паднёс да вуха мабільнік, які ўвесь схаваўся ў ягонай далоні, і прадоўжыў размову. — Мы зможам сустрэцца сёння?..

Дамовіліся пра сустрэчу ўвечары на кватэры ў Рэзо. Павел адключыў мабільны і, з запалам зірнуўшы на Надзю, вымавіў:

— «Давайтэ встрэтымса», — сказаў мне таварыш з Каўказа. Ну што, Надзюха, едзем вечарком глядзець каміны? Ёсць пара-тройка гатовых, астатнія — на фотаздымках, можна іх зрабіць па ўзоры на замову. Надзюха, Надзюха, такая выйшла закрутуха. Якія будуць прапановы?

— Канэчна!.. Едзем! Асабліва калі таварыш з Каўказа запрашае, — ва ўнісон мужу адказала палагаднелая Надзя. — Я адразу звярнула ўвагу на імя Рэзо. Думаю, адкуль такое? Цікавае, праўда? Добра, вечарам пабачым, што там у яго за цудоўныя каміны…

## 3

Вечаровай парой на сыходзе дня машына Сташэўскіх падкаціла да пад'езда новабудоўлі мікрараёна «Сухарава». Павел выглядаў месца, дзе б зручней прыпаркавацца. Надзя апусціла шкло на дзверцы аўтамабіля, удыхнула халоднае веснавое паветра і абвяла позіркам ваколіцу. Паўсюль, наколькі бачна воку, падпіраючы небакрай, стаялі бясконцыя шэрагі аднастайных панэльных шматпавярховікаў. Свежавыкладзеныя тратуарныя сцяжынкі роўнымі стужкамі перасякалі паблізу новых дамоў упарадкаваную зямлю, лянівая трава плямамі прабівалася на газоне, а маленькія кволыя дрэўцы, як палонныя, стаялі, падвязаныя, паміж дзвюма жэрдкамі. Навокал было пуста і нешматлюдна — знаёмы пейзаж раёнаў но-

вабудоўлі. Удалечыні тырчалі сплеценыя з металічных палос слупы дзюбатых пад'ёмных кранаў. Яны схіляліся над нясконачанымі шэрымі, яшчэ не расфарбаванымі карабкамі дамоў без акон і дзвярэй. Надзя з задавальненем адзначыла, што яе новы дом узведзены ў абжытым цэнтры горада. Яго ўціснулі між старых будынкаў са шматгадовай гісторыяй. Дрэвы ў старых раёнах даўно выраслі, клумбы засаджаны кветкамі, у дварах адчуваецца ўтульнасць, назапашаная за гады. Побач крамы, школы, цырульні, кінатэатры. А вось сучасныя, нядаўна збудаваныя мікрараёны палохалі Надзю сваёй бязмежнасцю і неабжытасцю. Аднак людзям і тут нядрэнна, калі маеш уласную жылплошчу.

Павел прыпаркаваў машыну на вольным месцы, якіх было ўдосталь, бо ў шматпавярховік засяліліся далёка не ўсе жыхары і парковак пакуль хапала.

У пад'ездзе дома Сташэўскіх чакала неспадзяванка. Ліфт не працаваў. Сюрпрыз для навасёлаў. Грамадзяне! Беражыце ліфт! Лепш за ўсё ён зберагаецца, калі ім не карыстаюцца. Гэта акалічнасць была непрыемнай, але ж давала магчымасць новаспечаным жыльцам паправіць фізічную форму, цягаючы, прыкладам, на дзявяты паверх сямейную маёмасць. Спачатку размінаешся лёгкімі клункамі з посудам, адзеннем, коўдрамі і падушкамі, нясеш валізы па лесвіцы паверх за паверхам, лічачы бясконцыя прыступкі. Зацягнуў — робіш перапынак, выціраеш спатнелы лоб. Другая трэніроўка — занесці ў кватэру кухонныя скрыні, дываны, тумбачкі. А на закуску, пасля добрага разагрэву мускулатуры можна ўзняць з таварышам канапу і халадзільнік, — трэнажорныя залы адпачываюць. Для асабліва лядашчых і лянівых рэкамендуецца карыстацца паслугамі грузчыкаў.

Кватэра, дзе жыў Рэзо, знаходзілася на сёмым паверсе.

— О-хо-хо, — уздыхнула Надзя, ціскаючы кнопку ліфта. Ісці на сёмы паверх нагамі не хацелася, але давялося.

Дзверы ім адчыніў малады інтэлігентнага выгляду мужчына. Яго светласкуры твар адцянялі чорныя сма-

ляныя валасы, вялікія, падобныя да жаночых вочы з доўгімі вейкамі спакойна і ўдумліва глядзелі на гасцей з-пад высокага лба. Постаць яго была крыху танклявай, але не здавалася хліпкай, адчувалася моц маладога, у росквіце гадоў мужчыны. Гэта быў Рэзо. Карціна абсалютна не стасавалася з уяўленнем Надзі пра жыхароў Каўказа. Яна меркавала ўбачыць іншае аблічча, аблічча смуглявага мужчыны з нахабным позіркам і валасатымі рукамі. Не склалася. Рэзо сваім выглядам бязлітасна знішчаў партрэт каўказца, намаляваны рыначнымі гандлярамі. Іх Надзя прызвычаілася сузіраць, купляючы дыні з кавунамі: «Дэвушка, купі сладкі дыня!» А тут вось вам — інтэлігенцыя. Моцны ўдар па стэрэатыпах. Рэзо павітаўся, узмахнуў доўгімі чорнымі вейкамі і запрасіў Сташэўскіх прайсці ў кватэру.

Пярэдняя была зайздросна вялікая, а ў сцяне каля ўваходных дзвярэй мелася зручная ніша, у якую выдатна ўпісалася б сучасная шафа-купэ, аднак рабіць гэтага ніхто не спяшаўся.

— Прасторная кватэра і планіроўка добрая, — пахваліла Надзя.

Рэзо таксама прабегся вачамі па кватэры, нібыта ўпершыню яе ўбачыў, і заўважыў, што сапраўды, так і ёсць. Кватэрнае абсталяванне яго цікавіла мала. Дзіўна для навасёла. Госці з гаспадаром крыху пастаялі ў пярэдняй, і інтэлігентны Рэзо паклікаў усіх у залу.

Пасярод прасторнага квадратнага пакоя бокам да вакна размясціўся пісьмовы стол з камп’ютарам. Да стала было прысунута кампактнае крэсла з пакатай спінкай і два лёгкіх стулікі з металічнымі тонкімі храміраванымі ножкамі. Ля сцяны прытуліліся канапа і пустыя кніжныя шафы. Шырокае акно атачалі рассунутыя ў бакі цёмныя, з бліскучым адлівам шторы. Яны здаваліся самотнымі і сумнымі без гардзіны, што сваёй празрыстасцю і лёгкасцю надае жытлу ўтульнасць. Пакой меў неабжыты выгляд: чыста, прыбрана, але адчувалася часовасць, няпэўнасць, быццам людзі жывуць

на чамаданах. Рэзо запрасіў гасцей размяшчацца. Надзя ўселася ў крэсла, мужчынам засталіся стулікі. Яны пашоргалі металічнымі ножкамі стулікаў па падлозе, падсунуліся бліжэй да стала. Рэзо апавядаў пра каміны, гаварыў правільнай літаратурнай мовай, выклікаючы падазрэнне наконт вышэйшай адукацыі. Да прыходу пакупнікоў ён падрыхтаваўся загадзя: камп'ютар працаваў, на маніторы была адкрыта старонка з фотаздымкамі. Як толькі Надзя з Паўлам уладкаваліся, Рэзо адразу ж зашчоўкаў мышкай, павялічыў фотаздымкі і патлумачыў:

— Я спачатку пакажу вам узоры камінаў: некаторыя вырабляліся на замову, вы можаце ўбачыць, як яны выглядалі, а некаторыя ёсць у наяўнасці, гатовыя. Пазнаёмцеся з тым, што мы маем, потым скажыце, што б вам хацелася.

Надзя нахілілася наперад і, абапершыся далонямі аб калені, утаропілася ў манітор.

Рэзо шчоўкаў «мышкай» і на камп'ютарным экране мільгалі фотаздымкі камінаў.

— Та-а-к, гэты здаецца нічога, колер толькі мне не падабаецца, — скрывіла вусны Надзя. — Давайце назад. Так, цяпер — наперад… Чакайце, а гэта што за камін?

— Ён прададзены, рабіўся на замову, — адказаў Рэзо.

— Прыемны такі, светленькі.

У дзвярным праёме паказалася постаць жанчыны. Надзя здзівілася нечаканаму з'яўленню, яна думала, што ў кватэры акрамя Рэзо нікога няма, бо не чулася ніводнага гуку, аднак яна памылялася, Рэзо быў не адзін. Жанчына зайшла ў пакой, усміхнулася і павіталася.

— Тамара, зрабі нам каву, — просьба Рэзо адрасавалася жанчыне.

Гэта была яго жонка: фігурыстая маладая прывабная кабета з цёмнымі хвалістымі валасамі, што спадалі на плечы. Хадзіла яна плаўна, мякка ступаючы па падлозе і віхляючы клубамі, сэксапільнасці ёй дадавала кофтачка з глыбокім дэкальтэ, што абцягвала пекны бюст. Надзя спакваля перавяла позірк на мужа. Павел ажывіўся. Да гэ-

тага ён сядзеў перад камп’ютарам з прыкметамі агульнай млявасці і абыякавасці да жыцця, а тут з’явіўся імпэт. Заўважыла перамены адна Надзя. Тамара, крутнуўшыся ля гасцей, кіўнула галавой Рэзо ў знак згоды і нячутна сышла гатаваць каву. Надзя сачыла за мужам. Ён проста неверагодна зацікавіўся камінамі, празмерна засяроджана пачаў углядацца ў фотаздымкі і задаваць Рэзо ўдакладняльныя пытанні. «Вось жа кацяра…», — адзначыла пра сябе Надзя.

На лавеласа яе Пашаня, канечне, не цягнуў. Каб дзе якія раманы на баку, — ні-ні. Ён быў хутчэй сціплым аматарам нерукатворнай жаночай прыгажосці на адлегласці. У блізкароднасныя авантуры з жанчынамі не ўлазіў па наступных прычынах: па-першае, яму хапала і Надзінай прыгажосці, аздобленай выкрутасамі; па-другое, дзве жанчыны — гэта ўдвая парваныя нервы. У дадатак да ўсяго Павел быў вельмі заняты гаспадаркай: свердзелы розныя, абцугі, пэндзлі, фарбы, рамонт трэба рабіць, — не да амураў. Надзя гэта ведала, але кожны раз скурай адчувала, калі ён ацаніў прывабнасць іншай жанчыны.

Праз некалькі хвілін Тамара з’явілася ў зале з падносам, на якім дыміліся кубкі духмянай кавы, збоку іх падпірала невялікая талерка з горкай пячэння. Пакой напоўніўся кававым водарам. Рэзо і госці разабралі кубкі. Павел з кубкам у руках падняўся са свайго стуліка, адышоў ад стала і, стоячы воддаль, смакаваў маленькімі глыткамі гарачую каву. Тамара пакінула талерку з хрусткім круглым пячэннем на стале і за той кароткі час, што прабавіла ў зале, паспела зазірнуць у камп’ютар і незаўважна агледзець Надзю і Паўла з ног да галавы. Неўзабаве яна сышла з пустым падносам. Надзя ў даўгу не засталася і, забыўшыся пра каміны, гэткім жа ацэньваючым позіркам праводзіла Тамару, крытычна падумала, што нічога ў ёй асаблівага няма і не цягне яна па цялесных параметрах на 90–60–90.

Рэзо працягваў шчоўкаць «мышкай». Традыцыі былі ўшанаваны: жонка прынесла гасцям каву. Але Тамара

не падалася Надзі сціплай падносчыцай напояў. Дзея больш нагадвала гульню даўно заведзеную і прынятую дзеля публічнага выканання, гэткі невялічкі спектакль пра традыцыйны сямейны ўклад. Надзя спектаклю не паверыла. Жонкі ўсюды аднолькавыя, удзень падносяць каву, а вечарам «закручваюць гайкі». Выканаць гэта можна па-рознаму, часам строга і напорыста, а іншым разам — ласкава, зазіраючы ў вочы, паведамляючы, што толькі ён, яе муж — самы-самы, яе апора і надзея, і таму зрабіць ён павінен тое і яшчэ тое. А як гэта будзе добра для ўсёй сям'і — то і не расказаць! Хаця гульня з кавай была ўсяго толькі гульнёй, але як толькі Тамара пакінула пакой, Надзю чамусьці пачало напаўняць усведамленне ўласнай важнасці: вось яна тут на роўных сядзіць з мужчынамі, абмяркоўвае справы, ёй не трэба падносіць каву. Яна глыбей падсунулася да спінкі крэсла, плечы разгарнуліся самі сабой, падраўнялася асанка, — проста бізнес-ледзі. Аднак самазадаволенасці і дзелавітасці хапіла ненадоўга, і замест таго, каб абмяркоўваць набыццё каміна, Надзя пачала высвятляць паходжанне імені Рэзо.

— У Вас незвычайнае імя, першы раз чую. І ў якой, скажыце, краіне чалавеку даюць такое імя? — яна паглядзела на Рэзо з мілым выразам твару, чакаючы адказу.

Рэзо некалькі разоў нервова шчоўкнуў камп'ютарнай «мышкай». Моўчкі… Напружыўся. Стараўся не падаць выгляду, але яму было не па сабе, ён марудзіў з адказам, нешта абдумваў. Надзя збянтэжана сачыла за Рэзо, які так і не падняў вачэй, а па-ранейшаму засяроджана ўглядаўся ў камп'ютар і тузаў танклявай рукой бедную «мышку». Надзя не ведала, што далей казаць. Нічога ж асаблівага не спытала, нейкая дзіўная рэакцыя.

За спіной Рэзо стаяў Павел. Ён таксама адчуў неспакой: нявіннае пытанне, а столькі клопату. Надзя азірнулася на мужа, шукаючы падтрымкі. Дарэмна. З-за спіны Рэзо Павел падаваў ёй асуджальныя знакі і моршчыў твар: чаго ты, маўляў, лезеш са сваімі роспытамі. Прыехалі за камінам, пра камін трэба і размаўляць.

Пакуль Надзя з Паўлам пераглядваліся, Рэзо рашыўся. Ён мог прамаўчаць, выкруціцца, перавесці размову на іншую тэму, але ён гэтага не зрабіў. Штосьці вызначыўшы для сябе, коратка сказаў:

— Я — грузін.

«Ах, вось у чым справа!» — нарэшце Надзя атрымала тлумачэнне напружанасці Рэзо.

Стала зразумела чаму ён так растрывожыўся: яшчэ і года не прайшло пасля грузіна-расійскай вайны. Расійскія газеты і тэлеканалы палівалі Грузію напоўніцу, абвінавачвалі ва ўсіх ваенных грахах толькі яе адну, а Расія была, як заўсёды, «белая і пухнатая» і вяла «вызваленчыя» войны. І як яму, звычайнаму чалавеку ў чужой краіне супрацьстаяць гэтаму?!

— А, Вы з Грузіі! — Надзя зрабіла выгляд, што не заўважыла, як Рэзо сумеўся. — У вас там нядаўна завaруха была, — зачапіла яна балючую тэму і спачувальна захістала галавой. — Людзям праблем хапіла. Звычайныя людзі заўсёды закладнікі гэтых канфліктаў.

Рэзо моўчкі слухаў.

— Мы прапагандзе не верым, у нас свая галава ёсць, і грузінам заўсёды рады, — умяшаўся ў размову Павел, які вырашыў хутчэй пакласці канец успамінам аб нядаўняй вайне; ён адчуваў, што для Рэзо гэта цяжкая тэма. — А як Вы, дарэчы, у Мінску апынуліся? Даўно прыехалі?

У Рэзо палягчэла на душы, ён адпусціў камп'ютарную «мышку», рука расслаблена лягла на край стала, напружанасць саступіла месца жаданню падзяліцца набалелым.

— У мяне жонка — руская. Пасля тых падзей… Вы ж ведаеце…

Рэзо асцярожна абыходзіў слова «вайна». Ён гаварыў спакойна, але ў голасе чуліся крыўда і трывога. Відаць, «тыя падзеі», як ён іх называў, не прайшлі для яго бясследна, яны непасрэдна яго зачапілі. Рэзо не хацеў пра гэта ўспамінаць. Ён нічога не расказваў пра вайну, гаварыў толькі пра сваю сям'ю.

— Мы і не ведалі з жонкай, дзе нам прытуліцца: у Расіі ці ў Грузіі? Сябры падказалі: едзьце ў Беларусь, там да вашай нацыянальнасці нікому няма ніякай справы. І вось мы тут. Кватэру знялі, сын у школу ходзіць. Жыццё наладжваецца.

Жытло было арэндаванае, вось адкуль адчуванне часовасці, што з’явілася ў Надзі з першых хвілін пасля прыходу ў кватэру. А яна думала, што Рэзо даўно тут жыве і гэта кватэра яго сям’і. Надзя яшчэ раз агледзела пакой, пустую кніжную шафу. Ад голых паліц веяла пустатой, якую чалавеку трэба запоўніць, наноў збудаваўшы свой свет у чужой, хоць сабе і гасціннай краіне, пачаць з нуля і знайсці сябе і сваё месца ў гэтым новым свеце.

— Жонка, кажаце, руская? Тамарай завуць? Памятаю, была такая грузінская царыца Тамара. Вы жонку па імені выбіралі? — спытала Надзя, старанна пазбягаючы непрыемнай для Рэзо тэмы пра вайну.

— І гэта таксама, — усміхнуўся Рэзо.

Размова павольна перацякла ў звыклае рэчышча.

— Нам пашанцавала, што Вы ў Мінск пераехалі. Зробіце для нас талковы камін. А то хто б нам яго зрабіў? Праўда, Надзя? — павярнуўся Павел да жонкі.

Рэзо зноў зірнуў у камп’ютар на фотаздымкі камінаў, а Павел за яго спіной энергічна маляваў Надзі рукой кругі, намякаючы, каб яна закруглялася.

— Так, на сёння, я мяркую, хопіць. Давайце дамовімся, дзе заўтра можна Вашы каміны ўжывую паглядзець, — сказала Надзя, падымаючыся з крэсла.

— Трэба ехаць у Шабаны, — патлумачыў Рэзо. — Там у нас вытворчасць.

— Трэба ехаць у Шабаны, — паўтарыў за Рэзо Павел голасам, поўным заклапочанасці, і пачасаў патыліцу.

Паўла навіна не натхніла, ён не любіў аўтамабільныя ваяжы па прамысловых раёнах.

— Рэзо, я заўтра перад выездам Вам пазваню, растлумачыце дарогу. Ведаю я Шабаны — прамзона, там так проста не патрапіш ў патрэбнае месца. Заўтра па тэлефо-

не раскажаце мне, як Вас знайсці. Толькі, калі ласка, не называйце мне вуліцу і нумар дома — гэта для наіўных аптымістаў. Лепш раскажыце, якія там стаяць пад'ёмныя краны, у які колер пафарбаваны вароты і г. д. Патрэбны асобыя прыкметы. Разумееце? Напрыклад: «Даехаць да завода такога, знайсці "Пентагон", пафарбаваны ў зялёна-белы колер…»

— Пентагон? — Рэзо не зразумеў амерыканскай прысутнасці на тэрыторыі Шабаноў.

— Ды будынак адміністрацыі, ён заўсёды вылучаецца свежым рамонтам, — праводзіў Павел тлумачальную працу. — Начальства сябе любіць і самаахвярна рамантуе месца сваёй дыслакацыі. Каб добра кіраваць працоўнымі масамі, трэба мець утульныя, нятанна абсталяваныя кабінеты. Правільна я кажу? — спытаў Павел ў Рэзо.

Рэзо ўлавіў іронію і шматзначна ўсміхнуўся ў адказ.

— Дык вось, — прадоўжыў Павел. — Сучасны дарагі рамонт кабінетаў у будынку адміністрацыі, ну і фасад, само сабой, прыгожа размаляваны дзеля здзяйснення магутнага эканамічнага рыўка і падвышэння абё'маў валавога ўнутранага прадукта. Вы адразу гэта ўбачыце. Астатнія карпусы завода будуць шэра-карычневыя, для пралетарыяў, аднолькава занядбаныя, воку няма за што зачапіцца, — Павел на імгненне змоўк, уяўляючы, як выглядаюць карпусы для пралетарыяў, уздыхнуў і акрэсліў Рэзо, на якія асаблівасці той павінен звярнуць увагу: — Арыентуемся далей, напрыклад, налева і да высокай трубы, пасля направа, пакуль не ўбачу… ну, што-небудзь накшталт пад'ёмнага крана, — прыблізна так мне растлумачыце дарогу. Зразумелі? Патрэбны асобыя прыкметы.

Павел, чалавек з вялікім стажам кіроўцы, настроіў Рэзо на правільны лад. У прамзонах з іх бясконцымі блытанымі дарогамі і аднастайнымі прадпрыемствамі лёгка заблукаць, адчуваеш сябе, як у лесе, толькі ў прамысловым лесе, і спытаць дарогу няма ў каго. Рэдкія мінакі звычайна нічога не ведаюць акрамя свайго камбіната. Будзеш паўдня на

машыне кіламетры накручваць, а ў галаве — адны нецэнзурныя выразы, ад культуры ў паводзінах і пылу не застанецца. Правёўшы лікбез па арыентацыі ў беларускіх прамысловых зонах, Павел развітаўся з Рэзо і накіраваўся да дзвярэй, Надзя, карцінна трымаючы асанку, прадэфілíравала ўслед за мужам. На стале застаўся кубак недапітай кавы, Надзін кубак. Калі яна пачынала гаварыць, то забывалася на ўсё астатняе, то бялізну з пральнай машыны не развесіць сушыць, то сарочку не паспее адпрасаваць, вось і кава засталася забытая, халодная і недапітая…

**4**

У прамзоне «Шабаны» Надзя з Паўлам у чаканні сустрэчы з Рэзо тапталіся па выбітай нагамі зямлі перад уваходам у прасторны ангар з паўкруглым высокім дахам. Воддаль ўздоўж сцяны тырчала быллё засохлага мінулагодняга пустазелля, палоскі глебы прыкрываліся шэрай палеглай старой травой, яе прыўзнімалі, падпіхваючы знізу, новыя веснавыя парасткі. Рэзо з'явіўся ля ангара незаўважна, з-за вугла, як з-пад зямлі вырас.

— Зачынена? — пачуўся яго голас за Надзінай спіной.

— Ды вось, пяць хвілін стукаем — ніхто не адчыняе. Там, здаецца, нікога няма, — адказала Надзя і для пэўнасці грукнула ўпартым маленькім кулаком у вялікія ангарныя вароты.

Рэзо дастаў з кішэні мабільны тэлефон і набраў нумар. Дзве кароткія фразы на грузінскай мове, сказаныя ім па мабільным, — і вузкія металічныя дзверы, уманціраваныя ў ангарныя вароты, з глухім лязгам адчыніліся. У праёме ўнутры ангара стаяў невысокі хударлявы малады чалавек, зусім юны.

— Гога, — назваў імя юнака Рэзо і штосьці дадаў па-грузінску. Гога вызваліў дарогу для Рэзо з кампаніяй. Першым у праём прайшоў Рэзо, за ім — Надзя, следам —

Павел. У прысутнасці шэфа і з ягонай згоды Гога ўпусціў наведвальнікаў на тэрыторыю «сакрэтнага» аб'екта і зачыніў дзверы. Цяпер можна было пускаць каго заўгодна. Усё пад кантролем. У той час, пакуль Надзя настырна грукала ў вароты, Гога стаіўся за імі, прыслухоўваўся і не збіраўся нікому адчыняць. На выгляд яму было гадоў васямнаццаць-дзевятнаццаць, не больш. Пазіраючы на наведвальнікаў, ён высока ўздымаў падбародак і хмурыў бровы, мяркуючы, што такім чынам надае сабе вагі, каб не падумалі, быццам ён хлопчык на пабягушках, ён — незаменны супрацоўнік саліднай арганізацыі.

Рэзо ж быў абсалютна натуральны ў сваіх паводзінах, прыязны і кантактны, без залішняй напускной значнасці. Можна было падумаць, што кіраўнік тут Гога, а Рэзо так — пагуляць выйшаў.

— Канспіратары! — цыкнула Надзя.

Рэзо ўсміхнуўся аднымі толькі вачамі. Гога ж быў цалкам сабой задаволены. Па маладосці яму падабалася гуляць у сур'ёзныя справы. Яго мяккі юнацкі падбародак застаўся ва ўсё той жа высокай пазіцыі.

Ангар сустрэў наведвальнікаў паўзмрокам. Святло з вуліцы скупа прабіралася ў сярэдзіну памяшкання праз невялікія вокны пад самай столлю і адтуль палосамі струменілася і расцякалася па цэментнай падлозе. Мільгаючы ў палосах святла, у вышыні пад ангарным дахам імклівa лётала спалоханая ластаўка. Яна рассякала паветра дробным хуткакрылым целам, нястомна праносячыся па замкнутай прасторы. Пракрэсліўшы ангар па дыяганалі, птушка спікіравала ўніз, а потым маланкай узляцела да акна ля столі і з усяго размаху стукнулася, пачала трымцець, біцца аб халодную пыльную шыбіну. Зманлівае ваконнае шкло было для яе непераадольнай перашкодай паміж цёмным ангарам і воляй, святлом і сонцам. Птушыныя кіпцюры бездапаможна слізгалі па гладкай шыбіне. Змарыўшыся, ластаўка прысела на вузкі выступ падваконня, а праз момант, хітнуўшы крыламі, шырока іх разгарнула і бязгучна зляцела, нібы спаўзла ў кут на падлозе і заціхла.

Па ўсёй плошчы агромністага ангара, на першы погляд, без усялякай сістэмы ляжала каменне: граніт, мармур і штосьці яшчэ. У глыбіні ў паўзмроку супрацьлеглай сцяны стаялі каміны. Дакладней, парталы, бо гэта была толькі верхняя аздабляльная частка каміна, а ўнутранная топачная дараблялася на месцы ці проста ўсталёўваўся электрычны экран са штучнымі дровамі, якія ніколі не згаралі ў полымі фальшывага агню. Але Надзі слова «партал» не падабалася. Партал, квартал, тэрмінал — ад такіх слоў патыхала індустрыяльнасцю. «Камін» гучала значна лепш, адразу станавілася цёпла і ўтульна.

Удалечыні праглядаўся невыразны сілуэт высокага худога мужчыны, які хадзіў побач са слаба асветленымі прамавугольнікамі камінаў. Надзю магнітам пацягнула хутчэй ацаніць іх прыгажосць. Яна, не марудзячы, накіравалася да жаданай мэты і ўзначаліла працэсію. Трое мужчын, Павел, Рэзо і Гога ланцужком цягнуліся за ёй. Ад нецярплівасці яна так паскорылася, што мужчыны са сваёй размеранай хадой засталіся ззаду, з кожным крокам адрыў паміж імі павялічваўся.

Перш-наперш Надзя падышла да каміна, ля якога спыніўся высокі мужчына. Здалёк мужчына здаваўся маладзейшым, аднак цяпер, стоячы паблізу, Надзя змагла разгледзець, што ён у гадах, валасы яго бялелі сівізной, а плечы ссутуліся пад цяжарам гадоў. Доўгімі, заскарузлымі ад працы з каменем пальцамі мужчына гладзіў камін, замазваючы на ім толькі яму бачную міліметровую драпіну, рухі рук былі павольныя і пяшчотныя. Ён абыходзіўся з камінам беражліва і асцярожна, быццам гэта фарфоравая ваза. З худых сагнутых плячэй мужчыны шырока звісаў расцягнуты, стары буйной вязкі світар, шыракаватая няўтульная гарлавіна адкрывала худую шыю з выступам кадыка. На першы погляд гэта быў звычайны рабочы, але толькі на першы погляд. Калі прыгледзецца — сапраўдны мастак. Ён не проста выразаў каміны з каменя, ён вырабляў шэдэўры. Ён тварыў. І цяпер пад яго пальцамі дашліфоўваўся чарговы мастац-

кі твор з непаўторным малюнкам мармуру бэжавага адцення ў ружовых пражылках. Гэты камін з'явіўся ў адзінкавым экземпляры і ніколі не паўторыцца, наступны будзе іншы, але зноў асаблівы і выбітны, а стомлены, ссутулены пад цяжарам гадоў мужчына прадоўжыць ствараць шэдэўры, іначай не можа, бо мастак — гэта не прафесія, гэта стан душы. Для паўнаты мастацкага вобраза мужчыну не хапала на галаве бярэткі з маленькім хвосцікам па цэнтры, крышачку яе набакір і — поўны парадак, а расцягнуты світар — гэта тое, што трэба: сапраўднаму мастаку не да марафету.

Надзя сачыла за пальцамі пажылога мужчыны. Яны маятнікам рухаліся ўзад-уперад, а потым пачыналі кружыць, манатонна разгладжваючы шурпатасць на мармуровай паверхні. Мужчына дацёр нязначную драпіну і адхіліўся ўбок, разглядаючы камін.

— Прыгожы, — сказала Надзя. — І колер прыемны.

Мужчына паводзіўся сухавата, але адчувалася, што Надзя з пахвалой патрапіла, гэтыя словы былі яму як бальзам: недарма працаваў, душу ўкладаў.

— Я пагляджу іншыя, — сказала Надзя маўкліваму творцу і пайшла ўздоўж сцяны разглядаць мадэльны шэраг камінаў: адзін, другі, трэці. У галаве ж засеў той першы, з ружовымі пражылкамі.

Тым часам Рэзо размаўляў па-грузінску з высокім мужчынам. Да Надзі даляталі абрыўкі сказаў на мове, якую яна не разумела, улоўлівала толькі яе мелодыку.

Агледзеўшы апошні камін, яна рэзка развярнулася, зрабіла крок назад і натыркнулася-наскочыла на Гогу. Ад няма чаго рабіць Гога прыладзіўся следам за ёй і літаральна навіс за спіной, а яна і не заўважыла гэтага, захопленая сузіраннем камінаў. Хлопец выцягнуў аднекуль мабільны тэлефон і круціў яго без патрэбы ў руках, намагаючыся стварыць вобраз салiднага супрацоўніка. Каміны яго не хвалявалі, галоўнае — імідж. Ад нечаканага сутыкнення нос да носа з Надзяй ён збянтэжыўся, мабільнік выслізнуў з яго рук. Гога канвульсіўна задрыгаўся ўсім целам,

ловячы маленькую слізкую цацку, і цудам яе падхапіў. Фу! Пранесла! А мог жа і разбіць, ледзь не разбіў! Разгубленасць выплеснулася на твар юнака. Ён некалькі секунд спалохана сціскаў у далоні апарат з кнопкамі, не верачы свайму шчасцю, але як толькі да яго вярнуўся спакой, натура адразу ўзяла сваё, Гога адступіў на пару крокаў і прадоўжыў гульню, зноў пачаў мусоліць тэлефон у руках. Чым бы дзіця ні цешылася, абы не плакала.

Абмінуўшы Гогу, Надзя вярнулася да першага каміна, дакранулася да яго рукой. З выгляду цёплы, пяшчотны, а навобмацак — халодны. Камень. Яна праводзіла пальцамі па ружовых пражылках, любавалася.

— Мне вось гэты падабаецца, — прамовіла Надзя і азірнулася.

Чацвёра мужчын пашыхтаваліся ў лінейку за яе спіной і чакалі, што яна скажа. Гога з мабільнікам таксама падцягнуўся да шарэнгі.

— Праўда падабаецца? — недаверліва спытаў яе Павел.

Ён ведаў, верыць з першага разу словам жонкі не трэба. Тут, як кажуць, бабка надвое варажыла. Праз хвіліну становішча можа перамяніцца, і пачнецца новая песня: «А вось той, мне здаецца, яшчэ прыгажэйшы». Жаночыя штучкі. Муж Надзі на такія штучкі не купляўся, не першы год жанаты.

— Глядзі сама, табе вырашаць. Па мне, бяры любы, не памылішся, — Павел назіраў за жонкай, змушана чакаючы, пакуль любая нацешыцца з прагляду.

— Табе, як заўсёды, усё да лямпачкі, — буркнула сабе пад нос Надзя і, не паспеўшы падумаць: «Чаму ўсе мужыкі такія…», адступіла ад каміна, каб сузіраць яго здалёк.

Адыходзячы, яна разбурыла мужчынскі кардон, што шчыльна паўстаў за яе спіной. Мужчыны расцерушыліся ў розныя бакі і вызвалілі Надзі прастору. Прымружваючы вочы, яна аглядала ўпадабаны камін, а заадно іншыя, што месціліся воддаль, па яе засяроджаным твары блукала цяжкая пакута выбару.

— Гэты… Будзем браць гэты, — пераканала яна сама сябе.

У ангары гучна бразнулі дзверы. Надзя і астатняя кампанія разам азірнуліся і ўбачылі маладога чалавека. У залітым з вуліцы сонцам дзвярным праёме яго постаць рэзка акрэслівалася, выпраменьваючы вакол сябе арэол святла. Рэзо накіраваўся насустрач прышэльцу. Яны стрымана павіталіся і, стоячы паблізу высокай ангарнай сцяны, пачалі размаўляць.

Ластаўка, што хавалася ў куце ангара, раптам пырхнула ўверх, лунаючы пад ангарным дахам зрабіла лёгкі кароткі круг, плаўна праслізнула ў расчыненыя дзверы і, шырока расправіўшы крылы, паляцела ў бяздонную прастору блакітнага неба. Малады чалавек нешта гаварыў, звяртаючыся да Рэзо, але Резо яго не чуў, яго больш займала птушка. Абарваўшы размову на паўслове, Рэзо шпарка пакрочыў да асветленага прамавугольніка расчыненых дзвярэй, ухапіўся рукой за край праёма і падняў твар да неба. Ён праводзіў ластаўку позіркам, радаваўся яе свабоднаму палёту і сам на нейкі момант вызваліўся ад зямных праблем. Малады чалавек яго паклікаў. Рэзо ў задуменні апусціў вочы, потым яшчэ раз паглядзеў у неба і рашуча зачыніў дзверы. Праз некаторы час яны падышлі да Паўла з Надзяй.

— Гэта Арцём, — прадставіў Рэзо наваяўленага супрацоўніка. — Ён у нас загадвае дастаўкай. Будзеце з ім падтрымліваць сувязь. Што, калі, у які час, у які дзень, — пра ўсё дамовіцеся з ім.

— Добра, будзем дамаўляцца, — даволі строга прамовіў Павел і прамацаў позіркам хлопца, з якім яму давядзеца весці справы.

Кручаны-перакручаны — гэта характарыстыка найлепш пасавала Арцёму. Ён быў на якіх пяць-сем гадоў старэйшы за Гогу па ўзросце, а па сутнасці — на цэлую вечнасць. Вышэй сярэдняга росту, плячысты, з прамым крыху шыракаватым носам і валявым падбародкам, які выступаў уперад, стрыманы ў паводзінах, яшчэ нічога не

сказаў, але па тым, як рухаўся, як стаяў і глядзеў, было бачна, што хлопец бывалы. Такія з юнацкіх гадоў зарабляюць сабе на жыццё, не маючы шырокай бацькоўскай спіны, каб схавацца за яе і дзяцініцца да пенсіі. Відаць, хлопцу давялося рана стаць дарослым. Да ўсяго Арцём меў своеасаблівую звычку падоўгу глядзець людзям у вочы. Гэтым разам аб'ектам для прагляду ён выбраў Надзю. Надзя з узросту юнай дзявіцы даўно выйшла, але Арцём не загружаў сваю псіхіку сантыментамі ў выглядзе вытрымкі дыстанцыі і сціпласці ў адносінах да больш сталых, бесцырымонна ўпіваўся ён прамым нетактоўным позіркам у жаночыя вочы. Надзю яго паводзіны пачалі раздражняць. Сітуацыю ўратаваў званок мабільнага тэлефона. Званілі Арцёму. У адрозненні ад Гогі ён не меў намеру выстаўляць напаказ свой тэлефон, пакінуўшы Надзіны вочы ў спакоі, таропкімі, пругкімі крокамі Арцём адышоў далей ад кампаніі; гаварыў ён прыглушаным голасам, павярнуўшыся да астатніх спіной, у размове прасочвалася атмасфера сакрэтнасці. Пасля завяршэння хуткіх таемных перамоў Арцём вярнуўся назад, спыніўся побач з Рэзо, шырока расставіўшы ногі. На спартыўнай фігуры маладзёна спрытна сядзела кароткая куртка з прыўзнятым каўняром, па-піжонску расшпіленая да сярэдзіны, а на нагах былі красоўкі з белымі намытымі ўстаўкамі. Дзіўна глядзеўся педантычна чысты абутак сярод працоўнага прамысловага пылу і бруду. Вымытыя красоўкі падкрэслівалі Арцёмаў асаблівы статус загадчыка аддзела дастаўкі. Арцём маўчаў, даючы зразумець, што лішняй балбатні не любіць. Сур'ёзныя пацаны — маўклівыя пацаны. Цяпер прамень свайго нахабнага позірку ён скіраваў на Паўла. Так моўчкі можна было прастаяць невядома колькі часу. Павел перарваў зацягнутае маўчанне.

— Арцём, я так разумею, што дастаўкай каміна будзеш займацца ты. Зробім наступнае: скінь нумар свайго мабільнага на мой тэлефон, у бліжэйшыя дні нам трэба сазваніцца, запішу на ўсякі выпадак твой нумар.

Цяпер далей: на гэтыя выходныя я — дома. Вызначся, у які дзень, суботу ці нядзелю зможаш прывезці камін.

Павел паклапаціўся ўзяць арганізацыю дастаўкі каміна на сябе, а то малады парастак прыватнага бізнесу Арцём прытармажваў, мусіць, бярог энергію. Арцём адрывістымі выверанымі рухамі пашчоўкаў кнопкамі мабільнага тэлефона. У руках Паўла зазваніў мабільны. Сувязь спрацавала, лічбы тэлефоннага нумара доўгім шэрагам пабеглі па экране. Арцём працягваў маўчаць. Тое, што ён не раскідваўся словамі, было добра, але ж не да такой ступені.

— Арцём, калі прывязеш камін? — Паўлу даводзілася абцугамі выцягваць звесткі з загадчыка аддзела дастаўкі.

— У суботу, — падарыў слова Арцём.

— Раніцай? Увечары?

Няшпарка лілася славесная цягамоціна.

— Пасля абеда, — скупа выціснулася з Арцёмавых вуснаў чарговая пара слоў.

Паўла рашучасць Арцёмавага позірка не чапляла і шырока растаўленыя ногі ў вымытых красоўках таксама, ён наогул мала звяртаў увагі на знешнія праявы чалавечай натуры, за знешнімі праявамі інтуітыўна ўлоўліваў Павел сутнасць. Ад яго не схавалася няпэўнасць абяцання, ён западозрыў, што Арцём будзе напускаць золкага туману і гнуць пад сябе: можа перамяніць і дзень дастаўкі, і час, ведаў ён такіх малайцоў. «Надышла пара перавесці сябе ў стан Паўла Іванавіча, — падумаў Павел. — Пакуль Арцём не пачаў абыходзіцца са мной, як з аблавухім сябрам з моладзевай тусоўкі».

— Пасля абеда — гэта як пасля дождживка ў чацвер… Значыцца так, малады чалавек, заўтра ў дзесяць гадзін раніцы патэлефануеш мне і скажаш дакладна, а якой гадзіне прывязеш камін, — адрэзаў Павел, узяўшы загадны тон, ён вырашыўшы ціскануць «маладое начальства».

«Начальства» пачало круціцца змейкай і праявіла красамоўства. Падзейнічаў метал у голасе Паўла.

— Заўтра?.. Заўтра я не змагу, я яшчэ не буду ведаць. Давайце ў пятніцу. Я пазваню ў пятніцу, — папрасіў Арцём.

«Сказаць столькі слоў запар — гэта ўжо цягне на балбатню,» — іранічна адзначыў Павел змены ў паводзінах самалюбнага загадчыка аддзела дастаўкі.

У Арцёма зазваніў мабільны. Ён намацаў яго ў кішэні курткі і з той жа стоенасцю патупаў да сярэдзіны ангара, далей ад лішніх слухачоў. Белыя ўстаўкі на красоўках маякамі мільгалі над шэрай падлогай, аддаляючыся разам з Арцёмам.

— Хадзем, тэлефон запісалі, пра дастаўку дамовіліся. Час ехаць, — Павел хітнуў галавой, паклікаўшы Надзю да выхаду.

Рэзо правёў іх да дзвярэй, паабяцаўшы на развітанне ўсё зрабіць, як мае быць. Яны выйшлі на вуліцу, металічныя дзверы ляскнулі за спіной і зачыніліся. Пасля паўзмрочнага ангара Паўла з Надзяй прыемна ахінула неверагодна яркае святло веснавога дня.

Надзя была ў гуморы.

— Коцік, — ласкавым голасам прамуркатала яна і паглядзела на мужа з асаблівай пяшчотай. — Як ты думаеш, яны добра нам камін зробяць, прывязуць і ўсталююць?

Паўла краналі моманты, калі жонка пачынала падлізвацца. Такая прыязная і мілая, хоць да раны прыкладай. У гэты час ён разумеў: жонцы патрэбна яго падтрымка. Нешта яе непакоіць, вось яна і круціцца.

— А што цябе хвалюе? Усё ж нармальна. Камін ты бачыла, — запытальна зірнуў Павел.

Надзя з адценнем недаверлівага задумення адказала:

— Ды проста фірма неякая падазроная: тры грузіны і адзін хітра-мудры беларус па імені Арцём.

— Рыбка мая. Я цябе прашу! Нармальная кантора. Каміны — у наяўнасці, разлік — пасля ўстаноўкі. Усё будзе добра! Гарантую! Ты схадзі на дзяржаўнае прадпрыемства і там зрабі замову на якую-небудзь рэч. Заплаціш

наперад і два месяцы будзеш чакаць. Потым давядзецца да іх у кантору ехаць рабіць даплату: прадукцыя, маўляў, падаражэла, адбыўся пераразлік. Прывязуць нарэшце, але не таго колеру, што замоўлены, яны, бачыце, выпадкова памыліліся, і будуць дурыць галаву, каб забраў тое, што прывезлі. Затое супрацоўнікі свае, мясцовыя, родненькія. Ты гэтага хочаш?

— Не-не! Мне ўжо ўсё падабаецца, — імкліва запэўніла Надзя. — Як гэта табе ўдаецца так даходліва раслумачыць?! — хваліла яна мужа. — Коцік — ты геній!..

## 5

Надышла доўгачаканая субота. Арцём стрымаў слова начальніка аддзела дастаўкі. Пацан сказаў — пацан зрабіў!

— Камін прывезлі, — паведаміў Павел, зірнуўшы ў акно.

На вуліцы ля белага мікрааўтобуса, скарочана — «бусіка», завіхаліся тры чалавекі: Рэзо, Гога і Арцём. Павел убачыў, як яны выцягнулі з машыны цяжкі мармуровы камін і ўтраіх панеслі да пад’езда.

— Ідзі, адчыняй кватэру, — загадаў ён жонцы. — Зараз прынясуць.

Надзя, зіхоткая ад радасці, подбегам кінулася ў пярэднюю і шырока расчыніла ўваходныя дзверы. Праз хвіліну з ліфта выціснуўся адзін Рэзо, бо больш ніхто не ўлез, астатнюю прастору ліфтавай кабіны займаў камін. Арцём і Гога падняліся па лесвіцы і адразу ж пачалі яму дапамагаць. Разам яны выпхнулі груваскі выраб на пляцоўку. Гога пачаў мітусліва бегаць вакол каміна, прыкідваючы, дзе яму зручней прыткнуцца, каб цягнуць далей гэту мармуровую прыгажосць. Доўгія калашыны джынсаў збіраліся на яго кароткіх нагах унізе гармонікам, ніжнія часткі калашын церліся па бетоне

лесвічнай пляцоўкі і падбіваліся пад падэшву красовак. Гога на тыя абставіны не зважаў. Нарэшце, яму ўдалося прыладзіцца. Утраіх спрытна падхапілі яны камін і панеслі ў кватэру, прайшлі праз пярэднюю, накіраваліся ў залу. Надзя рукой прытрымлівала ўваходныя дзверы, прыгаворваючы:

— Асцярожна, асцярожна! Праходзьце асцярожна!

Трое мужчын пыхкалі ад напругі. Першы ішоў Рэзо, пасярэдзіне Арцём, а мізэрны, худзенькі Гога, які прыстасаваўся цягнуць камін ззаду, матляўся там, як хвост, хістаючыся і згінаючыся пад цяжкім грузам. Пры павароце Гогу кідала ўбок разам з камінам, але ён учэпіста трымаў сваю ношу.

Занеслі. Паставілі пасярод залы, крыху аддыхаліся. Цяжкі, зараза!

Рэзо з Арцёмам пайшлі забіраць падстаўку, а Гога застаўся чакаць іх у кватэры. Адпачываў. Яго галава круцілася як заведзеная. Гэтак ён аглядаў пакой, позірк Гогі хутка слізгаў па шпалерах, падлозе, люстры, але ў ім не было чэпкасці, асэнсаванай засяроджанасці, убачанае тут жа вылятала з памяці. Свабоднымі ад мабільніка рукамі Гога падцягнуў штаны.

Падстаўка пад камін была лягчэйшая. Рэзо з Арцёмам удваіх занеслі яе ў залу.

— Куды будзем ставіць? — спытаў Рэзо гаспадыню кватэры. — Пакажыце месца.

Надзя кінулася да сцяны і, развёўшы рукі ў бакі, як крылы белага лебедзя, плаўнымі рухамі далоняў паказала вызначанае пад камін месца.

— Вось сюды, калі ласка, прыблізна, — і адразу адышла, каб не замінаць.

Рэзо з Арцёмам панеслі падстаўку і павольна, асцярожна апусцілі яе на падлогу. Гога чакаў, пакуль яны скончаць усталёўваць, і нецярпліва таптаўся на месцы.

Праз хвіліну яны ўтраіх абступілі камін, што стаяў пасярод залы. Рэзо размінаў рукі, сціскаючы і расслабляючы пісарскія пальцы.

— Мужыкі, цяжкавата несці. Можа, мне вам дапамагчы? — Павел сачыў за працай, і яму карцела далучыцца да мужчынскай зборнай.

— Ды не. Мы ўтраіх справімся, не хвалюйцеся, — адмовіўся ад дапамогі Рэзо і адразу аддаў загад свайму спецпадраздзяленню: — Так! Раз, два тры! Узялі!

Усе разам спрытна ўхапіліся за камін і натужна адарвалі яго ад падлогі.

— О, паглядзі, беларуса па цэнтры паставілі, — звярнула ўвагу Надзя на некаторыя акалічнасці размеркавання нагрузкі.

Рэзо і Гога адначасова павярнулі галовы да Арцёма, які стаяў паміж імі, і ў профіль акрэсліліся два характэрныя грузінскія арліныя насы. Арцём жа са здзіўленнем знайшоў сябе ў цэнтральнай частцы пад самай нагрузкай.

— Дык ён моцны малады пацан! Яму толькі ў цэнтры і цягнуць, — ацаніў фізічныя здольнасці Арцёма Павел.

Арцёма з яго начальніцкімі звычкамі загадчыка аддзела дастаўкі зусім не грэла тая акалічнасць, што ён цягне па цэнтры. І як гэта ён у дадзеную сітуацыю патрапіў? Можа, памылачка выйшла? Глянуўшы сваім спрактыкаваным да ацэньвання позіркам на кволага Гогу, які з запунсавелым ад напругі тварам, з апошняй моцы, на хісткіх нагах трымаў камін, Арцём зразумеў, што яго ў цэнтр паслаў сам лёс, не Гогу ж сюды ставіць, а Рэзо — галоўнакамандуючы, ён заўсёды цягне наперадзе.

— Панеслі! — загадаў нешматслоўны Арцём.

Каманда рушыла да сцяны. Камін асцярожна апусцілі на падстаўку і з палёгкай разышліся ў розныя бакі.

— Цудоўна! — пляснула ў далоні Надзя. — Якая прыгажосць! Ён тут глядзіцца нашмат лепш, чым у ангары. Проста цудоўна! І такі салідны! Я думала, ён будзе меншы.

І сапраўды, у вялізным ангары з высокім дахам памеры каміна губляліся, а ў кватэры ён нібыта вырас у аб’ёме.

— Вельмі прыгожы колер, такі пяшчотны, — шчабятала Надзя, наблізіўшыся ўшчыльную да каміна, ма-

цала халодны камень рукамі і тут жа адыходзіла назад, з замілаваннем ацэньваючы колер. — А як пасуе каміну!

Змораныя, добра ўпацелыя мужчыны, якія гэту прыгажосць забяспечвалі, саплі за яе спіной і моўчкі слухалі захопленыя тырады.

— О! Гэта тое, што трэба. Прыгажосць. Якая прыгажосць! — Надзя ўся аддалася эстэтыцы.

— Такое хараство вечарам трэба замачыць, — зрабіў намёк жонцы Павел, паклаўшы канец эстэтычным парыванням і скокам вакол каміна.

Надзя замочкі не ўхваляла. Яе можна было злавіць хіба што на прыгажосць і хараство.

— Толькі піць саракаградусную гарэлку — гэта пошла. Я думаю трэба выпіць віна! Мы вельмі любім грузінскае віно, — летуценна сказала Надзя і паглядзела на Рэзо, яна хацела бліскануць веданнем грузінскага вінаробства. — «Кіндзмараулі», «Хванчкара», — з імпэтам узгадала яна два вінныя гатункі, аднак веды скончыліся даволі хутка, патрабавалася ратавальная падтрымка мужа. — Як там далей, Паша?

— «Алазані», так, здаецца, называецца, а можа, і не, — падказаў Павел і засумняваўся.

Ён больш разбіраўся ў іншых градусах і напоях, што былі беларускай вытворчасці: «Сталічная», «Усяслаў Чарадзей».

— Рэзо, якія яшчэ ёсць маркі грузінскага віна? — звярнулася Надзя да кампетэнтнага чалавека, зразумеўшы, што Павел са сваім вузкім вінным кругаглядам ёй тут не дарадчык.

— А вы прыязджайце да нас у Грузію, у Аджарыю на мора адпачываць, там і пакаштуеце сапраўднае грузінскае віно, — запрасіў Рэзо.

— У Грузію?!

Для Надзі словы Рэзо прагучала нечакана. «Як гэта — паехаць у Грузію? — завіравалі трывожныя думкі ў яе галаве. — Там жа нядаўна была вайна!»

— Трэба падумаць, можна і ў Грузію з’ездзіць, — ухілілася яна ад прамога адказу, не прызнаючыся нават самой сабе ў баязлівасці.

— У Аджарыі цудоўныя добразычлівыя людзі, спакойныя, як мора, — гаварыў Рэзо.

— Трэба вывучыць пытанне, — шматзначна і цьмяна адказаў Павел, бо яму было невядома, што зараз у гэтай краіне адбываецца. Праз імгненне ён перавёў размову на іншую тэму. — Хадзем, Рэзо, у суседні пакой, там у мяне грошы, я разлічуся за камін.

Рэзо адразу ўлавіў насцярожанасць, якая раптоўна ўзнікла ў размове, і больш нічога не гаварыў пра Грузію, мора і віно. Ён накіраваўся за Паўлам, а Надзя далучылася да іх. Заставацца ў зале з Арцёмам, Гогам і камінам яна не мела жадання, у гэтых траіх красамоўства знаходзілася прыблізна на адным узроўні.

У суседнім пакоі Павел перадаў Рэзо стосік долараў: сотні, пяцідзясяткі, дваццаткі. Атрымаўшы грошы, Рэзо нетаропка іх пералічыў, акуратна склаў купюру да купюры, засунуў у нагрудную патаемную, прышытую з унутранага боку курткі кішэню і зашпіліў кароткі кішэнны замок-маланку. Рухі яго танклявых рук былі няспешныя, ён рабіў усё паслядоўна і ўзважана, без мітусні, незалежна ад таго, паказваў фотаздымкі камінаў ці лічыў грошы. Унутраная грунтоўнасць і надзейнасць праглядваліся скрозь яго сціплыя, някідкія манеры. Скончыўшы грашовыя разлікі, ён зазірнуў у залу і, кінуўшы кароткае: «Пайшлі!», папрасіў каманду на выхад.

Рэзо, Арцём і Гога, развітаўшыся, у той жа паслядоўнасці выйшлі з кватэры.

Надзя зачыніла за імі ўваходныя дзверы на замок і вярнулася ў залу. Павел разглядаў камін і пра нешта думаў.

— Пра што ты думаеш? — спытала яго Надзя.

— Ды пра мора і Грузію.

— А ты б паехаў адпачываць у Грузію?

— Як табе сказаць… Цікава б было, але ж асцерагаюся…

— А я б паехала! — ў Надзі азартна заблішчэлі вочы. — Турцыі-шмурцыі, надакучыла!

Першы неспадзяваны спалох з-за таго, што ў Грузіі небяспечна, ужо выветрыўся з яе думак, а зерне жадання ўбачыць гэту краіну на ўласныя вочы, пасеянае запрашэннем Рэзо, давала свае парасткі, якія імкліва разрасталіся ў смелыя планы ірвануць туды на мора.

— Можа, калі і з’ездзім, але дакладна не ў гэтым годзе. Трэба вывучыць пытанне, — зноў туманна адказаў Павел.

«Глядзі, які памяркоўны зрабіўся. Камін узяў бы першы, што пад руку трапіў, а тут ён будзе вывучаць пытанне. Нябачаная разважлівасць», — Надзя хацела пакпіць з мужа, але перадумала, у нейкі момант яна рашыла, што муж мае рацыю.

— Можа, праз пару-тройку гадкоў з’ездзім? Хопіць часу на вывучэнне пытання? — спытала яна ўслых.

— Хопіць, — усміхнуўся ў адказ Павел…

# Частка 2

## 1

Самалёт прыляцеў у Батумі ноччу. Ён плаўна зніжаўся насустрач агням аэрапорта, здавалася, вось-вось дакранецца да пасадачнай паласы. Надзя выглянула ў ілюмінатар і ўбачыла, што яны садзяцца літаральна ў ваду, самалёт навісаў над цёмнай, з люстранымі водбліскамі святла воднай гладдзю, ніжэй і ніжэй… унутры пахаладзела. Не паспела яна спалохацца, як колы выпушчаных шасі стукнуліся аб цвёрдую паверхню забетаніраванай зямлі і пакаціліся па ўзлётна-пасадачнай паласе, — аэрапорт знаходзіўся на самым узбярэжжы. У салоне самалёта пасажыры запляскалі ў далоні — апладысменты пілотам. Надзя з імпэтам далучылася: пасля той вадзічкі, што бачыла ўнізе пад самым фюзеляжам, яна ацаніла іх майстэрства. Надзя была, як і большыня яе сухапутных землякоў-беларусаў, чалавекам зямлі, цвёрдай зямлі пад нагамі, а не мора і неба. Хаця мора і неба ў невялікіх аб'ёмах яе таксама захаплялі. А яшчэ яна хацела сонца, пякучага паўднёвага сонца.

Пасля спуску па трапе самалёта пасажыры акунуліся ў цёплае густое паветра начнога паўднёвага курортнага горада, якое агртвала цела, прыемна лашчыла скуру і дыхала вільгаццю мора. Паўсонныя госці курорта разрозненай плынню млява накіраваліся да будынка аэрапорта. Пракрочыўшы пару сотняў метраў, сямейная пара Сташэўскіх зайшла ў ярка асветленую залу прылёта, абодва ў белых штанах, як і належыць сапраўдным курортнікам. Гэта, канечне, быў не Рыо-дэ-Жанэйра, але ім прыйшліся даспадобы і паўднёвае паветра, і пасажыры, і батумскі аэрапорт.

Пашпартныя фармальнасці, звязаныя з прылётам, Павел і Надзя пераадолелі даволі хутка, пастаялі ў чарзе,

каб паказаць свой сонны твар працаўнікам аэрапорта і пачуць, як шлёпаюць адзнаку ў пашпарт. З нетраў залы аэрапорта да іх прыехаў на коле транспартнай стужкі багаж, і неўзабаве яны перамясціліся ў залу чакання, уладкаваліся ў крэслах, каб абдумаць далейшыя планы, якія трэба было ажыццявіць з прыходам раніцы, а пакуль што за вокнамі аэрапорта гаспадарыла цёмная паўднёвая ноч.

— Таксі не жадаеце?

Перад імі імгненна вырасла моцная постаць таксіста, мужчыны сярэдніх гадоў з прысыпанымі сівізной скронямі і чырвонымі ад недасыпу вачамі.

— Куды вам ехаць? — дапытваўся кіроўца таксі.

— Ды мы і самі пакуль не ведаем, вырашылі на месцы вызначыцца, як развіднее, думаем, магчыма, гатэль здымем, а можа, прыватную кватэру, — неахвотна патлумачыў стомлены пералётам Павел.

— Тады я пакатаю вас па начным Батумі, а вы падумайце, — прапанаваў таксіст.

— І колькі каштуе гэта «пакатацца»?

— Пяцьдзесят лар.

Павел пералічыў па курсе лары ў даляры, атрымалася амаль трыццаць «зялёных».

— О не! — не згадзіўся ён на прапанову. — Лепш я падумаю ў крэсле аэрапорта, танней абыйдзецца.

Таксіста адмова зусім не засмуціла. Ён прымасціўся ў крэсле побач з Паўлам і, прыхінаючыся да яго бліжэй, як да старога знаёмага, па-свойску спытаў:

— Адкудава прыехалі?

Надзя хмыкнула. Мужчынская фамільярнасць ёй не падабалася, але хіба таксіст мужчына? Гэта пасля працы ён мужчына, а на працы ён таксіст.

— А Вы адгадайце! — у той жа непасрэднай свойскай манеры, што і таксіст, парыравала Надзя.

Батумскаму таксісту была пастаўлена задача выявіць нацыянальную прыналежнасць прадстаўнікоў былога Савецкага Саюза, якія прыляцелі на адпачынак. Пятнаццаць рэспублік калісьці жылі разам у адной імперыі пад на-

звай СССР. Жылі па агульнай схеме, вызначанай адзінай камуністычнай партыяй, пераплаўляліся пад яе кіраўніцтвам у адзіны савецкі народ. Аднак пераплавіліся не да канца, хоць прымушаны былі атрымліваць адукацыю і размаўляць на рускай мове, бо ў рэспубліках праводзілася русіфікацыя, але ж размаўлялі ўсё адно з нацыянальным акцэнтам, адрозніваліся адзін ад аднаго менталітэтам, колерам валасоў і разрэзам вачэй, формай носа і гарачынёй тэмперамента. А потым Савецкі Саюз развалiўся, а людзі засталіся на сваіх месцах у незалежных, самастойных краінах з нацыянальнымі асаблівасцямі і адметнасцямі. Вось па гэтых знешніх прыкметах, не знішчаных плавільнымі кацялкамі сацыялізму, трэба было вызначыць нацыянальнасць гасцей грузінскага горада Батумі, якія не былі рускімі, хоць і па-руску размаўлялі.

— Малдавія? — выказаў здагадку таксіст.

— У вас што, самалёты толькі з Малдавіі лётаюць? — Надзя скептычна скрывіла вусны, здзіўленая глыбокай памылкай.

— Не, з Малдавіі наогул не лётаюць.

Таксіст закінуў нагу за нагу і зручней прыладзіўся ў крэсле. Выглядала на тое, што яму хацелася крыху адпачыць і паразмаўляць з турыстамі.

— Адгадвайце далей, — настойвала Надзя.

— Расія? — няўпэўнена спытаў таксіст.

— А іншых краін няма. Толькі Малдавія і Расія? Цікава… Давайце, угадвайце. Яшчэ адна спроба. З якіх краін да вас сёння ноччу ў аэрапорт прыляцелі самалёты? — падказвала Надзя ў якім накірунку развіваць думку.

— З Украіны і Беларусі, — дакладна адгукнуўся на падказку таксіст.

— Ну вось, а Вы кажаце — Малдавія, — узрадвалася Надзя, упэўненая, што зараз таксіст вызначыць іх нацыянальнасць. — Засталося толькі адгадаць…

— А што, на беларускім ці ўкраінскім самалёце рускія з малдаванамі прыляцець не могуць? — перапыніўшы Надзю, резонна спытаў таксіст.

— Могуць, канечне, — падцвердзіла Надзя. — Але гэта не пра нас. Трэцяя спроба, — дала яна таксісту яшчэ адін шанец.

— З Беларусі, — нарэшце ўгадаў ён і, нахіліўшыся бліжэй да Паўла, па-змоўніцку панізіўшы голас, зрабіў новую прапанову:

— Едзем глядзець начны Батумі! Сорак лар.

Цана зніжалася.

— Ну паглядзім мы начны Батумі, а далей што? Засяляцца няма куды, — нагадаў абставіны Павел.

— Паехалі да майго знаёмага, у яго абрыкосы, персікі, добры сад. Пакой нядорага здае, дом вялікі, жыве толькі з жонкай і цешчай, дачка вучыцца ў Тбілісі.

— А да мора колькі дабірацца? — пацікавілася Надзя адлегласцю.

— А што тое мора, мора — яно паўсюль. Да яго можна і аўтобусам даехаць, — завіхляў таксіст.

— Не, дзякуй, лепш я за персікамі на аўтобусе з’езджу, а да мора пешшу прайду, — катэгарычна адмовілася Надзя ад прапановы таксіста, бо не мела жадання кожны дзень дабірацца на марское ўзбярэжжа задушным гарадскім транспартам, яна марыла пасяліцца як мага бліжэй да пляжа.

Пакуль Надзя і Павел размаўлялі з таксістам, большасць пасажыраў з’ехалі з аэрапорта, у пустой зале чакання засталіся лічаныя адзінкі. Непадалёк у крэслах прыстасавалася, каб некаторы час паспаць, маладая дзяўчына. Яна падклала пад галаву кампактную дарожную сумку і прылягла набок, выцягнуўшы ногі ўздоўж крэслаў. Яе точанае цела маладой лані выгнулася прывабнымі лініямі, блакітныя да белі джынсы з заніжанай таліяй адкрывалі палоску аголенага дзявочага жывата між поясам джынсаў і кароткай лёгкай блузкай, русыя доўгія распушчаныя валасы, закінутыя назад, густымі зблытанымі хвалямі спадалі за яе спіной. Дзяўчына заплюшчыла вочы і ціхенька ляжала, спрабуючы заснуць.

— Начны Батумі проста цудоўны. Давайце я вам пакажу начны Батумі, — прадоўжыў рэкламу курортнага горада таксіст. Ён шчыраваў на ніве апрацоўкі свежых, напоўненых грашыма напачатку адпачынку, дарагіх ва ўсіх сэнсах гасцей курорта.

— Не. Мы не будзем глядзець начны Батумі. Спачатку мы хочам убачыць Батумі ўдзень, — манатонна прамовіў Павел.

— Начны Батумі — 35 лар. Зураб усё пакажа, — засыўна падвысіў голас таксіст і паклаў руку на грудзі побач з сэрцам.

«Яго завуць Зураб», — падумала Надзя, стараючыся запомніць грузінскае імя. Яе зусім не напружваў гэты ліпучы кіроўца таксі, бо ў яго жаданні падзарабіць на турыстах не было нахабства, а хутчэй прасочвалася гэтакая гульня ў таксіста і экскурсавода ў адной асобе.

— Дзякуй, іншым разам, — стомленым голасам падзякаваў яму Павел. Пасля начнога бяссоннага пералёта Паўлу было не да экскурсій.

— Як там цяпер у Беларусі? — з паездкай не атрымлівалася, і таксіст Зураб вырашыў паразмаўляць пра жыццё.

— А Вам даводзілася бываць ў Беларусі? — ажывілася Надзя.

— Не, ніколі не быў.

— Як Вам расказаць пра сучаснае жыццё, калі Вы не ведаеце, якое яно было ў нас раней?

— Чаму не ведаю? Ведаю. Раней жыццё было аднолькавае па ўсім Савецкім Саюзе, амаль аднолькавае, што ў нас — тое і ў вас. А цяпер яно ўсюды рознае. Колькі ёсць рэспублік… ва ўсіх па-рознаму жывуць… — упэўнена разважаў таксіст.

— Дэвушка, Вам памоч?

Дзяўчыну, што спала на крэслах, мякка кратаў за плячо высокі, асаністы малады чалавек, прадстаўнік рэгіёна Грузіі, які называўся Аджарыя і куды самалёт гэтай ноччу даставіў юную прывабніцу на марскі адпачынак.

Яна падхапілася і спрасонку цягучым голасам мармытала:

— Ужо трэці пытаецца, ці не дапамагчы мне. І, галоўнае, усе як адзін — хлопцы з мясцовых! Вы б мне вельмі дапамаглі, калі б не будзілі. Дайце мне нарэшце паспаць. Памагатыя... — млява, з ноткамі гуллівасці абуралася дзяўчына, папраўляючы сумку, што ляжала пад галавой замест падушкі.

Хоць яна і выказвала незадаволенасць, але насамрэч ёй былі прыемныя хлапечыя заляцанні.

Маладцаваты аджарэц ласым позіркам з-пад густых чорных броваў пагладзіў згібы дзявочага цела і, страціўшы надзею, што гэтаму целу неабходна яго дапамога, расчаравана адышоў убок.

— Вы лепш раскажыце пра Грузію. Мы першы раз да вас прыехалі, нічога не ведаем, — міргнуў Павел соннымі вачамі і запытальна паглядзеў на Зураба.

— А! — махнуў рукой Зураб. — Міша звольніў усю паліцыю! — прыгадаў ён прэзідэнта Міхаіла Саакашвілі. — Таксістам цяпер працую. Такое вось жыццё.

Надзя чытала ў газетах пра кардынальныя рэформы, што рашуча праводзіў грузінскі прэзідэнт. Каб скончыць з карупцыяй у паліцыі, якая за шмат гадоў ператварылася ў хітрасплецены спрут сувязяў і асабістых знаёмстваў, ён звольніў оптам цэлыя падраздяленні паліцэйскіх, а на іх месцы прынялі новых людзей.

— Вы раней у паліцыі працавалі?! — здзівілася Надзя і іншымі вачамі паглядзела на Зураба. «Гэта ж трэба было так загрымець! Са службы ў “органах” ды ў таксісты!» — падумала яна без шкадавання.

— Маёр паліцыі перад вамі, — распавёў Зураб з тугой у голасе па былых незваротных часах.

— Нішто сабе, — Надзя пакруціла галавой, гуляючы ў спачуванне.

— Цяпер новых на службу панабіралі: яны культурныя і ветлівыя, хабар не бяруць, — выказаўся з падначкай Зураб пра будні сучаснай грузінскай паліцыі. У яго

словах хаваўся таямнічы падтэкст: ці то ён не верыў у тое, што паліцыя можа быць ветлівая і культурная, ці то ў тое, што паліцэйскія не будуць браць хабар, ці то ў тое, што гэты цуд пратрымаецца доўга.

— А як у вас наконт пляжаў? — падкінуў у размову пытанне Павел на больш актуальную для яго тэму, трэба было паклапаціцца пра свабоднае размяшчэнне пад сонечнымі промнямі. — Месца на пляжы хапае?

Павел нездарма высвятляў гэтыя звесткі, у яго душы жылі ўспаміны пра адпачынак ва Украіне на паўднёвым беразе Крыма, дзе на вузкіх галечных пляжах яблыку не было дзе ўпасці, так шчыльна месціліся курортнікі. Зурабу пытанне Паўла падалося дзіўным, ён з няўцямнасцю пацiснуў плячамі.

— Месца хопіць усім, — пераканаўча адказаў Зураб і дадаў для пэўнасці: — Хопіць усім!

Пазней, апынуўшыся на марскім узбярэжжы побач з Батумі, Надзя напоўніцу зразумела сэнс словаў Зураба. Пляжы былі шырокія і свабодныя, вольна рассцілаліся ўздоўж горада. І тыя купкі людзей, што збіраліся бліжэй ля вады, здаваліся дробнымі кроплямі на пляжных прасторах. Але знаёмства з морам чакала наперадзе, а зараз трэба было Сташэўскім бавіць у аэрапорце доўгія гадзіны да світанку.

Зураб пачаў ёрзаць на сваім крэсле, яму карцела вызначыцца з упартымі беларускімі турыстамі, паедуць яны з ім ці не? Сядзець надакучыла. Ён падняўся з крэсла, пацягваючыся, расправіў плечы. Верхні гузік яго сарочкі ад рухаў рашпіліўся, следам расшпіліліся яшчэ некалькі, адкрыўшы Зурабавы грудзі, густа парослыя чорнымі з адзнакамі сівізнываласамі, надаўшы разняволенасці стрыманаму выгляду былога маёра паліцыі. Надзя на хвіліну поглядам завісла ў гэтым мужчынскім гушчары, але спахапілася, што муж можа злавіць яе на зацікаўленасці валасатым торсам чужога мужчыны, і паспешліва адвяла вочы.

— Вы мне дакладна скажыце, едзеце, ці не? Каб я не губляў часу. — Трыццаць лары! — рашуча прапанаваў таксіст Зураб.

Напачатку ён прасіў пяцьдзесят, а за гадзіну размовы з турыстамі знізіў кошт праезду амаль удвая.

— Зураб, ведаеш, у чым справа, — уключыўся ў перамовы Павел. — Мы, канечне, паедзем, але не цяпер, а як пачнецца світанак. Згадзіся, ну што мы ноччу можам убачыць і зразумець у незнаёмым горадзе? Нічога. А прыйдзе раніца, тады і пракацімся, выберам у Батумі месца, якое нам спадабаецца, кватэру там здымем. Кватэру нам наняць дапаможаш? — сонна спытаў Павел.

Ён з намаганнем трымаў раскрытымі вочы, бо вельмі хацеў спаць, а вейкі няўмольна імкнуліся адна да адной, зліпаліся. Каб не размова з таксістам, што падтрымлівала ў ім рэшткі бадзёрасці, яго б даўно змарыў сон. Зураб прасвятлеў тварам.

— Канечне, дарагі, здымем самую лепшую кватэру.

— Цудоўна. Вось і дамовіліся. Трыццаць лары плацім, і з цябе праезд плюс кватэра. А пакуль мы з жонкай пагуляем каля аэрапорта. Разамнёмся крыху.

Павел узняўся з наседжанага месца, тузануў з падлогі і ўскінуў на плячо спартыўную сумку, набітую рэчамі. Надзя падхапілася следам, бадзёра прасунула рукі ў лямкі свайго кампактнага заплечніка і прыстасавала яго за спіной.

— Сумкі можаце пакінуць на крэслах і спакойна гуляць на вуліцы, — параіў Зураб, які адным стомленым вокам разглядаў Надзю з заплечнікам, а другое вока цёр кулаком.

— Ну не! — адказала Надзя. — У вас можа быць самая лепшая паліцыя ў свеце, але я не хачу, каб яна шукала мой багаж. Я неяк так, з рукзачком прагуляюся, надзейней будзе.

Надзя з Паўлам накіраваліся да выхаду. Перад імі аўтаматычна расчыніліся шкляныя дзверы, і вуліца ахінула цёплым вільготным паветрам. Трымаючы багаж у полі зроку, сямейная пара Сташэўскіх шпацыравала ўзад-уперад перад ўваходнымі дзвярыма аэрапорта, з асалодай любуючыся агнямі незнаёмага, таямнічага і прывабнага начнога горада, які віднеўся ў аддаленні.

На небакраі светлай паласой займаўся дзень. Паступова ў ранішнім размытым святле агні горада згасалі і вымалёўваліся абрысы дамоў. Паўднёвая ноч нетаропка сыходзіла, саступаючы месца новаму спякотнаму дню. Зураб вынырнуў з залы чакання на вуліцу, рыхтуючыся да паездкі, тактоўна зашпіліў гузікі сарочкі на валасатых грудзях. За ім, старанна перабіраючы нагамі, дробнымі паспешлівымі крокамі джагаў малады хлопец.

— Спадарожніка возьмем, — сцвярджальным тонам паведаміў Зураб. — Трэба чалавека падвезці ў горад.

Таксіст дарма часу не губляў, пакуль Сташэўскія прагульваліся на вуліцы перад аэравакзалам, ён у зале чакання «апрацаваў» чарговага кліента. Малады хлопец, белабрысы і танклявы, радасным трапяткім позіркам даверлівых блакітных вачэй з цеплынёй паглядаў на сямейную пару. І чаму ён быў такі ў іх улюбёны?.. Тройка пасажыраў нырнула ў аўтамабільны салон, і таксіст Зураб, як конь, што застаяўся ў чаканні, імкліва накіраваў аўто наперад. Машын на ранішняй дарозе было вобмаль, і Зурабаў аўтамабіль з ветрыкам імчаў ў горад.

Па дарозе адкрылася прычына сардэчнай прыхільнасці юнага спадарожніка да Паўла з Надзяй. Ён таксама прыляцеў з Беларусі, меў васямнаццаць гадоў ад нараджэння, скончыў першы курс інстытута, упершыню апынуўся ўдалечыні ад роднага Мінска, ад таты з мамай, і асцерагаўся ў чужым горадзе адзін ехаць з таксістам. А тут — землякі-мінчукі, сталыя, надзейныя. Які ж ён быў у іх улюбёны сёняшнім ранкам у чужой старонцы!

Хлопец сядзеў на пярэднім сядзенні побач з Зурабам, захоплены прыгодамі, што падпільноўвалі яго на паўднёвым курорце, і адначасова няпэўны, яго рука з лёгкай нервовасцю церабіла рэмень бяспекі. На роспыты Зураба ён з імпэтам адказаў, што ў Батумі яго павінен сустрэць сябар па інтэрнэт-перапісцы.

— А калі твой сябар не прыйдзе на сустрэчу, што ты будзеш рабіць? — пацікавілася ў бялявага ўзрушанага спадарожніка Надзя.

— Прыйдзе… абавязкова, мы ж дамовіліся, — запэўніваў ён Надзю, а сам, здаецца, у гэта не верыў. — І потым, я палазіў у інтэрнэце, адшукаў некалькі недарагіх гатэляў у Батумі, магу і там пажыць.

— Гатэлі ўсе будуць занятыя, — падстрашыў юнака Зураб.

— Няўжо? — насмешліва спытала Зураба Надзя, яна не паверыла ў перагружанасць гатэляў.

Зураб не адгукнуўся, зрабіў выгляд, што не пачуў. Хлопец жа, па-юнацку няўважлівы і даверлівы, іроніі ў Надзіных словах не заўважыў. Ён насамрэч занепакоіўся, што ў гатэлях няма месцаў. Яго блакітныя, празрыстыя, з налётам наіўнасці вочы ўспыхнулі трывогай.

— Ты не перажывай, — працягваў апрацоўку хлопца таксіст. — Зураб табе дапаможа, заселіць у кватэру, — адпусціўшы адну руку са стырна, ён паклаў яе сабе на грудзі як жэст гарантыі.

Юнак збянтэжана слухаў, у паўабарота павярнуўшыся да таксіста, які з жарсцю апавядаў пра цяжкасці найму гатэльных нумароў, такім чынам Зураб зводзіў у гатэльнага бізнесу патэнцыйнага кліента.

Асветленыя ўзыходзячым сонцам, за акном аўтамабіля мільгалі простыя карабкі шматпавярховікаў савецкіх часоў, а побач з імі з'яўляліся арыгінальныя сучасныя будынкі незвычайнай архітэктуры. Шлях з аэрапорта да горада быў зусім блізкі. Зураб ціснуў на газ, павялічваючы хуткасць. Кампанія турыстаў праехала вуліцамі Батумі, і замест начной экскурсіі атрымалася экскурсія па ранішнім горадзе.

Машына прытармазіла ля гатэля «Рэдысан блу», шматпавярховага прэтэнцыёзнага будынка з ламанымі лініямі шклянога фасада. Тут бялявага юнака павінен быў чакаць чарнабровы геймер, сябра па інтэрнэт-перапісцы. Батумскі геймер-незнаёмец абяцаў пасяліць беларуса на сваёй жылплошчы па-прынцыпе: сёння ты ў мяне ў кватэры ў Батумі пажывеш, а ў наступны раз — я ў цябе ў Мінску. У лепшых традыцыях дэтэктыўнага жан-

ру першае рэальнае спатканне віртуальных сяброў было прызначана ля шыкоўнага гатэля «Рэдысан», унушальнага і пампезнага. Аднак батумскі «Містэр Х» на сустрэчу не з’явіўся. Мінскі студэнт-першакурснік прыкметна сумеўся, яго блакітныя вочы напоўніліся смуткам і расчараваннем, з рэшткамі апошняй надзеі ён выйшаў з таксі, спыніўся ля ўваходу ў гатэль і разгублена азіраўся па баках. Дарэмна. Нікога не было. Таксіст Зураб сунуў яму ў рукі сваю візітоўку са словамі:

— Не перажывай! Пазвані мне, я цябе ўладкую!

Хлопец, самотны, застаўся стаяць ля фешэнебельнага гатэля, дзе яго ніхто не чакаў, горкае дзіця ўрбанізму сіратліва тапталася на прыступках, уцягнуўшы худую доўгую шыю ў вузкія плечы прасунутага геймера, уладара віртуальнага свету. І вось цяпер яму давялося пагугліць у рэальнасці. Тыя сто дваццаць сяброў з яго старонкі «ВКонтакте» не спяшаліся яму на дапамогу ў раён гатэля «Рэдысан блу». Адзін і той не праглядваўся на лініі гарызонта. А таксі паехала далей у глыбіню курортнага горада Батумі.

## 2

Горад адпачываў. Утаймаваўшыся пад раніцу пасля начных пагулянак, курортнікі салодка спалі ў ложках і не спяшаліся з першымі промнямі сонца да мора. У гэты час світання яны бачылі найлепшыя курортныя сны. Батумі, ціхі і бязлюдны, чакаў новага дня. Таксіст Зураб асцярожна ехаў па вузкіх брукаваных вулачках старой часткі горада, прытармажваў перад скрыжаваннямі, паварочваючы то ў адзін, то ў другі бок. Нарэшце, машына спынілася. Зураб няўдала прыпаркаваў яе, і задняя частка аўтамабіля высунулася на суседнюю вуліцу. Агледзеўшы «шэдэўр» паркоўкі, таксіст бесклапотна махнуў рукой, кшталту, і так нармальна.

Надзя з Паўлам выпырхнулі з машыны і азіраліся навокал з цікаўнасцю людзей, якія першы раз апынуліся ў новым месцы. Надзя задзірала галаву ўверх, захопленая выглядам трохпавярховага старадаўняга дома з ляпнінай. На яго фасадзе ў некалькіх месцах недарэчна вылучаліся сучасныя пластыкавыя вокны з рамамі белага колеру, астатнія былі карычнева-шэрыя, драўляныя, шурпатыя той старой спарахнявелай шурпатасцю, якая дыхае зніклай эпохай, пераносіць машынай часу ў мінулае. Надзя зачапілася позіркам за старыя вокны. Некалі ў доме, у пакоях за гэтымі вокнамі жылі іншыя людзі і цякло ў старасвецкіх традыцыях зусім іншае, размеранае, нетаропкае жыццё, а па брукаваных вуліцах грукаталі конныя экіпажы, дзе на жорсткіх сядзеннях самавіта пачувалі сябе вусатыя франты ў нацыянальным грузінскім адзенні з кінжаламі на паясах.

Пакуль Надзя любавалася старадаўнімі будынкамі, Зураб званіў па мабільным тэлефоне. Размаўляў ён па-грузінску, аднак можна было здагадацца, што гаворка ідзе пра найм жылплошчы.

— Хадзем. Гаспадыня на месцы, кватэру вам пакажа, — паклікаў Зураб і рушыў да трохпавярховага дома.

— Гэта стары Батумі, — выказала здагадку Надзя. — Як тут прыгожа!

З паэтычным настроем яна зайшла ў невялікі дворык і… апынулася ў глыбіні сапраўднай, без рэтушы, ілюзій і прыхарошванняў старажытнасці, не ў дэкаратыўным, а ў сапраўдным духу старога, патрапанага часам дома са скрыпучай драўлянай лесвіцай, што вяла на другі паверх. Лесвіца была ўмацавана металічным швелерам, каб не гэты швелер, яна б даўно абрынулася — дрэва недаўгавечнае. Няроўная, пасечаная павуцінай шчылін тынкоўка са сцен месцамі абсыпалася, і з-пад яе лапікамі праглядалася вышчэрбленая цэгла. У замкнёным чатырохвугольніку ўнутранага дворыка блізкія сцены навісалі, ціснулі, абступалі Надзю з ўсіх бакоў, ёй тут было нязвыкла і няўтульна. Зураб жа пачуваўся як рыба ў вадзе,

ішоў наперад, смела ступаючы па старых прыступках, Надзя з Паўлам ледзь паспявалі за ім. Пакруціўшыся па драўляных лесвіцах і калідорах, яны спыніліся ля расчыненых дзвярэй. Гаспадыня чакала. Кватэра, вузкая і доўгая, умоўна, без усялякіх перагародак падзеленая на пярэднюю, кухню і жылую частку, тунэлем працягнулася ад дзвярэй да вялікага акна ў канцы пакоя, святло з якога амаль не далятала да пярэдняй. У прыцемку няпэўна выступаў кавалак падлогі, выкладзены кафляй каля сціплай кухоннай мэблі. Кухня складалася ўсяго з пары шафак. На шафцы, каб не займаць лішнюю плошчу, ашчаджаючы месца, размясцілася двухкамфарная маленькая настольная газавая пліта. У старым дарэвалюцыйным доме людзі, як маглі, самі ўладкоўвалі сабе жытло: адгароджвалі кухні, абсталёўвалі санвузлы, рамантавалі сцены.

З цёмнай пярэдняй Надзя накіравалася да акна, якое было расчынена. Лёгкі ветрык калыхаў карункавую белую гардзіну, што празрыстым вэлюмам прыкрывала балконныя дзверы. Пакуль мужчыны аглядалі пакой, Надзя выйшла на шырачэзны балкон з цяжкімі чыгуннымі завіткамі пад парэнчамі, і перад ёй адкрылася чароўнасць старажытнага горада: фасады дамоў, аздобленыя ляпнінай, вузкія брукаваныя вулачкі, пустынныя ў ранішні час, што хавалі ў сабе старадаўнюю гісторыю. Надзя глыбока ўдыхнула чыстае цёплае паветра і азірнулася, за спіной яе сустрэў паўцёмны няўтульны пакой. Старажытнасць дамоў звонку і ўнутры не сябравалі між сабой, прывабная старасвецкасць фасадаў рэзка кантраставала з нязручнасцю жыцця і побыту ўнутры.

Надзя неахвотна вярнулася з шырокага балкона і з панылым тварам аглядала пакой. Зураб, у кватэрных справах цёрты, без лішніх тлумачэнняў зразумеў, што кватэра не спадабалася, і каб не губляць каштоўнага часу сказаў:

— Паехалі на Руставелі!

— А гэта дзе, далёка ад мора? — ухапілася за новую прапанову Надзя.

— Зусім блізка, адразу за «Рэдысанам», — патлумачыў Зураб.

Надзя згадала гатэль «Рэдысан», прасторную плошчу і шматпавярховікі непадалёк. Нядрэнна. Успаміны, праўда, крыху сапсаваў вобраз бялявага разгубленага геймера, журботнага, пакінутага віртуальным сябрам на прыступках гатэля.

Паўлу ідэя таксама спадабалася, ён згодна кіўнуў і падцвердзіў:

— Я думаю, туды трэба з'ездіць.

Надзя рашуча паправіла кофтачку, пацягнуўшы яе ўніз на белыя штаны. Усе хацелі на Руставелі.

Развіталіся са спахмурнелай гаспадыняй, якая відавочна шкадавала, што парачка турыстаў не хоча здымаць яе кватэру і ўцякае ў раён «Рэдысан блу». Па той жа драўлянай старой нязручнай лесвіцы Сташэўскія з таксістам спусціліся ў вузкі двор. Зураб ішоў імкліва, як заяц, скакаў з адной прыступкі на другую. Надзя павольна цягнулася за ім следам, ступала асцярожна і баязліва, няўмела і няўклюдна ставячы на хісткія прыступкі ногі, чаплялася рукамі за парэнчы, быццам толькі навучылася хадзіць. Павел азірнуўся на жонку і коса ўсміхнуўся, разглядаючы, як яна «пранікаецца духам» старадаўняга дома.

У машыне кампанію ахапіла радаснае натхненне: едзем на галоўную вуліцу горада Батумі! Нездарма там размясціліся гатэлі «Рэдысан» і «Шэратон», шыкоўны раёнчык! Было зразумела: гэта тое, што трэба турыстам у белых штанах.

Вуліца Руставелі, шырокая і прасторная, абсаджаная па баках пальмамі, у свеце дня выглядала шыкоўна. Асабліва прасторнай здавалася яна пасля вузкіх вулачак старога горада. А пальмы, спадарожнікі цёплага мора, прадвеснікі будучага прыемнага адпачынку прывабліва віталі лапамі-веерамі дзесьці пад самымі вершалінамі высокіх роўных стваловў.

Прамільгнуўшы ля зграбных пальмаў, таксіст завярнуў машыну ў завулак і адразу спыніўся.

— Так, прыехалі. Зараз пойдзем у двор дома, — Зураб паказаў рукой на пяціпавярховік савецкіх часоў. — Потым пакажу вам кватэры.

— У якім пад’ездзе? — пацікавіўся Павел і павольна адчыніў дзверы машыны.

— А я яшчэ не ведаю, — бадзёра адказаў яму Зураб.

— Як гэта Вы не ведаеце? — з недаверам перапытала Надзя і насцярожана абвяла позіркам маёра паліцыі ў адстаўцы.

— Пакуль не ведаю, падыдзем да дома, там паглядзім.

Выйшлі з машыны. Зураб па-заліхвацку пляснуў расхістанымі дзверкамі аўтамабіля і ўпэўнена пашыбаваў у праход-арку, што злучала паміж сабой два будынкі. Павел і Надзя, неўразумела пераглядваючыся, ішлі за ім. За аркай адкрыўся занядбаны двор. Тут не ступала нага рамонтнікаў, мабыць, з часоў цара гароха, і толькі недатаптаныя рэшткі асфальта выдавалі былую, даўно забытую дагледжанасць. У двары — ніводнай душы, і — цішыня. Дом спаў. Зураб спыніўся, паставіў рукі ў бокі і дзелавіта ўглядзеўся ў шматлікія сонныя вокны. Раптам ён пачаў раскаціста на ўвесь двор крычаць нешта па-грузінску. Голас яго гучаў моцна, напорыста, звяртаючыся непасрэдна да ціхіх акон. Ад нечаканасці Надзя страпянулася, пачала азірацца па баках, адчуваючы сябе ўдзельніцай дробнага хуліганства, здзейсненага групай асоб пад кіраўніцтвам таварыша маёра, а пасля, не стрымаўшыся, пырскнула смехам. Прыкрыўшы дзвюма далонямі рот, быццам гэта яна толькі што крычала ў ранішняй цішы, і сціснуўшы вузкія жаночыя плечы, смеючыся, шаптала скрозь далоні, супакойваючы Зураба:

— Зураб, што вы робіце?! Людзі ж спяць!

— Ну спяць, дык прачнуцца, нічога з імі не зробіцца, — абсалютна спакойна адказаў Зураб. — Я ім кліентаў прывёз, кватарантаў. Сезон, працаваць трэба. Зімой спаць будуць.

Ён пацёр моцна прыціснутымі далонямі стомлены твар і пачырванелыя вочы, ускалмаціў пальцамі валасы

ля скроняў, адганяючы санлівасць. Яго выгляд пацвярджаў: у сезон трэба працаваць.

Літаральна праз некалькі хвілін з розных пад'ездаў паказаліся людзі, толькі адны жанчыны.

— Вы якія кватэры глядзець будзеце? Адна- ці двухпакаёвыя? — удакладніў таксіст Зураб пажаданні Сташэўскіх наконт апартаментаў.

Было відавочна, што ён адным махам забяспечыў прагляд некалькіх кватэр.

«Вось гэта рыэлтар! — думала Надзя, захапляючыся Зурабам, яна б ніколі не рашылася так гарлаць у сонным двары. — Адна фраза на грузінскай мове, сказанная на світанні зычным голасам таварыша маёра міліцыі ў адстаўцы, — і кватэрнае пытанне вырашана. Ніякіх табе камп'ютараў, папярэдніх дамоў, тэлефанаванняў. Усё геніяльнае проста: мозг і голас».

— Дык якія кватэры трэба? — перапытаў Зураб Паўла і Надзю, якія ад убачанага, здавалася, не толькі страцілі частку кемлівасці, але і часова анямелі.

— Ды нам без розніцы, галоўнае, каб чыста і парадак, — першым знайшоўся Павел.

У Зураба зазваніў мабільны тэлефон, ён спрытна і хутка выхапіў яго з кішэні і прыклаў да вуха. Звычайна па мабільным Зураб размаўляў на грузінскай мове, а тут упершыню загаварыў па-руску: «Хорошо, дорогой, сделаем! Я тебе пэрэзваню».

— Зямляк ваш аб'явіўся, — паведаміў ён Паўлу з Надзяй, адключыўшы тэлефон. — Трэба дапамагчы хлопцу пакой знайсці. Зараз вас засялю, а потым ім займуся.

— Спёкся, значыць, хлопчык, — з'едліва прамовіла Надзя. — А дзе ж яго батумскі сябар па інтэрнэце? Яны ж так добра кантактуюць на адлегласці, пісьмы сардэчныя пішуць.

— Напэўна, не прыйшоў, — акрэсліў Зураб відавочнасць.

— Відаць, у хлопца нешта не атрымалася, не змог прыйсці, — дадаў Павел са спачуваннем у голасе.

— Та-а-ак! Зразумела! Значыцца, не змог? Можа, не змог, а можа, не захацеў! Па электронай пошце паведамленні пісаць, яно, канечне, прасцей, чым рэальную справу зрабіць, — падвяла рысу Надзя с самазадаволеным выглядам, што яна такая разумная і падазравала раней; падзеі будуць разгортвацца падобным чынам.

У памяці зноў усплыла худзенькая постаць разгубленага юнака ля гатэля «Рэдысан».

— Эх, молада-зелена, — весела ўздыхнуў Павел, яго забаўляла гэта геймераўская гісторыя. — У іх жа як, у маладых, калі што не так пайшло — галоўнае, змыцца.

— І адключыць інтэрнэт, — асвятліла Надзя генеральную лінію інтэрнэтных знаёмстваў. — Я выдаляю цябе са спісу сваіх сяброў, і «мышкай» — пстрык! Раптам быў і хутка знік!

Зураб паблажліва ўсміхнуўся:

— Нічога, засялім маладога чалавека. Будзе хадзіць на мора, купацца, загараць.

Тое, што Зураб засяліць, не выклікала сумневу.

Неўзабаве Сташэўскія пад кіраўніцтвам таксіста рушылі выбіраць жылплошчу на час адпачынку. Агледзеўшы некалькі кватэр, яны спыніліся на дабротнай двухпакаёўцы. Адзін пакой кватэры выходзіў акном на Руставелі, шумную, мітуслівую вуліцу, і з яго лоджыі адкрываўся прыемны від на плошчу. У цэнтры плошчы блішчэў пазалотай мудрагелісты помнік, а паабапал пешаходных сцяжынак раслі нізка падстрыжаныя ў форме геаметрычных фігур і завіткоў кусты зеляніны. Любімыя Надзіны пальмы развешвалі шырокае рассечанае лісце амаль пад самай сцяной дома. Другі пакой глядзеў ў ціхі дворык, і там можна было спакойна паспаць, схаваўшыся ад шуму гарадскога.

— Тое, што трэба, — натхнёна сказала Надзя. — Мы застаёмся!

— Хадзем забіраць рэчы з машыны, — Павел як заўсёды клапаціўся пра надзённае.

— Вы ідзіце, а я вас даганю, — адправіў Зураб Паўла з Надзяй да машыны, а сам затрымаўся паразмаўляць з гаспадыняй у кватэры.

— Круціцца мужык, — на лесвіцы ў пад'ездзе, застаўшыся сам-насам з жонкай, заўважыў Павел. — Зараз з гаспадыні кватэры працэнт злупіць за тое, што кліента прывёз.

— Што значыць — злупіць?! — запярэчыла Надзя. — Ён возьме заробленае. Узаемна выгадная справа, якая называецца сумесны бізнес! — Надзя была Зурабам задаволена. — Ты паглядзі, які сэрвіс! І падвязе, і заселіць, і начны ці ранішні Батумі пакажа, — усё імгненна і зладжана. Гэта табе не ў турыстычным агенцтве абслугоўвацца. Звоніш ім, а ў адказ елейны голас з тэлефона: «Ало, я Вас слухаю… Мы Вам можам прапанаваць цудоўны адпачынак… спецпрапанова… » — і пайшла вешаць локшыну на вушы!

— І ў кожнага супрацоўніка фірмы свой рондаль з локшынай, — па-філасофску заўважыў Павел.

— Нядаўна глядзела гумарыстычную перадачу, паказвалі сцэнку якраз на гэту тэму, — хіхікнула Надзя. — Расказаць?

— Давай, расказвай, — падахвоціў яе Павел.

— Карацей, там адна агентша выправіла турыста на разрэкламаваны быццам бы элітны курорт. Дабраўся ён да месца, і… ё-маё!… У шоку ад убачанага тэлефануе ёй, вішчыць у тэлефон: «Куды вы мяне паслалі?! Вады ў нумары няма, ложка няма, да мора — пяць кіламетраў пешшу!» А супрацоўніца турагенцтва яму ў адказ: «Я ця нармальна паслала, ты понял? Дасвідос!»

Турысты ў белых штанах няспешна ішлі да машыны, абмяркоўваючы апошнія падзеі. На доўгіх вяроўках, працягнутых ад вакон пяціпавярховіка да невялікага двухпавярховага дома ўнутры двара, сушылася адзенне, арыгінальная, раней не бачаная Надзяй з'ява, традыцыя, якая лёгка і нязмушана перабралася сюды са старых батумскіх дворыкаў. Замацаваныя рознакаляро-

вымі прышчэпкамі, на лёгкім ветрыку матляліся штаны і сукенкі, прасціны і навалачкі, дзіцячыя паўзункі і шкарпэткі. Надзя прыгледзелася, спрабуючы адшукаць прадметы інтымнай часткі гардэроба, і не пабачыла, для іх было адведзена патаемнае месца. Пад ветразямі развешаных прасцін турысты прайшлі да машыны, і тут іх дагнаў энергічны Зураб.

— Хлопец званіў, чакае, паеду засяляць, — паведаміў ён на хаду, спяшаючыся, дастаў з машыны кампактны багаж пасажыраў, спартыўную сумку і заплечнік. На развітанне Зураб пацiснуў Паўлу руку і хацеў гэтым жэстам абмежавацца, злёгку нахіліў галаву наперад, маўляў, дазвольце адкланяцца. Надзя яго затрымала, працягнула сваю мініяцюрную жаночую далонь з доўгімі наманікюранымі пазногцямі, пакрытымі перламутравым лакам, і прамовіла:

— Я таксама хачу пацiснуць Вам руку, Зураб. Вялікі дзякуй, Вы вельмі дапамаглі нам з кватэрай.

Зураб зазіхацеў шырокай усмешкай, далікатна ўзяў у руку чатыры з пяці працягнутых яму пальцаў, паднёс да вуснаў і пацалаваў даме ручку.

Гамарджоба, Грузія!

Павел зрабіў выгляд, што так і трэба, і цалаваць жанчынам рукі ў нашых беларускіх паўночных шыротах — звыклая завядзёнка. Турысты і таксіст міла развіталіся.

Зураб паддаў газу свайму аўтамабілю. Пасля вузкіх вулак старога горада на прасторах вуліцы Руставелі можна было пракаціцца з ветрыкам.

— Усё-такі нядрэнна, што Зураба выперлі з паліцыі, такі файны таксіст і суперагент па нерухомасці атрымаўся. Што б мы без яго рабілі? — праводзіла Надзя позіркам машыну.

— Угу, — згадзіўся Павел.

— Я тут падумала... А каб нашу беларускую міліцыю… — Надзя змоўкла, падбіраючы патрэбнае культурнае слова. — Рэарганізаваць!

— Ты, што?! — падробным гневам бліснулі вочы Паўла. — Не чапай святое! Яны ж на посце! Ты бачыла іх

твары, такія… такія…. мужныя, — Паўлу складана давалася характарыстыка выразу твараў міліцыянераў.

— Не… Я ж нічога, асабліва калі… святое, — Надзя напусціла на сябе сур'ёзнасці і, уключыўшыся ў гульню, зрабіла свежую прапанову: — А можа тады пашырыць міліцэйскія шэрагі?

— Вось гэта — правільная думка. Пашыраць, пашыраць і яшчэ раз пашыраць, пакуль кожны другі мужчына краіны не будзе служыць у міліцыі.

— Кожны другі? — перапытала Надзя з сумневам. — Можа, зашмат? А хто тады працаваць на прадпрыемствах будзе?

— А жанчыны навошта? Няма чаго слабымі прыкідвацца, — Павел хмыкнуў і вырашыў прайсціся па жанчынах, трэба ж было неяк адстойваць павелічэнне беларускага міліцэйскага набору ў і без таго празмерна раздзьмутыя падраздяленні. — Жанчыны будуць працаваць на заводах, фабрыках, у палях і на будоўлях. Навучацца шпалы ўкладваць, кіраваць бульдозерам, самазвалам… і гэтак далей, а мужчыны ў міліцыі будуць ахоўваць іх мірную працу. Кожны другі мужчына ў форме — гэта якраз нармальны памер міліцыі, — пацвердзіў ідэю Павел, узнёсла падняў галаву ўгару, як аратар на трыбуне. — Я думаю, наш парламент мяне падтрымае.

Скрозь напускную сур'ёзнасць на Надзіным твары прабівалася саркастычная ўсмешачка.

— Коцік, ты — геній!

Яна ўзняла з асфальта заплечнік і, ускінуўшы яго на адно о, накіравалася ў пад'езд, заплечнік коса ёрзаў па яе спіне. Павел цягнуўся побач з пузатай сумкай у руцэ. Праз колькі хвілін Сташэўскія падняліся ў нанятую кватэру. Іх сустрэла гаспадыня і з парога пачала тлумачыць новым жыльцам, як чым карыстацца, якія ёсць нюансы батумскага побыту. А яны былі: па-першае, вада награвалася бойлерам, па-другое, газ быў у балонах, дакладней, маленькіх балончыках, зручных для пераноскі. Але пра гэта пазней.

Гаспадыню кватэры звалі Ніно. На выгляд яна мела гадоў пяцьдзесят з добрым гакам. Ніно фарбавала чорныя валасы ў светлы колер, уяўляючы, што гэта ёй пасуе; пад выбеленымі пасмамі стрыжанай грыўкі, якая густа навісала над ілбом, нечаканымі здаваліся яе вугальныя пукатыя вочы. Абутак кабета насіла на танкетцы, бо абцасы даваліся ёй цяжка — ногі не тыя, а танкетка была зручнай, устойлівай і рабіла больш высокай і зграбнай яе аб'ёмістую фігуру. Рухавая і эмацыйная, гаворачы пра што-небудзь, Ніно дзеля ўзмацненя эфекту шырачэзна адкрывала вочы і раз-пораз прыгаворвала: «Мамай клянусь!»

Праслухаўшы разы са тры гэту клятву, Надзя вырашыла расказаць анекдот.

— Ведаеце, Ніно, ёсць цікавы анекдот.

Ніно спыніла тупат танкетак, міргнула вугальнымі вачамі, выказваючы жаданне паслухаць, і пышнай фігурай падалася наперад бліжэй да Надзі.

Надзя працягвала:

— Адзін малады чалавек з Каўказа прыехаў паступаць ва ўніверсітэт. Яму трэба было здаць экзамен па геаметрыі. Прафесар на экзамене паказаў трохвугольнік і пытаецца ў яго: «Малады чалавек, вы можаце даказаць, што гэты трохвугольнік раўнабедраны?» Хлопец уважліва паглядзеў на трохвугольнік і кажа: «Прафесар, мамай клянусь, ён раўнабедраны».

Ніно зайшлася залівістым смехам.

— Ой! Ой! І я таксама… і я кажу: мамай клянусь! — смяялася яна са смакам і нейкім асаблівым задавальненнем; супакоіўшыся, сказала з гумарам:

— Мамай клянусь, вам спадабаецца мая кватэра!

— Ужо спадабалася, — пацвердзіў Павел.

Словаахвотная Ніно памкнулася яшчэ паразмаўляць, аднак у момант абсеклася, заўважыўшы, што кватаранты выглядам набліжаюцца да выціснутых лімонаў, стаяць перад ёй ускудлачаныя, стомленыя, лыпаюць вачамі і хочуць спаць.

— Калі ласка, размяшчайцеся, не буду вам замінаць. Вы ж толькі нядаўна прыляцелі і вам трэба адпачыць. Я пайшла, я пайшла… пайшла ўжо, — Ніно затупала танкеткамі ў пярэднюю і нечакана для сваіх габарытаў шпаркім, лёгкім мятлікам выпырхнула з кватэры, толькі калыхнуўся за спіной клёшны доўгі падол моднай сукенкі з тонкай тканіны.

Надзя не дайшла, а хутчэй дапаўзла да ложка і, як была, у адзенні тварам уніз завалілася на пасцель.

— Людзі, як я хачу спаць! Вы не ўяўляеце, — тлумачыла яна нейкім міфічным людзям свой стан.

— Ты хаця б распранiся, — лагодным голасам парэкамендаваў жонцы Павел, ён трымаўся лепш, па-мужчынску.

— А што… трэба? — спыталася Надзя, з цяжкасцю адрываючыся ад падушкі.

Яна сцягнула з сябе рэчы, кінула іх камяком на тумбачку і, застаўшыся ў адной бялізне, зноў завалілася ў ложак. Каля яе ног на краі ложка ляжала прасціна, адпрасаваная, складзеная роўным прамавугольнікам. Павел растрос прасціну і накрыў жонку. Адчуўшы лёгкі дотык свежай баваўнянай тканіны, Надзя ўтульна падцягнула пад сябе калені, скруцілася клубком і імгненна заснула. Павел пахадзіў па кватэры, праверыў, ці зачыненыя дзверы, прыбраў з-пад ног сумку з заплечнікам, якія ляжалі, скінутыя пасярод пакоя, няспешна распрануўся, развесіў свае рэчы на спінцы стула і прылёг побач з жонкай, якая ўжо напоўніцу сапла носам. Прыабняўшы пад прасцінай яе за плячо, ён прасунуў руку далей па гладкай шаўкавістай скуры і з задаволенай мінай на твары памацаў у бюсціку тое, што яму належала па праве шлюбных адносінаў. Жонка не варухнулася. Паўлава рука ўпэўнена ляжала на жончыных грудзях, а потым ён клапатліва паправіў на яе плячы брэтэльку бюстгальтара і аддаўся ўспамінам, як у мінулым годзе купіў гэты белы, аздоблены карункамі камплект бялізны, што быў зараз на жонцы, у падарунак ёй на дзень нараджэння. Павел пачуваўся героем, бо візіт у

аддзел жаночай бялізны фабрыкі «Мілавіца», куды ходзяць адны кабеты і выбіраюць там сабе трусікі з ліфчыкамі, вымагаў ад яго мужнасці. Павел колькі часу сноўдаў паблізу аддзела, а потым рашуча сказаў: «Я змагу туды схадзіць!» — і рушыў у жаночае царства, наўпрост накіраваўся да прадавачкі, дэманструючы ўпэўненасць, папрасіў у яе:

— Дайце мне камплект бялізны памерам 75, — гэту лічбу ён падгледзеў дома на этыкетцы.

Маладая прывабная прадавачка прамацала яго позіркам і з халоднай дзелавітасцю спытала:

— Мужчына, а які Вам патрэбен аб'ём чашкі бюстгалтара?

Паўлу здалося, што голас яе прагрымеў на ўвесь аддзел і прадстаўніцы супрацьлеглага пола, якія мітусіліся сярод шэрагаў з ліфчыкамі, разам павярнуліся і паглядзелі на яго, на адзінага сярод іх мужчыну.

— Я… я зараз успомню пра яе аб'ём, а-а-а, вось, чашка памеру В, — сцішаным голасам мармытаў Павел.

— Як Вы сказалі? — перапытала прадавачка.

«Глухая яна ці што?» — унутрана абурыўся Павел, пераступіў з нагі на нагу, гатовы праваліцца скрозь зямлю ад няёмкасці, якая яго апанавала.

— Я сказаў «В»… «В», — для дакладнасці паўтарыў ён два разы літару, і яму зноў здалося, што ўсе жанчыны-пакупніцы за яго спіной з'ездліва ўсміхаюцца на гэта «бэканне».

Прадавачка спрытнымі рухамі расклала перад ім на прылаўку ля касы некалькі камплектаў бялізны і сказала «Выбірайце!», чым канчаткова яго збянтэжыла. Паўлу давялося мацаць бюсцікі рукамі і вызначаць найлепшы. Калі ён нарэшце аплаціў пакупку і, старанна трымаючы паважны выгляд, пакінуў жаночы аддзел, то адчуў, што спіна ўзмокла ад хвалявання…

Зараз у курортным горадзе Батумі прыціскаючыся ў ложку да жонкі, Павел з задавальненем згадваў тыя прыгоды, санлівасць пастунова апаноўвала яго, вочы зліпаліся, і праз хвіліну ён праваліўся ў глыбокі салодкі сон…

## 3

Скрозь сон Надзя пачула занудны, доўгі металічны пранізлівы гук. Яна расплюшчыла вочы, зірнула на гадзіннік, было адзінаццаць гадзін раніцы. Гук то сціхаў, то зноў вяртаўся, віскатлівы і працяжны. Ён ляцеў з вуліцы. Павел таксама прачнуўся і, праціраючы вочы, сонным голасам спытаў:

— Што за віск?

— Зараз пагляджу,— адказала Надзя, устаючы з пасцелі.

Яна расшпіліла спартыўную сумку, пакорпалася ў шчыльна напакаваных рэчах, выцягнула тонкі бліскучы атласны халат, хутка апранула яго і, на хаду завязваючы пояс, босымі нагамі затупала па прыемнай прахалоднай драўлянай падлозе ў суседні пакой, які вакном выходзіў на вуліцу Руставелі, расчыніла дзверы на лоджыю. Праз адчыненыя дзверы гук шыбануў больш пранізліва і звонка, здавалася, ён засвідроўваецца ў вушы і галаву. Надзя пашукала вачамі, адкуль можа ісці гэты навязлівы гук.

Мужчына рэзаў дыскавай пілой бардзюр, усталяваны ўздоўж вуліцы. Свежаадрамантаваная праезная частка была выкладзена квадратнымі пласкімі каменьчыкамі, імітуючы старадаўнюю брукаванку, а па краях дарога аблямоўвалася бардзюрным камнем з прамавугольным краем-выступам. Вось гэты прамавугольны край і зразаў працаўнік, надаючы яму авальную форму, якраз «тое, што трэба» ў разгар курортнага сезона. Надзя знішчальным позіркам зверху з лоджыі глядзела на мужчыну з пілой. Менавіта тут непадалёку ён і рабіў сваю антытурыстычную справу. Яна бачыла яго нахіленую напружаную спіну, сагнутыя ў каленях ногі, абутыя ў пантофлі з абрэзанымі заднікамі, і чырвоную напечаную сонцам шыю. Шыя пакрывалася масляністымі кроплямі, якія, напоўненыя цяжкім працоўным потам, скатваліся ўніз за каўнер сарочкі. Камуфляжная шапка на галаве мужчыны мала ратавала ад гарачага сонца. Сізіфава праца.

Па шырокай вуліцы ехалі машыны, па тратуары шпацыравалі курортнікі, а працаўнік нічога і нікога не заўважаў. Пякучае джала Надзінага позірку на яго не дзейнічала. Ён працягваў раз’юшана ўгрызацца пілой у камень і рэзаў, рэзаў, рэзаў, напаўняючы віскам наваколле.

Тым часам яго сябар-зменшчык адпачываў, седзячы пад пальмай, курыў цыгарэту. Ён зрабіў глыбокую зацяжку і са смакам пусціў праз коса ўбок прыадкрытыя вусны струмень белаватага дыма, убачыўшы Надзю на лоджыі, какетліва ўсміхнуўся чароўнай незнаёмцы ў бліскучым атласным халаціку, зрабіў спробу заляцання без адрыву ад вытворчасці. Зазыўная, ліслівая белазубая ўсмешка павінна была сведчыць пра сумленнасць і шчырасць яго намераў у дачыненні да адзінокіх, пазбаўленых мужчынскага цяпла жанчын-курортніц. Надзя шчыльней захінула халат.

— Што там здарылася? — пачула яна за спіной голас мужа. — Можа, якую аварыю ліквідуюць?

— Ага, ліквідуюць. Ліквідацыя працягнецца да канца курортнага сезона. Вясёленькая справа, сам паглядзі, — Надзя пасунулася ўздоўж парэнчаў, саступаючы мужу месца.

Какетлівы зменшчык ліквідаваў абаяльную ўсмешку на твары і нацягнуў брылёк шапкі на вочы, на з’яўленне асобы мужчынскага полу побач з дамай у халаціку ён не разлічваў.

Павел, пазяхаючы, зірнуў уніз.

— Ні чорта сабе! Бардзюр пілуюць! — сон як рукой зняло. — Прыехалі. Колькі мы будзем гэтае віскатанне слухаць?

— Я думаю, пару дзён давядзецца, — сказала Надзя. — Паглядзі, з аднаго боку зрэзалі і перамяшчаюцца далей.

Яна накіравала свой позірк удалячынь, марачы пілоўшчыкаў бардзюра хутчэй туды паслаць.

— Яны па ўсёй вуліцы зразаць будуць?! — абурана ўсклікнуў Павел, нахіліўся наперад з лоджыі, ацэньва-

ючы перспектывы працы. — Няможна было адразу ўсталяваць бардзюр са скругленым краем?!

— Ты ў мяне пытаешся? — прамовіла засмучаная Надзя і падняла вочы на мужа.

Яе словы патанулі ў новай хвалі віскатання, залівістага і пераменлівага, які чаргаваўся з гучным шоргатам і скрыгатаннем. Калі віскат заціх, Надзя прадоўжыла:

— Можаш звярнуцца да мэрыі горада з прапановай, каб яны набывалі правільны бардзюр.

— А як жа, проста сёння і пайду на прыём, — адказаў Павел, выпіхваючы Надзю з лоджыі ў пакой, зачыніў за сабой шкляныя дзверы, і ў кватэры стала цішэй і прыемней. — Чорт, прыйдзецца пацярпець некалькі дзён, — падсумаваў ён.

— Збегай, калі ласка, пашукай мясцовую краму, купі булачак і чаго-небудзь да булачак, — папрасіла Надзя мужа. — Я чайнік пастаўлю, паснедаем ці ўжо паабедаем, ды трэба ісці на пляж. Дзень прападае.

У курортнікаў кожны дзень і кожная гадзіна на ўліку, бо яны хочуць паспець як мага больш прыняць сонечных і марскіх ваннаў.

Павел ахвотна скіраваўся на разведку ў бліжэйшую краму. Некалькі гадзін сну, а потым пабудка віскатам дзіскавай пілы надалі яму імпэту. У краме ён затрымаўся нядоўга і хутка вярнуўся радасна-ўзбуджаны, з пакункамі.

— Паглядзі, што я табе прынёс! — паклаў Павел на стол перад Надзяй мясцовы грузінскі самаробны сыр, бурыя мясістыя вялікія памідоры, плоскі блін лаваша і аджыку ў белым пластыкавым кубку. — Ты такое калі-небудзь бачыла?! — Павел задаволена паціраў рукі. — Там у іх да ўсяго чача самаробная ёсць… на разліў.

Пры слове «чача» Надзя закаціла вочы ўгару, а потым паглядзела на мужа стальным позіркам на забранзавелым твары.

— Можна купіць бутэлечку, — саслабелым голасам прамармытаў Павел.

— Якая табе чача? Ты яшчэ мора не бачыў!

— Дык я ж — вечарам...

— Вечарам і пагаворым!

У гарачы полудзень, калі сонца бязлітасна пякло, Надзя з Паўлам нарэшце выбраліся на мора. Дарога да пляжа пралягала праз смарагдава-зялёны цяністы парк з дзівосным спалучэннем пальмаў, а таксама дрэў хваёвых і ліставых парод. Газоны з падстрыжанай травой дыванам рассціlаліся па парку, аздобленыя разнастайнымі пярэстымі кветкавымі клумбамі. Паўзучыя ўюнчыкі з зубчатымі бліскучымі, нібы лакіраванымі, лістамі чапляліся за металічную дэкаратыўную арку над паркавай сцежкай і ліянамі апляталі яе. З высокай піхты, дробненька перабіраючы лапкамі, збегла ўніз маленькая вёрткая вавёрка. Перарывіста, перабежкамі паімчала яна па траве, раптам спынілася, прыўзняла пухнаты хвост, вушы двума пэндзлікамі натапырыліся над макаўкай галавы. Вавёрка здавалася ручной, так блізка была яна да людзей. Надзя ў замілаванні прысела побач і асцярожна працягнула да яе руку. Крутнуўшы хвастом, вавёрка ўцякла да бліжэйшага разгалістага дрэва з зялёнай лістотаю і ўвішна пабегла па ствале ўверх, туды, дзе вершаліна, здавалася, упіраецца ў блакітнае неба з празрыстымі аблокамі. Навокал чуўся людскі шматгалосы гоман, сплецены з мужчынскіх, жаночых і дзіцячых галасоў. Па паркавых сцяжынках прагульваліся курортнікі.

На ўскрайку парку бліжэй да пляжа неслі службу два вышкаленыя ўзорныя батумскія паліцэйскія. Апранутыя па форме ў чорныя доўгія штаны і чорныя фуражкі, яны пякліся на сонцы, і толькі лёгкія светлыя сарочкі з кароткімі рукавамі, адзначаныя паліцэйскай нашыўкай, давалі палёгку ад спякоты. Паліцэйскія ахоўвалі правапарадак, які ніхто не парушаў, і стараліся быць незаўважнымі, у іх паводзінах не было пыхі, самазадаволенасці, пачуцця ўлады, і гэтым яны выгадна адрозніваліся ад прадстаўнікоў беларускай міліцыі. Вось ідуць у Мінску насустрач міліцыянеры колькасцю тры штукі і як глянуць… адразу ўзнікае падазрэнне наконт неіснуючага

правапарушэння, так і хочацца сказаць: «Я нічога не здзейсніў!» А тут у Батумі паліцэйскія спакойныя і прыязныя. Апоўдні мінула частка іх дзяжурства. Сумленна адбываючы «радоўку», ад аднастайных праходак уздоўж пляжа паліцэйскія былі нібы сонныя і флегматычна крок за крокам намервалі адлегласць.

Адразу за паркам вачам адкрывалася шырокае, неабсяжнае мора. Хацелася хутчэй дайсці да яго і нырнуць у хвалі, атрымаць асалоду ад першага непаўторнага моманту вітання з цёплай марской вадой. Надзя з Паўлам ішлі па ўзбярэжжы ў шортах і майках з пляжным настроем у душы і выглядвалі сабе ўтульнае месца пад сонцам. На пляжы ўмяшчальнымі шэрагамі стаялі шэзлонгі. Роўнымі шэрагі былі толькі з раніцы, да абеду іх няўстойлівая роўнасць была ўшчэнт разнесеная. Шэзлонгі расцягнулі нястомныя курортнікі: хто зладзіў сабе пасцельку бліжэй да мора, хто паставіў яе коса, максімальна ловячы сонечныя промні, а дзесьці кампанія ссунула іх у купку ўздоўж і ўпоперак, каб быць бліжэй адзін да аднаго. То там, то тут з шэзлонга бяссільна звісала рука стомленага адпачынкам курортніка.

Галечны пляж быў усыпаны ўперамешку буйнымі і дробнымі каменчыкамі рознай формы: выцягнутымі, круглымі, авальнымі. Адшліфаваныя і прыемныя на вобмацак, яны лашчылі вока пяшчотнымі колерамі: шэрыя, рудыя, насычана-цёмныя і светла-пясочныя радавалі сваімі някідкімі прыроднымі фарбамі.

Надзя распранулася і, кінуўшы рэчы на свабодны шэзлонг, асцярожна ступаючы босымі нагамі па разагрэтым сонцам пякучым камені, пайшла да вады. Мора ў гэты дзень было неспакойнае. Яно набягала пеністымі хвалямі, шумела і білася аб бераг. Надзя, вытанчана інтэлігентная, з прамой спіной нетаропка заходзіла ў ваду, стараючыся трымаць раўнавагу. Хваля вады абдала пенай яе пяткі, праз некалькі крокаў падабралася вышэй пад калені, ахінаючы ногі, аздабляючы іх карункавай пенай. Надзя ступіла яшчэ пару няўпэўненых крокаў па камяністым дне, балансуючы выцягнутымі рукамі з растапыранымі

пальцамі, на сонцы заблішчэлі фарбаваныя перламутравыя пазногці, і тут назад вярнулася высокая хваля, узнялася пад самыя грудзі і збіла купальшчыцу з ног, а потым гулліва адбегла назад. Абапёршыся рукамі і нагамі аб марское дно, выплёўваючы з рота салёную ваду, з мокрымі зблытанымі валасамі, прыліплымі да шыі, інтэлігенцыя ў асобе Надзі паспешліва па-сабачаму адпаўзла назад да берага, выпрасталася на хісткіх нагах, слізгаючы ступнямі па каменні, і разгублена агледзела хвалістае мора.

«Ніколі не здавайся! Другая спроба!» — сказаў Надзі ўнутраны голас.

Яна крыху пастаяла, сканцэнтравалася і рашуча пайшла насустрач новай хвалі, нырнула з галавой і паплыла.

Гамарджоба, мора!

Надзя ныряла ў марскую ваду, адштурхнуўшыся нагамі ад дна, вылятала на паверхню. Хваля адбягала, але хутка вярталася, зноў накрывала яе з галавой і шумна з карункавай пенай імчала далей да берага. Густая салёная вада рабіла цела лёгкім, бязважкім, лагодна гладзіла скуру. Стоячы па пояс у вадзе, Надзя з захапленнем пляснула далонямі па зыбкай паверхні, і ў бакі разляцеліся гронкі шкляных празрыстых пырскаў. Наскакаўшыся між хваляў, яна, мокрая і ўзрушаная, вярнулася на пляж, дзе ў цені парасона чакаў муж.

— Ты выдатная плаўчыха! Бачыў я, як на карачках ля мора поўзала.

— Галоўнае ж дапаўзці, — адказала Надзя і, страсянуўшы галавой, абдала мужа марскімі кроплямі. Павел прабурчаў:

— Не трэба мяне паліваць, я сам намачуся, — і пайшоў купацца.

Надзя выцягнула з заплечніка рушнік, з патыліцы сабрала прыліплыя валасы, пільна працёрла мокрыя кончыкі. Рушнік развесіла сушыцца на спіцы пад парасонам, сама лягла на каменчыкі побач з шэзлонгам, пасля прахалоднай марской вады гарачыя яны прыемна грэлі цела. Паварочваючыся па чарзе то на жывот, то на спіну,

Надзя рабіла каменьчыкавы массаж цела і адчувала, як яе напаўняюць радасць і асалода.

Непадалёк чорнавалосыя і чарнавокія маладзёны рэзаліся ў карты, штурхаліся плячыма, заводзіліся і распаляліся. Лянiва расплюшчыўшы адно вока, Надзя назірала за баявой кампаніяй. Хлопцы гарачыліся і распачыналі лаянкі на грузінскай, а можа, на армянскай мове, тут адпачывала шмат армянскай моладзі. У свае маналогі карцёжнікі раз-пораз устаўлялі рускія выразы:

— Отвали, я сказал… Ля-ля-ля-тра-ля-ля… Да иди ты!…

— Я сейчас тебе зафигачу!…

Карты хвостка пляскаліся аб пластык шэзлонга пад пералівы задаволенага рогату.

З другога боку данеслася:

— У мяне вельмі вялікая кватэра ў Маскве, семдзесят шэсць метраў, — ганарыста гундосіла цягучым голасам рыхлая беласкурая кабета перадпенсійнага ўзросту з поўным усведамленнем таго, што наяўнасць кватэры ў Маскве аўтаматычна залічвае яе ў катэгорыю пупоў зямлі. — Мзія прыходзіць прыбірацца, дык яна лянівая, пыл як след працерці не можа. Я бяру пальцам — раз! — паказваю ёй і кажу: «Гэта што такое?» — апавядала масквічка пра грузінскую домработніцу габарытнаму целу на суседнім шэзлонзе.

«Нейкая дзіўная звычка многіх расіян вымяраць каштоўнасць асобы не талентамі і душэўнымі якасцямі, а квадратнымі метрамі жылплошчы ў Маскве», — падумала Надзя.

— Семдзесят шэсць метраў?! — прыпазніўшыся, артыстычна-наіграна здзіўляўся памерамі кватэры жаночы голас з суседняга шэзлонга, прыглушаны шыракаполым палатняным капелюшом, які ляжаў на твары, ненамнога меншым за капялюш.

— Я што яшчэ хачу сказаць, — гундослівая масквічка пераскочыла на іншую тэму. — Прадукты я купляю…

Праз слова чулася: « Я…я… Масква… Масква…»

Надзя паднялася з гарачага камення, вялікі махровы рушнік з вясёлым малюнкам пальмаў і каляровых рыбак пасцяліла на шэзлонг і прысела на ім, разглядаючы масквічку.

На целе сталічнай павы, патрапаным гадамі і булачкамі, шчыльна прыляпіўся двума лапікамі раздзельны ружовы купальнік «а-ля юная барбі», па задумцы ён павінен быў яе амаладзіць. Купальныя трусы ўпіваліся ў складкі тлушчу — з амаложваннем не складвалася, хаця і да старой клюшкі кабеце было далёка, магла і сама кватэру прыбраць, хапіла б моцы, аднак пыха патрабавала домработніцу.

Надзя прылягла на шэзлонг у цень парасона і заплюшчыла вочы, да яе вушэй зноў даляцела: «Масква… Масква…». Яна закінула пад галаву рукі і пачала ўспамінаць, Надзя ведала іншую Маскву, давялося ў ёй пабываць.

Яе студэнцкая сяброўка Света Павініч на апошнім курсе інстытута падчапіла сабе ў кавалеры расіяніна. Света была родам з невялікага беларускага гарадка, нічым не адметнага глухога кутка на поўдні Беларусі, а пасля заканчэння вучобы збіралася выходзіць замуж і ехаць жыць да мужа ў Маскву. Дзяўчаты-сакурсніцы шапталіся між сабой: «Павініч масквіча адхапіла! Паселіцца ў самой Маскве! Крута!»

Света гэту тэму далікатна абыходзіла і асабліва не харахорылася.

«Сціплая наша Светка, — думалі дзяўчаты. — Выйгрышны латарэйны білет выцягнула і не хваліцца». Святлана скончыла вучобу, ціха, без помпы з’ехала ў Маскву і знікла з поля зроку былых сакурсніц.

Праз некалькі гадоў пасля пераезду сяброўкі да мужа-масквіча Надзі выпала нагода яе пераведаць. Надзя таксама была замужам і напару з сужэнцам кіравалася ў госці да беларускіх сваякоў, якіх занесла пажыць у Расію. Транзітам ехалі праз расійскую сталіцу. У Маскве паміж цягнікамі ўтваралася фортка вольнага часу. Надзю перапаўняла жаданне ўбачыць сяброўку. Уяўленне ма-

лявала бравурную карціну шыкоўнага жыцця Святланы Павініч у горадзе вялікіх магчымасцяў і перспектыў: высокакультурны маскоўскі муж, гламур і забяспечанасць. Вельмі хацелася на гэта дзіва паглядзець. Выцягнуўшы з дамскай сумачкі нататнік, Надзя чытала мужу адрас: «Святлана Павініч, мікрараён “Сонцава”…», — зманьвала яго абавязкова крутнуцца па тым адрасе, пераведаць даўнюю сяброўку. Надзя хацела б, канечне, спачатку патэлефанаваць, але хатняга тэлефона ў маскоўскай кватэры не было, а эра мабільных тэлефонаў яшчэ не надышла, яе светлая зараніца толькі займалася. Даводзілася ехаць наўдачу. Павел паддаўся жончынаму ўзнёсламу напору і згадзіўся яе суправаджаць. Ніхто ж не думаў, што дабірацца прыйдзецца «тры дні на аленях». З вакзала трэба было ехаць электрычкай, гэта злёгку насцярожыла Паўла. Ён марыў на некалькі гадзін збегчы ад вакзальнай мітусні і цісканіны, а тут зноў — надакучлівы вакзал. Сташэўскія селі ў прыгарадны цягнік. Вірлівы напорысты натоўп з перона, штурхаючыся, расцёкся па вагонах, запоўніў іх разнастайнай заклапочанай людской плынню з валізамі. Пасажыры мітусліва рассаджваліся па вольных месцах. Некаторыя асобы зрабілі на Надзю незабыўнае ўражанне сваёй завэдзганасцю: зашмальцаваныя старыя заплечнікі, такога ж выгляду сумкі, штаны, пухірамі надзьмутыя на каленях, даўно нястрыжаныя валасы. Цёплым летнім сонечным вечарам у прыгараднай маскоўскай электрычцы двое з гэтах шарамыг прыселі на насупраць Надзі і паставілі аб’ёмістую брудную сумку проста ўшчыльную да яе ног так, што прыйшлося падціснуць ногі пад сядзенне. Клятчастая сумка шарамыгі была паходжаннем з арсеналу рынечных гандляроў-чаўнакоў. Пашытая з таннага цыратнага матэрыялу, яна парвалася па шве і разышлася вялікай прадаўгаватай дзіркай. Гаспадара клятчастай сумкі ўпрыгожвала падбітае вока, мангольскі разрэз якога аздабляў ліловы фінгал, што бліжэй да скроні перацякаў у зялёна-жоўтую пляму; над фінгалам навісалі пасмы нястрыжанай, нячэсанай

кудлатай грывы. Другі спадарожнік выглядаў ненашмат лепей, наперад ён выставіў ногі ў пантофлях са збітымі насамі. Адна пантофля зашнуроўвалася на дзве верхнія дзіркі парваным шнурком. Уласная замызганасць ніколькі пасажыраў не засмучала, пачуваліся гэтыя два суб'екты вельмі камфортна і ўпэўнена. Пашанцавала на спадарожнікаў, нічога не скажаш, — сапраўдныя шарамыгі. «Шарамыгі». Надзя чытала ў папулярным часопісе гісторыю з'яўлення на свет гэтага слова. Яно каранямі сыходзіла ў далёкае мінулае. Пасля вайны 1812 года па абсягах расейскай імперыі валачыліся салдаты разгромленай напалеонаўскай арміі, былі яны абадраныя, патрапаныя і галодныя, бадзяліся і жабравалі. Кожны раз, штосьці выпрошваючы ў сялян сабе на пажыву, пачыналі размову словамі «cher ami» (шэр амі), у перакладзе з французкай «мілы сябар». Мясцовыя сяляне для зручнасці далі ім найменне «шарамыгі». І па сённяшні дзень духоўныя нашчадкі тых «шэр амі», шарамыг, цяпер уласна расійскага паходжання, бадзяюцца на прасторах Расеі-матухны…

Калі скурчаныя ногі ў Надзі пачалі зацякаць, яна рашуча адсунула ад сябе клятчастую сумку і падпіхнула яе ўшчыльную да ног аднаго з «мілых сяброў». Ён незадаволена забурчаў, але супраціву не аказваў. Электрычка рухалася, размерана кляцаючы па рэльсах. Пад манатонны грукат колаў Надзя глядзела ў акно, за якім праплывалі прыдарожныя пейзажы. Ехалі доўга, бачылі лясы і палі, у нейкі момант Надзі здалося, што яны з мужам штосьці пераблыталі і не туды едуць. І вось, нарэшце, дабраліся — мікрараён «Сонцава».

Ад прыпынку электрычкі да патрэбнай вуліцы і дома Сташэўскія ішлі сорак хвілін пешшу, распытвалі дарогу. Кругом узвышаліся дваццаціпавярховыя аднастайныя гмахі, і ніхто з мінакоў нічога не ведаў. Нагараваўшыся, у апошнім прыступе адчаю знайшлі нарэшце патрэбны дом. На ліфце падняліся на дваццаты паверх. Стоячы ля дзвярэй кватэры, Павел сціскаў у руцэ пакрытае бліскучай фальгой горла бутэлькі шампанскага, а Над-

зя шамацела хрусткім цэлафанам каробкі з цукеркамі, з заміраннем сэрца званіла ў дзверы. Зараз яна ўбачыць Светку, і яны кінуцца адна адной на шыю. Радасныя абдымкі, пацалункі — за цяжкі шлях будзе ўзнагарода. Шчасце сустрэчы так блізка!

Дзверы расчыніліся, на парозе паўстаў Свецін муж-масквіч, на твары маладога чалавека расла густая, калматая, падкарочаная паўкругам акладзістая барада.

— Вы к кому? — холадна спытаў барадач.

Выцягваючы шыю, Надзя зазірнула яму за плечы, вачамі шукала сяброўку, але бачыла толькі сціплую небагатую мэбліроўку малагабарытнай кватэры. Свецін муж выглядаў непрэзентабельна, стаяў перад ёй у расцягнутых спартыўных штанах, ношанымі тапкамі, насунутымі на босую нагу, прыціскаў танны стары лінолеум з малюнкам пад паркетную дошку. Надзя была расчаравна, яна ж меркавала ўбачыць сапраўдны паркет, пакрыты бліскучым лакам, гэту абавязковую прыкмету заможнасці.

— Я, Надзя, сяброўка Светы Павініч, Вашай жонкі, мы разам вучыліся ў Мінску ў інстытуце, вось, завіталі з мужам на гадзінку да вас, я хацела б са Светай пабачыцца, — мілым голасам тлумачыла Надзя мэту свайго візіту.

Яна трымала, як шчыт, перад сабой ладную каробку цукерак, размаляваную чырвонымі ружамі ў кропельках расы. Яе твар выпраменьваў радасць і цёплую ўсмешку, аднак усмешка паступова замарожвалася холадам, які веяла ад позірка барадача, і праз хвіліну канчаткова знікла з Надзіных вуснаў, а каробка з цукеркамі аб’ехала долу ў апушчаных руках.

— Светы няма дома, а я збіраюся зараз ехаць на дачу, — манатонна, нібы робат, прамовіў Свецін муж і размашыста зачыніў дзверы, яны бразнулі перад самым Надзіным носам, пахаваўшы за сабой барадаты вобраз.

У цёмны тамбур з лесвічнай пляцоўкі падалі блікі вячаровага святла. У Надзі было прыкра на душы, бо дарма губляла час, дабіраючыся ў гэты далёкі раён, з сяброўкай яна так і не спаткалася.

— На дачу сярод тыдня, у сераду… На ноч гледзячы… — пачуўся ў вязкай цішы скептычны голас Паўла, які не паверыў словам барадатага і з яхідцай падначыў: — Да чаго ж масквічы прыроду любяць!

Павел прыўзняў ў руцэ шампанскае з чорна-жоўтай этыкеткай «Советское полусладкое», пакруціў яго і, падкінуўшы бутэльку, спрытным рухам наляту падхапіў за бліскучае горла. У гэты летні цёплы вечар шампанскаму не лёсіла стрэліць коркам.

Сташэўскія цягнуліся назад да электрычкі па мікрараёне «Сонцава». Сонечнага ў ім было хіба што толькі назва. Надзя разадрала цэлафан на каробцы з цукеркамі, шкрабануўшы пазногцямі па ружах у кропельках расы, выцягнула з-пад папяровай накрыўкі карычневую шакаладную цукерку і закінула сабе ў рот.

— Та-а-а-к. А я думала, Света ў латарэю выйграла… Вось табе і Масква, багаццем у Свецінай сям'і і не пахне, — жуючы цукерку і ад таго картавячы, вымавіла Надзя. — Сталічны шык і гламур, я так разумею, гэта ў асноўным па тэлевізары. — Абцёршы тыльным бокам вялікага пальца вугалкі рота ад шакалада, яна дадала: — Для наіўных юных ледзі.

Надзіна сяброўка Света з мужам-масквічом у хуткім часе разышлася. Здарылася гэта пасля таго, як любы муж завёў сабе каханку, а жонцы наставіў рогі, маленькія такія рожкі, але моцныя. Света не стала чакаць, пакуль яны шчыраваннямі суджанага разрастуцца ў рагатае галінастае дрэва і зладзіла маскоўскаму шлюбу скасаванне, не мела сэнсу працягваць адносіны, у якіх не было будучыні. Усё, што ёй засталося ад таго «зайздроснага» шлюбу, гэта любімы сын Уладзіслаў, выхаванне якога муж-масквіч поўнасцю даверыў былой жонцы Святлане…

Надзя расплюшчыла вочы і зноў убачыла масквічку ў ружовым купальніку. Вычарпаўшы красамоўства, кабета ўгаманілася і, начапіўшы на нос сонечныя акуляры, лавіла беласкурым целам гарачыя промні. Навокал была звыклая пляжная карціна: целы грамадзян роз-

ных краін добрасумленна і ціха адпачывалі, лежачы на шэзлонгах.

— Хачапуры, хачапуры! — па пляжы ішла жанчына, трымаючы ў руцэ пластмасавае вядзерца, накрытае зверху сурвэткай. Жанчына прадавала загадкавыя для Надзі хачапуры. Яна пакрочыла далей, а Надзя выцягнулася ў прыемнай асалодзе на шэзлонзе, крыху паварочалася, спрабуючы зручней уладкавацца на жорсткай пластмасе.

— Гервек, гервек! — пачуўся голас, на гэты раз над самай галавой.

Надзя расплюшчыла вочы. На яе з-пад хусткі, нізка насунутай на лоб, глядзела пажылая грузінка, расхінуўшы пакет, прапаноўвала купіць круглы вялікі піражок-абаранак, пасыпаны дробнымі зярнятамі. Называўся ён гервек.

— Не, дзякуй, не трэба, — адмовілася Надзя.

Жанчыну з гервекамі паклікалі хлопцы-карцёжнікі і, накупляўшы ў яе здобы, са смакам пачалі адкусваць мяккія кавалкі. Працуючы сківіцамі і няўцямна мыкаючы, з набітымі ратамі, хлопцы працягвалі непрымірымую барацьбу паміж шасцёркамі і тузамі. Карты з новай сілай заплляскалі па пластмасе.

— Цхелі сіміндзі!...

«А гэта што такое?» — Надзя прыўзнялася на локцях. Цяпер перад ёй з'явіліся дзве маладыя дзяўчыны, якія трымалі ў руках цяжкія сумкі, апрануты яны былі ў аднолькавыя памаранчавыя трыкатажныя майкі з кароткімі рукавамі і шапкі-бейсболкі. Дзяўчаты, напэўна, студэнткі, падпрацоўвалі на канікулах, гандлюючы на пляжы. Рукі і ногі студэнтак пакрываў бронзавы загар, а твары былі заклапочаныя: працаваць трэба, не да летуценнасці. Іх паклікала мама з двума дзецьмі. Адна з дзяўчат раскрыла сумку, і Надзя ўбачыла, што там знаходзіцца, зразумела значэнне грузінскіх слоў «цхелі сіміндзі».

— Гэта ж вараная кукуруза, — прамовіла яна, а пра сябе адзначыла: «Так, у гэтым горадзе і на гэтым пляжы

з голаду памерці не дадуць. Тут іншая праблема, каб не растаўсцець».

Дзяўчына абсыпала дзве кукурузіны соллю, паклала ў празрыстыя цэлафанавыя пакеты і падала дзецям. Малеча адразу пачала грызці жоўтыя качарыжкі.

Па пляжы адзін за адным ішлі прадаўцы ўсяго-ўсякага: гандлявалі марожаным, яблыкамі, арэхамі, кавай, колай, — усім, што пажадаеш, з дастаўкай да цела.

Павел вярнуўся, накупаўшыся ўдосталь, і мокрым бервяном паваліўся на шэзлонг побач з Надзяй.

— Павел, тут такі гандаль!.. Пакуль цябе не было, прадавалі кукурузу, гервекі — гэта баранкі такія, з пасыпкай, яшчэ нешта, я забылася, як называецца, і марожанае! Паша, купі мне марожанае, — капрызліва запатрабавала Надзя.

Павел паглядзеў на дзяцей, якія грызлі кукурузныя пачаткі.

— Можа, кукурузы пагрызеш, карысней для здароўя.

— Хачу і таго, і другога! Купі мне кукурузы і марожанага, — патрабавала Надзя.

Марожаншчык не прымусіў сябе чакаць. Надзя выбрала ўпадабаную порцыю ў вафельным кубачку. Выцягнуўшы грошы з кішэні жончыных шортаў, Павел разлічыўся за набытак, аплату з агульнага сямейнага кашалька правёў муж, каб не парушаць прынцып «за ўсё плацяць джэнтэльмены». Марожанае прыемна халадзіла гарачую далонь, Надзя падняла спінку шэзлонга, абаперлася аб яе плячыма, закінула нагу за нагу, паправіла сонечныя акуляры, якія аздаблялі нос, і пачала ўмінаць марожанае за абедзве шчакі. Можна было падумаць, што яна яго раней ніколі ў жыцці не ела.

— Паша, сачы за кукурузай, як пачуеш слова «сіміндзі» — наш чалавек прыйшоў, гандлюе кукурузай.

Праз якіх хвілін дзесяць Надзя ўжо грызла кукурузны пачатак.

— Можа, яшчэ гэрвек ці хачапуры? — спытаў у яе Павел.

— Не, гэта заўтра, трэба расцягваць задавальнене!

Вечарам таго ж дня, поўнасцю задаволіўшы жонку пляжным адпачынкам, пачаставаўшы яе марожаным і варанай кукурузай, можна сказаць, ні ў чым ёй не адмовіўшы, Павел крутнуўся ў краму за чачай. Паход быў удалы. Дадому ён вяртаўся з самаробным моцнаградусным напоем. У пакеце ў паўлітровай бутэльцы з-пад газіраванай вады пад пластмасавым коркам булькала чача. Павел няспешна, з пачуццём выкананай справы ішоў па вуліцы Руставелі ў чырвоных шортах і чырвонай майцы, твар яго таксама быў пачырванелы ад промняў паўднёвага сонца. Жыццё ўдалося. Звычайна стрыманага, гаспадарлівага, памяркоўнага Паўла на адпачынку часам заносіла то за чачай, то на дыскатэку, то яшчэ куды-небудзь. Гэта паўднёвае няправільнае паветра распусна дзейнічала на чалавека.

Насустрач Паўлу з мілай усмешкай на вуснах ішла прывабная юная дзяўчына. Павел адчуў сябе о-го-го! Раз юныя дзяўчаты яму так шчыра усміхаюцца.

— Турка? — спытала дзяўчына ўсё з той жа усмешкай.

— Не, я не турка. У сэнсе, не турак, — збянтэжана адказаў Павел.

Спрабуючы адшукаць прыкметы турэцкага мужчыны, ён абвёў сябе позіркам, агледзеў чырвоную майку, валасатыя роўныя балетныя ногі, якія дзвюма жылістымі жэрдкамі тырчалі з шырокіх калашын шортаў, паторгаў пальцамі босых ног, усунутых у гумавыя сінія каляныя шлёпанцы.

— Не турка, — расчаравана сказала дзяўчына. Усмешка сышла з яе вуснаў. — Гаворыш па-руску, — дадала яна, разважаючы, па твары лунаў цень думкі, дзяўчына злёгку выставіла наперад ніжнюю губу, прыкідваючы, што з гэтым кадрам рабіць далей. — Не турка, — паўтарыла яна яшчэ раз. — Добра, тады з табой будзе размаўляць мая сяброўка, — яна ледзь заўважным рухам махнула рукой сяброўцы, а сама адышла ўбок, закінула ў рот жуйку і пачала жаваць.

Нетаропка, з лёгкай развалістасцю ў хадзе падышла сяброўка, гэткая ж юная чараўніца, модна і нябедна апранутая, з лагоднай усмешкай, як і ў яе папярэдніцы, і нахабнаватым позіркам у дадатак.

— Мы просім прабачэння, — пачала яна. Усмешка паволі змянілася на заклапочанасць і смутак, што, верагодна, павінна было выклікаць спачуванне. — У нас здарылася непрыемнасць. Мы прыехалі з Тбілісі адпачываць на мора з сяброўкай і ў нас скончыліся грошы. Вы не маглі б нам дапамагчы?

Сяброўка, спецыялістка па турках стаяла воддаль, ацэньваючы, аглядала Паўлаву персону, пульхнымі ружовымі вуснамі яна надзімала з жуйкі пузыры, якія лопаліся шчаўчкамі ў паветры.

— Не, дзяўчаты, грошай няма, — адрэзаў мужчына нетурэцкай нацыянальнасці ў чырвоных шортах з валасатымі нагамі і прадуктовым пакетам, які ён не ведаў, куды дзець, бо ўяўляў, як ён з ім выглядае ў вачах-рэнтгенах маладухі с жуйкай.

Дзяўчына, што прасіла матэрыяльнай падтрымкі, моўчкі развярнулася на сто восемдзесят градусаў і, нічога больш не сказаўшы, пакінула Паўла ў адзіноце. Няма грошай — няма пра што і гаварыць. Сяброўка пайшла з ёй побач, нешта нашэптваючы на вуха. Павел глядзеў на іх маладыя точаныя сакавітыя часткі цела і задаваўся пытаннем: ці правільна ён жыве? Мужчынскае шчасце ходзіць так блізка ў кароткіх спадніцах і маладых гадах. Эх!.. У галаве неспадзявана ўсплыў вобраз суджанай, вочы жонкі засвідраваліся ў сярэдзіну і разабралі па костачках. «Якія табе дзевачкі?!» — сказаў вобраз металічным голасам і знік.

Павел зазірнуў у пакет, упэўніўся, што чача на месцы, быццам нехта мог яе скрасці, зноў кінуў позірк на юных асоб аблегчаных паводзінаў з прывабнымі пакатымі плечыкамі, у летніх кофтах на брэтэльках.

— Эх! Дзе мае сямнаццаць год. Халасцяцкіх. Я б ім матэрыяльна дапамог і не толькі!.. — уздыхнуў ён і пашыбаваў да жонкі адзначаць прыезд…

## 4

На наступны дзень з раніцы Надзя на мора збіралася адна. Павел быў няздольны яе суправаджаць, узяў адгул, катэгарычна адмаўляўся ўставаць з ложка, стагнаў і кляўся, што з чачай завязвае і пераходзіць на «Кіндзмараулі» і «Хванчкару».

Надзя суцешыла мужа словамі:

— Так табе і трэба. Будзеш ведаць іншым разам!

Яна закінула крэм для загара, рушнік, сонечныя акуляры і яшчэ нейкія дробязі ў заплечнік і без ценю спачування пайшла да дзвярэй.

Павел праводзіў яе стогнамі:

— Як мне цяжка. Мая бедная галава. Мяне ніхто не любіць!

Далоні рук ён карцінна прыціскаў да лба гаротніка, падымаючы ўскудлачаную чупрыну.

Жонка сышла, пакінуўшы бедака стагнаць у адзіноце. Да абеда Павел круціўся ў ложку, збіваючы прасціну, камячыў рукамі падушку, якая неспадзявана зрабілася нязручнай і цвёрдай, часам ён засыпаў, але хутка прачынаўся. Сушыла ў роце. Нутро апанавала беларуская хвароба смага. Павел уставаў, ачмурэла плёўся на кухню папіць вады і зноў вяртаўся да ложка. Бліжэй да паўдня яму крыху палягчэла, ён нават узяў у рукі газету «Тбилисская неделя» і, лежачы на спіне пачаў, чытаць. Спачатку пагартаў яе старонка за старонкай, выбіраючы цікавы артыкул, разглядаў розныя публікацыі: эканоміка, новыя пастаноўкі грузінскага балета, спорт… і крымінал. Крымінальная хроніка аказался самай захапляльнай.

«Разгуляліся ў Італіі», — паведамляў загаловак.

«У Італіі паліцыя арыштавала двух грамадзян Грузіі. Тамаз Німсадзэ і Гурам Шацірышвілі былі схоплены ў час рабаўніцтва фермерскага дома. Рабаўнікі аказалі супраціўленне паліцэйскім. У прыватнасці, Тамазу Німсадзэ ўдалося выхапіць зброю з рук аднаго з паліцэйскіх і стрэ-

ліць у яго накірунку. Затрымаць рабаўнікоў удалося толькі пасля прыбыцця падмацавання. Аднак дваім удзельнікам банды ўдалося ўцячы».

— Ну што ж, пранікненне ў агульнаеўрапейскі дом ідзе поўным ходам, — услых адзначыў Павел. — Мала бабульцы Еўропе афрыканцаў на Лампедузе…

Праз востраў Лампедуза пралягаў шлях жыхароў Афрыкі, якія ў вялікай колькасці імкнуліся ў сытую забяспечаную Еўропу на чоўнах па моры. А ім насустрач рухаліся «таварышы» з усходу, з былога СССР. За кавалкам еўрапейскага шчасця яны прабіраліся па сушы. Павел паправіў пад галавой пляскатую падушку, пашастаў вачамі далей па газетных радках, прачытаў новы загаловак. Гаворка ў артыкуле вялася пра разборкі з расійскай мафіяй.

«Махо падазраюць у забойстве Япончыка».

«У расследаванні справы пра забойства Вячаслава Іванькова з’явіўся новы паварот.

Спыненая пасля смерці Іванькова, якога ў крымінальных колах ведалі пад мянушкай Япончык, крымінальная справа можа быць аднаўлена: у Маскву з Цюменскай калоніі дастаўлены адзін з заклятых ворагаў Япончыка — грузінскі аўтарытэт па мянушцы Махо (злодзей у законе Ілля Сімонія). Ілля Сімонія трапіў у кола падазраваных у пакушэнні на Іванькова ў першыя дні пасля забойства кілерам Япончыка каля рэстарана “Тайскі слон”»…

Паўла заінтрыгавала назва рэстарана «Тайскі слон», рамантычна так гучыць, з азіяцкім каларытам.

Хутка адолеўшы крымінальную хроніку, Павел пераскочыў на слупок друкаваных радкоў раздзела «Чуткі». Галаўны боль растварыўся пад напорам інфармацыі.

«Астролаг лічыць 1 кастрычніка няўдалым днём для выбараў», — прачыталі Паўлавы вочы буйныя літары загалоўка і апусціліся на дробны шэры шрыфт тэкста, дзе было напісана: «1 кастрычніка — няўдалы дзень для правядзення выбараў, упэўнены вядомы грузінскі астролаг Міхаіл Цагарэлі. “У асноўным кастрычнік параўналь-

на спакойны месяц, аднак менш спрыяльны перыяд — з 1 да 15. У гэты час месяц аказвае вызначальны ўплыў на людзей, абуджае эмоцыі, падсвядомасць, паколькі ён праходзіць па самым агрэсіўным знаку — Авену", — сказаў Цагарэлі. Ён паведаміў, што для правядзення выбараў самы лепшы час з 10 да 15 кастрычніка. "Калі б у прэзідэнта быў такі дарадчык, які б хоць трохі разбіраўся ў астралогіі, то парламенцкія выбары не былі б прызначаны на 1 кастрычніка, паколькі 1 кастрычніка — сярэдненейтральны дзень для прэзідэнта", — сказаў Цігарэлі».

— Сярэдненейтральны дзень для прэзідэнта… Што за каламуць? — задаваўся пытаннем Павел і круціў галавой у задуменні, перачытваючы апошні радок астралагічнага артыкула.

У гэты час Надзя вярнулася з пляжа. Пачуўшы, што жонка адчыняе дзверы, Павел хутка схаваў газету пад падушку і, як толькі любая зайшла ў пакой, пачаў злёгку стагнаць.

— Ну, як ты тут? — жонка заклапочана прысела побач, ад яе веяла вулічнай гарачынёй.

— Дрэнна мне, — адказваў Павел, лежачы ў ложку ў позе паміраючага лебедзя.

— Трымайся, зараз я табе супчыку звару, — спачувальна сказала Надзя. — Як твая галава? — прыклала яна цёплую далонь да яго лба.

— Баліць, — адказаў Павел, крыху перастараўся з жаласлівасцю і слова выйшла нейкае піскляваe.

Падштурхнутая спачуваннем, Надзя прыціснулася да шчакі мужа. Шурпатая. Адрослая шчаціна шчоткай-наждачкай аздабляла мужчынскі твар, з учарашняга дня няголены. Чамусьці ў мужа пасля перапою павышалася шчаціністасць. Надзя пацёрлася аб шурпатую шчаку, дала буську пакутніку, нюхнуўшы рэштказ учарашняй чачы. Жаласлівасці рэзка паменела.

— Нічога, да вечара ўсё пройдзе, — падбадзёрыла яна мужа, адмахваючы далонню паветра з алкагольным амбрэ. — Я табе зараз супчыку звару.

Надзя клапатліва паправіла пад мужавай галавой падушку, уздыхнула і пайшла на кухню. Забразгаў рондаль. З крана ў яго паліўся шумны, напорысты струмень вады. Павел пачуў, як чырканула запалка. У хуткім часе з кухні данёсся духмяны пах курынага булёну. Паўлу нясцерпна захацелася есці. Але ён ужо ўвайшоў у ролю пакутніка і, калі жонка паклікала пакаштаваць булёнчыку, адказаў слабым голасам:

— Не, не хачу. Няма апетыту, — і праглынуў сліну.

— Глядзі сам. Як палягчэе — паясі. Рондаль з булёнам — на пліце.

Надзя гадзіны дзве круцілася па кватэры, мыла ў ванным пакоі бялізну, прыбірала на кухні, падыходзіла да мужа пацікавіцца самаадчуваннем, расказвала пра ўбачанае ў горадзе і на пляжы. У гэты час Павел засяроджана думаў пра рондальчык з булёнам.

Пасля абеду Надзя выправілася на пляж. Як толькі за жонкай зачыніліся дзверы, Павел бадзёра падхапіўся з ложка, збольшага расправіў ушчэнт скамечаную прасціну і стрымгалоў панёсся на кухню. Падагрэўшы курыны булён, ён пачаў яго есці проста з рондаля, са смакам уцягваў прыемную пахучую страву ў агаладалы арганізм. Гарачы булёнчык надаваў моцы, Павел папраўляўся на вачах. Падсілкаваўшыся, ён адчуў сябе нашмат лепш, але на пляж услед за жонкай не збіраўся. У кватэры было ўтульней, асабліва на кухні, якая ўяўляла сабою ладны прадаўгаваты пакой і злучалася праёмам ва ўсю сцяну ў агульную прастору з шырокай тэрасай. На тэрасе стаяў абедзенны стол, пакрыты квяцістай цыратай. За ім і прыладзіўся з булёнам у абдымку Павел. Пры сцяне на тумбачцы з абламанай ручкай чорным прамавугольнікам паўстаў сучасны тэлевізар з плоскім экранам, насупраць яго размясціліся крэсла і канапа. Зашклёнае па ўсёй даўжыні тэрасы акно прыкрывалі кароткія, да падваконня белыя карункавыя фіранкі са шчыльным набіўным малюнкам. Праз расчыненую створку, прыўзнімаючы фіранку, скразняк прыносіў лагодныя павевы

ветру.Ісці на пляж і пячыся на сонцы не было ў Паўла ніякага жадання.

«Грузія па тэлевізары», — вызначыў ён на сёння праграму адпачынку і шчоўкнуў пультам.

Ішла перадача на рускай мове пра эканамічнае развіццё Грузіі. Павел удумліва ўглядзеўся ў экран тэлевізара, спасцігаючы эканоміку. Маладыя людзі, па спецыяльнасці эканамісты, з сур'ёзнымі тварамі сядзелі паабапал стала, а з імі побач, ачольваючы канферэнцыю, сталы калега. На сцяне перад вачамі эканамістаў віселі графікі, якія вызначалі розныя схемы развіцця Грузіі. Сталы мужчына, лёгкі ў сваёй вопытнасці мастацкага малявання графікаў, тлумачыў зялёнай моладзі, што Грузія будзе развівацца па маланкавым графіку, які стралой няўрымсліва нёсся ў вышыню. Ён паслядоўна даводзіў, жангліруючы лічбамі паказчыкаў, што маленькая гордая краіна гор праз пяць гадоў дасягне эканамічнага ўзроўню развіцця еўрапейскіх дзяржаў.

— Нішто сабе — тэмпы! — прысвіснуў Павел.

Яго крыху здзівіла круцізна графіка. Ён задумаўся, паразважаў і ўхвальна дадаў:

— Малайцы! Не бяды ў іх графічныя паказчыкі атрымліваюцца! Шкада толькі, што мяне не запрасілі на тое пасяджэнне. Я б ім такі файны графік намаляваў! Па ім Грузія ўжо б праз тры гады ўвайшла ў дзясятку міравых эканамічных лідараў.

Павел паходзіў з краіны, дзе графікі эканамічнага росту былі ў вялікай пашане. У сваім жыцці на радзіме ў Беларусі ён бачыў незлічоную колькасць задзірыстых баявых чарцяжоў: графік росту валавага прадукта, графік росту заробкаў грамадзян, графік росту пакупніцкай здольнасці і яшчэ безліч іншых графікаў, якія маланкай імкнуліся ў вышыню. Адна толькі прыкрая акалічнасць: тыя графікі эканамічнага шчасця існавалі самі па сабе, а людзі — самі па сабе, і ў рэальным жыцці ніколі не перасякаліся.

Паўла перадача натхніла. Ён быў гатовы дапамагчы ўдзельнікам пасяджэння і зрабіць грузінскім эканамістам любы графік на замову.

Другую палову дня Павел прабавіў на кухні ля тэлевізара, на пляж ён так і не паказаўся…

Вечарам на кватэру прымчалася Ніно, як заўсёды, шумная і парывістая. Яны завітала паведаміць пра свой ад'езд у горнае сяло да маці і пацікавіцца, як пачуваюцца кватаранты, можа, у чым ёсць патрэба.

Надзя выплыла павай з ваннага пакоя ў халаце з высокай, скручанай з махровага рушніка чалмой на мокрай галаве. Павел запэўніваў гаспадыню кватэры, што пачуваюцца яны добра і ўсё ўпарадку. Жылося насамрэч бесклапотна: ложак не запраўляўся, рэчы раскінуліся на спінках крэслаў, на канапе, на тумбачцы, капялюш заляцеў на паліраваны буфет. Надзя скарысталася момантам для пашырэння кругагаляду і распытала ў Ніно пра помнік на плошчы: скульптурны мужчына атлетычнага целаскладу з трызубцам у руках замацаваўся на высокім пастаменце і пераліваўся жоўтым адлівам на сонцы.

— Ніно, а скажыце, калі ласка, каму пастаўлены помнік, пазалочаны, з фантанамі?

— Гэты, што на плошчы? — пашырыла і без таго вялікія вочы Ніно.

— Так, на плошчы, — пацвердзіла Надзя.

Ніно прызадумалася.

— Мужчына там, пазалочаны, — узгадала яна, абдумваючы адказ.

— Можа, Нептун? — падказала здагадку Надзя.

— Можа, і Нептун, — раздумвала Ніно.

— У яго яшчэ трызубец у руцэ ёсць, — успомніла Надзя асаблівыя прыкметы.

— Трызубец ёсць? Праўда?! — здзівілася Ніно, для яе пачутыя звесткі былі адкрыцём. — Помнік усяго два гады таму паставілі, я яго толкам не паспела разгледзець, — патлумачыла Ніно сваю недасведчанасць. —

Трызубец ёсць, — задуменна паўтарыла яна і згодна кіўнула. — Напэўна тады — Нептун!

Надзя ўспомніла адну характэрную дэталь помніка: непрыкрыты мужчынскі гонар, вылеплены з анатамічнымі падрабязнасцямі ва ўсёй прыгажосці, аднак наўрад ці гэта дэталь падыходзіла дзеля апазнання бога мора Нептуна, Надзя рэзонна падумала, што ў гэтым сэнсе прыкметы мужчынскай паловы чалавецтва супадаюць і на сушы, і на моры. Трызубец для апазнання падыходзіў лепш.

— І я схіляюся да таго, што гэта Нептун, — падтакнула Надзя.

Агульнымі намаганнямі невядомая асоба ў скульптурнай кампазіцыі была вызначана. Жанчыны прыйшлі да паразумення і пастанавілі, што пазалочаны аголены мужчына на пастаменце ніхто іншы, як Нептун — уладар мора. Хто ж будзе з імі спрачацца?

Вечарам таго ж дня Ніно з'ехала з Батумі ў горнае сяло, пакінуўшы турыстаў самастойна займацца гаспадаркай…

**5**

Курортнае жыццё ішло як па масле. Прамінуў чарговы дзень адпачынку, за ім наступны. У абедзенны час турысты вярнуліся з пляжа і гатавалі перакус на ўтульнай кухні. На стале, засланым квяцістай цыратай, стаяла талерка з памытымі мокрымі агуркамі ў шурпатай цёмна-зялёнай пупырчатай скурцы. Воддаль ляжалі два вялікія чырвоныя памідоры і кавалак закручанай у паперу вяндліны.

Рондаль з бульбай кіпеў на пліце. Надзя паднесла відэлец і тыркнула чатырма зубцамі ў бульбіну.

— Цвердаватая яшчэ, не зварылася, трэба пачакаць, — сказала яна мужу.

Павел хрумкаў пупырчаты гурок, вольнай рукой церабіў рыску выпадковага парэза ад нажа на цыраце і з галод-

ным бляскам у вачах нецярпліва чакаў гарачай бульбы. Надзя падкруціла канфорку, павялічваючы агонь, але ён не разгараўся, слабы млявы агеньчык пару разоў пыхнуў пад чорнай з нагарам накрыўкай і знік зусім.

— Газ скончыўся, — са скрухай вымавіла яна і нервова чыркнула запалкай.

Запалкі хутка ўспыхвалі, адна за адной падносіліся да канфоркі, усё было марна — газ не падпальваўся.

— А Ніно з'ехала да мамы ў горнае сяло, — задуменна прамовіла Надзя і кінула на стол непатрэбны карабок з запалкамі.

Падышоў Павел і энергічна патрос у руках невялікі пашарпаны газавы балон. Безвынікова.

— Што рабіць будзем? — задаваў ён пытанне.

Мужчынская логіка нічога яму больш не падказвала, акрамя як круціць і трэсці балон без газу, закручваць і адкручваць газавы кран і ўключаць канфорку.

— Трэба падумаць, — заклапочана адказала Надзя.

— Што тут думаць? Газу няма!

— Правільна, думаць не трэба, трэба трэсці, — упікнула яна мужа, крытычна назіраючы за яго патугамі здабыць агонь. — Пастаў балон на месца. Знайшоўся мне Праметэй.

Павел паставіў балончык, але рукі часаліся патрэсці яго зноў. Стрымаўся.

— Ладна, не пераймайся, звару я табе бульбу. Сядзі ў кватэры.

З гэтымі словамі Надзя ўхапіла кухонным ільняным рушнікам за гарачыя ручкі рондаль і, трымаючы яго перад сабой, выйшла з кватэры.

Павел узяўся за недаедзены агурок і са смакам грызянуў яго. Уключыў тэлевізар.

«Натали! Утоли мои печали, Натали. Натали!...» — лілася песня з экрана. Цяпер Павел быў не адзін, а ў кампаніі з вядомым спеваком Лепсам, які заляцеў на кухню з тэлеэфіру ў вобразе імпазантнага мужчыны ў пінжаку і белай сарочцы. Лепс — сцэнічны псеўданім, а сапраўднае

грузінскае прозвішча артыста Лепсверыдзэ. У такой кампаніі чакаць абеда было лягчэй. «Я вернулся, что б сказаць тебе: “Прости-и-и!” Натали!..» — пранікнёна падхапіў Павел, дапамагаючы Лепсу, і яны заспявалі дуэтам.

Хрыпатым голасам грузін Лепс спяваў вечна жывы расійскі шансон разам з беларускім турыстам. Павел разваліўся ў крэсле з рэшткамі зялёнага агурка ў руцэ, выцягваючы вусны ўперад і ў смутку зводзячы бровы домікам, старанна цягнуў ён словы песні: «Брал от жизни всё, что мог, и не секрет — я не свят, я виноват перед тобой… Натали…» Словы песні глыбока кранaлі мужчынскую душу і выкрывалі мужчынскую мару: каб валачыцца немаведама дзе і немаведама з кім, а цябе каб заўсёды дома чакала твая «Наталі» і каб, нацягаўшыся па завуголлях, прыйсці да яе і прытуліцца: «Я пришёл из позабытых снов, как приходят в свою гавань карабли… О, Натали! Утоли мои печали, утоли».

Канцэрт грымеў на ўсю кватэру. Павел адзін за адным падхопліваў з талеркі агуркі, сквапна працавалі яго сківіцы. Неўзабаве з чарговым акордам рука намацала на паверхні талеркі пустэльню. Калі ўсе агуркі Паўлам былі паспяхова з’едзены, Надзя, шчаслівая, вярнулася з рондалем назад.

— Пазнаёмілася з суседкай. Цудоўная жанчына! — з парога дакладала яна мужу. — Завуць Этэры. Я ў яе на пліце даварыла бульбу. Я табе больш скажу, яна нам заўтра заправіць газам балон. Грузінскія суседзі не кінуць нас у бядзе! — радасна прыгаворвала Надзя, рассыпаючы гарачую бульбу па талерках.

— Дзе агуркі? — строга спытала яна мужа, заўважыўшы знікненне зялёнага прадукта.

Павел ніякавата пацiснуў плячамі, заміргаў вейкамі і паведаміў:

— Памідоры засталіся… Гэта Лепс вінаваты. Ён так спяваў!.. Я не заўважыў, як агуркі скончыліся.

Надзя нарэзала скрылькамі буйныя мясістыя памідоры і вяндліну, падсунула талерку бліжэй да мужа, а побач з талеркай паклала відэлец і сурвэтку.

— Можа, за чачай збегаеш? — прыпомніла яму ўчарашнія «подзвігі».

— Не, — цвёрда адказаў Павел.

На вечар пасля пляжа была акрэслена культурная праграма. Пачыналася яна з наведвання кафэ, дэгустацыі віна і паядання грузінскай нацыянальнай стравы пад назвай «хачапуры». Кафэ «Лагуна» славілася сваімі хачапуры. Пра гэта Надзі распавяла суседка Этэры і параіла туды схадзіць.

«Лагуна» размяшчалася ў паўпадвальчыку, гэта было невялікае з прадуманым інтэр'ерам кафэ, выкладзеныя камнем сцены надавалі яму асаблівую атмасферу старадаўнасці і ўтульнасці. Столікі стаялі з двух бакоў ад уваходу. У цэнтры, насупраць дзвярэй свяцілася рознымі гатункамі віна і каньякоў барная стойка. Сташэўскія завярнулі ў правае крыло да свабоднага століка ў куце ля сцяны. Надзя прысела так, каб са свайго месца бачыць залу. Павел спачатку размясціўся насупраць Надзі, спіной да ўвахода, але пасля перабраўся да жонкі, і яны пачалі разам вывучаць меню. Амаль усе столікі былі занятыя, наведвальнікі кафэ перагаворваліся між сабой прыцішанымі галасамі, іх галасы перамешваліся, зліваліся ў агульны гул-мармытанне, нагадваючы вулей. Афіцыянтка падыходзіла да суседніх столікаў, падносіла стравы, размаўляла з наведвальнікамі. Павел з Надзяй замарынаваліся ў куце, яе чакаючы, пералісталі меню з пачатку ў канец і з канца ў пачатак. Надакучыла. Павел зрабіў прызыўны знак рукой афіцыянтцы і спытаў у жонкі:

— Як гэта паклікаць па-нямецку?

— Kom zu mir, — прасвятліла мужа Надзя.

— Вось-вось, трэба ўжо «ком цу мір» рабіць.

Афіцыянтка адказала яму вачамі: «Пачакаеш, зараз прыйду». Разабраўшыся з гасцямі за суседнім столікам, там вячэрала ладная, шумная кампанія, афіцыянтка атрымала ад іх аплату па рахунку, прыбрала посуд і нетаропкай хадой падышла да Паўла з Надзяй. Гэта была

сярэдняга росту, з сур’ёзным тварам, стрыманая ў паводзінах жыхарка Батумі.

— Што будзем замаўляць, — трымаючы перад сабой у адной руцэ блакнот для запісаў, а ў другой — кароткі, спісаны аловак, раўнадушна спытала яна і ўтаропілася ў нататнік, гатовая запісваць.

— А чаму Вы з намі не размаўляеце па-грузінску? — спытала Надзя. — Мы ж грузіны.

Афіцыянтка здзіўлена падняла вочы, вугалкі яе вуснаў расцягнуліся недаверлівай ўсмешкай:

— Не, вы — не грузіны.

— І адкуль Вы ведаеце, што мы не грузіны? — працягнуў допыт Павел.

— Дык відаць жа, — адкрыта і шчыра адказала афіцыянтка і апусціла блакнот з алоўкам.

— Значыць, не грузіны? Тады скажыце, хто мы і адкуль?

— Малдавія? — з сумневам, нібы пытаючыся саму сябе, прамовіла афіцыянтка і пакруціла аловак пальцамі.

— Зноў Малдавія, — уздыхнула Надзя. — Што за краіна такая — Малдавія? Усюды — адна Малдавія.

Афіцыянтка зразумела, што не патрапіла, і запыталася асцярожна:

— Украіна?

— Ужо прагрэс, — ухвальна падбадзёрыў афіцыянтку Павел. — Добра, не будзем Вас мучыць пытаннямі. Мы — з Беларусі. Давайце лепш пяройдзем да грузінскіх страў. Мы б хацелі замовіць хачапуры… вось гэта.

Павел паказаў пальцам на запіс у меню.

Афіцыянтка, пачытала, кіўнула галавой і перапісала сабе ў блакнот.

— З яйкам ці без? — удакладніла яна ў Паўла.

— У сэнсе? — не зразумеў Павел.

— Зверху на гарачае хачапуры разбіваецца сырое яйка, — патлумачыла афіцыянтка. — Вы так любіце?

— А чорт яго ведае, як я люблю, я ж першы раз ем хачапуры. Давайце з яйкам, па поўнай праграме. Будзем пранікаць у смак стравы.

— І віна, калі ласка, бутэлечку «Кіндзмараулі», — папрасіла афіцыянтку Надзя. Сёння яна задавала градус гулянкі, таму знішчальна паглядзела на Паўла і шыпучым голасам унесла яснасць: — Чачы не будзе.

— А хто просіць чачу?! — адмахнуўся Павел.

— Вось і цудоўна, — пахваліла Надзя мужа, а пасля звярнулася да афіцыянткі: — І мінеральнай вады хлопчыку, калі ласка.

Афіцыянтка пайшла выконваць замову. Павел разняволена прываліўся спіной да сцяны, чакаў мінералку. Падхапіўшы рукой папяровую сурвэтку, Надзя пачала складаць яе на розны манер, вырабляючы трохвугольнікі з квадратамі, забаўлялася.

У кафэ зайшла маладая жанчына.

— О, глядзі, наша! Асоба славянскай нацыянальнасці! — ажывілася Надзя і штурхнула мужа локцем.

Маладзіцы, што з'явілася ў кафэ, было крыху за трыццаць, статная і ўся з сябе летуценная. Цёмна-русыя стрыжаныя валасы, акуратна падвітыя ў ідэальную прычоску, атачалі яе твар з тонкімі рысамі, акруглы мяккі падбародак злёгку выступаў наперад, надаючы ганарыстасці. У адзенні жанчыны адчувалася прэтэнзія на элегантнасць. Шоўкавая лёгкая сукенка крэмавага колеру з размытым неакрэсленым малюнкам струменілася па зграбнай постаці. Ніжняя частка спадніцы лагоднымі хвалямі спадала вышэй калена, а шырокі выраз на грудзях і спіне адкрываў цукровую, яшчэ не абпаленую сонцам скуру і пяшчотную шыю, па якой у авал выразу збягала нізка белых, дробнымі бусінамі караляў. Точаныя доўгія ногі ахоплівалі на ступнях вузкія скураныя палоскі-перапонкі басаножак. Танюсенькія абцасы-шпількі рабілі жанчыну больш высокай, летуценнай. На пальцах правай рукі, безыменным і сярэднім два залатых пярсцёнкі паблісквалі каштоўнымі каменьчыкамі. Ледзі ды-

хала духамі і туманамі. Яна стаяла далекавата, гукі яе голаса змешваліся з галасамі іншых наведвальнікаў, і пра што яна гаварыла з бармэнам, немагчыма было зразумець.

— Ну, адгадай цяпер ты, — Павел павярнуўся да жонкі. — Ты ж любіш іншым загадкі загадваць. Вось цяпер сама… Адкуль прыехала гэта дамачка?

Надзя глядзела на жанчыну, спрабуючы вызначыць яе паходжанне.

— З Расіі? Не, не падобна. Фанабэрыі малавата, — разважала яна, засяроджана аглядаючы незнаёмку, прыціснула ў задуменні костачкай указальнага пальца вусны, а потым, паставіўшы руку локцем на стол, шчоўкнула пальцамі. — Можа, з Украіны? Жмерынка, я думаю.

— А можа, беларускія Асіповічы, — прапанаваў Павел сваю версію.

— Не, наўрад ці, нашых тут па пальцах пералічыць можна, — засумнявалася Надзя.

— Малдавія! Забыліся пра Малдавію, — радасна заіскрыліся вочы ў Паўла.

Жанчына-мроя азірнулася па баках без аніякай цікаўнасці, проста, каб прабавіць час. Яна была занята сабой, сваёй персонай, паправіла на плячах фальбоны-крылцы крэмавай сукенкі, дакранулася рукой да нізкі белых караляў, яшчэ імгненне і… пасля караляў рука хутка і рэзка накіравалася ўніз. Прыгажуня сагнула нагу, прыўзняла і ёмка, па-заліхвацку размашыста, бліскаючы каменьчыкамі пярсцёнкаў, пяццю пальцамі пачасала яе ад пяткі да калена, і вышэй аж да самага падола кароткай спадніцы.

— Супер! — сказала Надзя. — А якая непасрэднасць! Я пачынаю баяцца, каб яна прылюдна бюсцік не ўзялася папраўляць, а то, можа, муляе.

Пры слове бюсцік Павел падкрэслена сціпла апусціў вочы.

— Ну чаму б не паправіць, калі муляе, — вымавіў ён цягучым голасам.

— Ты хоць маўчы, гумарыст, — прыкрыла тэму жаночай бялізны Надзя.

Побач з маладзіцай з'явілася афіцыянтка, прынесла замову: складзеныя ў пакет каробкі з ежай. Летуценная незнаёмка паставіла нагу на месца, вызваленай ад часання рукой узяла пакет, крутнулася і ўся з сябе элегантная пакінула кафэ «Лагуна».

— Я, канечне, памаўчу. Аднак нацыянальнасць засталася нявызначанай, — праводзіў незнаёмку позіркам Павел.

— Я здалёк не магу вызначыць, — апраўдвалася Надзя. — Каб бліжэй падысці, паразмаўляць — іншая справа. І наогул, усе мы тут адной нацыянальнасці — славянскай. Так бы мовіць, асобы славянскай нацыянальнасці. Гэтак жа як жыхары Каўказа ў нас усе каўказскай нацыянальнасці.

Афіцыянтка прынесла бутэльку «Кіндзмараулі» і мінеральную ваду.

Павел з гатоўнасцю разліў чырвонае віно па бакалах.

— За што п'ём? — спытала Надзя.

— За ўдалы адпачынак!

Чокнуліся. Надзя смакавала віно, адпівала з бакала маленькімі глыткамі, удыхала водар. Павел сцебануў паўбакала залпам, рэшту паставіў на стол да лепшых часоў, каб выпіць пад закуску, выцер вусны белай папяровай сурвэткай, пакінуўшы на мяккай рыхлай паперы барвовую вінную адзнаку, і нецярпліва ў чаканні замоўленай стравы забарабаніў пальцамі па стале.

Афіцыянтка не прымусіла доўга чакаць, хутка прынесла на вялікіх талерках плоскія аб'ёмістыя хачапуры з сырнай сярэдзінай, паверх якой маляўніча красавалася жоўтае вока сырога яйка, яно паступова бялела, дапякаючыся на расплаўленым сыры. Павел падцягнуў талерку бліжэй і пакаштаваў гарачае хачапуры.

Вячэра ў кафэ ва ўтульным інтэр'еры пад вясёлы гоман наведвальнікаў, пад выпіўку і закуску незаўважна падышла да свайго лагічнага завяршэння.

Дапітая бутэлька «Кіндзмараулі» павялічыла захапленне Сташэўскіх горадам Батумі. Разлічыўшыся па рахунку, у чуллівым настроі Надзя з Паўлам пакінулі кафэ «Лагуна» і пакрочылі спасцігаць новае ды заглыбляцца ў нетры горада.

Нетры зацягвалі глыбей і глыбей, з кожным крокам брукаванкі і выкладзеных пліткай тратуараў станавілася ўсё менш. Зрэдку трапляліся лапікі добраўпарадкаваных пешаходных дарожак, але хутка і яны засталіся за спіной, саступіўшы месца выбітаму асфальту ўперамешку са стаптанай зямлёй. Тратуары далёкіх, схаваных ад курортнай зоны вуліц выглядалі, быццам пасля налёту варожых бамбардзіроўшчыкаў: спрэс разбітыя, перакапаныя, з вывернутымі бардзюрамі. Пешаходныя дарожкі, падрыхтаваныя да аднаўлення, пакорліва застылі ў чаканні будаўнікоў. Калі-небудзь доўгачаканы рамонт дабярэцца і сюды, рашуча наступаючы ад узбярэжжа ў аддаленыя раёны. Пытанне толькі: калі? Пакуль даводзілася задавальняцца тым, што ёсць, і выбіраць для праходу лепшыя лапікі зямлі з рэшткамі асфальту, глядзець сабе пад ногі, каб не спікіраваць носам, уступіўшы ў якую-небудзь калдобіну, і не расцягнуцца падзагарэлым целам уздоўж вуліцы на пацеху мінакам.

Позным вечарам Надзя з Паўлам апынуліся ў жылым раёне Батумі, куды рэдка зазіралі турысты. Перад іх вачамі праносіліся машыны, што ездзілі па прынцыпе «хто каго абгоніць, той і малайчына». Нейкім неверагодным чынам на перапоўненых гарадскіх дарогах, выраблюючы рызыкоўныя манеўры, батумскія кіроўцы ўмудраліся спаборнічаць у хуткасці. Перайсці на другі бок вуліцы была задача не з лёгкіх. У непрымірымай барацьбе пешаходаў і кіроўцаў перамагалі апошнія, ліхія гарачыя мужчыны на жалезных конях. Пешаходы зайцамі, подскокам несліся па пераходах, каб паспець праскочыць, пакуль машыны, што імчалі на іх, не паддалі газу. Здавалася, кіроўцы хацелі падушыць да чортавай мацеры ўсіх пе-

шаходаў, і турыстаў у тым ліку, менавіта такое адчуванне лунала ў цёплым вечаровым паветры.

У турыстычнай зоне было крыху спакайней. На вуліцы Руставелі моцны аўтамабільны націск так-сяк стрымлівалі руплівыя супрацоўнікі абноўленай ДАІ. Едучы пасярод аўтамабільнай плыні з чарапашай хуткасцю, дзве службовыя даішныя машыны займалі абедзьве паласы дарогі і наўмысна прытармажвалі рух. Перад пешаходнымі пераходамі машыны ДАІ спыняліся, прапускаючы ўсіх магчымых пешаходаў. Ззаду за імі збіраўся змяіны хвост нервова-нецярплівых кіроўцаў, што сядзелі за стырном уласных аўтамабіляў. Так праходзіла выкладанне ўрокаў ветлівасці на дарогах. Урокі былі красамоўныя, аднак вынікі — слабыя. Апынуўшыся ў межах недасягальнасці для супрацоўнікаў ДАІ, «вучні» зноў браліся за сваё і насіліся на машынах так, як прасіла іх няўрымслівая, гарачая душа каўказкай нацыянальнасці…

Надзя і Павел прабіраліся далей па вуліцах Батумі. Сярод дамоў, пабудаваных у мінулыя савецкія часы і шчыльна заселеных жыхарамі, круціліся яны ў віры бурлівага летняга жыцця на задворках курортнага горада. Праз некаторы час дарога вывела самастойных экскурсантаў да раёна новабудоўлі, і перад іх вачамі з'явіліся высокія велізарныя дамы са шкла і бетона, якія стаялі пустыя і без людзей здаваліся прывідамі. Дзе-нідзе ў дамах адзінока мільгалі вокны з запаленым святлом, свяціліся рэдкімі яркімі кропкамі сярод цёмных зашклёных шыбін. Тут на вуліцах не было бачна мінакоў, а ў бязлюдных дварах затаілася гнятлівая цішыня. Новае жытло пуставала, бо шлях да яго пралягаў праз дзясяткі тысяч долараў, якіх у мясцовых жыхароў у такой колькасці не мелася. Для іх перасяленне ў камфартабельнае жытло заставалася нездзяйсняльнай марай. Новыя кватэры — для заможных людзей. Надзя ўзгадала, як па пляжы сноўдалі актыўныя маладыя людзі, раздавалі рэкламныя праспекты, што заклікалі турыстаў купляць кватэры ў фешэнебельным раёне. Хто плаціць, той і валодае квадратнымі метрамі.

Наблукаўшыся па аддаленых раёнах горада, Сташэўскія нарэшце выйшлі да ўзбярэжных вуліц, туды, дзе панавалі парадак, чысціня, музыка і вясёлы гармідар. Паўсюль шпацыравалі натоўпы людзей, што выйшлі на вечаровы праменад. Заўсёднікі шэзлонгаў сярэдняга і больш сталага веку пераўвасобіліся ў эстэтаў, акуратна прычасаных, апранутых у элегантныя сарочкі, штаны і сукенкі. Кабеты былі пры макіяжы. Мужчыны, надушаныя парфюмам, свежа паголеныя, падперазаўшы рамянямі ёмкія жываты, уяўлялі сябе франтамі. Сталы прылізаны кантынгент разбаўляўся маладымі парасткамі турыстычнага кшталту ў шортах і майках, з мітуслівымі рухамі, растрапанымі валасамі і юнацкім жвавым бляскам у вачах. Да турыстычнага калектыву нязмушана далучаліся мясцовыя жыхары, якія таксама не цураліся вячэрніх шпацыраў па набярэжнай роднага горада. Шматлікая курортная тусоўка перамяшчалася ў розных накірунках — броўнаўскі рух.

Аметным нацыянальным каларытам вылучаўся рэстаран украінскай кухні. Крыху далей за рэстаранам адсвечваў люстраным бляскам вадаём, падобны да невялікага, акуратна ўпарадкаванага азярца. Грымнула музыка. У такт мелодыі пасярод азёрнай вады вырываліся струмені фантанаў з феерверкам пырскаў, яны імкнуліся ў вышыню, абганяючы адзін аднаго, і, саслабеўшы, ападалі ўніз, каб праз імгненне ўзляцець з новымі гукамі музыкі.

— Якая прыгажосць! — захапілася Надзя. — Хадзем хутчэй да возера, там лепш бачна. Фантаны, якія спяваюць! Я ўспомніла, мне Этэры пра іх расказвала.

Надзя тузала мужаву руку і цягнула яго наперад, баючыся прапусціць незвычайнае відовішча.

Паблізу азярца, ледзь адшукаўшы вольнае месца, яны ўселіся на бетонны парапет, спрэс заняты гледачамі. На пакатым спуску за іх спінамі сцяной стаялі людзі. Музыка грымела ва ўсю моц, а ў тысячах дробных пырскаў фантана, нібыта вымаляваная на экране тэлевізара,

танцавала балетная пара, яе размытая акрэсленасць стварала адчуванне фантомнасці, прыналежнасці да іншага вымярэння.

Павел пакруціў галавой і ўбачыў прамень пражэктара.

— Праецыруюць карцінку ў накірунку фантана. Яна адбіваецца ў кроплях вады, і мы бачым сілуэты, — лаканічна, тонам знаўцы акрэсліў ён тэхнічныя моманты.

Надзя з пакутніцкім выразам паглядзела на мужа:

— Што ў цябе за манера знішчаць казку? Гэта — цуд! Хараство! Разумееш? Сядзі ты са сваімі дзеепраектарамі!

Павел пасоўгаўся на парапеце і пачаў пранікаць у казку. Пранікненне ішло марудна, са скрыпам. У галаву беспардонна лезлі думкі, якім чынам разгорнутае перад імі прадстаўленне ладзіцца з тэхнічнага пункта гледжання.

Надзя ж неадрыўна глядзела на сюжэты, якія змянялі адзін аднаго у пырсках фантана. Яе ахоплівала адчуванне існавання паралельнага свету, свядомасць адлятала ў мроі, і яна аказвалася побач з персанажамі, пражываючы з імі кароткае ілюзорнае жыццё, пакуль доўжылася музыка. Сілуэты, намаляваныя туманам дробных пырскаў, вытанчана на пуантах танцавалі ўрыўкі з балета, а потым з новай музыкай — грузінскі танец у нацыянальным адзенні. Пакрысе дзеяпраектары выветрыліся з Паўлавай галавы, і ён, як заўзяты тэатрал, пранікнёна сачыў за прадстаўленнем. Вечар выдаўся на славу. Надзя з Паўлам яшчэ доўга, да самай начы гулялі па ўзбярэжжы…

## 6

Раніцай наступнага дня Сташэўскім давялося снедаць бутэрбродамі і запіваць іх халоднай вадой з бутэлькі. Хацелася гарачага чаю. Хацелася — перахацелася. Газу не было. Чайнік з падкопчаным бокам адпачываў на пліце. Надзя ў задуменні жавала бутэрброд, разважаючы, як гатаваць ежу без паліва.

Па дарозе на пляж яна таксама думала пра газ, аднак калі апынулася ля цёплага мора, смутак затрымаўся ненадоўга, недасканаласць жыццёвых рэалій выпарылася сонцам і вымылася марской вадой. Адпачынак робіць людзей бесклапотнымі летуценнікамі.

Напёкшыся на сонцы і накупаўшыся, апоўдні Павел і Надзя вярнуліся на кватэру. Ля пад'езда на прынесеным з дому стуле з высокай спінкай сядзела іх суседка Этэры, жанчына без узросту. Надзя ніяк не магла вызначыць, колькі ёй гадоў. Этэры была падцягнутая і зграбная, насіла светлыя штаны з лёгкай тканіны, што шчыльна абцягвалі ногі, і моладзевыя маечкі някідкіх колераў.

— Газ пільную, — засяроджана паведаміла яна Надзі. Этэры наскрозь пранікласся аперацыяй пад назвай «забеспячэнне турыстаў з суседняй кватэры прыродным газам у балонах».

— Яшчэ не прывезлі? — удакладніла Надзя відавочныя абставіны.

— Пакуль што не. Ключ забіраць будзеце? — Этэры дастала яго з кішэні.

Раніцай Надзя пакінула суседцы ключ ад кватэры на той выпадак, калі газ прывязуць, пакуль яны на пляжы, Этэры яны поўнасцю давяралі.

— Ды не. Няхай у Вас пабудзе. Газ жа яшчэ не прывезлі.

— Няхай пабудзе, — пагадзілася Этэры і зноў схавала ў кішэню ключ. — Можа, вы прыгатаваць штосьці хочаце, то заходзьце да мяне, — прапанавала яна Надзі.

— Дзякуй, мы сёння — на салатах. Разгрузачны дзень.

— Правільна, здароўем трэба займацца, — ухваляла Этэры разгрузачны дзень.

Па-праўдзе, Надзя разгрузачныя дні не любіла. У гэты галодны перыяд марыла яна пра смачнае і шкоднае: згрызці ўшчэнт зажаранае курынае крыло ці шашлычок прыкончыць, але магла і пацярпець дзень-другі, пасядзець на салатах з гародніны, што час ад часу і ажыццяўляла.

Разгрузачныя дні былі чымсьці накшталт забаўкі. У доўгатэрміновыя дыеты ніколі не ўлазіла, не мела яна такога жадання. Усе свядомыя, паслядоўныя дыетолагі і апантаныя прыхільнікі правільнага харчавання выклікалі ў Надзі падазрэнне. Зазвычай гэта людзі з аслінай упартасцю, лічыла яна. З той жа ўпартасцю, з якой яны адмаўляюцца ад катлет, яны будуць на табе абкатваць і іншыя жыццёвыя ўстаноўкі, вучыць жыць, бо ты чалавек няправільны, а яны правільныя: правільна харчуюцца, правільна думаюць, правільна сябе паводзяць. Выпадковыя разгрузачныя дні не залічвалі Надзю ў шэрагі анціхарчовых адэптаў, чаму яна была невымоўна рада.

— Мы пайшлі ў кватэру, — паведаміла Надзя Этэры пра далейшыя планы.

— Ідзіце, ідзіце…

Толькі паспелі Сташэўскія пераступіць парог пярэдняй, як прыбегла ўзрушаная Этэры.

— Газ прывезлі! Нясіце ўніз пусты балон!

Усвядоміўшы адказнасць моманту, Павел ірвануў на кухню, ухапіў балон і, трымаючы яго перад сабой, як боегалоўку, якую трэба падзарадзіць, следам за Этэры куляй вылецеў з кватэры. Нас не дагоніш.

Праз некалькі хвілін яны ўдваіх з суседкай цягнулі балон назад. Пасля запраўкі ён стаў цяжкі, Этэры дапамагала несці. Балон прыстасавалі ў куце ля газавай пліты. Павел, спрытна ўхапіўшыся за закрутку і падпіхнуўшы знізу нагой, падсунуў яго ўшчыльную да сцяны. Этэры стаяла ў Паўла за спіной і стомлена дыхала. Аддыхаўшыся, яна паклала ключ ад кватэры на стол. Надзя адчувала няёмкасць ад таго, што суседцы давялося падымаць па лесвіцы балон.

— Я думала, запраўшчык дапаможа занесці.

— Яшчэ чаго! Будзе ён балоны цягаць… — хмыкнула Этэры. — Балон я вам заправіла, цяпер спакойна адпачывайце, — жыхарка Батумі з усёй шчырасцю жадала славянскім турыстам прыемнага адпачынку.

— Дзякуй Вам, Этэры, вялікі, Вы нас выручылі.

— А, нічога, — махнула рукой Этэры. — Адзіная праблема, пакуль гэты газ замовіш, пакуль прывязуць, сядзі, чакай, колькі часу пройдзе, — расказала яна, як давялося парупіцца.

— А як вы зімой ацяпляецеся? — спытаў Павел.

Ён скончыў валтузню з балонам, напоўніўся радасцю чалавека, якому ўдалося здабыць паліва. Цяпер яму ні пра што не трэба турбавацца і можна паразважаць пра жыццё. Павел сярод спякотнага лета па кантрасце ўявіў батумскую зіму, а яна ж ёсць, зіма! Час, калі за вокнамі валадарыць халоднае надвор'е і з мора дзьмуць вільготныя, пранізлівыя вятры. Газ — у балонах, а як грэцца?! Як напоўніць цяплом кватэру ў пяціпавярховым доме і тым больш ўвесь дом?

— Я зраблю сабе аўтаномнае ацяпленне, пастаўлю бойлер. Можна будзе абаграваць пакоі і кухню, — падзялілася Этэры планамі на будучыню.

Ва ўяўленні Паўла паўстала неацепленая, настылая зімовая кватэра. Б-р-р, холадна! Вытрымцы гэтых людзей можна пазайздросціць. Этэры не скардзілася. Яна зробіць сабе аўтаномны бойлер! Толькі зробіць. А дагэтуль?

— Як вы абыходзіліся без цэнтральнага ацяплення?

— Ды што тое ацяпленне, неяк выкручваліся! — махнула рукой Этэры. — Тут горшых праблем хапала. Вы нават не ўяўяеце, што ў Батумі некалькі гадоў таму адбывалася. Вось зараз вокны ў нашым доме свабодныя, можна глядзець на вуліцу скрозь шкло і фортку адчыненай смела пакінуць, нават калі дома нікога няма, а раней кожнае вакно было закратавана аж да апошняга паверха. Крадзяжы, злачыннасць. Мы думалі, гэтаму не будзе канца. А Саакашвілі навёў парадак. Новую паліцыю стварыў і злодзеяў у турмы адправіў. Людзі ўздыхнулі спакойна. І турысты да нас паехалі, таму што бяспечна.

Павел асцярожна распытваў Этэры пра часы бязладдзя і карупцыі. Яна ва ўласцівай ёй разважлівай манеры, адкрыта, без утойвання апавядала пра цяжкасці, якія давялося пераадолець, ледзь улоўны смутак залёг у глыбіні яе вачэй.

— А Вы адна жывяце ў кватэры? — пацікавілася Надзя.

— З мужам. Муж у порце працуе, зараз — у камандзіроўцы. А дачка замуж выйшла, і пераехала з зяцем у Кутаісі.

— А чаму яны пасяліліся ў Кутаісі, а не ў Батумі?

— У майго зяця там сваякі. Яны яго на працу ўладкавалі.

— А ён што, маленькі, сам не можа знайсці працоўнае месца? — папікнула Надзя ў неруплівасці зяця Этэры.

Яна была ў сваім рэпертуары. Турыстка-аптымістка. Знаёмая з прыгожай вітрынай курортнага горада, створанай для выгод турыстаў, Надзя мела прыблізнае, цьмянае ўяўленне пра яго паўсядзённае жыццё.

Этэры паглядзела на яе, як на малое дзіця, і адчаканіла:

— У нас без знаёмства нідзе не ўладкуешся, — жорстка ліквідавала яна прабел у Надзіных турыстычных ведах. — Дробны прыватны бізнэс: крамкі, кафэ — спрэс сямейны, там толькі сваякі працуюць. А каб на буйное прадпрыемства ці на бюджэтнае месца патрапіць, трэба сувязі мець.

— А я падумала, Батумі вялікі горад, усё ў ім бурліць, рухаецца, віруе, — тут заўсёды можна знайсці працу, — разгублена прамовіла Надзя.

— Бурліць?! Гэта цяпер летам ён так выглядае. Апошнія турысты з'едуць у канцы верасня, і вечарам ніводнага чалавека на вуліцы не будзе.

— Святло, ліхтары на вуліцах адключаць?! — у Надзіных вачах мільгануў спалох.

— Не, святло застанецца, — суцешыла Этэры, усмешка злёгку кранула яе вусны. — Святло, агні і… цішыня… да наступнага сезона. З мая месяца пачнуць прыязджаць турысты, і горад зноў забурліць.

— Калі працы няма, як жа людзі жывуць? Без грошай не абыдзешся, трэба зарабляць, — заклапочана разважаў Павел.

— Па-рознаму жывуць… рупяцца ў сезон больш працаваць. А так, шмат хто з’язджае на заробкі. Хто — у Турцыю, хто ў Расію.

— Ведаю я пра заробкі за мяжой. Трэба ўкалываць, не разгінаючы спіны, — паспачуваў Павел, яму даводзілася чуць аповеды беларусаў, што пабывалі гастарбайтарамі ў розных краінах. Гісторыі былі аднолькавыя: цяжкая праца ад цямна да цямна, добра, калі хоць з адным выхадным на тыдзень, і жывуць, дзе давядзецца, і харчуюцца, як давядзецца, пра медыцыну і казаць няма чаго.

— І ў Расію едуць? — недаверліва перапытала Надзя, ёй здалося, што Этэры памылілася ці нешта пераблытала, нядаўна ж была расійска-грузінская вайна.

— І ў Расію! І ведаеце, што я вам скажу: у Расіі грузіны часам нядрэнна ўладкоўваюцца, прыватным бізнесам займаюцца, знакамітымі музыкамі і спевакамі становяцца.

Надзя з Паўлам абдумвалі яе словы і моўчкі чакалі, што яна далей скажа. Этэры ўздыхнула і прадоўжыла:

— А ў Турцыі... машыны мыць ды вуліцы месці, на большае там грузіны могуць і не разлічваць.

— Вось яно як, а я думала… — Надзя спынілася, не дагаварыўшы фразу, не паведаміўшы, што ж яна думала, і нечакана спытала:

— Сумуеце без дачкі?

— Як сказаць, — паціснула плячамі Этэры. — Дзеці вырастаюць, адлятаюць з роднага дома. Нічога не зробіш... Унучак у мяне ёсць.

Вочы Этэры напоўніліся пяшчотай. У яе руках імгненна з’явіўся мабільны тэлефон, яна пашчоўкала кнопкамі, паказала здымак малюпасенькага лысага паўгадовага хлапчука і зазіхацела, асвяцілася радасцю, які ён у бабкі самы-самы.

Хто б мог падумаць, што ў маладжавай Этэры можа быць унук! Гэта здзівіла. Надзя з Паўлам прыліплі да мабільнага тэлефона.

— Прыгажун! — бадзёрым голасам адзначыў Павел.

— Да дзеда падобны, — праясніла прычыну прыгажосці ўнука Этэры.

Надзя зірнула на шчаслівую Этэры і прыгадала іх з Паўлам сямейны альбом, дзіцячыя фотаздымкі цяпер ужо дарослага сына. Дзеці растуць хутка, і час імкліва ляціць. «Будуць унукі ў вас, і ўсё зноў паўторыцца спачатку», — самі сабой прагучалі ў Надзіных думках словы з песні.

— Я пайду… адпачывайце, — сказала Этэры, згарнуўшы ў тэлефоне фотаздымкі ўнука. Мабільны знік у кішэні штаноў. — А вы зможаце самі падключыць балон? — тут жа спахапілася яна: місія не да канца выканана.

— Не хвалюйцеся, — супакоіў яе Павел, — зможам!

Этэры сышла, пакінуўшы Сташэўскім пачуццё ўпэўненасці ў заўтрашнім дні.

— Мне Ніно «падабаецца», — выказалася пра гаспадыню кватэры Надзя, якая сачыла, як Павел спрытна, радасна прысвістваючы, прыкручваў балон. — З'ехала да мамы ў горнае сяло, усё ёй фіялетава, а вы тут рабіце, што хочаце, поўная свабода і дэмакратыя…

**7**

Некалькі дзён аднастайнага ляжання на пляжы праляцелі незаўважна. Гервекі паедзеныя, целы падкопчаныя, аднак турыстычнае шчасце здавалася няпоўным, няўрымслівая душа прасіла палёту, няўлоўна падкралася жаданне адправіцца на экскурсію і пазнаёміцца з батумскімі ваколіцамі. Павел з Надзяй пачалі росшукі экскурсійных прапаноў.

Непадалёк ад цэнтральнага ўвахода на пляж стаяў невялікі павільён. Воддаль ад будынка шэрагам прымасціліся зялёныя веласіпеды, кідка-зазыўныя, яны нібыта

праглі седака. Надзя была ўпэўнена, што ў павільёне яны знойдуць пракат веласіпедаў, аднак высветлілася, што тут месціцца турбюро і можна замовіць экскурсію, таксама ахвотныя маюць магчымасць у тым жа павільёне ўзяць напракат веласіпед — дадатковая паслуга.

У цесным памяшканні, раздзеленым на дзве часткі стойкай вышынёй да грудзей, супрацоўнікі турбюро засядалі з аднаго боку, а з іншага круціліся наведвальнікі. Супрацоўнікаў было двое: маладая дзяўчына з распушчанымі па ах доўгімі валасамі ў строгай белай прыталенай блузцы і хлопец у адзенні цёмнага, стрыманага колеру. Хлопец вылучаўся хударлявым тварам з запалымі шчокамі, якія падкрэслівалі высокія выступаючыя скулы. Ён занурыўся ў камп'ютар і сканцэнтравана завіс у інтэрнэтным «павуцінні». Працавала з наведвальнікамі дзяўчына, яна падавала сябе з завышанай самаацэнкай, што памылкова ўзнікла на фоне ўсеахопнай бацькоўскай падтрымкі, гэткая напышлівая дачка забяспечанага таты. Ганарлівасць праступала ў рухах яе рук, павольных, неахвотных паваротах галавы, у вачах, якія не хочуць глядзець на надакучлівых наведвальнікаў, а коса пазіраюць убок і ўдалячынь. Такая не пойдзе на пляж гандляваць колай ды кукурузай. Яна і ў турагенцтве апынулася, бадай што, выпадкова, бо яе наканаванне значна вышэйшае, і яно здзейсніцца, яна зловіць сваю жарптушку, хутчэй за ўсё, у Еўропе, можа, у Парыжы, а можа, у Лондане, так ёй мроілася. А пакуль што трэба адбываць прыгон у турыстычным агенцтве горада Батумі, куды яе ўладкаваў тата. На твары дзяўчыны ляжаў наіграны цень раннеюнацкай стомленасці ад гэтага «прымітыўнага» свету. Яна з пачуццём уласнай перавагі, коратка і неахвотна адказвала наведвальнікам, і расейскамоўным турыстам, і грузінскамоўным землякам з аднолькавай нудотнай інтанацыяй. Надзя стамілася ад яе занудства і вырашыла, чым цягнуць з неруплівай супрацоўніцы інфармацыю, лепш пачытаць рэкламу самой.

— Можа, у вас ёсць рэкламныя буклеты турыстычных экскурсій, — спытала яна «дзяўчыну-значнасць».

— Вось там, на стэндзе, — прыўзнятым падбародкам суха паказала дзяўчына.

Надзя пачала пераглядаць буклеты.

У павільён завіталі двое акулярыстых падсушаных пенсіянераў у шортах і майках, муж з жонкай. Высокі, доўгі, як жэрдка, мужчына штосьці спытаў па-англійску… Еўрапейскія турысты! Ну, нарэшце! Вось і надышоў той зорны час! Цяпер дзяўчына пакажа, як яна можа працаваць.

«Хэлло! Май фрэнд! Мы вельмі рады вас бачыць! Чым магу дапамагчы? Я да вашых паслуг», — прыблізна так заіскрыла яна англійскімі словамі, падхапілася са стула, агорнутая шчасцем сустрэчы з еўрапейцамі, старалася даць ім як мага болей парад і тлумачэнняў, змяніла ганарыстасць на прыхільнасць.

Пенсіянер стрымана выдаў пару кароткіх сказаў, радуючы супрацоўніцу сваёй англійскасцю, і дыялог скончыўся. Акулярыстая парачка выйшла за дзверы.

Эх! Не далі разгарнуцца! Дзяўчына вярнулася да свайго звычайнага стану фанабэрыі і занудства. Адчыняліся і зачынялі дзверы, павільён запоўніўся нецікавымі для яе славяна-грузінскімі турыстамі.

— Т-а-а-к, буклеты ўсе на англійскай мове. Дзякуй, пачытала, — прамовіла Надзя па-беларуску. — Скажыце, калі ласка, вось я, напрыклад, не разумею англійскай мовы, то мне, верагодна, нічога з экскурсій не прапануеце?

Маладая супрацоўніца наморшчыла лоб, засяродзілася і першы раз за доўгі час звярнула ўвагу на Надзю, спрабуючы асэнсаваць, пра што ідзе гаворка.

— Надрукуйце інфармацыю хаця б на украінскай ці беларускай мовах, — прапанавала Надзя паляпшэнні ў сферы абслугоўвання, перасоўваючы пальцамі рэкламныя лісткі.

— Были буклеты на руском, закончились — сказаў хлопец, вынырнуўшы з інтэрнэтнага «павуціння». — Расскажи туристам об экскурсиях, — ён павярнуўся да «дзяўчыны-значнасці», карэктна просячы яе не выламывацца.

«Значнасць» памкнулася адбыць свой прыгон, але Надзя яе спыніла:

— Не, не трэба, мы ўжо пра ўсё даведаліся. Да пабачэння!

Славянская сямейная пара Сташэўскіх па прыкладзе акулярыстых еўрапейцаў пакінула павільён. Надзя прыхапіла з сабой невядома для чаго пару англамоўных рэкламных буклетаў.

— Трэба ж было на такую цытру натрапіць, англічанка знайшлася, — выпускала Надзя на вуліцы гарачую пару, напорыстымі пальцамі скручвала і сціскала ў шчыльную трубачку глянцаваныя інфармацыйныя лісты.

— На чорта ты англійскія буклеты ўзяла? — спытаў яе Павел.

— А я ведаю?

Надзя пакруціла ў руках трубку непатрэбных буклетаў.

— Слухай, а ты б з гэтай супрацоўніцай турагенцтва па-французку паразмаўляла, во смеху б было, быццам ты турыстка з Францыі. Абслужыла б яна цябе на самым вышэйшым узроўні! — Павел струменіў геніяльнымі ідэямі.

— Я цябе прашу. Па-французку… На нас жа напісана: сла-вя-не… Развялося спешчаных дачок — не прайсці, — Надзя ўзялася па новым крузе за старую тэму, яе па-ранейшаму раздражняў вобраз пустой па сутнасці, але пыхлівай па паводзінах дзяўчыны. — Ды мы і без яе абыдземся. Заўтра ж паедзем на маршрутцы ў батанічны сад. — Крыху памаўчала, а потым спытала ў мужа. — А як ты думаеш, на яе старонках у сацыяльных сетках ёсць фотаальбамы з партрэтамі футбалістаў?

— Не ведаю. А што, павінны быць?

— Дык нашы такія ж дзявулі ў Мінску часцяком аматаркі футбола: у адной старонка «ВКонтакте» аздоблена фотаздымкамі футбалістаў з Барселоны, у другой — стосік картачак гульцоў англійскага футбольнага клуба і шалік з лагатыпам. А нядаўна ў мяне на працы дваццаціпяцігадовая бухгалтарка зайшла да нас у аддзел і ў фарбах распавя-

дала, як яна шалёна любіць футбол. Гуляў «Мадрыд», здаецца, з нейкай французскай камандай, толкам іх не ведаю, я ж не фанатка, то бухгалтарка ўзахлёб апавядала пра сваю бязмерную жарсць да футбола. Я ў яе пытаюся, як, маўляў, табе падабаецца гульня барысаўскага «БАТЭ»? Яна вочы ператварыла ў два круглыя шарыкі, глянула на мяне, быццам я ў поўным неадэкваце, і незадаволена фыркнула: «А пры чым тут барысаўскі "БАТЭ"»? Вось і я кажу: пры чым тут «БАТЭ»? Там жа гуляюць свае беларускія хлопцы, яны ж не маюць ганарараў у мільёны долараў, як гульцы еўрапейскіх клубаў… — Надзя скрывіла вусны ухмылкай. — Не футбол яны любяць, а футбалістаў замежных з іх мільённымі прыбыткамі. І гэта, бачыў, трымціць уся пры гуках англійскай мовы. Добра, што ў павільён толькі пенсіянеры зазірнулі, а каб пара-тройка маладых хлопцаў еўрапейскага ўзору? Што б з ёй было?.. Магу сабе ўявіць!

— Выпадак цяжкі, але несмяротны, — Павел імкнуўся рэабілітаваць амаль кожную жанчыну ў вачах грамадскасці, якую прадстаўляла яго жонка.

— Чакаюць яе ў Еўропе, а як жа… Хіба што пакаёўкай працаваць, унітазы ў гатэлях мыць, — агучвала Надзя варыянты працаўладкавання дзяўчыны. — Можна вырасці да пасудамыйкі, калі вельмі старацца. А яшчэ на Захадзе давяраюць выхадцам з былога СССР састарэлых нямоглых бацькоў даглядаць. Тут яны нашы таленты прызнаюць і смела сваіх еўрапейскіх тату з мамай аддаюць у клапатлівыя рукі эмігрантаў, самім жа не хочацца пасля хворых бацькоў гаршчкі выносіць ды старэчыя капрызы і скаргі слухаць.

— Патрэбны мы ў Парыжы, як у рускай лазні лыжы! — паэтычна прадэкламаваў Павел і пакратаў зялёны веласіпед: — Пакатацца, можа?

— Схадзі да нашай знаёмай «англічанкі». Яна табе аформіць пракат, — парэкамендавала яму Надзя.

Павел ўспомніў «іх знаёмую» з павільёна і перадумаў катацца на веласіпедзе.

— Іншым разам…

## 8

Летам у гарачыя дні прыемна прагуляцца ў Батумскім batанічным садзе пад засенню дрэў з густой кронай, сатканай з зялёнага трапяткога лісця. Святло сонечных промняў струменіцца між галінамі і россыпам залацістых блікаў падае на сцяжынкі. Пахнуць разагрэтыя сонцам кветкі. Разнастайныя, раней нябачаныя расліны, прывезеныя з далёкіх краін, аздабляюць прыморскі ландшафт, а па цяністых алеях няспешна прахаджваюцца заспакоеныя цішынёй наведвальнікі.

На парковачнай пляцоўцы ля батанічнага саду адпачывалі пустыя легкавікі і аўтобусы, што даставілі сюды турыстаў. Купіўшы білеты ў касе побач з непрыкметным уваходам, Надзя і Павел ступілі на цяністую сцежку і апынуліся сярод дзіўных раслін. Надзя падыходзіла да кожнага дрэва і чытала шыльды-надпісы: піхта, туя, смакоўніца… Уяўляючы сябе прасунутым батанікам, спецыялістам па песціках і тычынках, кратала кару і вохкала на кожную новую шыльду: «Паша, паглядзі! Гэта дрэва называецца… э-э-э псеў-да-кам-фар-ны лаўр!» Хутка гэта забава-чытанка яе стаміла, і яна проста гуляла, дыхала водарам саду. Паміж камлямі дрэў удалечыні праглядвалася бліскучае, пералівістае ў люстраных сонечных водблесках мора. Паўсюль разраслося кустоў’е. Сярод зараснікаў выступаў наперад, пышна буяў вялікі куст гартэнзіі з гронкамі незвычайна афарбаваных сініх кветак, пад цяжарам квецені гнуткія галінкі хіліліся да зямлі. Надзя збочыла са сцежкі і, ступаючы па сухаватай траве, пайшла, абмінуўшы сіні куст, між дрэў да берага, спынілася на самым ускрайку, глянула перад сабой: бясконцае мора рассцілалася да небакраю, пачыналася яно ад высокага берага, што крута абрываўся ўніз. Аж дух перахапіла! Надзя адступіла пару крокаў назад, напалоханая вышынёй. Шырокая бяскрайняя прастора рассцілалася перад ёй, там, далёка ўнізе хвалі біліся аб бераг і шумелі. З вышыні абрывістага берага мора адкрывалася вялікім і неабсяжным, выклікала

павагу і ўнутраны страх. Унізе па ускрайку ўзбярэжжа праходзіла чыгунка, ля самай вады віднеліся рэбры-шпалы чыгуначнага палатна. Бесцырымонныя дзеці прагрэсу абцяжарвалі бераг сваёй індустрыяльнасцю, недарэчныя і няпрошаныя ў прыродным харастве.

На сцяжынках батанічнага саду было ўтульней. Надзя развярнулася, каб пайсці назад, і неспадзявана літаральна ў некалькіх кроках ад сябе ўбачыла маладую пару. Хлопец і дзяўчына абдымаліся, схаваўшыся за зараснікам ад лішніх вачэй, чарнавалосыя, мясцовыя, зусім юныя. Яны сядзелі на лаўцы, прыціснуўшыся адзін да аднаго. Хлопец няўпэўненай рукой прыгарнуў юную каханую да сябе. Дзяўчына была падобна да пяшчотнага свежага бутона, які толькі-толькі распускаецца ў кветку, яшчэ нясмелы, толькі ўбіраецца ў сваю прыгажосць: бровы дзвюма тонкімі чорнымі рыскамі разляталіся ўверх над доўгімі вейкамі, а ў ружовых вуснах чыталася штосьці няўлоўна дзіцячае.

Лаўка была прыкрыта ад чужых поглядаў са сцяжынкі кудлатымі разложыстымі кустамі, а з боку мора, адкуль ішла Надзя, уся праглядалася як на далоні. Для закаханай пары Надзіна з'яўленне сталася неспадзяваным. Дзяўчына, якая дагэтуль сядзела, паклаўшы галаву на плячо хлопцу, сарамліва апусціла долу вочы пад чорнымі бровамі, села роўна і пачала здымаць са свайго а яго руку. Рука, дагэтуль няўпэўненая і мяккая, нечакана набыла моц, хлопец заўпарціўся, ён цвёрда сціснуў пальцамі плечыка любай і ні за што не хацеў адпусціць. Надзя расчулена палюбавалася на закаханых і, каб не парушаць ідылію, не забіраць у маладых хвіліны шчасця, хутка пакінула ім у поўнае распараджэнне гэта зацішнае месца з лаўкай, схаванай між кустоў, і неабсяжным морам на гарызонце.

Вярнуўшыся на сцежку, яна дагнала мужа, які павольна ішоў наперад. Павел азірнуўся, ад яго не схаваўся прыўзняты жончын настрой.

— Што ты там убачыла ў зарасніку?

— Мора і каханне, — узнёсла адказала Надзя.

— Ну ты даеш! Паэтэса… Што гэта цябе на высокі стыль пацягнула?

— Сапраўды, я бачыла мора і закаханую маладую пару.

— То я гляджу і думаю, адкуль у цябе столькі радасці? Цемната і кусты — сябры моладзі!

Павел весела падміргнуў жонцы.

— Паша! — абурана выдыхнула Надзя…

Яны яшчэ доўга хадзілі сярод дрэў, залазілі на горкі з крутымі ўхілістымі небяспечнымі сцяжынамі, зазіралі ў дальнія зацішныя куткі, нябачныя з дарогі. Сад зарос старымі разгалістымі дрэвамі. Тоўстае кручанае карэнне, прысыпанае расцярушанай на спарахнявелыя дробныя кавалкі старой карой і прэлым мінулагоднім лісцем, разрываючы глебу, выпірала з зямлі. Здратаваныя карэннем сцежкі губляліся ў гушчары дрэў, зманьвалі ў лясныя нетры, якія дыхалі натуральнай, не кранутай чалавекам прыродай.

Неўзабаве пачуліся гукі транспарта. Па асфальтавай дарозе, пракладзенай скрозь батанічны сад, імчаў прагулачны паравоз з адкрытымі ветру вагонамі. З гары, стоячы пад кронай раскідзістага, з моцнымі галінамі дрэва, Павел і Надзя бачылі, як у вагонах ехалі вясёлыя еўрапейскія пенсіянеры. Паравоз хутка каціўся наперад, толькі вецер шумеў у вушах і гуляў у валасах радасных, узрушаных пасажыраў. Прамільгнулі сонечныя акуляры, сумачкі ў руках і падвітыя сівыя валасы еўрабабулек. Паравоз прашамацеў коламі і схаваўся за паваротам. Павел з Надзяй асцярожна спусціліся па схіле з крутой гары і выйшлі на асфальтавую дарогу. Дарога вабіла наперад, і ёй не было канца. Яны меркавалі, што крочаць па крузе і хутка вернуцца назад да ўвахода, аднак усё выходзіла зусім не так. Час ішоў, гудзелі ногі, находжаныя ступні механічна стукалі па асфальце. Насустрач ім павольна тупала паўнаватая жанчына, якая вяла за руку маленькую дзяўчынку. На кончыках тонкіх дзіцячых кос паветранным бізэ матляліся празрыстыя гафрыраваныя банты. Жанчына спынілася, адпусціла дзіцячую руку і заклапочана спытала Надзю:

— Колькі вы ідзяце з таго боку?

— Гадзіны паўтары, — адказала Надзя.

— Ого! — усклікнула жанчына. — Значыць, я туды не пайду.

Яна відавочна чакала іншага адказу, і атрыманыя разведданыя яе зусім не парадавалі. Зноў ухапіўшы дзяўчынку за руку, яна пацягнула яе да лаўкі і грузна прысела, дзяўчо прыладзілася побач і, закінуўшы косы ў паветраных бантах за спіну, заматляла пад лаўкай нагамі ў напаўспушчаных ружовых шкарпэтках і басаножках з аплікацыямі Мікі Маўса.

— Так, патрапілі мы ў гісторыю, — Надзя вывучала выгляд жанчыны. Выглядала кабета не надта стомленай, чым давала надзею на хуткі выхад.

— Я думаю, трэба ісці ў той бок, адкуль з'явілася гэтая дама, выхад там, — вызначыў Павел накірунак, з'арыентаваўся па лянівай жанчыне.

Сташэўскія рушылі наперад па дарозе, не бачачы ні дрэў, ні кветак, толькі асфальт пад нагамі. На шляху пачалі часцей трапляцца сустрэчныя турысты.

— Ідзём правільна, — сказаў Павел. — Выхад блізка. Закон турыста: чым бліжэй да выхаду — тым больш народу.

Змораныя, нарэшце яны ўбачылі, што батанічны сад скончыўся, і зразумелі: апынуліся ў супрацьлеглым канцы. Ні маршруткі, ні аўтобусы тут не хадзілі. Навокал рассціlaліся немудрагелістыя вясковыя пейзажы, а ля выхада стаяла пара легкавых аўтамабіляў. Невысокі каржакаваты ахоўнік вольна ўладкаваўся на пластмасавым крэсле непадалёк ад варот і меланхалічна разглядаў прыбылых аматараў прыроды. Ён паправіў бэйджык на нагрудной кішэні сарочкі і, прыкрыўшы рот далонню, лянiва пазяхнуў.

— Скажыце, калі ласка, нам вярнуцца назад да галоўнага ўвахода — гэта далёка? — пачала распытваць яго Надзя.

— Кіламетраў пяць, — абыякава паведаміў ахоўнік.

— Пяць кіламетраў?! — запанікавала Надзя. — Засада! Што нам цяпер рабіць?

— А вам і не трэба ісці назад. Ідзіце наперад пешшу, да дарогі на Батумі кіламетры два, не больш. Блізка. Там маршрутку зловіце, — цягуча гучаў голас ахоўніка.

«Блізка. Калі сядзець на пластмасавым стуле і мераць адлегласць выключна словамі…» — крытычна падумала Надзя.

Яна западозрыла ахоўніка ў тым, што ён не гуляў пяць кіламетраў па батанічным садзе і не хадзіў нагамі амаль два кіламетры да дарогі на Батумі.

— Ну хоць так, прынамсі, ведаем накірунак, ужо лягчэй, — пагадзілася яна на двухкіламетровы паход. — Мне б цяпер той паравозік!

Муж стаяў поруч з Надзяй, напоўнены энтузіазмам, з задранным уверх абпаленым носам, пазначаным аблезлай скурай на пераноссі. Нос пацярпеў у першы дзень адпачынку. Рашучым выглядам Павел выяўляў гатоўнасць да двухкіламетровага маршкідка...

— Прагуляемся, — падбадзёрыў ён жонку.

Яна зірнула наперад у небасхіл і, ступіўшы нагамі на дарогу, тужліва прамовіла:

— Пайшлі.

І яны памкнуліся пераадольваць яшчэ два кіламетры да батумскай дарогі жыцця. Пешая хада карысная для здароўя.

Цяпер прырода не выклікала шчырага замілавання, трава пад пякучым сонцам раптам пажоўкла, нясцерпна запякло ў патыліцу і захацелася піць. Бутэлька вады, прыхопленая з сабой, даўно апусцела, а кропля вільгаці была б якраз дарэчы — перасохла ў роце. Сташэўскія прайшлі кіламетр. Злева непадалёк ад дарогі пасярод кавалка апрацаванай зямлі згіналіся дзве постаці: стары дзед і малады хлопец корпаліся ў гародзе. Стары на кароткае імгненне падняў на мінакоў выцвілыя стомленыя вочы і далей працягваў аднастайную працу, разрыхляў кавалак глебы, бясконцы ў сваім севазвароце: пасадзіць, вырасці-

ць, сабраць ураджай і зноў пачаць спачатку, дорачы гады жыцця вечнаму рухавіку сельскай гаспадаркі. А гады незаўважна выцеклі, як пясок скрозь вузкае горла пясочнага гадзінніка, пакінуўшы сагнутую спіну і заскарузлыя ад працы пальцы. Стары корпаўся ў зямлі рыдлёўкай, звыкла абхапіўшы цаўё кашчавымі сухімі рукамі з віхлястымі гронкамі напухлых вен, абыякавы да ўсяго, што адбываецца навокал, заглыблены ў свае думкі. А яго малады памагаты, пакінуўшы корпанне, прагным да спасціжэння жыцця позіркам разглядаў турыстаў. Галава хлопца нястомна круцілася, то паварочвалася да дзеда, калі чуўся новы загад, то зноў да турыстаў, а душа ірвалася ў палёт, туды, дзе жыццё б’е ключом, часам разводным і па галаве, але ён гэтага яшчэ не зведаў, яму хацелася паспытаць іншае, незнаёмае, новае жыццё на смак, уцячы з ненавіснага лапіка зямлі. З якім задавальненем ён, малады і гарачы, кінуў бы сельскія прылады і ўцёк ў прыцягальны турыстычны свет з пляжамі, парасонамі, пальмамі і агнямі начнога курортнага горада!

Прамінуўшы кавалак зямлі, дзе працавалі дзед з унукам, Павел і Надзя апынуліся на вясковай вуліцы. Паабапал цягнуліся шчыльна загароджаныя сялянскія надзелы. Агароджы прымыкалі адна да адной і зліваліся ў суцэльны доўгі плот, які з двух бокоў атачаў вузкую вуліцу. Сташэўскія пляліся па дарозе, ледзь перастаўляючы ногі. Стома захоплівала Надзю ў палон, на скронях і шыі блішчэлі кроплі гарачага поту, блузка ліпла да грудзей, Надзя адцягвала яе за гузік і задувала пад тканіну струмень паветра. Ахаладжвалася.

Наперадзе з-за паварота паказаўся невялікі статак. Драбнаватыя рудога колеру рагулі з пакатымі, акруглымі бакамі былі больш падобныя да вялікіх цялят, чым да дарослых цялушак, парода, прыстасаваная да горнай мясцовасці, маларослыя і рухавыя, у паўтары разы меншыя, чым лянівыя, непаваротлівыя пярэстыя, чорна-белыя тоўстыя глыбы, што пасвяцца на шырокіх, раўнінных беларускіх лугах. Статак размерана падыходзіў усё бліжэй і

бліжэй. У статку Надзя заўважыла маладога бычка-падцёлка. Ён гулліва кароткім ражком, што ледзь-ледзь адскочыў ад ілба, тыцкаў у круглы бок цялушкі.

— Паша! Бык! — залямантавала Надзя і пачала мітусіцца ўздоўж агароджы, марачы знайсці там хоць якую дзірку. Шчыліна, каб пралезці, не траплялася на вочы. Надзя ліхаманкава насілася туды-сюды, спрабавала рукамі на трываласць штакетнік, а пасля падзёрлася наверх проста як была, у белых штанах. З хуткасцю святла ўзбіўшыся на слуп, засела там, учапіўшыся ў яго рукамі.

Тым часам Павел таксама ашалела ганяў уздоўж плота ў пошуках лаза.

Паратунку не было, статак насоўваўся рудой хмарай і ўжо з ім параўняўся. Павел наканавана замёр, уціснуўшыся ў штыкетнік.

— Дзе бык? — шэптам спытаў ён у Надзі.

— Ды, вунь, з маленькімі рожкамі, — падала голас зверху Надзя.

— Цьфу ты! Знайшла мне быка! — сплюнуў Павел. — Я тут ледзь са страху спраў не нарабіў. А ну, злазь з плота! Паглядзі, якія ў цябе штаны!

Надзя зірнула на свае некалі белыя штаны. Яны спрэс пакрыліся чорнымі палосамі, выпэцкаліся аб старую драўляную агароджу, а калені штаноў цямнелі шэрымі кругамі.

— Як я цяпер людзям пакажуся, — енчыла яна, спускаючыся долу.

Падтрымліваючы плячом і ловячы жонку рукамі, пакуль яна нязграбна паўзла ўніз па штыкетніку, Павел ад душы лаяўся:

— От баб’ё-ё-ё! Ну, баб’ё!... На вас трэба не нервы мець, а — канаты! Гэта ж даўмецца, зладзіць на роўным месцы вэрхал ды ўзбіцца на слуп!... Ну, баб’ё-ё-ё!... Добра, што пальмы паблізу не было!

Статак павольна ішоў далей сваёй дарогай, толькі матляліся развітальна цялушкіны хвасты…

## 9

У Батумі Сташэўскія вярнуліся папаўдні, змораныя, але не пераможаныя. Ішлі па горадзе, мераючы гарачы асфальт напрацаванымі, здранцвелымі ступнямі і марачы хутчэй дабрацца да кватэры з кандыцыянерам. Насустрач ім па вуліцы плыў караблём мужчына павялічанага памеру, сярод мінакоў вылучаўся ён аб'ёмам і ростам.

— Нукзарчык, — з любасцю сказаў Павел. — Мой прыяцель. Пару дзён таму пазнаёміліся, паразмаўлялі «за жызнь».

Нукзар здалёк пазнаў Паўла і прывітальна махнуў яму рукой. Павел акрыяў, стома адступала, быццым яе ветлівы Нукзар адагнаў. Падышлі бліжэй.

— Гамарджоба, — сказаў Павел.

— Гамарджоба, — адказаў Нукзар.

— Стары знаёмы, прыемная сустрэча, — вітаўся Павел са стрыманай мужчынскай радасцю. — Жонка мая, — адрэкамендаваў ён Надзю Нукзару.

— Гамарджоба! — бліснула Надзя веданнем грузінскай мовы, веды абмяжоваліся трымя-пяццю словамі.

Нукзарчык, так ласкава названы Паўлам, быў мужчына моцна скроены, плячысты, з ладным жыватом, які прынята называць «камяком нерваў», камяк той, трэба адзначыць, выглядаў важка і салідна, зверху на ім напіналася прасторная кашуля навыпуск. Партрэт батумца дапаўняўся круглым, задаволена-радасным тварам. Нукзарчык з іскрамётнай весялосцю нагадаў Паўлу іх першую сустрэчу.

— Павел! Я думаў, тая маладая чароўная жанчына, з якой я цябе ў мінулы раз спаткаў… — Нукзар красамоўна памаўчаў, назіраючы за Надзяй. Гэты славесны піруэт хутчэй для яе вырабляўся. Хітрынка ледзь заўважна прамільгнула на твары Нукзара. — Я думаў, тая мілая жанчына была тваёй жонкай, — прамовіў ён, нібыта звяртаючыся да Паўла з прыцягнутай за вушы глыбокай шчырасцю, непасрэдна і пранікнёна, і заціх у чаканні,

што ж будзе далей. У вузкай прымружанасці яго вачэй, што глядзелі на Надзю, скакалі чэрці падначкі.

— Вы мяне ні кроплі не здзівілі, — ва ўнісон Нукзару, падыгрываючы яму, адказала Надзя. — У майго мужа што не вечар, то новая сяброўка, дома не стыкаецца.

Павел не паспеў спалохацца, так хутка прайшоў разгляд яго персанальнай справы. Надзя ж адразу ўлавіла ў асобе Нукзарчыка прыкметы вялікага жартаўніка.

— Жалезная вытрымка, — расплыўся Нукзар ухвальнай усмешкай, адрасаванай Надзі.

— З якой жанчынай?! — запаздала абурыўся Павел, гнеўна абвяргаючы несправядлівыя абвінавачванні: не быў, не ўдзельнічаў, не прыцягваўся. — Не было ніякай жанчыны!

Нукзар прымірэнча адвесіў ёмкага сяброўскага плескача Паўлу па плячы:

— Я пажартаваў!

У адказ атрымаў ніякаватую ўсмешку, якая няўпэўнена паведамляла, што Павел жарты разумее — сам такі. Пад дотыкам моцнай рукі Нукзарчыка Павел ледзь утрымаў раўнавагу, а пасля Нукзарчык той жа рукой абняў яго за шыю і сардэчна прыціснуў распаранага спякотай, спацелага прыяцеля да свайго аб'ёмістага гарачага цела. Што рабіць з уласнымі рукамі, куды іх прыстасаваць, Павел не знайшоў, і яны, як прыкручаныя, матляліся ля круглага жывата Нукзарчыка. Паціскаўшы худасочнага сябра Паўліка ў магутных абдымках, Нукзарчык адпусціў яго на волю і, рагатнуўшы з нагоды ўспаміну, сказаў:

— Я сам нядаўна патрапіў у гісторыю!

У апраўданне жартаў па падрыве сямейных каштоўнасцяў ён выклаў гісторыю асабістых пакут:

— Я тут на днях у адно кафэ прадукты падвозіў. Пагрузка-разгрузка, тое-сёе, стаміўся, прысеў адпачыць. Падыходзіць да мяне гаспадар кафэ. Размаўляем. Ён мне жаліцца, што нядаўна прапала святло, за прадукты перажывае, каб не сапсаваліся. Панімаеш. Да? — звярнуўся да Паўла Нукзар і, красамоўна жэстыкулюючы,

ілюструючы рухамі цела карціну падзей, тлумачыў абставіны: — Я галавой ківаю, так-так, непрыемная, канечне, сітуацыя, а сам паглядаю навокал. За столікамі ў кафэ сядзяць адны дзяўчаты. Я іх не лічыў, але кампанія ладная. І тут гаспадар мне кажа: «Слухай, Нукзар, у мяне ж марожанае растане і прападзе, бо халадзільнік не працуе. Бяры скрыню з марожаным і раздавай дзяўчатам. Я частую!» Якія праблемы?! Мне што, шкада яго марожанага? — Нукзар развёў рукі, выцягнуўшы іх наперад раскрытымі далонямі ўверх і паціснуў плячамі. — Якія праблемы?.. Я ўзяў тую скрыню і разнёс марожанае дзяўчатам, раздаў каму па дзве пачкі, каму па тры. І ўсё на гэтым, разнёс ды і забыўся. Вечарам прыходжу дадому, жонка — чарней хмары. «Багаты ты ў мяне, — сустракае такім прывітаннем. — Колькі гадоў з табой пражыла, а не ведала». Я ўцяміць не магу, чаго яна ўзнялася? «Што здарылася?» — пытаюся. А яна мне: «Сам прызнаешся, калі сумленне ёсць! Можа, яшчэ і налева ходзіш?!»

— Панімаеш, да? Такое мне гаварыт, — шукаў Нукзар падтрымкі ў Паўла.

— Але, гісторыя, — спачувальна цмокаў языком Павел.

— Я растэрался. Жэншчына, гавару, я ничэво не дэлал!

Далей Нукзар распавёў, як жонка выклала яму звесткі пра марожанае: скрынямі, маўляў, купляеш, каб дзяўчат частаваць.

— І галоўнае, — жаліўся Нукзар, — нікога са знаёмых не было, хто б мог жонцы расказаць. Гэта ж нехта з дзяўчат зрабіў, каторыя марожанае елі, марожанае паелі і жонцы данеслі на мяне! Прэдстаўляеш?! — весела апавядаў ён Паўлу «жахі» пра жаночае каварства і, здавалася, ганарыўся дзяўчатамі, што яго выдалі.

Пасля «жахаў», звязаных з чароўнай паловай чалавецтва, Павел з Нукзарам узяліся за абмеркаванне палітычнага і эканамічнага становішча. Па-мужчынску, грунтоўна крытыкавалі яны будоўлю новых дарагіх гатэляў, высвятлялі, дзеля каго пяцізоркавасці буду-

юцца і адкуль столькі багацеяў набраць, каб запоўніць даражэзныя гатэльныя нумары па дзвесце долараў за дзень пражывання? Рашэння па багацеях не знайшлі і плаўна перайшлі на тэму сяброўства між народамі.

— Аддайце мне яго на два дні! — папрасіў Нукзар у Надзі, кіўком указваючы на Паўла. — Ён маім госцем будзе, пагаворым, вып'ем віна!

— Не-не, я не магу, дзякуй, — пачаў адмаўляцца Павел, трымаючы глухую супрацьалкагольную абарону, чым невымоўна здзівіў жонку. — Мы хутка ад'язджаем дадому, а яшчэ экскурсіі запланаваны, — лепятаў Павел.

Такой апантанай цягі да экскурсій Надзя за мужам раней не заўважала.

— Трэба на большы тэрмін прыязджаць, каб на ўсё часу хапіла, — параіў Нукзар Паўлу. — А вы ездзілі ва Урэкі? — спытаў ён у Надзі і павярнуўся да яе шырокім торсам.

— Не давялося пакуль. А туды варта з'ездзіць?

— Канечне! Урэкі — гэта магнітныя пяскі, лячэбныя!

Павел ухапіўся за лячэбныя пяскі і з жарам пачаў абмяркоўваць паездку ва Урэкі. Узгарэлася любоў да экскурсій.

Паразмаўляўшы яшчэ колькі часу, Павел і Надзя развіталіся з Нукзарам і з чарапашай хуткасцю папляліся на кватэру.

— Чаму ты адмовіўся распіць з Нукзарам бутэлечку віна? Я цябе не пазнаю, — выпытвала Надзя ў мужа.

— Я што — камікадзэ?! Ты яго бачыла? Твар свеціцца румяным піражком. А жывот?! Ён важыць добра за сотню кг… Піць з ім, ды ён мяне ўложыць, як коціка! Я і мяўкнуць не паспею. Бутэлечка віна… Як жа… На два дні.

Павел разумеў, бутэлечкай іх сустрэча не абыдзецца і яму ніколі не парамагчы Нукзарчыка ў вінным спаборніцтве…

## 10

Звычайная паўсядзённасць курортнай раніцы парушылася незвычайнай з'явай: па горадзе імчалі і гудзелі клаксонамі машыны, завешаныя грузінскімі нацыянальнымі сцягамі. З мегафонаў гучна даносіліся раскацістыя прамовы і заклікі на грузінскай мове. Малады плячысты актывіст з трэніраванымі мускуламі, на якіх напіналіся кароткія рукавы спартыўнай белай майкі, высунуўся ў адкрытае акно аўтамабіля і, трымаючы дзвюма моцнымі рукамі дрэўка сцяга, шырокімі рухамі махаў ім над аўтамабілем. Грузінскі сцяг разгортваўся пад ветрам і трапятаў: белае палотнішча, раздзеленае на чатыры часткі крыжам чырвонага колеру, у кожнай частцы — па чырвоным крыжы.

Курортнікі запавольвалі хаду, спыняліся, праводзілі машыны цікаўнымі позіркамі і ішлі далей. Тое, што адбывалася на вуліцы ў гэты дзень, мала займала турыстаў. Апантаныя эгаізмам вырваных у працоўнага года двух-трох тыдняў адпачынку, яны цікавіліся выключна сонцам і морам, абмяркоўвалі экскурсіі ў крэпасць Гоніа і мост царыцы Тамары. Машыны гудзелі, клаксоны бібікалі, сцягі луналі ў іншым, не зразумелым ім некурортным жыцці горада Батумі.

Пасля паўдня па небе паплылі аблокі, спачатку падобныя да лёгкага дымка, светлыя, неакрэсленыя, скрозь іх свяцілася блакітнае бяздоннае неба. Аблокі паступова гусцелі, за імі насоўваліся цёмныя хмары, паглыналі рэшткі блакіту, уставалі высокімі шэрымі гурбамі, што набягалі адна на адну і зблытваліся клубамі. Выпадкова скрозь шчыліны ў хмарным покрыве прабіваўся на кароткі час сонечны прамень. Да вечара хмары злучыліся ў суцэльную густую нябесную шэрань і нізка навіслі над горадам. Запахла дажджом.

Пад густымі пагрозлівымі хмарамі на плошчу перад гатэлем «Рэдысан» з розных вуліц сцякаліся людскімі ручаінамі жыхары Батумі. Плошча запаўнялася руха-

вым натоўпам, раскіданым на купкі, напоўненым чаканнем. Паветра зараджалася гулам галасоў, з кожнай хвілінай людзей прыбывала і прыбывала. Плошча рыхтавалася да мітынгу.

Тым часам у кватэры на вуліцы Руставелі Павел наводзіў марафет: пагаліўся, апрануў святочныя светлыя элегантныя штаны і светлую сарочку. Стоячы ў пярэдняй перад люстрам, ён хукнуў на мужчынскую вузкую густазубую расчоску і прылізаў ёю чупрыну.

— Куды ты пойдзеш? — спрабавала спыніць мужа Надзя. — Дождж збіраецца.

— Намячаецца мітынг. Я павінен прыняць удзел, — агучыў грамадзянскую пазіцыю Павел.

— У турыста вечарам павінны намячацца рэстараны і кафэ.

— Няправільны адказ. У турыста павінна намячацца… усё! І мітынг таксама. Пайшлі са мной!

— Не-е-е. Я лепш тэлевізар пагляджу.

Павел, элегантны і адзінокі, без баявой сяброўкі накіраваўся ў гушчар грамадскага жыцця.

Да яго прыходу натоўп на плошчы стаў шчыльным і шматлюдным, людзі падпіхвалі тых, хто стаяў наперадзе, ціснуліся бліжэй да сцэны, да эпіцэнтру падзей. Палітычны мітынг быў у самым разгары. Прыладзіўшыся з краю сходa, сярод расцярушаных на дальніх подступах да трыбуны, тых, хто не імкнуўся ў першыя шэрагі, не надта палітычна актыўных грамадзян, Павел прыслухоўваўся да палымянай прамовы аратара, што выступаў са сцэны.

Часовая сцэна, накрытая дахам, уладкаваная напярэдадні мітынгу, стаяла далёка ў глыбіні людскога мора. З яе чуўся напорысты, эмацыйны голас. Выступоўца прамаўляў па-грузінску. Натоўп то моўчкі слухаў, то адгукаўся ўхвальным рокатам і воклічамі згоды, пачынаў нязладжана рухацца і хвалявацца, убіраючы ў сябе новых запозненых батумцаў, якія падыходзілі з суседніх вуліц. Павел абсалютна нічога не разумеў, але цярпліва і настойліва працягваў удзельнічаць у мітынгу, напаўняў-

ся мітынговымі жарсцямі ад прамоўцы. Мясцовыя жыхары беспамылкова вызначылі ў асобе Паўла турыста і, гледзячы на яго, прыязна, паблажліва пасміхаліся, зліцца з мітынгоўцамі і зажыць іх жарсцямі яму не ўдавалася. Павел круціў галавой, шукаў ля натоўпа непадкупных мясцовых паліцэйскіх. Людзей у форме ён не заўважыў. «Ціхарацца, — падумаў Павел. — Не можа такога быць, каб паліцыі ды не было на мітынгу. Стаяць дзе-небудзь, перапранутыя ў цывільнае, трэба паспрабаваць вызначыць іх па аднолькавых красоўках».

Пачаў накрапваць дождж. Невялікія рэдкія кроплі падалі на твар, Павел змахваў іх рукой, яны буйнелі і гусцелі, асобныя спрытна траплялі яму за каўнер святочнай сарочкі і казытліва расцякаліся па целе, — дождж набіраў моц.

Прамоўцы былі прыкрытыя дахам сцэны — шчаслівая магчымасць выйсці сухімі з вады, а народ апынуўся сам-насам са стыхіяй. Некаторыя пачалі збягаць з плошчы, але асноўны касцяк мітынгоўцаў трымаўся стойка і мужна, цярпліва падстаўляючы сябе пад дажджавыя кроплі. Сарочка на Паўлу пачала набрыньваць вільгаццю ад плячэй уніз па грудзях і спіне і непрыемна ліпла да цела. Намоклы як след, ён даўмеўся, што прыйшоў час уцякаць, палічыў справу ўдзелу ў мітынгу выкананай і пабег, гнаны струменямі вады, да бліжэйшай крамы, з надзеяй перачакаць там дождж.

У невялікай, цеснай прадуктовай краме, куды Павел імкліва заляцеў з вуліцы, было ціха і пуста. Дождж разагнаў пакупнікоў, яны сядзелі па кватэрах, не прагнучы скакаць па мокрых лужынах пад парасонам за батонам. Сіваваты, у гадах, але асаністы прадавец пералічваў у касе за прылаўкам грошы, сціплы заробак невялікай крамы. Воддаль, ля акна пры сцяне зручна для пакупнікоў стаялі нахіленыя, напалову запоўненыя скрыні з маладой бульбай і морквай, крыху далей — скрыні вялікіх чырванабокіх яблыкаў, сініх баклажанаў і барвовых памідораў. Астатнія тавары былі раскладзены за прылаўкам.

— Я — з мітынгу. Вымак наскрозь, — пачаў размову Павел.

— Так. Сёння мітынг праходзіць, — прадавец абвёў позіркам змоклага турыста-мітынгоўца, скончыў пералічваць грошы, паклаў іх у касу і штуршком закрыў яе.

— Шкада толькі, што нічога не зразумеў. Я ж грузінскай мовы не ведаю. Пра што яны там гаварылі? — разважаў сам з сабою Павел.

— Я магу вам расказаць, калі хочаце, — прадавец гаварыў упэўнена, з веданнем справы і з жаданнем прасвятліць.

— А Вы былі на мітынгу? — фармальна спытаў Павел, падтрымліваючы размову, перад ім стаяў сухі, без адзінай дажджавой кроплі на адзенні гаспадар крамы, відавочна, што мітынгу ён і не нюхаў, пільнаваў сваю краму.

— Навошта мне туды хадзіць? Я і так ведаю, што на плошчы адбывалася. Вось слухайце: там абяцалі росквіт эканомікі — раз! — прадавец загнуў мезінец на руцэ. — Высокі дабрабыт — два! — наступны палец прыціснуўся да папярэдняга, голас прадаўца зазвінеў інтанацыямі прамоўцы: — І шчасце ў кожны дом — тры! — спатрэбіўся трэці палец. — І так далей, — загнуў ён чацвёрты і пяты. — Прыблізна штосьці ў гэтым сэнсе.

— Як казаў таварыш Жырыноўскі: «Наша партыя гарантуе кожнай жанчыне па мужыку», — высунуў Павел лозунг на ўсе часы.

— А можна наадварот? — папрасіў прадавец перарабіць лозунг, прасвятлеўшы тварам.

— Можна, — дазволіў Павел. — Мы з вамі народзім новы лозунг: «Кожнаму мужыку — па жанчыне!»

Сіваваты прадавец шырока ўсміхнуўся, адкрыўшы роўныя, жоўтыя ад палення цыгарэт, зубы, новы лозунг яму яўна падабаўся.

Павел распытваў далей:

— Мітынг хто праводзіў? Улада ці апазіцыя? — дакапваўся ён да палітычнага раскладу.

— Якая розніца? Абяцаюць усе адно і тое ж, — разважаў прадавец.

— А як жа надзея на лепшае жыццё? — пацікавіўся Павел.

— Хто? Яны мне лепшае жыццё забяспечаць?! Што сам зарабіў, тое і маё! — падзяліўся прадавец жыццёвым вопытам і глыбокім веданнем палітыкі і эканомікі.

Дождж сцішыўся. Павел прыадчыніў дзверы крамы, высунуў разгорнутую далонь на вуліцу, падстаўляючы яе пад дажджавыя кроплі, якія рэдка падалі з неба.

— Пайду я, пакуль дажджу няма. Да пабачэння. Нахвамдзіс, — па-грузінку развітаўся з прадаўцом Павел і выйшаў на вуліцу.

Здалёк ён убачыў, што мітынг яшчэ не скончыўся, народ не пакідаў плошчы, мітынгаваў, прагнучы пераўтварэнняў і змен да лепшага. Хтосьці робіць пераўтварэнні, а хтосьці — свой маленькі бізнес у краме, у кожнага свая праўда і філасофія жыцця. Подбегам, хлюпаючы нагамі па мокрым асфальце, Павел пашыбаваў на кватэру ў бок вуліцы Руставелі…

## 11

Надзя стаяла на вузкай старажытнай батумскай вуліцы, падпіраючы спіной вугал дома ў тры паверхі, з шыкоўнай ляпнінай на фасадзе, з чыгуннымі завіткамі пад парэнчамі балконаў і светлай фарбай на адрамантаваных сценах. Стары Батумі. Падноўлены, з брукаванымі вуліцамі. Дзень выдаўся спякотны. Духата не адпускала нават у ценю. Надзя чакала мужа. Сёння яны па рэкамендацыі весялуна і жартаўніка Нукзарчыка выправіліся ва Урэкі, знакамітае месца з чорнымі лячэбнымі магнітнымі пяскамі на пляжы. Калі ішлі да маршруткі праз стары квартал, Павел раптам згадаў, што забыўся ў кватэры грошы. Акуратна склаў іх у кішэню шортаў, а пасля чамусьці

ўсцягнуў на сябе кароткія штаны-брыджы і пакіраваў, задаволены, на прыпынак, шорты з грашыма засталіся ляжаць на стуле. Па дарозе Павел дапяў, што нешта не тое робіцца, палез ён у кішэню і высветліў поўную фінансавую пустэчу. Давялося вяртацца назад па грошы. Надзя з заплечнікам засталася чакаць яго на вуліцы ў ценю дома. Апранутая яна была па-паходнаму ў любімыя джынсавыя шорты і майку з закрытай спіной і рукавамі да локця, каб не абгарэлі на сонцы плечы. Мінула хвілін пятнадцаць, чакаць было маркотна, Надзя разглядала фасады дамоў, занураючыся ў дробныя дэталі. Па тратуары сноўдалі размораныя спякотай мінакі. Зусім блізка ля Надзі ўзнік мужчына, запаволіў крок, зачапіў яе непрыемным жорсткім позіркам, незадаволена шарганўў вачамі па кароткіх шортах і рушыў далей. Надзя інстынктыўна пацягнула ўніз па голых нагах калашыны, спрабуючы іх падоўжыць. Безвынікова. Шорты засталіся ў сваіх межах. Нейкая сіла падштурхнула яе глянуць услед незнаёмцу. Мужчына таксама азірнуўся. Позіркі стукнуліся адзін аб адзін. Незнаёмец развярнуўся і, начапіўшы на вузкі, худы твар штучную ветлівасць, нетаропка пайшоў назад да Надзі. Падзеі адбываліся імгненна, знянацку. Можа, мужчына хацеў што спытаць?

— Мы турысты прыехалі да вас адпачываць, — сказала Надзя, калі ён наблізіўся.

Хоць гэта і так было відно па яе паходным выглядзе, але яна хацела давесці, што не мясцовая, ахопленая падсвядомай насцярогай да незнаёмца. Словам «мы» падкрэслівала, што яна не адна, і шкадавала, што мужа няма побач. Мужчына прапусціў Надзіны словы міма вушэй і моўчкі з прыкра саладжавай мінай працягнуў ёй руку для поціску. Надзя марудзіла, рукі не падавала. Нешта стрымлівала яе: незнаёмы мужчына, чужы горад. «Можа, у іх прынята вітацца з жанчынамі за руку? Асаблівасці мясцовага этыкету? — падумала Надзя. — Зараз незнаёмец спытае, адкуль мы прыехалі, і пачне ўспамінаць пра жыццё ў Савецкім Саюзе, а там і муж падыдзе».

Надзя няўпэўнена працягнула для поціску сваю руку да мужчынскай рукі, якая завісла ў паветры, адчула ватнасць яго млявай слабой далоні, што не ведала грубай мужчынскай працы.

— Мы — турысты, — гучней паўтарыла Надзя, падкрэсліваючы слова «мы», яе ахапіла адчуванне, што нешта ідзе не так з гэтым поціскам рукі.

— Я тоже турист. Я приехал из Турции, — на чысцюткай рускай мове, без акцэнта сказаў незнаёмец усё з той жа саладжавай мінай, якая нацягнутай маскай застыла на твары, і толькі вочы былі праўдзівымі, іх позірк колкімі іголкамі ўторкваўся ў Надзю.

— Турак?!

Надзя ірванула руку назад, яна лёгка выслізнула з млявай потнай далоні, рука незнаёмца зноў завісла ў паветры. Надзя перабегла на другі бок вуліцы і толькі там адчула палёгку. З каменным тварам яна пачала шукаць вачамі мужа. Унутры варушылася і смактала пад лыжачкай непрыемнае ліпкае пачуццё, што незнаёмец ставіўся да яе з непрыхільнасцю. Ды яшчэ хлусня: я турыст з Турцыі. Навошта хлусіць? Відаць жа, што мясцовы.

Незадаволены, мужчына пэўны час пастаяў на месцы, не даючы веры, што так выйшла. У яго былі іншыя, мудрагелістыя планы. Апусціўшы галаву і ссутуліўшы плечы, ён яшчэ больш змізарнеў, прыхаваная нахабнасць ператварылася ў разгубленую злосць. Нарэшце, ён развярнуўся і пайшоў, паступова паскараючы хаду.

Надзя імкнулася ў супрацьлеглы бок, насустрач мужу, толькі калі адышла досыць далёка ад месца непрыемнай сустрэчы, азірнулася ўслед незнаёмцу, удалечыні яна ўбачыла мінарэт мячэці.

Літаральна праз некалькі хвілін з'явіўся Павел, вясёлы, у гуморы, грошы былі пры ім. Галоўнае для турыста — наяўнасць фінансаў. Надзя мужу нічога не расказала пра здарэнне. Не хапала ад яго выслухаць натацыю пра тое, што яе няма як пакінуць адну, бо яна абавязкова куды-небудзь уляпаецца і што высокая куль-

тура, усмешкі, поціскі рук — гэта добра, але не зашкодзіла б прытрымлівацца цвярозага сэнсу і паводзіць сябе абачліва. Яшчэ пачне злавацца і выглядаць турка, каб спытаць, што той хацеў ад яго жонкі. Яно ёй трэба? Надзя пяшчотна папрасіла мужа пайсці на маршрутку ўздоўж мора, напляла пра свежае паветра і марскі ветрык, хацела абмінуць вуліцу, дзе адбылася непрыемная сустрэча. Трымала мужа пад руку, ператварыўшыся на кароткі час ва ўзорна-паказальную жонку, ласкавую і сціплую.

Узяўшыся пад ручкі, яны пайшлі на набярэжную і літаральна праз некалькі сотняў метраў апынуліся на шумнай вуліцы Пушкіна, якая брала свой пачатак ад узбярэжжа, тут перасякаліся галоўныя магістралі, размяшчаўся прыпынак транспарта і вялікі ўніверсам. Навокал панавалі шум і гармідар. Машыны і людзі бязладна сноўдалі па праезнай частцы: адны — уздоўж, другія — упоперак. Тут, як нідзе ў іншым месцы кіпела жыццё вялікага горада. Праскочыўшы шырокую вуліцу кароткімі перабежкамі паміж аўтамабілямі, Павел і Надзя дабраліся да прыпынку маршруткі. Маршрутнае таксі доўга чакаць не давялося, яно з’явілася даволі хутка, лёгка падхапіла ва ўтульны салон новых пасажыраў і пакаціла на Урэкі. На выездзе з Батумі дарогу шчыльна запоўніў транспарт: аўтобусы, грузавыя і легкавыя аўтамабілі віхлялі адзін перад адным, імкнучыся хутчэй вырвацца з горада на прастор. Злева ад дарогі бразгаў і гудзеў порт: высачэзныя пад’ёмныя краны, магутныя караблі, неверагоднай вышыні груды гнутага, сплюснутага металічнага лому, ляскат, шум, — невядомая турыстам праца партовага горада.

Порт адплываў назад, і ў салоне стала ціха, чуўся нягучны гул рухавіка, а ўдалечыні віднелася мора, што зіхацела сінню хваляў да самага гарызонта. Маршрутка каціла па дарозе, час ад часу робячы прыпынкі для абмену пасажырамі: выйшлі, зайшлі. Перад вачамі мільгалі невялікія паселішчы, шэрыя, зацягнутыя ў кола паўсядзённасці, не падобныя да курортнага феерычнага Батумі,

трапляліся закінутыя дамы, калісьці дыхтоўныя, збудаваныя на стагоддзі, а цяпер самотныя і пустыя.

Праз шкло вакна Надзя ўбачыла царкву. Можа, і не звярнула б на яе пільнай увагі, але ў маршрутцы пачалося ўзрушэнне. Пасажыры, гледзячы на царкву, асэнсавана і шчыра хрысціліся. Мясцовыя жанчыны, пераважна апранутыя ў адзенне чорнага колеру, няшумныя і стрыманыя, спакойнай рукой абводзілі сябе крыжом. Мужчына перахрысціўся размашыста. Побач з ім, трымаючыся за пасажырскае сядзенне, стаяў малады хлопец. З-пад расшпіленага каўняра яго сарочкі блішчэў важкі пляскаты залаты ланцужок з аб'ёмістым, з акруглымі вітымі канцамі крыжыкам. Крыжык коса запаў пад крысо сарочкі, і хлопец рукой падраўняў яго на грудзях. Надзі, якая жыла ў мясцовасці, спрэс акружанай хрысціянскімі дзяржавамі, дзе людзі праяўляюць сваю хрысціянскую прыналежнасць толькі пераступіўшы парог царквы, нязвыкла было бачыць у паўсядзённасці свядомае верніцтва. Тут жа, у Грузіі, на мяжы з ісламскім светам хрысціянская вера глыбокая, ярка акрэсленая — да Турцыі якіх дваццаць кіламетраў. Надзя прыгадала, што ў Ніно ў кватэры былі расстаўлены іконы: большыя, у дарагіх акладах зберагаліся за шклом серванта ў зале, а ў пярэдняй мініяцюрныя, у аднолькавых простых рамках віселі, прымацаваныя на сцяне.

Царкву прамінулі. Абстаноўка ў маршрутцы зноў стала звыклай. І зноў дарога, сустрэчныя аўтамабілі, цішыня, якая закалыхвала.

Да Урэкі дабраліся даволі хутка. Кіроўца высадзіў турыстаў на прыпынку ля сучаснага, арыгінальнай архітэктуры гатэля, аздобленага высокай шкляной устаўкай па фасадзе, і для Сташэўскіх пачалося знаёмства з новымі мясцінамі.

— Гэта цэнтральны ўваход на пляж? — засумнявалася Надзя.

Галоўны ўваход на пляж мястэчка Урэкі ўяўляў сабой выбітую дарогу, якая слёзна прасіла рамонту. Урачыста

выйсці да мора не атрымалася. Распешчаным шыкоўнымі батумскімі прыбярэжнымі зонамі турыстам давялося сціпленька дабірацца да магнітных пяскоў Урэкі па калдобінах. Шэра-пясчаны бераг роўным мяккім покрывам рассцілаўся ля мора. Некалі на гэтым месцы было балота, яго асушылі і знайшлі карысныя, лячэбныя пяскі. Дробныя шурпатыя пясчынкі дакучліва забіваліся ў Надзіны шлёпкі, ліплі між пальцаў. Яна зняла абутак, выкалаціла яго і босымі нагамі пайшла па пляжы, выглядаючы сабе месца. Павел з дапытлівасцю азіраўся па баках. Асобныя прадстаўнікі чалавечага племені былі поўнасцю ўкачаныя ў чорна-попельны магнітны пясок і вылучаліся замазанымі па самыя валасы і вушы тварамі-маскамі, на якіх блішчэлі бялкамі вочы. Лячэнне ішло па поўнай праграме. Дробныя пясчынкі шчыльна абляпілі целы грамадзян і выглядалі велюравым пакрыццём на скуры. «Велюравыя» людзі ляжалі пад пякучымі промнямі сонца, якое, на іх думку, павінна было ўвагнаць сваім жарам лячэбны эфект у цела.

— Ні чорта сабе! Паглядзі, як у пясок людзі ўкачаліся! — адарваў Павел жонку ад пошукаў найлепшага месца пад сонцам.

— Дзе?

— А вунь, паглядзі!

Надзя прыгледзелася і ўбачыла распластаныя, абмазаныя чорна-попельным пяском целы з раскінутымі рукамі.

— І што далей? — спытала яна мужа

— Я таксама ўкачаюся.

— Ах, вось яно што! А я думаю, з якой нагоды ты такі радасны? І чаму мужчыны хочуць абавязкова куды-небудзь «укачацца»? Укачайся, укачайся. У пясочак яно лепш, чым у чачу.

Надзя разаслала рушнік і пачала распранацца. Павел нецярпліва сцягнуў з сябе кароткія штаны-брыджы, майку, кінуў адзенне камяком і энергічна пабег насустрач хвалям, каб спачатку акунуцца, а пасля ўкачацца.

Мора паблізу ўзбярэжжа адлівала шэрасцю. Хвалі падхоплівалі з берага пясок і змешвалі яго з марской вадой у цёплую каламуць. Надзя купацца не спяшалася, нацешылася заплывамі ў Батумі, стала павольная ды меланхалічная, нікуды тое мора не дзенецца. Яна пачала ўладкоўвацца на разасланым рушніку, цудоўна было апынуцца на мяккім пяску, што рассыпаўся дробнымі крупінкамі пад махровай тканінай рушніка. Пасля пластыкавых шэзлонгаў, на якіх давялося загараць у Батумі, пясок Урэкі здаваўся пухнатай пасцеллю. Надзя заплюшчыла вочы, цёплая асалода разлілася па целе, аднекуль збоку да яе даляталі манатонныя знаёмыя словы.

— Цхелі… сіміндзі... хачапуры…

Словы пачалі аддаляцца і заціхаць. На мяккай пясчанай пасцелі пад размераны шум мора Надзю агарнуў сон, кароткі сон, які імгненна прыходзіць і гэтак жа імгненна знікае. Мроіліся дамы, пальмы, рознакаляровыя каменьчыкі на пляжы, сюжэты зліваліся ў бязладныя перарывістыя ланцужкі. Калі Надзя прахапілася ад сну, Павел ужо сядзеў побач.

— Выспалася? — ласкава прамуркатаў ён, прысунуўшыся бліжэй да Надзі вільготным целам, поўнасцю ўкачанным у магнітную шэрасць.

На абсыпаным пяском мокрым твары вусны Паўла зрабіліся сакавіта-ружовымі, а зубы — выразна белымі.

Надзя прыўзнялася на локцях, яе позірк раптам захрас, як прышпілены, у адметнай пляжнай карціне: непадалёк на рушніку тварам уніз ляжала маладая рослая ладна скроенная жанчына, прадстаўніца славянскай нацыянальнасці, штучна забландзіненая. Яна ляжала на жываце, выцягнуўшы ўздоўж цела рукі, у паўдрымоце, з заплюшчанымі вачамі, галава яе, з прыплюснутай, уціснутай у рушнік шчакой была павернута да Надзі. Усё выглядала б звычайным у той жанчыне, калі б не адна акалічнасць: на целе кабеты незаўважна размяшчаўся мікраскапічны купальнік з трусікамі-стрынгамі. І гэта

быў фурор! Два аб'ёмістых загарэлых батоны філейнай часткі цела канчаткова праглынулі вузенькую палоску стрынгаў і песціліся пад пякучым сонцам у сваёй магутнай прыгажосці. Раней гэтай жанчыны тут не было бачна, яна прыйшла, пакуль Надзя спала. «Прынесла нялёгкая», — падумала Надзя і зірнула на ўкачанага ў магнітны пясок задаволенага мужа.

— Ціві ка-а-ва, ко-о-ла (халодная кава, кола)! — пачуўся зазыўны голас пляжнага прадаўца. Малады чалавек прапаноўваў каву і колу, ён набліжаўся, рухаўся размерана-стомлена, гэтак жа млява паўтараў па-грузінску: — Ціві кава, кола… кава, кола… Ціві ка…, — голас яго перарваўся на паўслове.

Прадавец стаў, як укапаны, ля дамы ў стрынгах, змоўк, мабыць, анямеў, але праз колькі секунд голас да яго вярнуўся.

— Прахладзіцельныя напіткі! — абалдзела выціснуў ён з сябе па-руску.

Надзя пырснула смехам. Павел не зразумеў, у чым справа.

— Чаму ты смяешся? — выпытваў ён у Надзі.

— Ды нічога. Усё нармальна… Так, анекдот успомніла, — ухілілася Надзя ад тлумачэнняў, яна не мела жадання рэкламаваць мужу даму ў стрынгах, хопіць, што ад яе вабнотаў ужо аслупянеў гандляр кавай.

Малады чалавек крыху пастаяў і для пэўнасці, пацішэлым голасам паўтарыў:

— Прахладзіцельныя напіткі.

Дама не зварухнулася. Патаптаўшыся на месцы, прадавец пераадолеў-такі хваляванне і рушыў далей.

— Кава… кола… Ціві кава...

У вадзе плёскаліся і пішчалі тонкімі галасамі малыя дзеці, якіх тут купалася безліч. Пакаты пясчаны бераг найлепейшым чынам падыходзіў для іх, атмасфера пляжа Урэкі нагадвала дзіцячы садок, зладжаны на беразе мора. Малеча смяялася і плакала ўперамежку, некаторыя плакалі таму, што іх заносілі ў мора, а іншыя наадва-

рот — раўлі і вішчэлі, упіраліся, бо не хацелі вылазіць з вады. Паўсюль стаяў дзіцячы вэрхал.

— Цхелі, сіміндзі! Цхелі, сіміндзі!

Падышоў прадавец варанай кукурузы. Надзя ўзяла грошы з кішэні мужавых брыджаў і паклікала яго да сябе. Зусім маладзенькі грузінскі хлопец, амаль падлетак, выцягнуў з пакунка жоўтую кукурузіну і пасыпаў яе соллю. Павел, звёўшы локці пад спіну, уваткнуўся імі ў рыхлы пясок, прыўзняў цела і, скасавурыўшы вока, пільна вывучаў падлетка. Хлопец перадаў сакавіты кукурузны пачатак Надзі, забраў грошы і збіраўся сысці.

— Чаму ў цябе такія светлыя валасы? — нечакана пацікавіўся ў хлопца Павел, уважліва гледзячы на яго пышную хвалістую шавялюру.

— У кагосьці светлыя, у кагосьці цёмныя, нічога дзіўнага. Ты б яшчэ спытаў, чаму у яго такія белыя зубы, як у казцы пра чырвоную шапачку, — падчапіла мужа Надзя, яна не зразумела глыбінны сэнс пытання.

— Яно так, але ж у грузін звычайна цёмныя валасы, — задуменна разважаў Павел.

Надзя зноў зірнула на хлопца. Сапраўды, у яго былі грузінскія рысы твару і густыя, нібы выбеленыя, амаль саламяныя валасы, якія заўважна падвіваліся, а па бледнай скуры шчок юнака рассыпаліся дробныя кранальныя рабацінкі, яны збягаліся, гусцелі на вузкім носе.

— У маёй мамы светлыя валасы, — насуплена буркнуў хлопец, ён пачуваўся ніякавата, дапытлівасць Паўла яго бянтэжыла.

— Ясна. А я думаў, гэта сучасная моладзевая мода.

Сарамлівы падлетак падхапіў у руку цяжкую сумку з кукурузай і пашыбаваў далей, паўтараючы, як мантру: «Цхелі, сіміндзі… Цхелі, сіміндзі…»

— Паглядзі, славянская мама падарыла яму светла-русую шавялюру, проста дзіўна. Звычайна чорныя сілы… у сэнсе, гены перамагаюць, — падзяліўся веданнем генетыкі Павел і, правёўшы хлопца позіркам, спрытна перавярнуўся на жывот, падклаў адну руку пад падба-

родак, другой пагладзіў пясок і зрабіў выснову: — Яму трэба фарбаваць валасы ў чорны колер.

— З якога гэта перапуду? — фыркнула Надзя.

— Каб быць, як усе. У нас жа модна быць, як усе, гэта называецца «быць у трэндзе», — прадоўжыў Павел, дражнячы жонку, яго далонь набірала цёплы пясок, заціскала між пальцаў і вузкім лятучым струменчыкам высыпала назад.

— Ды не трындзеў бы ты. «Быць у трэндзе»… А ён не будзе, як усе. Ён будзе прыгажэйшы за ўсіх, — адстойвала Надзя права хлопца на індывідуальнасць.

«Разгаварыўся. Каб заўважыў жанчыну-стрынгістку, то маўчаў бы, як партызан, быцам бы не ў курсе дзела і не бачыў цела», — падумала Надзя, захінаючы від на стрынгістку сваімі вузкімі плячамі, і зацвікавала магнітна-попельнага мужа позіркам.

— Хачапуры! Хачапуры!

Па пляжы, цяжка ступаючы, ішла стомленая, са згаслым позіркам бабуля і цягнула за руку жвавага хлопчыка гадоў пяці. Пальцы дзіцячай рукі схаваліся ў старэчай далоні, апушчанай на складкі доўгай чорнай спадніцы, шырокі падол разгойдваўся пад павевам ветру і мяккім крылом дакранаўся да ўнука. Старая звыкла ішла наперад, выцягваючы ногі з пяску, сплюндраванага нагамі турыстаў, у адной руцэ яна трымала пакунак з хачапуры, у другой — унука. Бабуля прадавала хачапуры, трэба падзарабіць за сезон капейчыну ў дадатак да мізэрнай пенсіі. Дзіця пакорліва крочыла побач з ёй, старанна перабірала маленькімі ступнямі па густым цёмным пяску: лета ў бабулі на моры.

З высокага блакітнага неба свяціў яркі, асляпляльны дыск сонца. Пастаяўшы ў зеніце, ён перакрочыў у другую палову дня, зрэдку яго прыкрывалі белыя бавАўняныя аблокі, цень паласой рухаўся па пляжы, а па краях аблокаў зіхацелі сонечныя водбліскі. Сонца павольна, нібы без ахвоты выплывала з воблачнай ваты, цень адбягаў і праз некаторы час знікаў зусім. Пасля паўдня мацней

прыпякло. Людзі пачалі сыходзіць з пляжа. Надзя з Паўлам сабралі рэчы і пайшлі шукаць прахалоду ў засені дрэў. Хутка яны выбраліся на цяністую вуліцу, забудаваную новымі невялікімі, у тры-чатыры паверхі прыватнымі гатэлямі.

Пасёлак Урэкі аднаўляўся і адбудоўваўся. Гатэлі на любы густ, дыхтоўныя, прывабныя, розныя па стылі і форме спаборнічалі між сабой адметнасцю, а іх фасады — яскравацю колераў. Акуратныя ўпарадкаваныя дворыкі ля гатэляў, даведзеныя да ладу гаспадарскай стараннасцю, дыхалі ўтульнасцю, а над стрыжанай травой па смарагдавым газоне ў разнастайных зігзагах сцяліліся нізкія фігурна высаджаныя клумбы з рознакаляровым россыпам кветак. Паўсюль уздоўж вуліцы раслі высокія сосны. Іх доўгія гнутыя камлі, сіратліва голыя знізу, уздымалі пад вершаліну колкія кудлатыя галіны. Разагрэтае паветра напаўняла сасновам водарам, змешаным з пахам мора, размераную, крыху сонную атмасферу невялікага курортнага пасёлка.

Павел з Надзяй прыселі ў адкрытым кафэ за крайні столік, непадалёк ад якога расла незвычайная па форме і афарбоўцы прысадзістая шыракалістая расліна, прыгожа акрэсленая жоўтым абадком па краі ліста, з тых, што сустракаюцца толькі ў паўднёвых краінах. Цень даху прыкрываў столік ад сонца і рассцілаўся далей, захопліваючы палову лапушыстай расліны і робячы яе двухколерай. Кафэ прадзімалася свежым лагодным марскім ветрам. Пасля праменаду ў турыстаў разгарэўся воўчы апетыт. Надзя вырашыла стрымліваць сябе ў ежы, таму замовіла… мясную салату з маянэзам, талерку супа харчо, адбіўную з бульбай і каву. Ад мучнога яна дэманстратыўна адмовілася, бо здоба садзейнічае паўнаце. Салодкая булачка была каларыйнай дробяззю пасля такога шчодрага абеда, але Надзя ганарылася, што выстаяла супраць булачкі.

Апетытна запахла прынесенымі афіцыянтам свежапрыгатаванымі стравамі і грузінскімі спецыямі, пасярод

стала з'явілася невялікая піяла з густым цёмна-барвовым ткемалевым соусам хатняга прыгатавання. У руках Сташэўскіх, ляскаючы па фарфоры талерак, запрацавалі відэльцы і нажы. Край папяровай сурвэткі, прыціснуты талерачным дном, уздымаўся белым ветразем пад подыхам ветру. Абед праходзіў у нязмушанай атмасферы пры ветлівым абслугоўванні афіцыянта, усмешлівага сына гаспадара кафэ, вучня старшых класаў грузінскай школы. Рускую мову ён разумеў, але складаць рускія словы ў сказы ў яго атрымлівалася не вельмі ўдала. Так-сяк паразумеліся.

Паабедалі. Надзя дапівала духмяную каву з маленькага крохкага кубка, далікатна трымала яго трыма пальцамі, адстаўляючы мезінец, — культуру пальцам не расціснеш. Перад яе вачамі з вясёлым сакатаннем па вуліцы прамільгнула кампанія жанчын-славянак. Скрозь празрыстыя апахалы, завязаныя то над іх грудзямі, то над клубамі, прасвечваліся купальныя трусы — цудоўная жаночая непасрэднасць. «Адкуль яны гэтых хустак панабіралі? У любым канцы свету на любым пляжы абавязкова выцягнуць на свет хусткі-апахалы і абматаюць імі свае цялёсы. Дрэс-код у іх такі ўсходнеславянскі, ці што?» — правяла позіркам Надзя каляжанак па славянскай нацыянальнасці.

— Жыць — хораша, а жыць хораша — яшчэ лепш! — адзначыў Павел. Пасля сытнага абеду жыццё напоўнілася асаблівым хараством, і Паўлу захацелася паразважаць на кулінарныя тэмы: — асабіста мне прыносіць задавальненне ў Грузіі нармальная ежа. Няма тут сушы з сырой рыбы. У нас цяпер у Мінску квітнее мода на японскія сушы. «А Вам падабаюцца сушы?.. Як?! Вы не любіце сушы?! А я вельмі люблю сушы!» — толькі і чуваць, — Павел адпіў глыток вады «Баржомі» з нізкага шырокага стакана.

— Нешта мне не верыцца, што любяць яны сушы, сядзяць у рэстаранах і дзеля паказушнасці душацца імі, запіхваюць у сябе рулецікі з дарункамі мора, а дома, як

прыйдуць, навернуць смажанага мяса з бульбай, каб заесці «непаўторны смак» сырой рыбы, — млява прамовіла Надзя, яна адарвала позірк ад празрыстых апахалаў на пышнацелых славянках і, зірнуўшы ў крохкі кубак з-пад выпітай кавы, пачала яго нахіляць у розныя бакі, гуляючы гушчай на дне, пасля паставіла на стол. — Каб любіць сушы, трэба нарадзіцца ў Японіі. А пра нашых так званых аматараў сушы мінчукоў уся праўда высвятляецца ў «Лідо». Я там, здараецца, абедаю, дык ля чана з халадніком не прапіхнуцца, завіхаюцца адзін перад адным з міскамі, толькі і наліваюць халаднічок чарпакамі. І бульба ідзе за мілую душу ў любым выглядзе: вараная, печаная, ператвораная ў дранікі і пюрэ. Якія сушы, пра што ты кажаш?

— Нашы людзі любяць прыкідвацца аматарамі замежнага, то захапляліся ўсім еўрапейскім, цяпер за Японію ўзяліся, гатовы нават сырой рыбай харчавацца, — засмяяўся Павел. — А я вось, калі паесці, то выбіраю Грузію, мяне смак шашлыка і хачапуры нашмат больш прываблівае.

Сташэўскія бавілі час за сталом у кафэ, абмяркоўвалі розныя тэмы.

Бесклапотны дзень няўмольна хіліўся да вечара, прыйшла пара вяртацца ў Батумі. А чацвёртай гадзіне пасля паўдня Павел і Надзя накіраваліся да цэнтральнага ўвахода на пляж, куды іх раніцай прывезла маршрутка, каб дачакацца транспарта для зваротнага шляху. На прыпынку яны з’явіліся загадзя, маршрутнае таксі павінна было прыехаць праз дзесяць хвілін. Лаўкі, каб прысесці паблізу, неназіралася, і яны тапталіся на месцы, пераступаючы з нагі на нагу. Потым Надзя прыладзілася на цяжкі чыгунны ланцуг, што грузна замацаваўся між слупамі агароджы. На нізкіх слупах ланцуг, счэплены з тоўстых, моцных звёнаў, правісаў, і сядзець на ім было нязручна. Пагайдаўшыся колькі хвілін на гушкалцы з ланцуга, Надзя ўстала і зноў пачала таптацца, праходжвацца ля прыпынку.

На другім баку дарогі стаяў мужчына, відаць, некага чакаў. Час ад часу ён кідаў з-пад нізкіх чорных броваў,

што зрасліся на пераноссі, позіркі ў бок Надзі з Паўлам, але не падыходзіў і размовы не пачынаў.

Дзесяць хвілін прамінулі ў цягучым чаканні. Маршрутка не з'яўлялася.

— Паша, трэба ў таго грузіна спытаць, ці тут насамрэч знаходзіцца прыпынак, можа, мы што пераблыталі? Будзем пасля пешшу да трасы джагаць, — устрывожана і нервова прамовіла Надзя, якая згадала маршкідок пасля прагулкі па батанічным садзе.

— Давай спытаем, — згадзіўся Павел.

Мужчына заўважыў, што турысты накіроўваюцца да яго, і з гатоўнасцю чакаў іх.

— Скажыце, калі ласка, а маршрутка сюды прыбудзе? — пачаў Павел размову, параўняўшыся з мужчынам. — Нешта яна не прыехала. Можа, мы пераблыталі прыпынак?

— Усё правільна, не хвалюйцеся, прыпынак тут, — бадзёра пацвердзіў мужчына.

— Дзіўна неяк. Час прыбыцця ўжо прайшоў, а маршруткі няма. Можа, зламалася? — памеркаваў Павел.

— Хто вам сказаў, што яна павінна па раскладзе прыехаць?

— Мы самі так падумалі, — уставіла Надзя важным тонам. — Гэта ж натуральна. Ёсць расклад руху.

— А-а-а! Вы самі падумалі, — засмяяўся мужчына, адно брыво над яго вокам весела прыўзнялася ўверх. — Тады зразумела.

Надзя спалохалася:

— Можа, яна раней паехала?! Што нам цяпер рабіць?

Мужчыну відавочна забаўлялі наіўныя турысты.

— Ды не хвалюйцеся вы, — суцешыў ён Надзю, якая пачала панікаваць. — Пазней прыедзе. Кіроўца пакуль поўную загрузку на канцавым прыпынку не зробіць, тут не з'явіцца. Не будзе ён паражняком маршрутку ганяць, яму ж зарабіць трэба. Чым большая загрузка, тым больш заробак, камерцыя, — апавядаў мужчына нервовым турыстам.

— Ах, вось у чым справа! Расклад руху, выходзіць, рэч прыблізная, так бы мовіць, маршрутка прыедзе ў другой палове дня, бліжэй да вечара пры ўмове добрага надвор'я і поўнай загрузкі, — весяліўся Павел. — А калі загрузкі не будзе, нам тут начаваць?

— Загрузка будзе, — запэўніў мужчына.

Надзя неяк адразу перастала хваляваціца.

— Ужо не бяды. І за гэта — дзякуй. Я хоць супакоілася, — прамовіла яна з палёгкай. — А то ведаеце, мы дома прывыклі, што міжгароднія маршруткі па раскладзе ходзяць. Калі якая затрымка на пяць ці дзесяць хвілін, у мяне паніка пачынаецца.

— А адкуль вы прыехалі? — з-пад нізкіх броваў мужчына ўважліва разглядаў турыстаў.

Яму ад самага пачатку карцела пра гэта спытаць, яшчэ пакуль Сташэўскія швэндаліся на супрацьлеглым баку і Надзя гушкалася на ланцугах.

— Адгадайце, — завяла сваю любімую пласцінку Надзя. — Але адразу папярэджваю, мы — не з Малдавіі.

— Пры чым тут Малдавія? — недаўменна зірнуў чарнабровы на Надзю.

— Вось і я кажу: Малдавія тут ні пры чым, да Малдавіі мы не маем ніякага дачыненя, нават няма ў нас з ёй агульных межаў. Я проста на ўсякі вападак папярэджваю. А то нас мясцовыя да Малдавіі прыпісваюць, я пачынаю думаць, што ў мяне няправільнае грамадзянства, — ёрнічала Надзя і падахвочвала мужчыну да гульні «адгадай загадку». — Адгадвайце!

Мужчына не спяшаўся, разглядаў Паўла і Надзю хутчэй дзеля прыліку, здавалася, што ён даўно для сябе ўсё вырашыў на іх конт, проста цягнуў час.

— Адгадвайце, адгадвайце, — прыспешвала Надзя.

— Беларусія! — падвысіўшы голас, радасна выгукнуў мужчына без ценю сумневу.

— О! — Павел напоўніўся захапленнем. — Трэба ж такое выдаць. З першага разу! Вы атрымліваеце прыз, Вы пераможца, Вы адзіны адгадалі з першага разу! — спяваў

Павел дыфірамбы чуламу і пранікнёнаму грузіну, які тонка ўлоўлівае нюансы ў адрозненнях славянскіх народаў.

— А што мне адгадваць. Я беларусаў, як аблу… — мужчына на секунду запнуўся, хацеў сказаць, як аблупленых, але перадумаў, палічыў гэта выказванне занадта саманадзейным і перайшоў на культурна-нейтральнае:

— Я беларусаў вельмі добра ведаю, давялося ў вас некалькі разоў пабываць. Да ўсяго я ў Беларусі два гады ў арміі служыў, — тут на яго накаціла хваля ўзбуджэння, заблішчэлі вочы і паняcліся ўспаміны пра маладыя гады і свавольствы.

— У мяне і сябра быў беларус. Валера. Мы з ім… самаволка там, дзяўчаты… чаго толькі не было! А потым разам на дэмбель пайшлі. Я пасля арміі ў госці да яго заяджаў, два тыдні прагасцяваў. Гульну-у-улі!

Мужчына гаварыў з юнацкім запалам, памаладзеў на …наццаць гадоў. Самаволка, дзяўчаты, дэмбель!

— Клімавічы. Ведаеце такі гарадок? — з сумневам спытаў ён у Надзі з Паўлам пра беларускі горад, адкуль родам быў яго армейскі сябра Валера, гарадок невялікі, можа, і не ведаюць яго людзі.

— Канечне, ведаем! Клімавіцкі віна-гарэлачны завод, — не затрымаўся з адказам Павел.

— Маладзец! — пахваліла Надзя алкагольную эрудыцыю мужа. — Каму што, а галоднаму — хлеба.

— Ды я так, проста сказаў. Чаго ты?.. — апраўдваўся Павел.

Мужчына з разуменнем усміхаўся краем вуснаў, гледзячы на перапалку мужа з жонкай, а потым глыбока ўздыхнуў і з тугой па страчанай маладосці, якую не вернеш, набраўшы поўныя грудзі гарачага паветра, выдыхнуў:

— Э-эх! Я б зараз да Валеры ў госці з’ездзіў… Ды дзе там. Вы ведаеце, колькі білеты на самалёт каштуюць?!

— Нам ды не ведаць, — падтрымаў Павел абурэнне цэнамі пералётаў паміж Беларуссю і Грузіяй. — Нядаўна ж прыляцелі. Туды-сюды злётаць — трыста шэсцьдзесят долараў на чалавека!

Гаворка паміж двума мужчынамі не змаўкала, яны хутка намацалі супольныя тэмы і размова іх захапіла. А на вуліцы прыпякала. Надзя паправіла на галаве сваю шапку-«немку», пацягнуўшы брылёк ніжэй, прыкрыла нос ад сонца і накінула рушнік на шыю. Невялічкі рушнічок, прыхоплены для абціранння пасля марскіх заплываў, якраз спатрэбіўся, каб ратаваць шыю ад апёкаў. У яе пачынала садніць патыліца. А грузін стаяў пад сонечнымі промнямі без галаўнога ўбору і няблага сябе адчуваў — звычка.

— Вось у Саюзе добра было з пералётамі, — былы салдат савецкай арміі аддаўся настальгічным успамінам. — Лётай —не хачу. Нармальныя ж выстаўлялі кошты на авіярэйсы. А рэстараны?!. Дваццаць пяць рублёў плаціш — і гуляеш з сябрам на поўную катушку!..

— Так і было! — старанна ківаў галавой Павел, пацвярджаючы былыя загульныя разгулы.

Надзя ў іх ўспаміны не ўпісвалася… Сябры, дзевачкі, рэстараны... Шлюбныя стасункі да выбранай тэмы не пасавалі.

— А цяпер?! Сто даляраў аддасі і так… сціпленька пасядзіш ў рэстаране. Не разгуляешся, карацей кажучы… Убачыш сябра — хоць на іншы бок вуліцы перабягай. Хіба што словам з ім перакінуцца, як жонка, дзеці спытаць, — скруха не пакідала маладога ў думках былога салдата савецкай арміі.

Па ўсім было відаць, што не дзеля таго мужчыны сустрэчы арганізуюць, каб інфармаваць адзін аднаго пра жонак і дзяцей.

«Можна яшчэ ў сябра пра палюбоўніцу спытацца», — мільганула юрлівым колцам думка-падколка ў Надзінай галаве, але так і не выйшла на паверхню, якая ж у цвярозым розуме жанчына будзе падобнае агучваць, навошта свядома сямейных мужчын на глупства падбухторваць. Аднак пачатая думка самастойна развівалася, і міжволі ўзнікла пытане: цікава, а ці выхваляюцца мужыкі адзін перад адным сваімі палюбоўніцамі,

калі такія маюцца ў наяўнасці і калі гульба ў рэстаране ў мужчынскім коле ідзе на поўную катушку? З жонкамі і дзецьмі зразумела, тут хваліцца няма чым. А вось спагадлівая, павольна-спакуслівая, загадкавая русалка-палюбоўніца — як з ёй? Яна ж неразгаданая. Загадку-палюбоўніцу можна разгадаць, толькі ажаніўшыся з ёй. Адгадка ў бальшыні выпадкаў гучыць так: “Мамачкі, куды я ўляпаўся!” Ёсць яшчэ варыянт: “Хрэн за рэдзьку не саладзейшы!” Але хто пра гэта думае?» — разважала Надзя, гледзячы па чарзе на захопленых успамінамі мужчынскіх прадстаўнікоў славянскай і каўказкай нацыянальнасцей і падазраючы, што яны з аднаго цеста злеплены…

— Э-э-х! — з пячаткай суму на твары аб незваротных часах хвацкай бесклапотнай маладосці, чарговы раз выдыхнуў былы салдат савецкай арміі, і гэтым было ўсё сказана.

Надзя нецярплівa і заклапочана зірнула на гадзіннік, а потым — у глыбіню вуліцы, па якой ішлі з пляжнымі сумкамі курортнікі і адкуль павінен быў прыехаць доўгачаканы транспарт. Дарэмна яна ўглядалася, маршрутка не з’яўлялася.

— У вас тэлефон кіроўцы ёсць? — спытаў мужчына.

— Недзе была візітоўка. Ён нам даваў, як прыехалі, — успомніў Павел і, завярнуўшы руку за спіну, выцягнуў прамавугольную картку з задняй кішэні штаноў.

— Тэлефануйце яму, што дарма нерваваца, — атрымалі параду турысты.

Павел набраў нумар.

— Ало! Гэта наконт маршруткі. Мы тут на прыпынку чакаем… Так-так, ага, добра, зразумеў, — Павел адключыў тэлефон, размова была кароткая.

— Прыедзе праз дваццаць-трыцаць хвілін, — паведаміў ён свежыя звесткі.

— Хоць нейкая інфармацыя. Мы гэтага кіроўцу ўсё адно зловім, паўз нас ён не праскочыць! — прыгразіла Надзя, яе настрой аднавіўся, стаў зноў бадзёрым.

У Батумі ніхто не спяшаўся. Куды ён дзенецца, той Батумі. Сташэўскія ахвотна паразмаўлялі з новым знаёмцам пра былое і цяперашняе жыццё. І што цікава, тое ранейшае жыццё ў СССР, у краіне суцэльнага дэфіцыту з чэргамі за прадуктамі і спажывецкімі таварамі не здавалася ім дрэнным і змрочным, а нават наадварот, вярталася ва ўспамінах светлым, радасным, напоўненым асаблівай цеплынёй. Людзі з жыццёвым вопытам ведаюць, у чым сэнс: раней і цукар саладзейшы быў, і вада макрэйшая, таму што гады былі маладзейшыя…

Увечары Надзя з Паўлам дабраліся на маршрутцы да слаўнага горада Батумі. Па дарозе яны завіталі ў краму і купілі торт. Салодкае завяршэнне дня…

## 12

Ніно з'явілася ў кватэры напярэдадні ад'езду Сташэўскіх. Прастора запоўнілася рухавай кабетай, энергія ад яе разляталася па ўсіх кутках. Ніно тупала танкеткамі, смяялася, распытвала турыстаў пра апошнія падзеі. Ніно апавядала, як выматалася на спякоце, дабіраючыся ад мамы з горнага сяла ў душны горад. Надзя ледзь укруцілася паміж яе аповедамі.

— Ніно, я хацела ў Вас спытаць: мы хадзілі ў порт і бачылі непадалёк у старым горадзе мячэць, у вас у Батумі жывуць масульмане?

— А-а… Гэта вы праходзілі ля турэцкага квартала. Там туркі жывуць, — Ніно крыху памаўчала. — Ведаеце, што яны нам гавораць?

— Не магу ўявіць, — паціснула плячамі Надзя.

— «Батумі наш», — яны такое гавораць. — «Батумі наш». Уяўляеце?! І мы павінны гэта слухаць?! — чорныя вочы Ніно шырока раскрыліся ад абурэння.

Грузія стойка трымала націск не толькі з боку Расіі, а яшчэ і з боку Турцыі. Нялёгкая доля дзяржавы з не-

вялікай тэрыторыяй, якая мела гонар, будучы заціснутай паміж дзвюма магутнымі краінамі-суседкамі, упарта і самааддана адстойваць сваю незалежнасць.

— Ніно, а навошта Вам пераймацца, — Надзя абачліва перавяла размову на іншую тэму, адганяючы ўспаміны пра нядаўні выпадак з поціскам рукі ля турэцкага квартала. — Вы цяпер сяброуеце з Еўропай і Амерыкай, замежныя мовы вывучаеце, арыентуецеся на еўрапейскага турыста, ваша моладзь па-англійску размаўляе.

— Вы гэта сур'ёзна? Дзе тая моладзь па-англійску размаўляе? Вы чулі? Можа, некалькі чалавек яе і ведае, а астатнія… — Ніно махнула рукой. — Рускую забыліся, а англійскую не вывучылі.

Надзя засяродзілася, вышукваючы ў сваёй памяці ўспаміны пра моладзь, якая размаўляе па-англійску.

— Было! Адзін раз чула ў турыстычным агенцтве, — узгадала яна незабыўную супрацоўніцу-«англічанку», самазадаволена-манерную, зацягнутую ў белую прыталеную блузку з мужчынскім каўняром, а побач з ёй на стэндзе павільёна расцярушаныя стосікі глянцаваных турыстычных буклетаў на англійскай мове.

Ніно перастала тупаць танкеткамі. Скептычная насмешлівасць змяніла шырыню яе вачэй на вузкую прымружанасць.

— Дзе мы? А дзе тая Амерыка з Еўропай? Калі яны там, наверсе, — яна падкаціла зрэнкі ўверх пад павекі, прыўзняўшы галаву, намякаючы на некага зверху, — калі яны там сабе нешта нафантазіравалі, то гэта не азначае, што так яно і будзе. Амерыканцам ды немцам з англічанамі больш няма чым заняцца, акрамя як у Батумі на адпачынак ездзіць. У іх жа там у Амерыках і Еўропах сваіх курортаў няма, — іранічна прамаўляла Ніно, яе вусны насмешліва скрывіліся. — Скажу вам па-шчырасці: не вельмі мы ім і патрэбны.

Туфлі-танкеткі Ніно затупалі па падлозе. Яна не магла доўга стаяць на адным месцы. Надзя гатова была падпі-

сацца пад кожным словам Ніно, настолькі іх думкі супадалі. Агульнае сямідзесяцігадовае сацыялістычнае мінулае лёгка з рахунку не скінеш, мы падобны між сабой і ў паводзінах, і ў думках нашмат больш, чым уяўляем, жыхары былых рэспублік Савецкага Саюза, такіх розных і разам з тым такіх аднолькавых.

Ніно пранікнёна, з прыязнасцю і цеплынёй пaглядзела на Надзю з Паўлам:

— Мамай клянусь, мы очэнь ждём славянские люди! — яе вочы заблішчэлі вільгаццю. — Раншэ сюда очэн многа прыезжали славянские люди, — з настальгіяй гаварыла Ніно. — Так была харашо, всем была харашо, и вам, и нам. Прыезжайте к нам, — запрашала Ніно.

— Усім славянам прыязджаць? — удакладніла Надзя. — І рускім таксама? У вас жа з імі вайна.

Ніно горка ўсміхнулася.

— Гэта ў іх з намі вайна. У нас з імі вайны няма. Няхай прыязджаюць, мы ім заўсёды рады.

— Як у жыцці панакручана, панаверчана, — уздыхнула Надзя. — За ўсіх не скажу, а мы да вас абавязкова зноў прыедзем.

— А як вам адпачывалася? — пацікавілася Ніно.

— Усё цудоўна, — шчыра адказала Надзя. — Ведаеце, мы — турысты, вашых глыбінных праблем не бачым, нам у Батумі добра. Набярэжная шыкоўна адрамантаваная, пляж абсталяваны, парк прыгожы, людзі прыязныя. Што турысту яшчэ трэба? Нам спадабалася.

Ніно расчулілася.

— Вось і выдатна, адпачывайце, калі ласка. А свае праблемы мы самі вырашым…

Апошні дзень адпачынку прамінуў у клопатах і зборах. Развітальны вячэрні заплыў у цёплым моры; манетка, закінутая на глыбіню, як прыкмета, каб наступны раз пабываць у гэтых мясцінах; захад сонца; спакаваныя рэчы, таксі, аэрапорт. Два тыдні праляцелі, як і не было…

Самалёт набіраў вышыню. Скрозь акно ілюмінатара ўнізе свяціўся зорны россып агнёў курортнага горада,

яны аддаляліся, гублялі яскравасць і ператвараліся ў маленькія міргатлівыя кропкі. Па салоне хадзілі ветлівыя бортправадніцы і правяралі, ці прышпілены ў пасажыраў рамні бяспекі. Павел і Надзя ляцелі дамоў, на радзіму. «Нахвамдзіс, Грузія!» — да пабачэння. Мы абавязкова вернемся да цябе яшчэ раз, каб сказаць «Гамарджоба!»

# Крапіўніцкі ў судзе

## 1

Іван спыніўся перад уваходам у суд аднаго з раёнаў горада Мінска. Стараўся суняць хваляванне, трымацца абыякава і спакойна. Звонку атрымлівалася, а ў душы — не. Ён чарговы раз у галаве пракруціў змест іску ў суд. «Я, Іван Сяргеевіч Крапіўніцкі — сумленны працаўнік, можна сказаць, лепшы з лепшых, аднак ужо трэці месяц заробак на прадпрыемстве мне не выплочваецца, а калі і выплочваецца, то часткова і з вялікімі затрымкамі. А дырэктар па заяве звальняць мяне не хоча, утрымлівае прымусова, кантрактам прыкрываецца, які на прадпрыемстве ўведзены, каб работнікаў прыціскаць, а сам дырэктар той кантракт парушае, хоча, каб я працаваў як мае быць, а ён плаціў бы за працу, як яго левая нага захоча. У сувязі з гэтым прашу паважаны суд…» Не зусім, канечне, так пісалася, выкладзена было на паперы культурна і юрыдычна граматна. Іван нават некалькі разоў перачытваў іск і парадваўся змястоўна напісанаму тэксту. Асабліва падабалася Івану заключная частка: «Абавязаць дырэктара выдаць мне недаплачаны заробак, а таксама належную па законе кампенсацыю за парушэнне працоўнага заканадаўства».

Дырэктар Тупіцын Якаў Аркадзьевіч кіраваў прадпрыемствам усяго год, кіраўнік млявага, нават затарможанага кшталту, не абцяжараны інтэлектам. У свае пяцьдзесят гадоў ён мала на што быў здольны, хіба толькі надзімаць шчокі і хмурыць бровы. Цела меў рыхлае, а пінжак пакамечаны. Уся яго вытворчая дзейнасць ішла праз пень-калоду. Мазгамі карыстацца ён не ўмеў, ды і не было чым карыстацца. Раней ён займаў чыноўніцкую пасаду, засядаў у бясконцых пустапарожніх камісіях і аб працы

фабрык ды заводаў уяўленне меў цьмянае, а потым яго раптам накіравалі на «ўзмацнене» вытворчасці, даверылі ўзначаліць выраб керамічнага посуду. Фабрыка называлася ЗАТ (закрытае акцыянернае таварыства) «Керамічныя гаршкі і талеркі», акцыянераў фабрыкі ніхто ні разу ў вочы не бачыў, а назвай ЗАТ, як фігавым лістом, прыкрывалася дзяржаўнае прадпрыемства. Да прыходу новага дырактара на прадпрыемстве паціху ляпілі гаршкі, паціху збывалі, асаблівых поспехаў не мелі, але і праблем таксама. Новаспечаны кіраўнік узяўся наводзіць парадак па сваім разуменні. З эканомікай ён сябраваў слаба, дэбіт і крэдыт лічыў глупствам, а фінансавыя справы наважыўся вырашаць шляхам балбатні. Пры гэтым пяць разоў за год, кожны раз са світай, злётаў дырэктар у замежжа, быццам бы пераняць вопыт па вырабе гаршкоў і талерак, і там з «таварышамі» за грошы прадпрыемства жыў у дарагіх гатэлях і прыемна бавіў час на шпацырах. Сродкі на рахунках прадпрыемства раставалі, а колькасць непрададзеных гаршкоў расла. Вярнуўшыся з замежных «дзелавых» паездак, поўны сіл і летуценны, Якаў Аркадзьевіч Тупіцын засядаў у асабістым утульным кабінеце, засцеленым вялікім мяккім дыванам; для паказной саліднасці на дубовым дырэктарскім стале ўзвышаўся некрануты стос метадычак і кніг па эканоміцы, якія ён ні разу не разгарнуў, каб пазнаёміцца са зместам. У цэх, дзе лепяць гаршкі, кіраўнік носа не паказваў і не любіў, каб яго турбавалі супрацоўнікі. Калі колькасць гаршкоў на складзе дасягнула столі, двое працаўнікоў аддзела збыту наважыліся даваць парады наконт рэалізацыі прадукцыі і адразу былі звольнены, бо яны раздражнялі нядбайнага, гультаяватага дырэктара размовамі пра падзенне продажаў. Затое астатнія аддзелы Тупіцын значна пашырыў, нашпігаваўшы дзецьмі сяброў і сваякоў. Гэтыя выкрунтасы можна было б спісаць на дзівацтва і заплюшчыць вочы, хай сабе чалавек забаўляецца, але ж заробак… заробак плаціць перасталі. Аклады і прэміі рэгулярна атрымлівалі дырэктар і набліжаныя да яго, астатнім ра-

ботнікам прапаноўвалася тужэй зацягваць паясы і цярпліва чакаць, калі спадобяцца заплаціць ім хоць частку заробленага. Іван паспрабаваў звольніцца і тут даведаўся, што яго не адпусцяць, што ён павінен працаваць без заробку да сканчэння кантракта, бо кіраўніку так захацелася. Чаму не… Кантрактная сістэма найму рабіла дырэктара маленькім царком, што хачу, тое і варачу. Вось ён і вараціў.

Іван Крапіўніцкі працаваў у аддзеле забеспячэння, не прагульваў, не лайдачыў і лічыў, што мае права атрымаць заробак. Але ж… не! Не заплацілі! Іван наважыўся шукаць праўду у судзе…

Летнім сонечным днём ён стаяў перад будынкам суда, поўны надзей. «Зараз суд дасць табе адлуп, самадур ты гэтакі!» — умацаваў Іван у сабе ўпэўненасць і адчыніў дзверы ў храм правасуддзя. Сёння павінна было адбыцца першае судовае пасяджэнне па яго справе. Не паспеў ступіць на тоўсты гумавы дыванок ля ўвахода, як адразу правая нага падвярнулася, Іван ледзь не паляцеў кулём. Унутры непрыемна ёкнула. Шкрабанула нядобрае прадчуванне. Іван чартыхнуўся… выпрастаўся, агледзеўся па баках і, стараючыся не звяртаць увагі на гэты непрыемны эпізод, з увішнасцю маладога рысака, усяго ж толькі дваццаць сем гадоў, узляцеў па лесвіцы на другі паверх. Там у доўгім напаўцёмным калідоры ля дзвярэй кабінетаў сядзелі нешматлікія заклапочаныя наведвальнікі, маўклівыя, з засяроджанымі тварамі, некаторыя — як напятыя струны, а іншыя — скурчаныя, нібы пыльным мяшком прыстукнутыя. Іван уладкаваўся на вольным крэсле, шырока, па-мужчынску расставіў калені моцных ног у грубых джынсавых штанах. Звычайна ў паўсядзённасці з джынсамі ён апранаў цішотку, аднак сёння замест звыклай трыкатажнай майкі на ім красавалася напрасаваная парадная стыльная сарочка ў тонкую палоску, спецыяльна апранутая да судовага пасяджэння, каб зрабіць станоўчае ўражанне на суддзю. Дэталі маюць значэнне.

З аднаго з кабінетаў, гучна расхлябеніўшы дзверы, са словамі «Ах ты, сволач!» у калідор выскачыў раз’ятраны мужчына і куляй паляцеў да лесвіцы, што вяла на першы паверх. Услед за ім з дзвярнога праёма вылузгаўся яшчэ адзін мужчынка, невысокі і плюгавы, тая самая «сволач». Панурыя наведвальнікі раённага суда падбадзёрыліся і ажыўлена заварушыліся, узрадаваныя дробным скандалам. Раз’ятраны мужчына, скачучы праз дзве прыступкі, паімчаў прэч уніз па лесвіцы і знік з вачэй.

На змену яму з канца калідора выплыла зграбная маладая дзяўчына. З двума кубкамі гарбаты ў руках, у непрыстойна кароткай спадніцы і туфлях на высачэзных абцасах, не звяртаючы ні на каго ўвагі, бесклапотная працаўніца юрыдычнай нівы, эратычна віхляючы клубамі, рухалася наўпрост да Івана. Ён аж загледзеўся. Дзяўчына спынілася ля кабінета побач з Іванам, няёмка націснула рукой з кубкам на клямку і, падпіхнуўшы знізу ножкай, адчыніла дзверы.

— Гэта я. Можна да Вас? — гарэзліва прагучаў, нацэлены ўглыб кабінета, яе грудны голас, і, не чакаючы дазволу, юрыстка пранікла ў сярэдзіну памяшкання.

Дзверы за ёй зачыніліся з мяккім шмяканнем аб вушак. Іван падняўся з абцягнутага штучнай скурай праседжанага крэсла для наведвальнікаў і падышоў да зачыненых дзвярэй, яму карцела даведацца, да каго ж пайшла красуня дэманстраваць ногі і піць гарбату. «Намеснік старшыні раённага суда», — прачытаў ён надпіс на шыльдзе. «Нічаво сібе!» — прыцмокнуў Іван.

Пачатак пасяджэння па справе «Іван Крапіўніцкі супраць прадпрыемства» быў прызначаны на пятнаццаць гадзін. Іван адчуў, як падкатвае хваляванне і смокча пад лыжачкай, ён зрабіў некалькі крокаў па калідоры і спыніўся ля дзвярэй суддзі, якая вяла яго справу. «Суддзя Нахабская Дзіна Паўлаўна», — было напісана на дзвярах. Навокал — ціха. Суддзі ў кабінеце няма. Іванавага апанента, юрыста прадпрыемства «Керамічныя гаршкі і талеркі», засланца ад дырэктара-самадура так-

сама не відно. Іван яшчэ больш занепакоіўся: што за затрымка? Дзіўна неяк. Ніхто не чухаецца, ці калі выказацца культурна — не імкнецца пачаць пасяджэнне ў прызначаны час. Іван па-іншаму ўяўляў ажыццяўленне правасуддзя.

Неўзабаве каржакаватая постаць добра знаёмага Івану юрыста прадпрыемства намалявалася ў паўцёмным калідоры з боку лесвіцы. Тоўстае цела на кароткіх нагах наблізілася да Івана і павіталася:

— Дзень добры, Ваня. Ну што, калі пасяджэнне? — з перабольшанай ветлівасцю спытаў у Івана яго праціўнік.

Юрыст прадпрыемства Івана насцярожыў. Яны ж на розных баках: Іван —ісцец па справе, юрыст — прадстаўнік адказчыка, а сябра з сябе і добразычліўца курчыць. З чаго б гэта?

— Не ведаю, Мікіта Казіміравіч. Пакуль нічога не паведамлялі, — натапырана адказаў Іван і падазрона пакасіўся на занадта вясёлага апанента.

— Тады прысядзем, адпачнём! — твар юрыста праняніўся радасцю.

Юрыст прадпрыемства Мікіта Казіміравіч па прозвішчы Карупцыянаў вольна разваліўся на крэсле, кінуўшы пацёрты партфель на суседняе месца, выцягнуў з кішэні пакамечаную насоўку і працёр ёю потную бычыную шыю. Мікіта Казіміравіч пачуваўся ў судзе, як у бацькоўскім доме, пыхаў весялосцю і добрым настроем. Гэта была яго стыхія. Ён амаль усё жыццё адпрацаваў у пракуратуры. З якой прычыны раптам за тры гады да пенсіі яго адтуль турнулі, Мікіта Казіміравіч ніколі нікому не хваліўся, таямніца, пакрытая змрокам, але ж, відаць, было за што. Пасля звальнення з пракуратуры ён ціхмяна ўладкаваўся простым юрыстам на прадпрыемства па вырабе гаршкоў і талерак і выседжваў там апошнія гады перад пенсіяй.

«Нешта ён занадта вясёлы, — з трывогай думаў Іван пра юрыста. — Здаецца ж, адказчык павінен хвалявацца».

— Сядай, Крапіўніцкі, у нагах праўды няма, — з падначкай запрасіў Мікіта Казіміравіч Івана прысесці побач.

Мікіта Казіміравіч быў гаваркі і ў добрым гуморы, быццам выйграны судовы працэс ужо ляжаў у яго ў кішэні.

«Гэта ён так наўмысна робіць, пэўна, гуляе са мной. А сам нервуецца, бо патрабаванні мае слушныя, пацвярджэнні і даведкі аб парушэнні маіх правоў я суду прадставіў, яму няма чым крыць», — супакоіў сябе Іван і самаўпэўнена зірнуў на юрыста, скруціўшы за спіной з пальцаў дулю. Івана вельмі саграваала думка, што суддзя дасць адпор несправядліваму дырэктару і ўсякім там юрыстам мікітам казіміравічам, якія любяць выхваляцца, што калісьці ў пракуратуры працавалі. «Палюбуюся я, які ў цябе будзе твар, калі абвесцяць рашэнне выдаць мне недаплачаны заробак і плюс тры аклады за парушэнне працоўнага заканадаўства», — шмаргануў позіркам па тоўстым апаненце Іван і задаволена падлічыў, што ў перакладзе на замежную валюту выходзіць сума каля дзвюх тысяч долараў. Крапіўніцкі планаваў як мага хутчэй спагнаць гэтыя грошы праз суд, раз прадпрыемства добраахвотна з ім не разлічваецца.

— Спускайцеся на першы паверх у залу пасяджэнняў, — загадна-строга прагучаў тонкі дзявочы голас сакратаркі судовага пасяджэння, яна напалову высунулася з прыадчыненых дзвярэй кабінета суддзі.

Іван і юрыст Карупцыянаў пацягнуліся ва ўказаным кірунку. Іван прапусціў апанента, які няўклюдна перабіраў нагамі, наперад: ведае «родны дом» — няхай вядзе. На першым паверсе яны зайшлі ў невялікі цесны пакой з гучнай назвай «Зала пасяджэнняў». Ля ўвахода размяшчаліся лавы, перад імі стаяў стол суддзі з невялікім прыстаўным столікам для сакратара. Іван і яго працўнік юрыст Карупцыянаў селі ў розных частках залы, вытрымліваючы дыстанцыю. Івана зноў апанавала хваляванне. Пачуццё адказнасці моманту абхапіла яго абцугамі: усё будзе залежыць ад таго, як ён выступі-

ць перад судом, здавалася Івану. Ён сканцэнтраваўся, сабраўся з думкамі, рыхтуючы аповед пра пакуты работніка, што працуе на згалелым прадрыемстве.

— Устаць, суд ідзе!

Першая ў залу пасяджэнняў уляцела драбнацелая сакратарка суда. За ёй загорнутая ў чорную шырокую мантыю паважна ўплыла суддзя, маладая жанчына з ганарыстым тварам і гладка прылізанымі цёмнымі валасамі, што сцягваліся ў тугі вузел на патыліцы. На прыпухлым твары суддзі ўгадваліся рэшткі санлівасці, быццам яе нядаўна разбудзілі. Івану падалося, што перад пасяджэннем яна добра выспалася. Суддзя стала за шырокім сталом і гучна прамовіла:

— Судовае пасяджэнне абвяшчаю адкрытым!

Іван злавіў на сабе яе позірк, прынізліва-насмешлівы, як у юрыста Мікіты Казіміравіча.

Пачаўся разгляд справы. Мікіта Казіміравіч, наганяючы сон, зачытаў адказ на Іванаў іск, набор слоў і юрыдычных тэрмінаў — боб з гарохам. Адзінае, што можна было зразумець з нудотнага бубнення юрыста, гэта тое, што Іван Крапіўніцкі — рэдкі нягоднік, які наўмысна падрывае стабільнасць прадпрыемства.

— Ісцец, што вы можаце патлумачыць па сутнасці справы, — жорсткім голасам спытала Івана суддзя.

Іван падняўся з лавы. Статны, падцягнуты, у парадней сарочцы ў тонкую палоску, упэўнены ў сваёй праваце ён рашуча пачаў падрыхтаваную прамову:

— Я два гады сумленна працаваў на прадпрыемстве, не маю ніякіх нараканняў….

— А я не маю ніякага жадання слухаць Вашу біяграфію, — рэзка і груба, павышаючы голас, з саладжавым цынізмам абарвала яго суддзя.

Іван неўразумела змоўк, непрыемна ўражаны тым, што адбываецца: яму і паўсказы дагаварыць не далі, а юрысту дазволілі балбатаць, колькі пажадае. Суддзя, задаволеная эфектам, загадна прадоўжыла, хутка і чэканна выкідваючы словы:

— Расказавайце па сутнасці справы. Што з Вашым заробкам?

— Не выплочваюць мне заробак, толькі частку заплацілі. Затрымліваюць ужо тры месяцы, — выказаўся Іван па сутнасці справы, да мінімуму скараціўшы падрыхтаваны выступ.

— Тры месяцы яму не выплочваюць… Людзі гадамі працуюць, ім затрымліваюць заробак, недаплочваюць, і яны трываюць! — гаркнула суддзя на Івана. — А ён, бачыце, які нястрыманы: тры месяцы недаплацілі — і адразу жаліцца!

Іван разгублена глядзеў на суддзю, а яна чыхвосціла яго і так, і гэтак. Юрыст Карупцыянаў са сваёй лавы, не хаваючы задавальненя, назіраў за «збіццём немаўляці». Агаломшаны Іван акругліў вочы і мямліў: «Я ж хацеў… парушэнне закону… працоўны кодэкс…» Суддзя працягвала наступ, засыпала, заблытвала Івана юрыдычнай казуістыкай, за падмацаваннем яна звярнулася да Іванавага праціўніка юрыста Карупцыянава і прапанавала яму выказацца:

— Што Вы можаце дадаць па справе?

Юрыст сходу ёміста, нібы ўскочыў у спадарожны вагон, укруціў некалькі мудрагелістых выразаў, і суддзя ахвотна яго выслухала.

«Дык яны ж з адной кадкі! Змовіліся…» — асвяціла Іванаву галаву здагадка, і ўхмылка міжволі залунала на яго вуснах.

— Што Вы ўсміхаецеся? — незадаволена спытала суддзя, крыху прыглушыўшы жорсткасць тона.

— Я ўсміхаюся? — уключыў дурня Іван. — Што Вы, таварыш суддзя, Вам гэта здалося, у мяне проста міміка такая.

Суддзя застыла за сталом і засяродзіла позірк на Іване Крапіўніцкім, здавалася, толькі цяпер, калі той пачаў упірацца, яна яго ўбачыла, а раней ён быў для яе пустым месцам. Іванаву ж трапятлівасць перад суддзёй як карова языком злізала. Парадная сарочка і наіўная стараннасць,

з якой ён рыхтаваўся да суда, падаліся яму бязглуздымі і бессэнсоўнымі памкненнямі.

— І наогул, мне падаецца, што ў Вас з юрыстам Мікітам Казіміравічам занадта прыязныя адносіны, — з некаторай фамільярнасцю адзначыў Іван.

Суддзя змоўчыла і адвяла вочы.

— Адказвайце па сутнасці справы, — без напалу загадала яна Івану.

— А што адказваць? Здаецца, усё і так ясна.

Суддзя пагартала паперы, што ляжалі перад ёй на стале. Не падымаючы вачэй на Івана, яна пачала напампоўваць крыху растрачаную жорсткасць і патрабавальна прамовіла:

— Я прапаную падпісаць пагадненне: Вы нічога не патрабуеце і звальняецеся з прадпрыемства.

«Нічога не патрабаваць?! Дырэктар прадпрыемства парушае мае правы, не плаціць заробак, а я павінен маўчком гэта праглынуць!.. І гэта мне прапануе суд, які павінен мяне абараніць?!» — віхурай пранеслася ў Іванавай галаве.

— Не! — упарта адмовіўся Іван.

— Вас могуць звольніць за парушэнне працоўнай дысцыпліны, будзе яшчэ горш, — насядала суддзя.

Івана аж перасмыкнула: як гэта так, ён прыйшоў па абарону сваіх правоў, а замест гэтага суддзя пагражае звальненнем з працы па артыкуле. Погляд Івана ўпіўся ў пакрытае чорнай мантыяй судзейскае цела, растрывожана хутка пабег па мантыі ўверх, слізгануў па твары суддзі і наўпрост сутыкнуўся з яе прасякнутымі цынізмам вачамі.

— Няхай звальняюць! — прачнуўся ў Івану вольналюбівы дух індзейцаў, насельнікаў бяскрайніх прэрый, звычайна не ўласцівы затурканым жыхарам мегаполісаў. — Калі ўжо на тое пайшло, мне абыякава, што вы тут кажаце, я сам сабе гаспадар! — амаль выкрыкнуў ён.

Іван стаяў у зале судовых пасяджэнняў з горда ўскінутай галавой, унутры ў грудзях клякатала, нарастала хваля пратэсту.

— Згаджайцеся на міравое пагадненне, — напаўпрыкрыўшы рот далонню і вырабляючы на твары хлуслівую спагаду, шапнула Івану сакратарка суда.

Яна сядзела за прыстаўным столікам невыразная, падобная да аблезлага сусліка, у бляклай кофтачцы з закругленым каўняром. Паклаўшы перад сабой на стол вострыя локці, што тырчалі з-пад кароткіх рукавоў, сакратарка старанна і паслужліва падтаквала суддзі, дапамагала ціснуць на Івана. Дзея адбывалася нібы ў сне. Ілюзіі разбурыліся за паўгадзіны. Плакалі дзве тысячы долараў. Іван бакавым зрокам убачыў, як Мікіта Казіміравіч намагаўся зрабіць сур'ёзны выгляд на тоўстым шайбападобным твары, які ажно распірала ад задаволенасці.

— Згаджайцеся на міравое пагадненне, — зноў шапнула Івану сакратарка.

«Міравое пагадненне»... Гэты выраз напаўняў Івана абурэннем. Сысці без нічога, без заробку, без іншых абавязковых выплат, сысці, абскубленаму, з прадпрыемства — гэта яны называюць «міравым пагадненнем»!

«Яшчэ адна памагатая знайшлася… Ды ў іх тут працоўны падрад! Тройка хаўруснікаў! І гэты недамерак лезе, паўтара метры на каньках і ў шапцы, — усё больш раздражняўся Іван на сакратарку. У вочы яму кінуўся заручальны пярсцёнак на безыменным пальцы яе дробнай рукі. Пярсцёнак бліскануў, калі сакратарка прыкрывала, як дахам, зверху далонню рот, даючы Івану парады. — Замужніца. Прышчавая, малая, хто яе толькі замуж узяў?!» — неяк абсалютна не па тэме суда прамільгнула ў Іванавай галаве.

— Вам трэба падумаць, — палагаднелым голасам падштурхоўвала яго суддзя адмовіцца ад іску, яна зрабіла паўзу, выпрабавальна паглядзела на Івана і ў заключэнне завучана пратарахцела: — Судовае пасяджэнне абвяшчаю закрытым. Наступнае пасяджэнне прызначаецца на другое ліпеня…

Іван выйшаў з будынка суда на вуліцу, глыбока ўдыхнуў паветра, яму было душна, камяком стаялі ў горле

расчараванне і крыўда на няпраўдзівы суд. Змагаючыся з абурэннем, што бушавала ўнутры, нервовай хадой наблізіўся ён да лаўкі пад вярбой. Высокае раскідзістае дрэва спускала гнуткія, доўгія галіны ўніз, густымі косамі, сплеценымі з лісця, навісала над долам. Тут было зацішна, і Іван пачаў пакрысе супакойвацца, аднак яму трэба быў час, каб сабрацца з думкамі і асэнсаваць апошнія падзеі. Юрыст Карупцыянаў, тлусты, вясёлы і жыццярадасны няўклюдна выкаціўся з дзвярэй суда, прамільгнуў непадалёк, нават не зірнуўшы ў бок Івана, і паджагаў да аўтобуснага прыпынку, памахваючы падрапаным партфелем.

— Казліна! — злосна падумаў Іван пра юрыста, рашуча паставіў нагу на край шырокай лаўкі, сагнутым локцем уткнуўся ў калена, падпёр рукой галаву і пачаў засяроджана меркаваць, што рабіць далей.

## 2

Наступнае пасяджэнне адбылося праз тыдзень, другога ліпеня. Гэтым разам Іван перад будынкам суда пачуваўся інакш. Знікла адчуванне ўрачыстасці і адказнасці моманту, тыя першапачатковыя пачуцці выцясніліся напружанасцю, недаверам, у душы панавала гаркаватая прыкрасць і насцярога, але вонкава Іван стараўся выглядаць бадзёра і трымаць сябе ўпэўнена. Сёння ён прыйшоў на судовае пасяджэнне ў джынсах і паўсядзённай цішотцы, святочная сарочка за непатрэбнасцю засталася боўтацца на плечыках у шафе.

У калідоры суда на першым паверсе ён адразу заўважыў знаёмую бачкавога выгляду постаць юрыста. Мікіта Казіміравіч Карупцыянаў з зацёртым скураным партфельчыкам, схопленым за ручку кароткімі, тоўстымі, нібыта напухлымі пальцамі, стаяў ля залы пасяджэнняў, як і ў мінулы раз, ён заўзята і жыццярадасна павітаўся з Іванам.

— Дзень добры, Крапіўніцкі!

Іван разумеў, што гэтае юрыдычнае барыла забаўляецца і самаўпэўнена падражнівае яго.

— Здрас-с-це, — неахвотна прасіпеў Іван у адказ і павярнуўся да юрыста задам.

У гэтай дэманстратыўнай позе ён прастаяў нядоўга. Літаральна праз некалькі хвілін у калідоры пачуліся крокі, дробная, вузкаплечая сакратарка, паскараючы хаду, накіравалася да дзвярэй залы пасяджэння, расчыніла іх і прашмыгнула ў сярэдзіну, следам бочачкай закаціўся юрыст, а за ім няспешна ступіў у памяшканне Іван. У Іванавых кроках з’явілася наўмысная запаволенасць, ён не жадаў падпарадкоўвацца навязанаму сакратаркай і суддзёй хуткаму, паспешліваму рытму.

— Устаць, суд ідзе, — падвысіўшы моцнасць тонкага голаса, прапішчала сакратарка.

Разганяючы паветра чорнай мантыяй, у залу пасяджэння ўляцела суддзя. Сёння ў яе не было прыпухласцяў пад вачамі, твар не выглядаў заспаным і ад гэтага здаваўся больш зласлівым і ганарыстым. Пульхныя, сакавітыя вусны суддзя сціскала ў строгім выразе. Іван уважліва разгледзеў уладальніцу чорнай мантыі і адзначыў, што яна даволі маладая, прыблізна ў яго гадах. Тонка павыскубаныя бровы, вострымі рыскамі ўзляталі над змяінымі вачамі, надаючы яе твару напышлівасць. «Адкуль у маладой жанчыне столькі злосці?» — задаваўся Іван пытаннем.

Суддзя заняла месца за сталом. Ісцец Іван Крапіўніцкі і прадстаўнік адказчыка юрыст Мікіта Казіміравіч Карупцыянаў селі на лавы ў супрацьлеглых кутках залы. Івана не пакідала непрыемнае адчуванне ўнутранай напружанасці, аднак не было ўжо таго першапачатковa піетэту да суддзі. Суддзя разбурыла піетэт сама, калі адкрыта гыркала на Івана на мінулым пасяджэнні. Магчыма, яна хацела дасягнуць іншага эфекту, агаломшыць, збянтэжыць Івана, але не атрымалася. Іван ашчацініўся і зацяўся, гатовы да далейшай барацьбы. Ён спакваля цікаваў за Карупцыянавым. Адказчык па справе выгля-

даў спакойным і задаволеным, партфелік паклаў сабе на калені, а паверх партфеліка прыладзіў дзве расслабленыя далоні з растапыранымі кароткімі пальцамі.

Суддзя паправіла паперы на стале перад сабой, падбіваючы іх у роўны стос, узняла вочы на прысутных і спытала:

— У істца або адказчыка ёсць хадайніцтвы да суда?

— Няма, Ваша чэсць, — сходу выдаў юрыст Карупцыянаў анёльскім голасам.

Іван падняўся з лавы, расшпіліў замок-маланку на плоскай цёмна-шэрай элегантнай мацерчатай папцы, выцягнуў з яе ліст паперы з надрукаваным тэкстам і з прыціскам прамовіў:

— Я зачытаю суду адзін дакумент. Ён і ў матэрыялах справы ёсць, але я хацеў бы нагадаць прысутным яго змест. Гэта вельмі важны дакумент, даведка з Міністэрства працы і сацыяльнай абароны аб парушэнні кіраўніцтвам прадпрыемства маіх працоўных правоў.

Іван трымаў у руках арыгінал даведкі, копія была прымацавана да справы, і суддзя яе, вядома, бачыла і чытала, але Іван вырашыў дэманстратыўна абвясціць яе ўголас, каб чулі суддзя, юрыст і сакратарка, як парушаюцца яго правы.

«Минским городским управлением Департамента государственной инспекции труда Министерства труда и социальной защиты Республики Беларусь установлен факт нарушения законодательства о труде и факт несвоевременной выплаты предприятием заработной платы работнику Крапивницкому И. С. …»

Пакуль Іван зачытваў аўтарытэтны дакумент аж з самаго Дэпартамента дзяржаўнай інспекцыі працы, суддзя незадаволена моршчылася, крывіла пульхныя вусны, але цярпліва даслухала чытанне да канца. Сакратарка ўцягнула галаву ў вузкія плечы, занурылася ў паперы і старалася не глядзець на Івана. А Іван з горда ўзнятай галавой, упэўнены ў сваёй праваце, выразна агучыў змест даведкі і паклаў яе назад у папку.

— Гэта ўсё? — абыякава спытала суддзя.

— Усё, — адказаў Іван.

— Можаце сядаць, — у той жа танальнасці дадала суддзя.

Аднак Іванаў выступ ускруціў нервы юрысту. Мікіта Казіміравіч нецярпліва засоўгаўся на лаве, потым ускочыў на кароткія ногі і, выпісваючы славесныя піруэты, прагундосіў, які Іван нягоднік, як дрэнна працуе і падрывае дабрабыт прадпрыемства, што менавіта па віне Івана Крапіўніцкага, з-за яго подлых інтрыг склад прадпрыемства пад самую столь завалены непрададзенымі керамічнымі гаршкамі. У Івана аж дыханне перахапіла ад бессаромнай хлусні юрыста. А Мікіта Казіміравіч увайшоў у смак і ў другой частцы прамовы расчулена, нават з залішнім замілаваннем сакатаў пра дырэктара Тупіцына, які, па яго словах, проста надрываецца на працы, каб падняць прадпрыемства з каленяў і распрадаць гаршкі з талеркамі. Суддзя слухала юрыста ўважліва і ківала галавой у знак згоды. Ні разу не перапыніла яго з патрабаваннем гаварыць па сутнасці справы і не спытала, чаму не выплочваюць заробак Івану Крапіўніцкаму. Лішняя дэталь… Іван заўважыў, што да яго суддзя заўсёды суха звярталася словам «ісцец», а вось да юрыста ўзнікла з яе боку незвычайная пяшчота, яна прыязна і зычліва называла яго выключна Мікітам Казіміравічам. А той у сваю чаргу раз-пораз называў суддзю Дзіна Паўлаўна, забываючы, што яна «Ваша чэсць». «Гэта якраз правільна, што не называе “Ваша чэсць”, бо суддзя Нахабская і чэсць — паняцці несумяшчальныя», — разважаў Іван, слухаючы мілае ціўканне суддзі і юрыста, а яны надзвычай прыхільна між сабой размаўлялі, проста шэрачка з машэрачкай, і на нейкі час нават забыліся пра існаванне Крапіўніцкага і сакратаркі. У Івана не засталося і цені сумневу, што гэтыя людзі добра ведаюць адно аднаго. «Змовіліся», — зноў шчоўкнула ў яго здагадка. Юрыст Карупцыянаў скончыў прамову, і тут суддзя нарэшце ўспомніла пра Івана.

— Значыць, Вы не згодны падпісаць міравое пагадненне і звольніцца з прадпрыемства без усялякіх патра-

баванняў? — жалезным голасам, пазбягаючы глядзець Івану ў вочы, спытала яна.

— Якое ж гэта міравое пагадненне — звольніцца ні з чым? Няхай выплацяць зробленыя грошы і ўсё тое, што мне належыць па законе, — стаяў Іван на сваім.

— Я Вас зразумела, — прамовіла суддзя, не адрываючы вачэй ад папер, што ляжалі перад ёй на стале. — Суд накіроўваецца на нараду! — з гэтымі словамі суддзя падхапіла паперы ў рукі і, матнуўшы мантыяй, пакінула залу пасяджэнняў.

Прысутныя выйшлі ў доўгі, цьмяны калідор. Сакратарка мітусліва зачыняла дзверы залы, дзе праходзіла слуханне справы. Іван спыніўся непадалёк, разгублены і набычаны, не ведаючы, чаго чакаць ад суда. Юрыст, абсалютна спакойны і ўпэўнены, бестурботна памахваў партфелікам.

— Віншую Вас з надыходзячым святам, з Днём незалежнасці Беларусі, — з ліслівай энергічнасцю пражурчаў ён, падкаціўшы бочачкай да танклявай сакратаркі, а потым гэтак жа бадзёра, але ўжо нахабна, з падкавыркай звярнуўся да Івана: — І цябе, Крапіўніцкі, таксама віншую!

— Ды ідзіце Вы ўжо… работайце, — адшыў яго Іван.

Назалянні юрыста пачалі Івану надакучваць. «Яшчэ прыплёў тут ні з таго ні з сяго віншаванні з Днём незалежнасці, зусім без тармазоў», — раздражнёна думаў Іван. Мікіта Казіміравіч у бессаромнасці і навязлівасці страчваў меру, ён падступіў да Івана ўшчыльную і, зазіраючы яму ў твар, хацеў нешта гадкае сказаць, пры гэтым дэманстратыўна шырока ўсміхаўся, адкрываючы дробныя зубы. Іван яго апярэдзіў.

— Не вер усмешцы пракурора, — з’едліва прамовіў ён і грэбліва скрывіў вусны, з выклікам гледзячы ў вочы нахабніку.

Мікіта Казіміравіч яўна не чакаў такога павароту размовы, захоплены знянацку, ён замармытаў:

— А я ўжо не працую пракурорам, я цяпер… я цяпер юрыст.

— Былых пракурораў не бывае, — працадзіў Іван скрозь зубы і змерыў тоўстае цела на кароткіх нагах, што стаяла перад ім, крытычным позіркам, напоўніцу адыгрываючыся за нядаўнія бесцырымонныя смяшочкі ў свой бок.

Мікіта Казіміравіч рэзка крутнуўся і пайшоў прэч.

Суддзя вярнулася ў залу пасяджэнняў даволі хутка. Стоячы за сталом, яна манатонна зачытала рашэнне суда. Івану ўрэзалася ў памяць толькі адна фраза: «…у іску Крапіўніцкаму І. С. адмовіць». Іван агаломшана слухаў і не мог паверыць сваім вушам. «Даведка з Міністэрства працы і сацыяльнай абароны аб парушэнні яго правоў, пададзеная ў суд, не мела ніякага значэння. Навошта ўтрымліваць цэлыя міністэрствы, калі яны нікога не абараняюць? А суддзі — хто?» — раілася ў Іванавай галаве.

Юрыста Мікіту Казіміравіча накрыла хваля задавальнення. Суддзя Нахабская зрабіла ўсё так, як яны з ёй дамаўляліся…

Праз два дні пасля судовага пасяджэння юрыст прадпрыемства Карупцыянаў атрымаў выпіску з судовага рашэння і, зазірнуўшы ў аддзел забеспячэння, пераможна казырнуў ёй перад Крапіўніцкім. Івану ж выпіску ў судзе чамусьці не давалі, зацягвалі час. Іван падазраваў, так з ім абыходзіліся з-за таго, што ён збіраўся скардзіцца далей у гарадскі суд. Ён тэлефанаваў сакратарцы суда, а яна ўвесь час адфутбольвала яго: «Заўтра, паслязаўтра, на наступным тыдні». Івану надакучыла слухаць сакратарскія хлуслівыя адгаворкі, і ён настрачыў лаканічную і грунтоўную, падмацаваную аргументамі скаргу старшыні раённага суда, дзе выклаў прэтэнзіі наконт разгляду справы, валакіты і выкрыў змову між суддзёй Нахабскай і юрыстам Карупцыянавым. Справядлівасць павінна… як гэта… а, успомніў!… «восторжествовать!» Скаргу Іван панёс асабіста зарэгістраваць у прыёмнай, каб часам не згубілася. І тут лёс яму падкінуў сустрэчу з самой старшынёй раённага суда. Яна выйшла з кабінета ў прыёмную і напышліва спытала:

— Што тут адбываецца?

Дзелавы шэры касцюм ёмка сядзеў на яе рослым целе, цёмныя валасы былі так шчыльна сабраныя і зачасаныя назад у тугі пук, што нацягвалі скуру на лбе і скронях, а твар выглядаў злаcліва, як у суддзі Нахабскай. Адзінае іх адрозненне — старшыня была сталейшая на пару дзясяткаў гадоў.

«Усе яны як на падбор, з імі дзядзька Чарнамор», — падумаў Іван Крапіўніцкі, агледзеўшы старшыню.

— Скаргу на суддзю Нахабскую рэгіструю, — са службовай стараннасцю паведаміла сакратарка.

— Што яшчэ за скарга? — сурова спытала старшыня.

Іван рашуча наблізіўся да яе, узрадаваны магчымасці намаляваць непрывабны партрэт суддзі Нахабскай перад начальствам, і адразу выклаў свае прэтэнзіі:

— Суддзя Нахабская, што вяла маю справу, не выдае мне выпіску з судовага рашэння, займаецца валакітай.

Старшыня адразу патушыла ў яго вачах квёлы агеньчык надзеі.

— Разбярэмся… — суха сказала яна, гледзячы скрозь Івана, быццам ён шкляны. — Вы зарэгістравалі скаргу і зараз можаце ісці, адказ атрымаеце ва ўстаноўленыя тэрміны, — выціскала яна наведвальніка Крапіўніцкага з прыёмнай.

— Разбірайцеся, — уздыхнуў Іван, развярнуўся і пайшоў да дзвярэй, ён і сам не надта хацеў тут заставацца.

## 3

Літаральна праз некалькі дзён Іван чарговы раз з'явіўся ў раённым судзе. Па шэрых бетонных прыступках ён падняўся на другі паверх будынка і адразу трапіў на судовую сакратарку. Невысокая дробнацелая сакратарка размаўляла ў калідоры з даўганогай, ладнай красуняй, працаўніцай юрыдычнай нівы, якую Іван спат-

каў у гэтым калідоры пад час першага візіта ў суд, калі яна несла гарбату ў кабінет намесніка старшыні. Спадніца на ёй у той дзень была неймаверна кароткая, як, зрэшты, і зараз.

Судовая сакратарка стаяла спіной да Івана. Пачуўшы крокі, яна перарвала размову, азірнулася і на імгненне аслупянела. І не дзіва. Сёння Крапіўніцкі выглядаў патрасна. Вобраз яго быў прадуманы да дробязяў: чупрыну Іван густа паліў лакам для валасоў і паставіў яе дубкі над ілбом накшталт эракеза, на спартыўны, накачаны торс нацягнуў вузкую майку без рукаваў, аздобленую на грудзях малюнкам мульцяшнага пакемона, а на клубах падвісалі прыспушчаныя шырокія клятковыя брыджы. Засунуўшы рукі ў кішэні, Іван расхлябана шлёпаў па калідору вялікімі мужчынскімі пантоплямі ўссунутымі на босую нагу. У святочнай сарочцы ў суд ён больш не хадзіў.

Прывітанне, дзяўчо-о-нкі, — акцэнтуючы літару «о», гарэзліва выгукнуў Іван, звяртаючыся да супрацоўніц суда. — Як жызня маладая?

Сакратарка пырснула смехам. Другая працаўніца юрыдычнай нівы, даўганогая пекная красуня пажадлівымі вачамі абдымала Іванаў спартыўны торс, лашчыла поглядам накачаныя мускулы, што выразна акрэсліваліся на яго загарэлых плячах. Іванаў касцюміраваны вобраз дзяўчыну ніколькі не бянтэжыў. У маладым рэльефным хлапечым целе, прыкрытым майкай з пакемонам, яна адшукала мужчынскую прывабнасць, і ў яе позірку з’явіліся манерная павалока і зазыўная разбэшчанасць. Ярка-палымяны ад чырвонай памады рот юрысткі прыадкрыўся, і ружовы язык спакусліва аблізнуў верхнюю губу.

«Патрапілася б мне ў начным клубе, запрасіў бы да сябе на кватэру і ў інтымнай абстаноўцы адкатаў бы адвольную праграму без юрыдычнага афармлення», — адгукнулася ў Іване мужчынская сутнасць, у гарачых думках ён ліха прыабняў спакусніцу за талію і заваліў на ложак… Аднак у летуценнях прабавіўся нядоўга, давялося вяртацца да рэчаіснасці.

Дзяўчо-о-нкі, мне трэба ўзяць выпіску з рашэння раённага суда, буду скардзіцца на суддзю Нахабскую далей у гарадскі суд, а потым аж у Вярхоўны, — іскрамётна апавядаў Іван пра мэту свайго візіта.

— Ваша... хі-хі... выпіска гатова, — душачыся смехам, утаропіўшы рыбіны вочы ў Іванаву пастаўленую дыбкі чупрыну, паведаміла судовая сакратарка. — Я зараз яе Вам… хі-хі… перадам.

— Вось, дзяўчо-о-нкі, як добра атрымалася, не дарма прыходзіў: і вас убачыў, і выпіску з судовага рашэння забяру, — вуркатаў Іван, шморгаў абутымі на босую нагу пантоплямі па падлозе і растапырваў рукамі кішэні клятчастых брыджаў.

Дзверы прыёмнай суддзі Нахабскай павольна адчыніліся, яна выглянула у калідор, дзе літаральна ў пары метраў ад кабінета прахаджваўся нафуфыраны Іван. Нахабскай здалося, што мульцяшны пакемон на яго майцы весела ёй падміргнуў. Яе спакойны напачатку твар раптоўна сказіўся.

— Нічога яму не даваць! — зараўла суддзя. — Не даваць на рукі… Ні выпіскі, ні маціціровачнай часткі! Толькі па пошце… усё перасылаць па пошце!

Праз імгненне суддзя Нахабская знікла за дзвярыма, бразнуўшы імі з такой сілай, што дзвярное палатно ледзь не зляцела з петляў.

«Чаго гэта яе бярэ за вантробы?... А-а-а, мабыць, пазнаёмілася з маёй скаргай, якую я накатаў старшыні суда! Я ж там выкрыў іх хаўрус з юрыстам Карупцыянавым!» — здагадаўся Іван.

Сакратарка і даўганогая красуня папрыціхлі і збянтэжана пазіралі на дзверы, за якімі схавалася раз’ятраная Нахабская.

— Дзяўчонкі, пакедава, пайду я. Усё мне зразумела, на рукі мне, дзяўчонкі, нічога не выдаваць… Высылайце матэрыялы справы на мой паштовы адрас, — з гуллівай заўзятасцю сказаў Іван, падправіў пяцярнёй іракез, што тырчком стаяў над ілбом, і пашыбаваў да выхада…

## 4

Іван атрымаў па пошце вялікі, пухлы, утыканы чырвонымі і чорнымі пячаткамі і пазнакамі канверт з суда. Дома ў кватэры, прысеўшы на канапу, ён таропка яго адкрыў. Няроўна, зубчата разадраны край канверта падаваўся драпежнай пашчай, Іван выцягнуў адтуль і разраўняў паперы, пачаў бегла чытаць тэкст на пяці лістах. Юрыдычная казуістыка лезла з кожнага абзаца: «…нарушение постановления… изменение сроков возникновения причины… ликвидация предприятий, подразделений и организаций, прекращение деятельности филиала… передача полномочий по применению дисциплинарных взысканий, оформленая приказом… вправе отменить, смягчить или усилить… вопрос предприятия с банком об открытии кредита (овердрафт)…» У Івана закіпалі мазгі. Матывіровачная частка судовага рашэння была злеплена з разрозненых урыўкаў і ўражвала не сэнсам (якога не было), а аб'ёмам — цэлых пяць лістоў! Іван настырна ўчытваўся ў друкаваныя радкі бязглуздзіцы і нарэшце знайшоў тое, што шукаў, чорным па белым было напісана: «В связи с тем, что трудовое законодательство в отношении истца нарушалось дважды на протяжении трёх месяцев, суд приходит к выводу, што нарушения заканадательства нет… слушали… постановили… отказать Крапивницкаму И. С. в расторжении контракта…»

— О-па! Нармальна закручана! Выявілі, што парушэнні ёсць, таму іх няма! І хто ж суддзю Нахабскую навучыў такім фінтам? Пэўна, старэйшы таварыш, былы пракурор Мікіта Казіміравіч Карупцыянаў. Значыць, якія робім высновы? А высновы робім наступныя: суддзя Нахабская прымушае мяне і далей працаваць па кантракце, але без заробку. Ліха!

У Іванавым уяўленні паўстала суддзя ў чорнай мантыі і гаркнула на яго, як на першым пасяджэнні: «Людзі гадамі працуюць, а ім затрымліваюць заробак, недаплочва-

юць, і яны трываюць, а яму тры месяцы не заплацілі — і адразу скардзіцца!»

— Сама кожны месяц грошы атрымлівае… мегера! Паглядзеў бы, як заскакала ў чорнай мантыі, каб ёй зарплату не выдалі.

Іван шпурнуў на канапу аддрукаваныя лісты….

Неўзабаве ён падрыхтаваў скаргу і падаў яе ў гарадскі суд, усё яшчэ спадзяючыся на аднаўленне справядлівасці. Гарадскі суд пакінуў рашэнне суддзі Нахабскай без змен. І тут Івану стала зразумела, што пісаныя законы — гэта забаўка для аматараў чытаць пра канстытуцыйныя правы. А ў рэальнасці, як у прыказцы — закон што дышла, як павярнуў, так і выйшла.

## 5

Тым часам на прадпрыемстве на Івана пачалося сапраўднае паляванне. Пасля кожнага судовага пасяджэння дырэктар зачыняўся з юрыстам Карупцыянавым у кабінеце і яны гадзіну абмяркоўвалі вынікі слуханняў і распрацоўвалі план далейшых дзеянняў пад стратэгічнай назвай «Кампанія «Гаршкі і талеркі» супраць Івана Крапіўніцкага». Дырэктар Тупіцын, юрыст Карупцыянаў і начальнік аддзела кадраў Служакіна пільна сачылі за кожным Іванавым крокам, шукаючы любую нагоду, каб выпісаць яму вымову, падводзілі пад артыкул «парушэнне працоўнай дысцыпліны». Асабліва шчыравала начальнік аддзела кадраў, яе паглынала жаданне дагадзіць дырэктару. Яна раз-пораз зазірала ў аддзел забеспячэння, дзе працаваў Іван, быццам па вытворчай патрэбе, а сама настырна шукала, да чаго б прычапіцца. Гледзячы на яе і юрыста Карупцыянава, Іван часам думаў: «Чаму некаторым людзям няймецца, чаму абавязкова трэба запабягаць перад начальствам? Можна ж проста рабіць сваю справу і не ставіць іншым палкі ў колы. Няўжо ім будзе лягчэй і

прыемней на душы калі, яны, выслужваючыся перад дырэктарам, нагадзяць Івану?»

У адзін са звычайных працоўных дзён Іван выпадкова сутыкнуўся з дырэктарам прадпрыемства. Кіраўнік праявіў да Крапіўніцкага павышаную ўвагу, зыркнуўшы з-пад ссунутых на лбе броваў тхарынымі вачамі, ён затрымаўся на хвіліну і саладжава-з’едліва, як змей падкалодны, прасіпеў:

— Крапіўніцкі, я зраблю табе воўчы білет.

Гэта была запланаваная помства, пагроза сапсаваць працоўную кніжку паганым запісам, звальненем па артыкуле, які выстаўляў бы Івана нядбайным супрацоўнікам і прагульшчыкам.

Знешне стрыманы, з паказнымі, на публіку праявамі прыхільнасці да людзей, насамрэч дырэктар Тупіцын натуру меў круцельскую, ён любіў рабіць работнікам непрыемнасці. Калі хто хацеў звольніца, утрымліваў прымусова, а калі супрацоўнік планаваў застацца на прадпрыемстве, то Тупіцын яго звальняў і ўнутрана радаваўся, гледзячы, як небарака ў роспачы не мог зразумець: «За што?!» Гэта ўздымала самаацэнку Тупіцына, ён адчуваў сябе гаспадаром чужых жыццяў: ён, Тупіцын, можа караць і мілаваць.

Вы б мне лепей зарплату выплацілі, — жлобскім тонам адказаў Іван, ні кроплі не ўражаны пагрозамі.

Дырэктар у замяшальніцтве скасавурыўся на Крапіўніцкага, ён чакаў іншага, яму б вельмі хацелася, каб Іван спалохаўся, затрымцеў. А Іван быў абсалютна спакойны і задзірлівым паглядам пытаўся: «Ну што там яшчэ, выкладайце?» Паводзіны супрацоўніка, які не хоча падпарадкоўвацца яго дырэктарскай самадурасці, даводзілі Тупіцына да шаленства, але знешне ён стараўся трымацца самавіта і важна, не зрывацца на гістэрыку. Дырэктар клапаціўся пра свой начальніцкі імідж, гэта была, бадай, адзіная, тэма якой яму падабалася займацца. «Лепш бы сачыў за вытворчасцю гаршкоў і талерак», — падумаў Іван. Нарэшце, уцяміўшы, што Крапіўніцкі маў-

чаць не будзе, дырэктар пасунуўся да кабінета. Ляпаць дзвярыма ён не стаў, ціхенька прычыніў іх за сабой, як у нару падкалоднага змея.

Раніцай наступнага дня ў адзел забеспячэння да Крапіўніцкага прыбегла ўзрушаная кадравіца Служакіна, у яе руках пагрозліва тапырыўся лісток паперы, а вочы прамяніліся радасцю.

— Крапіўніцкі, вазьмі ліст на спагнанне, — зіхотка прамовіла яна.

— Якое спагнане? — буркнуў Іван.

— А вось, чытай! Парушэнне працоўнай дысцыпліны! — тыцнула начальнік аддзела кадраў яму пад нос паперу з кароткім запісам.

Іван слізгануў вачамі па напісаным.

Генеральному директору ЗАО
«Керамические горшки и тарелки»
Служебная записка

*Ставлю вас в известность, что сотрудник отдела обеспечения Крапивницкий И.С. вчера ушёл с работы в 16 часов 50 минут, т.е за десять минут до окончания рабочего дня.*

Начальник отдела кадров
Н. В. Служакина

Кадравіца Служакіна расстаралася, высачыла Крапіўніцкага і зараз пераможна выпінала наперад грудзі, абцягнутыя шоўкавай блузкай з дробнымі бліскучымі гузікамі, гузікі гарэлі, як і яе вочы. Сёння раніцай дырэктар, калі падпісваў гэту кляўзу, пахваліў Служакіну за спрыт.

— Ды я тыя дзесяць хвілін у туалеце быў у мужчынскім, зайшоў па патрэбе перад дарогай, Вы б туды наведаліся і знайшлі б мяне, — з’ёрнічаў Іван. — А чаму Вы такая шчаслівая, радуецеся, што на мяне будзе накладзена спагнанне? Вам які ад гэтага навар? Мо прэмію дадуць? — наўпрост спытаўся Іван у кадравіцы.

Служакіна прытушыла празмерную радасць на адзначаным няроўнымі штрыхамі зморшчын і блізкай старасці даўганосым твары. Гады яе росквіту даўно мінулі, але засталіся рэшткі прыткасці ў сухарлявым целе, і яна нецярпліва дрыгнула жылістай, як у старой кабылы, нагой.

— Я проста выконваю свае абавязкі! — крыху прыціхлая, але яшчэ з некаторай яршыстасцю адказала Служакіна Івану.

— А падглядаць за мной уваходзіць у Вашы абавязкі? — падчапіў яе Іван і са штучнай весялосцю прадоўжыў: — Ай, малайца… высачыла! Ну, пакідайце мне паперы на стале, я азнаёмлюся!

Незадаволеная ходам размовы і тым, як Іван яе лоўка прыструніў, кадравіца Служакіна падціснула і без таго тонкія, як дзве ніткі, вусны і хутка вышмыгнула з кабінета. Яны ўсе: дырэктар, суддзя, юрыст і кадравіца, — быццам спатыкаліся аб Івана, быў ён для іх мулкі і нязручны. А так сталася б ім на душы хораша, каб яны Івану рабілі гадасці, а ён ім не пярэчыў. Івана непрыемна здзіўляла ўсведамленне таго, што некаторыя асобы робяць несправядлівасць, хлусяць, выслужваюцца дзеля асабістай выгады. Гэтыя людзі неверагодна злуюцца, калі іх выкрываюць, і люта ненавідзяць таго, хто ім супраціўляецца і не дае зрабіць з сябе дурня.

Пакуль Іван Крапіўніцкі ўпарта змагаўся за свае правы, на прадпрыемстве з'явіўся новы шаноўны і ўплывовы супрацоўнік. Яму адразу вылучылі кабінет, у калектыве пра яго размаўлялі толькі шэптам і толькі ў кулуарах, спаткаўшы на калідоры, ветліва і ліслíва ўсміхаліся, выказваючы бязмерную павагу, а ён ганарліва і стрымана вітаўся у адказ. Гэтым паважаным супрацоўнікам быў… дваццацідвухгадовы сын дырэктара, цыбаты, худы, лядашчы. Нашчадак нядаўна скончыў ВНУ, дзе яго, бесталковага, слабага ў ведах ледзь-ледзь дацягнулі да апошняга курса, урачыста выдалі дыплом і выправілі за парог альмаматэр. Развітаўшыся з ім, выкладчыкі нарэшце ўздыхнулі з палёгкай, задаволеныя,

што больш не ўбачаць студэнта. Атрымаўшы дыплом, сын выйшаў у працоўнае жыццё адразу да таты, на прадпрыемства. З гэтай нагоды адмыслова была ўведзена новая пасада з гучнай назвай "намеснік дырэктара па эканамічных пытаннях", якая прадугледжвала салідны аклад і асобны кабінет.

Дырэктарскі сынок зачыняўся ў адведзеным яму памяшканні і цэлы дзень гуляў у камп'ютарныя стралялкі, пераадольваючы разнастайныя віртуальныя перашкоды і сутычкі з камп'ютарнымі зомбі, дабіраўся да самага высокага ўзроўню складанасці, а ў перапынках паміж гульнямі з затуманенымі вачамі бессэнсоўна і асавела бадзяўся з канца ў канец па канторскім калідоры. Тут яго бацька-дырэктар занепакоіўся і, каб у дзіцяці ад стралялак не з'ехаў дах, перавёў сына ў агульны пакой эканамічнага аддзела, дзе працавалі сталыя цёткі і дзе дзяцюку няёмка было ў іх прысутнасці восем гадзін запар занырваць праз манітор у свет віртуальных забаў. Хлапчына пачаў корпацца ў плацёжках і накладных, ляпіць лічбы ў радок, імітуючы працу з дакументамі прадпрыемства. Цёткам з аддзела ён стаўся косткай упоперак горла. Раней яны ў жаночым калектыве балбаталі пра што заўгодна, прымяралі новыя модныя кофтачкі, задзіралі спадніцы, дэманструючы напярэдадні купленыя калготкі, папівалі каву і гарбату, а цяпер павінны былі сядзець колам за сталамі, шчоўкаць калькулятарамі і прыязна ўсміхацца новаму нягегламу супрацоўніку, цыбатаму хлапчуку. Даўся ён ім у знакі! Не быў бы сынам дырэктара, бегаў бы, як цюцька, па даручэнні гэтых дзябёлых цётак у краму за кавай, цукрам і пячэннем.

З сынам кіраўніка прадпрыемства начальнік аддзела кадраў Служакіна заўжды абыходзілася ласкава, з запабяганнем і ненатуральнай, празмернай ветлівасцю. Да Івана ж упарта чаплялася з прэтэнзіямі, апантана і захоплена дапамагала дырэктару рабіць Івану "воўчы білет". Увесь наступны тыдзень яна падпільноўвала Крапіўніцкага, прыдумваючы, да чаго б прыдрацца. У пятніцу

пасля абеду Служакіна прыбегла да яго ў адзел з новай пісулькай у руках, разам з ёй прычыкільгаў на кароткіх нагах юрыст.

— Крапіўніцкі, падпішы вымову за парушэнне табой працоўнай дысцыпліны! — з парога выгукнула Служакіна. — Сёння ты прыйшоў на працу са спазненнем на адну гадзіну! Мікіта Казіміравіч пацвердзіць.

— Я па-цвяр-джаю, — змагаючыся з адышкай пасля хуткай хады, адрывіста прагаварыў знямоглы ў нагрэтым ліпеньскай спякотай кабінеце юрыст і працёр пакамечанай насоўкай потную бычыную шыю, адышка не давала юрысту напоўніцу радавацца падрыхтаванаму для Івана паскудству.

— Не было ніякага спазнення, — запярэчыў Іван. — Я з самага ранку ў банк хадзіў, заносіў дакументы на подпіс, спытайцеся ў бухгалтэрыі.

— Я не буду нічога высвятляць, мяне гэта не цікавіць! — зрывалася на крык, шпурляла словамі кадравіца.

Яны з юрыстам, як цівуны, абкладалі з двух бакоў Івана, ім неадкладна карцела выканаць загад дырэктара, зляпіць вымову супрацоўніку Крапіўніцкаму. Стараліся, як маглі.

— О, каманда пашырылася! У мінулы раз начальніца аддзела кадраў палявала за мной адна, а цяпер — удвух! — Іван перавёў з’едлівы позірк на юрыста і з яхіднай заклапочанасцю ў яго спытаў: — Мікіта Казіміравіч, Вы не стаміліся? Вельмі цяжка дыхаеце, не трэба было так спяшацца, пабераглі б сябе. Я ж нікуды не дзенуся з кабінета.

Юрыст засоп мясістым носам і нервова запхнуў у адтапыраную кішэню зношаных штаноў потную, пакамечаную насоўку. Ад яго тлустага цела патыхала потам, гэты пах змешваўся з саладжавымі духамі кадравіцы Служакінай, напаўняючы пакой прыкрым водарам.

— Давайце сюды паперу… разгледзім, — з паказной ветлівасцю, пацвяляючыся, прамовіў Іван і рэзка дзергануў ліст з рук начальніка аддзела кадраў.

Яна засталася стаяць з працягнутай, узнятай уверх пустой рукой, не ведаючы, куды яе дзець, пакруціла далонню перад сабой і пачала церабіць гузік на кофце.

«Два клоўны», — падумаў Іван, з дэманстратыўным спакоем прымаючы «дэлегатаў» ад дырэктара, аднак у глыбіні душы было яму прыкра і агідна.

«Не згодзен», — размашыста напісаў Іван на падрыхтаванай вымове, паставіў подпіс і працягнуў паперу Служакінай.

— Гэта ўсё? Ці будуць яшчэ пытанні? — звярнуўся ён да «дэлегатаў».

Служакіна ўхапіла ліст і, нібы гнаная ветрам, паляцела з кабінета. Юрыст Карупцыянаў, цяжкі ў хадзе, грузна развярнуўся і, прамармытаўшы нешта пад нос, няўклюдна пакульгаў за Служакінай. Трое супрацоўнікаў аддзела забеспячэння, два маладыя хлопцы і сталая сямейная кабета на пасадзе старшага эканаміста са стоенай зацікаўленасцю цішком пазіралі з-за камп'ютараў і сачылі за падзеямі, што адбываліся ў іх кабінеце.

Іван падышоў да акна, гучна шчоўкнуў металічнай зашчэпкай і шырока расхінуў створку, каб праветрыць пакой пасля няпрошаных візіцёраў. У двары дома весела ціўкалі, пералятаючы з дрэва на дрэва, невялікія юркія птушкі, сонца люстранымі яскравымі блікамі адбівалася ў аконным шкле. У твар Івану дыхнуў прыемны асвяжаючы ветрык.

Не сказаць, каб Івана на прадпрыемстве ніхто не падтрымліваў. Падтрымлівалі! І ў аддзеле забеспячэння, дзе ён працаваў, і ў бухгалтэрыі не раз чуў ён у свой бок ухвалу: «Вось як добра, Іван, што дырэктару Тупіцыну даеш ты адпор! А то ён зусім распусціўся, заробкі не выплочвае. Мы што, задарма працаваць павінны?! Маладзец Іван… у суд на яго… за праўду!»

— А ты чаму не далучаешся? Давай разам! — рубам ставіў пытанне Іван спагадальшчыку, унутрана пасміхаючыся і загадзя ведаючы: зараз той пачне выкручвацца.

— А? Я ж нічога не магу, — раптам згасаў імпэт у таго, хто толькі што Івана падтрымліваў. — Вось каб усе, тады і я!

Кожны хацеў адседзецца ў кустах ці, як прынята у нашых шыротах, схавацца ў бульбу і дачакацца, пакуль Іван адзін адзмагаецца і, гэтакі асілак-геркулес, прынясе працоўнаму калектыву правы і свабоды ўключна з зарплатай, а яны грошы ўхопяць і пабягуць у краму за каўбасой. Іван на супрацоўнікаў не крыўдаваў, а толькі з іранічнай цікаўнасцю назіраў за мудрагелістымі праявамі чалавечай натуры і спасцігаў праўду жыцця.

## 6

Адной светлай летняй раніцай прачнуўшыся па будзільніку, Іван Крапіўніцкі вырашыў усю хеўру, што псавала яму кроў, паслаць да чарцей сабачых. Ён не пайшоў на працу, адключыў будзільнік, што нудотна пінькаў у мабільніку, і ўладкаваўся далей спаць ва ўтульнай пасцелі. Праспаў да паўдня. Папаўдні, добра адпачыўшы, ён салодка пацягваўся ў ложку пад лёгкай коўдрай, натхняючыся свабодай, якую сёння сам сабе падараваў. Па краях зашторанных вокнаў у спальню залацістымі палосамі пранікала святло новага, гарачага пад ліпеньскім сонцам дня і вабіла на шпацыр. Іван прыкінуў, як прыемна прабавіць пасляпаўдзённы час, па ідэі, можна рвануць на Цнянку, на мінскі гарадскі пляж пазагараць, надвор'е спрыяла. Рука з млявай нетаропкасцю падчапіла мабільнік з тумбачкі; падключыўшыся да тэлефоннага апарата Velcom, Крапіўніцкі праверыў, хто званіў. Некалькі разоў тэлефанавала яму кадравіца Служакіна, настырна шукала, куды ж ён падзеўся.

— Пабегай, пабегай, пасікай кіпнем… А можа, я на бальнічным, а ты ж не ў курсе справы, а як жа мне вымову ўляпіць, калі я, дапусцім, захварэў? — проста са

свайго ложку размаўляў Іван са Служакінай, якая недзе там на прадпрыемстве падпільноўвала, ці ж з'явіцца ён на працу. — Ай-я-яй, таварыш Служакіна, надышлі для Вас цяжкія часы. Дзе знаходзіцца работнік Крапіўніцкі, немагчыма высветліць, а трэба ж дакладаць дзірыку.

«Дзірыкам» скарочана Іван іменаваў дырэктара Тупіцына.

Цэлы тыдзень Іван не з'яўляўся на прадпрыемстве і не адказваў на тэлефанаванні, а потым сам пазваніў кадравіцы Служакінай і запатрабаваў працоўную кніжку.

— Я не маю намеру больш працаваць задарма ў вашай канторы «Гаршкі і талеркі» ляпіце іх без мяне.

— Цябе звольняць за прагул! — радасна крычала ў трубку Служакіна.

— Ды хоць за два! — адказваў ёй Крапіўніцкі. — Працоўную кніжку вярніце! А то падам чарговы раз у суд за затрымку дакументаў. Я вас па судах зацягаю! Няхай Мікіта Казіміравіч пабегае, падрыхтуецца да працэсаў. Так яму і перадайце. Я ўчора адаслаў праз пошту вам афіцыйны запыт на выдачу працоўнай кніжкі, паспрабуйце толькі парушыць тэрміны… там даты стаяць… Будзеце з Казіміравічам па судовых пасяджэннях бегаць, калі няма чым заняцца.

Начальнік аддзела кадраў Служакіна няўцямна мыкала ў трубку.

— Карацей, я папярэдзіў, рыхтуйце мне дакументы. Я прыеду за імі на наступным тыдні — пагрозліва адтарабаніў Іван і адключыў тэлефон.

Служакіна трымала трубку ля вуха, а адтуль чуліся кароткія гудкі: ту-ту-ту. Праз хвіліну яна апрытомнела і паімчала дакладаць дырэктару. На сумеснай нарадзе дырэктара Тупіцына, юрыста Карупцыянава і кадравіцы Служакінай было вырашана як мага хутчэй выдаць Івану Крапіўніцкаму працоўную кніжку з запісам «звольнены за прагул», выплаціць у той жа дзень яму запазычанасць па заробку, і каб духу яго не было на прадпрыемстве…

## 7

Не мінуў і месяц, як Іван знайшоў новае месца працы, уладкаваўся галоўным эканамістам у фірму «Аквамарын», што ўдала гандлявала разнастайнымі лакамі, фарбамі і хімічнымі кампанентамі. На запіс у яго працоўнай кніжцы «звольнены за прагул» там глядзелі скрозь пальцы.

— Цяпер такія «прагульшчыкі» пачкамі ходзяць. Людзям заробак не выдаюць, вось яны і кідаюць працу ды бягуць з прадпрыемстваў, — пачуў Іван ад начальніка аддзела кадраў «Аквамарына». Маладая, чуллівая, поўная сіл і энергіі, яна спагадліва падтрымлівала «ўцекачоў»: — Як я магу людзей за гэта асудзіць, ім жа сем'і карміць трэба, кантракт у рондаль не пакладзеш і суп не зварыш. Адна мая знаёмая дужа пераймалася, якім чынам ёй звольніцца да канца кантракта, бо яе кіраўніцтва не адпускала, то я ёй параіла: сыходзь «за прагул», гэта лепш, чым задарма працаваць, трэба адпрэчваць несумленнае начальства…

Неўзабаве ў банку Іван выпадкова сутыкнуўся з дырэктарам Тупіцыным. Абодва прыйшлі па фінансавых справах. Іван Крапіўніцкі прынёс плацёжкі паспяховай гандлёвай фірмы «Аквамарын», а Якаў Аркадзьевіч Тупіцын з'явіўся сюды кленчыць чарговы крэдыт на падтрыманне прадпрыемства «Керамічныя гаршкі і талеркі», апошнім часам ён стабільна займаўся здабываннем крэдытаў, якія бясследна знікалі ў эканамічных лабірынтах канторы, што працавала ў мінус.

У банкаўскай зале было нешматлюдна, праз шырокія вокны з адкрытымі вертыкальнымі жалюзі мякка лілося дзённае святло на вазоны з дэкартыўнымі раслінамі і адмыслова аформленыя лаканічныя стэнды грашовых паслуг установы. Іван у адпрасаванай сарочцы, задаволены і ўпэўнены, з папкай у руках крочыў насустрач былому начальніку. Тупіцын быў уражаны нечаканай сустрэчай, уеўся яму Крапіўніцкі

ў памяць і ў пячонку. Ад неспадзеўкі ён нават павітаўся з Іванам:

— Здраствуйця! — з недарэчнай лісьлівасцю і затоенасцю падкалоднага змея прамовіў дырэктар Тупіцын.

«Месяц таму пагражаў мне "воўчым білетам", а сёння сяброўскія прывітанні адвешвае, што за чалавек… глядзець мутарна», — паморшчыўся Іван.

Ён зрабіў выгляд, быццам не пачуў былога начальніка, з ганарлівым тварам пакрочыў Іван Крапіўніцкі далей, ледзь не зачапіўшы плячом Тупіцына, аднак ва ўпор яго не бачачы: дырэктару падабалася грэбаваць работнікамі, няхай цяпер і сам паесць гэтага хлеба…

На наступным тыдні, цёплым жнівеньскім вечарам прагульваючыся па праспекце Незалежнасці непадалёк ад ГУМа, Іван сярод мінакоў заўважыў Віталіка, хударлявага пранырлівага хлопца, з якім яны раней разам працавалі ў аддзеле забеспячэння фабрыкі «Керамічныя гаршкі і талеркі».

— О, Віталь, здароў! — паціснуў старому знаёмаму руку Іван.

— Прывітанне, Крапіўніцкі! Як маешся?

— Ды нармальна, працую паціху, а ў вас што новага?

— Ёсць навіны! Дырэктар звольніў начальніка аддзела кадраў Служакіну!

— Не можа быць! — не паверыў Іван. — Яна ж так перад ім прагіналася!

— Можа, яшчэ як можа! Дырэктару яе месца спатрэбілася для сваячкі, вось ён Служакіну і турнуў! Яна была ў шоку, ты бачыў бы яе твар! — залівіста зарагатаў Віталік.

— А юрыст… таварыш Карупцыянаў, у яго як справы?

— Юрыст пакуль ліпіць на пасадзе, не ведаю, ці надоўга. Палову рабочых звольнілі, а кантору трымаюць. Я, дарэчы, звальняюся таксама, нарэшце мой кабальны кантракт скончыўся. Ды хутка прадпрыемства наогул лясне. Дырэктар Тупіцын яму ў гэтым паспрыяе…

Іван адчуваў унутраны спакой, падзеі на прадпрыемстве, дзе ён адпрацаваў некалькі гадоў, яго больш не хвалявалі. Усё засталося ў мінулым. Толькі часам узгадваў ён суд і сваё змаганне за парушаныя правы працоўных. Той суд шмат на якія рэчы адкрыў яму вочы, бо з іх упалі ружовыя акуляры і недзе заваліліся пад судовую лаву, там і засталіся. Іван Крапіўніцкі набіраўся жыццёвага вопыту.

# На курсах нямецкай з праграмістамі

## 1

Адміністрацыйны будынак роўным слупком узвышаўся на вуліцы Максіма Багдановіча. Тугія зашклёныя ўваходныя дзверы дома штохвілінна расчыняліся. На першым паверсе ў цесным, затаптаным холе няспынна перакідвала металічныя рогі прапускная круцёлка. Народ уторкваў карткі ў проразь, круцёлка міргала светлавым вокам і паварочвалася пад рукой, адкрываючы шлях на паверхі. За наведвальнікамі праз адкрытую ў шырокім акне вахцёрскай загародкі, малую, як дзірка ў шпакоўні, фортку назіраў вахцёр, худы мужчына ў старым, зашмальцаваным, апранутым на тоўсты світар пінжаку, які ціснуў пад пахамі. Яго выцягнуты твар меў начальніцкі выгляд.

Таццяна, прыемная зграбная жанчына сярэдніх гадоў узялася за металічны адпаліраваны рог і, звярнуўшыся да вахцёра, коратка прамовіла:

— Курсы нямецкай.

Яна спазнялася, спантанна рукой, захопленай вузкай лайкавай пальчаткай, штурхнула круцёлку, аднак тая не кранулася з месца.

— І што, што курсы нямецкай?.. Пропуск! — праклацаў сківіцамі пахмурны твар вахцёра.

— Няма ў мяне ніякага пропуска, учора я прыходзіла сюды першы раз, вахцёр мяне прапусціў.

— Тое было ўчора. Я за таго вахцёра адказнасць не нясу, я за сваю працу адказваю. Калі Вы не маеце пропуска, то павінны быць занесены ў спіс. Як Ваша прозвішча?

Таццяна зірнула праз фортку ў адгароджаную ад хола вахцёрскую, сустрэлася вачамі з недобразычлівым муж-

чынскім позіркам і, зразумеўшы «сур'ёзнасць» справы, выразна па складах вымавіла:

— Лі-са-вец!

Вахцёр нахіліў выцягнуты твар над лістом паперы і доўга, празмерна ўважліва вывучаў напісанае.

— Вашага прозвішча тут няма, я Вас не прапушчу! — узрадваўся ён рэдкай удачы каго-небудзь зачапіць, бо цэлымі днямі сядзеў нікому не патрэбны ў цеснай будцы за зашклёным вакном.

— Вы, напэўна, перш чым стаць вахцёрам, былі вайскоўцам? — выказала здагадку Таццяна наконт яго папярэдняга жыцця.

— Я — педагог! — горда выпрастаўся вахцёр.

— Ах, пе-е-дагог… Ды што Вы гаворыце?! Як я магла так памыліцца? — падчапіла яго Таццяна, бо здагадалася, што вартаўнік вырашыў паказальна прадэманстраваць перад ёй пільнасць, і даходліва патлумачыла: — Але ж мне ўсё адно трэба прайсці, курсы нямецкай аплачаны — маю права.

Які скарб вахцёр-педагог самааддана і руплiва ахоўваў у гэтым будынку, было вялікай загадкай. Дом нагадваў вулей, прахадны двор, на яго паверхах размяшчаліся безліч усялякіх курсаў і арэндаваных камерцыйнымі фірмамі офісаў. Магчыма, ён ахоўваў ад спакуслівых выведнікаў беларускі эканамічны цуд, схаваны па кабінетах.

— Я Вас не прапушчу!

— Я гэта ўжо зразумела, — адказала Таццяна, у думках паспешліва шукаючы рашэнне, і яно прыйшло: вахцёр сам павінен падказаць выйсце. — Тады ўдакладніце, будзьце так ласкавы, якім чынам я магу патрапіць на курсы?

— Няхай Ваша выкладчыца спусціцца ўніз да мяне і папросіць, каб я Вас прапусціў.

Унутранае задавальненне ад таго, што нехта прыйдзе выконваць яго загад, відавочна выпірала на вахцёрскім твары. Ён сам выклікаў па тэлефоне да сябе ў вахцёрскую, як у кабінет міністра, выкладчыцу нямецкай мовы.

Выкладчыца прыехала на ліфце. Дзверы ліфта расчыніліся, і са зваротнага боку круцёлкі да Таццяны падплыла высокая статная маладзіца ў сінім кароткім, вышэй за калена сарафане. Пад сарафанам другой скурай рукі і шыю ахопліваў тонкі шчыльны чорны гольф, боты на абцасах высокімі тугімі халявамі ўпіраліся ў калені моцных маладых ног.

— Гэта мая вучаніца, Таццяна Лісавец, — па-начальніцку засведчыла Таццяніну персону выкладчыца і адкінула рукой з ілба буйную грыву цёмных, густых, падкарочаных ніжэй плячэй валасоў.

На вахцёра яна не глядзела, зірнула толькі мімаходзь, калі выходзіла з ліфта.

— Чаму яна не занесена ў спісы? — маючы на ўвазе Таццяну, тыцнуў ён пальцам у пакамечаны ліст з прозвішчамі.

— Гэта не мой абавязак уносіць некага ў спісы. Я — выкладчык. Спісамі павінна займацца адміністрацыя.

— Паклапаціцеся, калі ласка, нагадаць вашай адміністрацыі, каб яны ў час падавалі інфармацыю пра наведвальнікаў курсаў, — важна цадзіў скрозь зубы вахцёр.

— Не турбуйцеся, я перадам Вашу просьбу, і з адміністрацыі Вам патэлефануюць, — у той жа манеры адказвала яму выкладчыца.

Праход Таццяны ў будынак нагадваў запуск ракеты ў космас: узгадненні, спісы, адказнасць за справу. Адно незразумела: чаму мы такія старанныя, ды такія бедныя?

Круцёлка нарэшце скранулася і прапусціла Таццяну Лісавец на курсы нямецкай мовы.

На чацвёртым паверсе ў невялікім кабінеце, прыстасаваным пад вучэбную аўдыторыю, куды Таццяна дабралася пад аховай выкладчыцы, за доўгім шырокім, з падрапанай стальніцай сталом, абстаўленым паабапал крэсламі, сядзелі чатыры курсісты, спрэс праграмісты. Іх фірма арэндавала офіс паверхам вышэй, і яны, нібы з камп’ютарных нябёсаў, спускаліся ўніз на чацвёрты

паверх за зямнымі ведамі замежнай мовы. Стол займаў амаль усю аўдыторыю, пакідаючы вузкія праходы ўздоўж сцяны. Крыху вольнага месца заставалася ля ўвахода, там жа пры дзвярах стаяла металічная фарбаваная вешалка, пустая. Праграмісты пакідалі верхняе адзенне ў офісе на пятым паверсе, а Таццяна распранулася ў гэтым пакоі. Кашэміравае паліто на лёгкай падбіўцы саслізнула з яе плячэй і, пачэпленае на вешалку, гулка грукнула аб метал стойкі шырокай спражкай скуранога пояса. Пакуль вешала паліто, Таццяна злавіла сябе на думцы, што ад праграмістаў сыходзіць жлобская адчужанасць. Яна зайшла, павіталася: «Добры дзень!» Але ў адказ ніхто не прамармытаў ні слова і не паварушыўся. У іх маніторным самазадаволеным калектыве Таццяна была выпадковай, залётнай птушкай. Часова беспрацоўная, знайшла яна сабе занятак у выглядзе вывучэння замежнай мовы. Два месяцы таму, трапіўшы пад скарачэнне, Таццяна спачатку пераймалася, шукала новае месца працы, але хутка звыклася з вольным графікам, адчуўшы файнасць свабоднага жыцця, яе муж нядрэнна зарабляў, і на побытавыя патрэбы грошай у сямейным бюджэце хапала. Вывучэнне нямецкай мовы было для Таццяны нечым накшталт забавы і разнастаіла паўсядзённасць: панядзелак, серада — шпацыр на дзённыя курсы.

Праграмісты вучылі мову па неабходнасці. У век прагрэсу і новых тэхналогій дыстанцыйна, седзячы ў мінскім офісе, працавалі яны на немцаў, рабілі праграмныя прадукты і прадавалі ў Германію. Мінская камп’ютарная кампанія аплачвала ім курсы нямецкай мовы. Асаблівай стараннасцю праграмісты не вылучаліся і слухалі выкладчыцу няўважліва. Іх знаходжанне на лекцыях было палавінчатым: седзячы ў кабінеце, яны часткова сыходзілі ў астрал.

На мінулым занятку Таццяна іх разгледзела і ўжо мела пэўнае ўяўленне пра кожнага з прысутных.

Айцішніца па імені Лера з двума праколамі ў вуху, закальцаванымі срэбранымі, прыціснутымі да мочкі за-

вушніцамі-кругамі, пласкагрудая, коратка стрыжаная, у грубым шэрым світары з белым арнаментам, калі заходзіла ў аўдыторыю, так моцна пляскала аб стол плоскім, з шырокімі лістамі нямецкім падручнікам, што яе калегі-праграмісты ўздрыгвалі. У гэтым плескачы яна поўнасцю выкладвалася і на астатнія паўтары гадзіны заціхала, нібы ў самнамбулічным сне.

Высакаваты, з правільнымі прывабнымі рысамі твару праграміст Дзяніс размаўляў нягучным голасам, ад яго сыходзіла аўра мяккасці. Зрабіўшы памылку ў вусным перакладзе, ён часам чырванеў, як дзяўчына, адразу ж выпраўляўся і занатоўваў у сшытак нямецкае слова; дарагая дыхтоўная асадка з залацістым абадком на каўпачку пад яго рукой уціскалася стрыжнем у паперу і дакладна прапісвала кожную літару. Дзяніс быў акурацістам, перад ім заўсёды ляжала некалькі чыстых роўна складзеных лістоў паперы. Апранаўся ён педантычна і з густам, мужчынскі гардэроб запаўнялі рэчы пераважна някідкіх пастэльных колераў.

Дзве асатнія наведвальніцы курсаў падаваліся задуменнымі і абыякавымі да грунтоўнага вывучэння нямецкай мовы. Адна з іх, заўважна цяжарная, была занята сваім цікавым становішчам, а другую, патлатую, з блытанымі, апушчанымі на прышчавы твар валасамі Таццяна ў гэты дзень бачыла першы і апошні раз. З'явілася тая мімаходзь — і знікла.

Выкладчыца нямецкай мовы Юлія, якая высвятляла адносіны з вахцёрам, а потым суправаджала Таццяну ў аўдыторыю, адпавядала вучням найлепшым чынам: сканцэнтраваная на ўласным, як ёй здавалася, глыбокім унутраным свеце, мову выкладала павярхоўна і ведаў не патрабавала. Яе галава была забіта галівудскімі кіназоркамі, а з языка не сыходзіў Брэд Піт.

— Сённяшняя наша тэма — «адпачынак», — абвясціла прысутным Юлія план занятку. — Паразмаўляем пра водпуск. Як перакладаецца на нямецкую слова «водпуск»?

— Urlaub, — дапамог з перакладам старанны Дзяніс.

— Правільна. Der Urlaub. Не забываемся пра артыклі, якія ўказваюць на род слова: der, die, das, — картавіла Юлія, падрабляючы нямецкі акцэнт. — А зараз прыдумаем якую-небудзь незвычайную гісторыю, звязаную з водпускам. Напрыклад: я іду па пляжы на Таіці, а насустрач мне — Брэд Піт. «O, meine susse! Du gefallst mir sehr! — sagt er mir». («О, мая салодкая, ты мне вельмі падабаешся! — гаворыць ён мне»), — перайшла выкладчыца Юлія на нямецкую мову, голас яе раптоўна зрабіўся гарачым і пераліўістым, яна ўяўляла сваю сустрэчу са знакамітым акцёрам.

Праграмісты выйшлі з астрала і, раскрыўшы раты, слухалі гісторыю пра Брэда Піта, які спаткаў салодкую Юлію на Таіці, а Юлія з жарсцю круціла перліны любоўна-свецкай размовы.

— Так, так, прыдумваем гісторыі пра адпачынак і расказваем мне іх па-нямецку, — нарэшце вярнулася з Таіці ў рэчаіснасць Юлія.

Вучні засаплі, паўздыхалі і пачалі па паперы крэмзаць асадкамі, робячы вялікія паўзы, у задуменні падпіраючы лбы рукамі і закрэсліваючы напісанае. Прыдумванне гісторый прабуксоўвала, не ва ўсіх жа ёсць на падхваце Брэд Піт, якога сустрэнеш на пляжы.

Нечакана дзверы ў аўдыторыю прыадчыніліся і, спачатку ўсунуўшы галаву з доўгімі, закінутымі на адно плячо валасамі, а потым з'явіўшыся ўсёй постаццю, паказалася запозненая вучаніца, якая асвяціла аўдыторыю жоўтай, нейкага куранячага колеру кофтай-байкай.

— Аліна прыехала, — злёгку ажывіліся праграмісты, яны былі між сабой знаёмыя, адна камп'ютарная шайка-лейка.

Аліна прагуляла некалькі заняткаў і літаральна ўчора вярнулася з замежнай паездкі.

— Alina, bitte, kommen zu uns! (Аліна, калі ласка, ідзіце да нас!) — запрасіла яе выкладчыца Юлія перабольшана радасным голасам, нібыта толькі і чакала прыходу Аліны. — Мы сёння праходзім якраз тэму адпачынку,

для Вас гэта актуальна, далучайцеся, прыдумляйце захапляльны, неверагодны аповед пра водпуск!

Усім сваім выглядам выкладчыца Юлія старалася паказаць праграмістам кампанейскасць і сяброўскасць у адносінах да іх, аднак праграмісты былі да яе захадаў абыякавыя.

Аліна прысела побач з Дзянісам, коса, неахайна кінула нямецкі падручнік на стол. Сшытак для запісаў яна з сабой не прынесла і таму пільна агледзела курсістаў: у каго б разжыцца паперай? Не спытаўшы дазволу, беспардонна выцягнула з-пад Дзянісавай рукі запасны чысты ліст і, нізка нахіліўшыся, пачала пісаць на ім востра заточаным простым алоўкам нямецкія сказы. Сціплы Дзяніс прыняў яе ўчынак як належнае. Скарыстанай напалову гумкай падцірала Аліна няўдалыя славесныя звароты, яе сагнутая далонь, шоргаючы па паперы, страсала з ліста крошкі расцярушанай гумкі на ўласную жоўтую байку, а заадно і на Дзянісавы штаны.

Выкладчыца Юлія лёгкай пругкай хадой прагульвалася за спінамі курсістаў і, прыпыняючыся, зверху зазірала ў іх нататкі.

— Хто ў нас будзе першы адказваць і прачытае гісторыю пра адпачынак?.. Alina, bitte, Sie. (Аліна, калі ласка, Вы), — са штучнай вясялосцю прамовіла выкладчыца.

Аліна паднесла ліст бліжэй да вачэй і, падслепавата ў яго зазіраючы, распавяла пра сплаў на байдарках. Запінаючыся, блытаючыся ў нямецкіх артыклях і прыназоўніках, яна нязграбна ляпіла нямецкія сказы і, дзівячыся таму, што напрыдумляла, тут жа па-руску тлумачыла сэнс напісанага.

— Alina, gut, gut! (Аліна, добра, добра!), — хваліла яе выкладчыца Юлія.

Дзе яна знайшла «гут-гут» у Аліным апавяданні праз пень-калоду? Праўда, і астатнія наведвальнікі курсаў, уключна з Таццянай, былі на ўзроўні таго «гут-гута».

— Аліна, Вы можаце дапоўніць Ваша апавяданне і падаць яго больш яскрава! — Юліі захацелася фарбаў

у сухіх нямецкіх сказах, і яна карцінна прамовіла фразу: — Напрыклад: «Die Natur gibt uns aus volle Handen!» («Прырода дае нам з поўных рук!»)

— Аддацца з поўнымі рукамі? — крыху засумняваўшыся, зрабіла асабісты пераклад Аліна.

Юлія не здолела ўтрымаць педагагічны выраз твару і следам за праграмістамі, якія пачалі хіхікаць, скрозь сціснутыя сківіцы, давячыся, сутаргава засмяялася.

— Аддацца з поўнымі рукамі! Класна! — Дзяніс захапіўся эратычнасцю перакладу і тут жа запунсавеўся ад раптоўнай, не ўласцівай яму смеласці выказвання, чырвань плямамі разлілася з яго твару на шыю да каўняра сарочкі.

— Працягваем апытанне. Bitte, gehen wir weiter! (Калі ласка, ідзём далей!), — Юлія пастукала рукой па стале, заклікаючы да парадку і намагаючыся стрымаць уласны смех. — Хто наступны?.. Denis, bitte, Sie. (Дзяніс, калі ласка Вы.)

Дзяніс пакратаў сябе за мочку барвовага вуха і, ніякавата нахіліўшы галаву да пляча, падглядаючы ў шпаргалку з запісамі, распавёў пра прыгоды ў замежжы.

— Ich mag sehr Frankreich. (Мне вельмі падабаецца Францыя.)

І пайшла пісаць губернія: я там быў усяго адзін раз, і то праездам, але маё сэрца назаўсёды застанецца з гэтай краінай, дзе-небудзь у Парыжы ці ў Правансе… Прыблізна так.

Следам за Дзянісам вызначыліся і астатнія, у марах раз’ехаліся адпачываць па свеце, у Беларусі ніхто не застаўся. Хтосьці прыдумаў адпачынак на Карыбах, іншыя гарэзілі на Лазурным беразе Францыі. Таццяна ўлілася ў агульную плынь прыдуманага адпачынку і адправіла сябе на Маёрку.

Шмат хто з мінчан праводзіў лета ў дзяцінстве, з’язджаючы з Мінска да продкаў, дзядуль і бабуль, у малыя правінцыйныя гарады ды састарэлыя сярод палёў і лясоў драўляныя вёскі, гадаваліся ў бабулі на падрумя-

неных аладках і свежых яйках з-пад курыцы. А іх баба Валя ці баба Галя за старым садам, зарослым яблынямі з падсохлымі галінамі, у нізкай прысадзістай лазні гнала самагонку і разлівала каламутную сівуху ў трохлітровыя слоікі, а потым каркавала іх пластмасавымі тугімі накрыўкамі. Але калі гэтыя бабуліны гарэзы, «карэнныя» мінчане выраслі, яны старанна пазбягалі тэмы вясковых аладак і правінцыйнага паходжання ўласных бацькоў, затое ахвотна абмяркоўвалі круасаны, французкае шампанскае і віскі «Балантайн», а пры слове «самагонка» моршчыліся і рабілі выгляд, што чуюць яго першы раз і наогул яны ўсе вытанчаныя, блакітнай крыві… У нас столькі князёў ад веку не было, колькі ў Мінску з'явілася іх «нашчадкаў».

Паўтары гадзіны вучні прысвяцілі замежжу.

— Bei uns war heute ein sehr interessantes Tnema. (Сёння у нас была вельмі цікавая тэма), — падсумавала выкладчыца Юлія.

Чаму не? І на Таіці пабывалі, і на Маёрцы, а галоўнае, сустрэлі Брэда Піта на пляжы. Час, адведзены на вучобу, скончыўся, і праграмістаў нібы здзьмула ветрам. З заняткаў яны ўцякалі, як з-пад прымусу на пяты паверх, дзе атабарылася іх камп'ютарная ўстанова…

Пасля курсаў Таццяна ехала дадому ў перапоўненым тралейбусе нумар 53. У салоне шчыльна скупіўся людскі натоўп, да цеснаты спрычыніліся восеньскія паліто і курткі на сінтэпоне, пасажыры няўклюднымі мядзведзямі варушыліся ў праходах. Шчаслівчыкі занялі сядзенні і старанна паглядалі ў вокны, каб выпадкова не ўбачыць старэнькую бабулю ў салоне і пад ціскам рэштак сумлення не саступіць ёй месца. За тралейбусным акном на вуліцы вільготны восеньскі дзень расцякаўся імжыстым туманам, золкім ветрам залятаў пад капюшоны мінакоў, здзімаючы іх з галавы. Закутыя асфальтам гарадскія дрэвы сумна глядзелі голымі, пазбаўленымі апошняга лісця галінамі ў густое, цёмнае неба, што нізкай смугой навісала над шматпавярховымі дамамі. Жыхары горада спорна

пляскалі абуткам па мокрым асфальце, паскараючы хаду, спяшаючыся да прыпынку, каб з настылай вуліцы хутчэй залезці ў цёплы тралейбус.

Да выхада, энергічна працуючы локцямі, праціскалася жанчына, удала слізгала ў балоневай куртцы між пасажыраў тралейбуса. На яе расшытай па кругу дробным бісерам вязанай шапцы, што з'ехала на вочы, збоку заўзята матляліся два пампончыкі.

— Вы выходзіце на плошчы Бангладэш? — спытала яна мужчыну, што стаяў на ніжняй прыступцы і перагарадзіў ёй выхад з тралейбуса.

Жанчына была прыезджая і блыталася ў назвах мінскіх вуліц і плошчаў.

Мужычок завадскога выгляду азірнуўся на пасажырку падпітым тварам, крэкнуў і адказаў:

— Гэта краіна ў нас — Бангладэш, а плошча называецца Бангалор!

Скураная куртка фасону, які развітаўся з модай яшчэ ў пазамінулым сезоне, па-заліхвацку тапоршчылася на мужчынскіх ах. Адамашнены, даўно і ўдала жанаты мужычок пры клапатлівых жончыных руках выглядаў ахайна, быў памыты і дагледжаны. Адно толькі жаданне цяпнуць паўлітры на траіх пасля працоўнай змены не магла жонка выкараніць з яго звычак. Гэты сімвал мужчынскай свабоды — піць з кім хоча і колькі хоча — ён трымаў моцна. Падзаправіўшыся з сабутыльнікамі хмяльным напоем, ехаў цяпер дадому. На яго галаве па-баявому, тырчком стаяла старая, ваўняная, уся ў дробных скатаных галках шапка з адваротам. Тралейбус рэзка затармазіў перад машынай, якая яго падрэзала, пасажыры вохнулі і ўтрамбаваным натоўпам хітнуліся наперад. Жанчына з пампончыкамі не ўтрымала раўнавагу, навалілася целам на мужычка і спрытна абхапіла рукой яго шыю. Тузануўшыся, тралейбус дацягнуў да прыпынку і расчыніў дзверы-скразнякі, з якіх праз шчыліны несупынна дзьмула круглы год.

Падпіты мужычок маладцавата саскочыў з прыступкі на прыпынку «Плошча Бангалор». Абярнуўшыся, ён

падаў руку пасажырцы, што нядаўна лягла на яго і абдымала, гуллівая ўсмешка блукала на мужчынскіх патрэсканых, абветраных вуснах. Пасажырка прыняла яго выкшталцонае абыходжанне, абаперлася на прапанаваную руку. Мужчыны «пад шафэ» надзвычай галантныя. Ён прысунуўся бліжэй да ўпадабанай пышнагрудай спадарожніцы і сіпатым голасам, намагаючыся прыняць зухаватую паставу, прапанаваў ёй прадоўжыць знаёмства, аднак дама ў шапцы з пампончыкамі хутка ад яго ўцякла…

## 2

У спісы Таццяну ўнеслі, і цяпер, ідучы на заняткі праз цесны халодны хол, яна магла ўпэўнена прамовіць вахцёру: «Таццяна Лісавец. Курсы нямецкай». Круцёлка пакорліва пускала яе ў людскі мурашнік. У аўдыторыю, дзе ладзіліся курсы, Таццяна прыходзіла першая і самотна сядзела непадалёк ад выкладчыцы Юліі, часцей маўчала, перакладала нешта ў сумцы, пісала ў нямецкім сшытку. Абедзве яны ў свой час прыехалі з правінцыі скараць сталіцу, здаецца, мелі шмат агульнага, але ім не было пра што гаварыць, людзі з рознымі памкненямі: адна — з Брэдам Пітам у галаве, а другая — з думкамі пра вячэру для сям’і. Крыху пазней падцягваліся запаволеныя, нібы паўсонныя праграмісты. Апошняй з’яўлялася айцішніца Лера, нязменна ў адным і тым жа шэрым, мехаватым світары з арнаментам, гучна пляскала яна нямецкім падручнікам аб стол, і заняткі пачыналіся.

— Сённяшняя тэма — сям’я і дзеці. Meine Familie. (Мая сям’я.) Чытаем спачатку тэкст у падручніку, старонка сто дваццаць тры. Bitte nehmen Sie das Buch und suchen den Text. (Калі ласка, бярыце кнігу і шукайце тэкст.) Наша тэма гучыць так: «Ці трэба нараджаць дзяцей у маладым узросце?» — гучна прамовіла выкладчыца Юлія, звяртаючыся да камп’ютаршчыкаў і выцягваючы іх з астрала.

Яна прахаджвалася ўздоўж стала, як мадэль па подыуме. Малады гнуткі стан выкладчыцы мякка ахоплівала пясочнага колеру камізэлька, апранутая на карычневы гольф. Класічная спадніца, дакладна падабраная пад колер гольфа, інтрыгавала прадаўгаватым бакавым разрэзам. Рука Юліі гладзіла каралі са светлага бурштыну, накроеныя плоскімі буйнымі аваламі. Юлія любіла прыхарошвацца.

Наведвальнікі курсаў згіналіся над падручнікамі. Тэкст паведамляў ім, як жыццё часам падкідвае людзям неспадзяванку: васямнаццацігадовая нямецкая дзяўчына і дваццацігадовы хлопец, абодва студэнты, жывуць даволі актыўным палавым жыццём, ды вось дзіва, ад гэтага, як высвятляецца, здараюцца кіндэр-сюрпрызы. Дзяўчына паведамляе свайму бойфрэнду, што да дзевятнаццаці гадоў яна можа стаць мамай. І што ж ім, бедным, рабіць? Іх бацькі абяцаюць дапамагчы матэрыяльна і аплачваць здымную кватэру, але ж патэнцыйнаму татусю Гельмуту давядзецца на пару гадоў кінуць вучобу, знайсці працу і карміць сям'ю.

— Sind sie fertig? Gut! (Вы гатовыя? Добра!) Так, цяпер па чарзе адказваем: як вы лічыце, ці трэба нараджаць дзяцей у раннім узросце? — спытала абвешаная бурштынам выкладчыца Юлія вучняў.

Пераспелая камп'ютарная моладзь, узростам каля трыццаці, плюс-мінус пару гадоў, няўхвальна завохкала. Цяжарная курсістка Ксеня нявесела паглядзела на жывот, што акругліўся пад ваўнянай шырокай сукенкай; забыўшыся, што трэба адказваць па-нямецку, прамовіла:

— А можа, гэта і добра — у дзевятнаццаць нарадзіць. У такім зросце ўсё лёгка і проста, злётаеш на дыскатэку, ноч не паспіш, а потым на лекцыі ў інстытут, і хоць бы хны. А калі табе пад трыццаць, то неяк лянiва і спіну ломіць, і паляжаць хочацца, а тут яшчэ дзеці, — цяжка ўздыхнула яна.

— Раней сядзеш, раней выйдзеш, — пажартавала Таццяна, яе пялёнкі ды распашонкі засталіся ў далёкім мінулым,

Дачка і сын з'явіліся на свет, калі Таццяне было крыху за дваццаць; яны ўжо адвучыліся ў ВНУ і самі зараблялі на хлеб, а Таццяна магла заняцца сабой, мець вольны час і нават дзеля асабістага задавальнення наведваць курсы нямецкай мовы. Выхаваныя ў традыцыях брэжнеўскага сацыялізму пад дэвізам «Сям'я — найважнейшая ячэйка грамадства», Таццяна і яе равесніцы гэту ячэйку будавалі актыўна і заўзята, да апошняга курса інстытута палова дзяўчат былі рамантычна закаханыя і хутка павыходзілі замуж, а праз год пасля заканчэння вучобы амаль усе астатнія пабраліся шлюбам і дзяцей займелі. Засталіся двое незамужніц: адна багатага жаніха шукала, а другую замуж ніхто не браў з-за невыноснага, істэрычнага характара. З таго часу шмат што змянілася, сацыялістычныя арыенціры выйшлі з моды, моладзь пераймала капіталістычны лад жыцця і прагрэсіўныя еўрапейскія каштоўнасці, і цяпер Таццяна назірала дзіўныя вынікі прагрэсу, як прысутныя тут маладыя людзі не імкнуцца сем'і ствараць і абзаводзіцца дзецьмі.

— Und Sie Alina, was meinen Sie? (Што думаеце Вы, Аліна?) — спытала выкладчыца Юлія.

Аліна («аддацца з поўнымі рукамі», двадцаці васьмі гадоў ад нараджэння) растлумачыла, што яе час не надышоў, маладая зусім, не саспела для шлюбу і дзяцей, і наогул, ёй трэба атрымаць другую вышэйшую адукацыю. Аліна была апантаная ідэяй бясконцай і бессэнсоўнай вучобы на разнастайных курсах і ў чарговай ВНУ, гэта гульня ў пашырэнне кругагляду і падвышэнне інтэлектуальнага ўзроўню была банальным прыкрыцём, каб як мага далей адцягнуць пераход у дарослае сямейнае жыццё.

Пачырванелы Дзяніс перакінуў адказнасць за нашчадкаў на сяброўку, з якой грамадзянскім шлюбам тры гады жыў на здымнай кватэры. Дзяніс дзяцей не планаваў.

— Гэта павінна вырашаць жанчына, — ухіліста адпрэчваў ён.

«Наша справа не нараджаць, зрабіў справу і ўцякаць», — які мужчына ў пару жаніхоўства не грашыў падобнымі думкамі?

— Und Sie, was meinen Sie Iulia? (А Вы, што думаеце Вы Юлія?) — закінула Таццяна, як кручок рыбцы, пытанне вакладчыцы.

— Я? Што думаю я?! — збянтэжана залапатала Юлія. Звычайна яна сама на правах выкладчыцы ставіла пытанні, а зараз, аказаўшыся на месцы вучняў, адчувала сябе нязвыкла.

Аднак, даволі хутка вярнуўшыся да звыклай упэўненасці, Юлія энергічна прайшлася рукамі па мяккай камізэльцы, папраўляючы яе на асінай таліі, і адказала так, што заткнула іншых за пояс.

— У майго дзіцяці будзе ўсё… усё самае лепшае! Дзіця мае мусіць жыць у прасторнай сучаснай кватэры, у асобным дзіцячым пакоі, мець выдатныя цацкі, самыя найлепшыя рэчы, кожны год адпачываць на моры за мяжой. Я хачу, каб маё дзіця ні ў чым не мела патрэбы!

«Хто ж такія выгоды яе дзіцяці забяспечыць? Напэўна, Брэд Піт. "O, meine sussi!" ("О, мая салодкая!")», — прамільгнула іранічная думка ў Таццянінай галаве, яна прыгадала, як на мінулым занятку Юлія мроіла сустрэць на замежным пляжы галівудскага акцёра.

Юлія хацела ўсё і адразу. Багацце нехта вельмі забяспечаны павінен быў ёй прынесці на сподачку. Маладая выкладчыца нямецкай мовы здымала ў Мінску танную аднапакаёўку з сяброўкай на дваіх. Яна прыехала з Драгічына і дакладна ведала, як выглядае заможнае жыццё, бачыла ў кінафільмах. У Мінску Юлія рабіла кар'еру, пяты год бесперспектыўна працуючы на курсах. Раз на месяц яна ездзіла ў Драгічын праведаць маму з татам, атрымлівала ад іх чарговы грашовы транш на падтрыманне мінскага жыцця і міфічнай кар'еры.

— А колькі дзіцяці трэба для шчасця? Агучце суму, bitte (калі ласка)… І дзе ўзяць кватэру? Будуюць, буду-

юць, ды міма нас, — з посным тварам выцягвала з сябе словы цяжарная мінчанка Ксеня.

Адметнасцю Ксені быў штодзённа незадаволены твар, быццам ёй чагосьці не дадалі. Яна жыла разам з мамай у двухпакаёўцы ў спальным раёне Мінска, адчувала сябе пад маміным дахам і апекай зручна і ўтульна, і муж Ксені ў цешчы пасяліўся. Ксеня бегаць, мітусіцца, шукаць падпрацоўкі, збіраць грошы на ўласную кватэру не любіла і не хацела, яна лічыла, што жылплошча павінна раздавацца мінчанам па праве нараджэння. Нарадзіўся ў Мінску — атрымай кватэру. Правінцыялы ў яе вачах былі асноўнымі ад'ёмшчыкамі квадратных метраў:

— Калі я бачу, як прыезджыя афармляюць крэдыты на кватэры, гэта мяне раздражняе, панаехалі тут! — сцебанула яна новых кандыдатаў у сталічныя жыхары.

Выкладчыцу Юлію перасмыкнула, рот сутаргава скрывіўся вугалком уніз, прамоўленая фраза тычылася і яе, а яна ж падладжвалася, старалася быць сваёй у гэтай кампаніі мінчан-праграмістаў. Не атрымалася. Ксеня абышлася з ёй груба і непачціва. Юлія саўладала з сабой і натужна, ненатуральна засмяялася, пераводзячы сказанае на гумар.

Ксеня ж абсалютна не пераймалася наконт таго, што яе беспардонныя рэплікі могуць быць Юліі непрыемныя. Яна належала да пароды людзей, якія прытрымліваюцца свабоды слова выключна для сябе, і бесцырымонна магла сказаць суразмоўцу, што ўздумаецца, аднак да ўласнай нічым не адметнай персоны патрабавала камплементарнага стаўлення і тактоўнага падыходу.

Мінчане-праграмісты апатычна глядзелі перад сабой, словы Ксені не мелі да іх дачынення, у кожнага быў пашпарт з мінскай прапіскай. А тое, што іх бліжэйшыя продкі калісьці ў пошуках лепшага жыцця, прыхапіўшы адзіны чамадан, з правінцыі прыбылі ў сталіцу, у пашпарце не пазначана.

Астатнюю частку заняткаў Юлія правяла без уласцівага ёй імпэту, настрой яе быў сапсаваны.

## 3

Заняткі па нямецкай мове аднастайна цягнуліся тыдзень за тыднем. Незаўважна прамільгнула восень і на вуліцы завaладарыла зіма, абсыпала срэбным інеем дрэвы, аздабляючы чароўнай іскрыстасцю кожную, нават самую дробную галінку, захапіла ў сцюдзёныя снежныя абдымкі гарадскія дамы і двары. Марознымі днямі здавалася, што людское жыццё настывала і запавольвалася. Праграмісты неахвотна злазілі з пятага паверха на чацвёрты, часцяком прагульвалі лекцыі. Да сярэдзіны снежня ў аўдыторыі пасяліўся холад, даволі моцны мароз прабіраўся сюды нават праз двайныя шыбы. Старыя рамы з вуліцы пакрыліся палосамі снегавой ваты, збіраючы на сабе і прымацоўваючы да шыбаў бязважкія сняжынкі, што падалі з неба. Захутаны ў белы снег дзень заліваў халодным святлом шырокі стол, за якім размясціліся наведвальнікі курсаў.

Выкладчыца Юлія дакранулася рукой да пакрытай жоўтай патрэсканай фарбай батарэі ацяплення. Чыгунны гармонік пёк пальцы гарачынёй, але цяпла, каб нагрэць аўдыторыю, не хапала. Юлія ўключыла абагравальнік, які ўяўляў сабою плоскі металічны блін на дзвюх пластмасавых нагах-лыжах. Абагравальнік прымасціўся ля падваконніка, а яна заўсёды сядзела спіной да вакна на чале стала, гэта было яе выкладчыцкае месца.

— Heute komt zu uns ein neuer Student! (Сёння прыйдзе да нас новы студэнт), — пастаўленым моцным голасам, разганяючы санлівасць праграмістаў, паведаміла Юлія. — Beginnen wir ein neues Thema, er komt speter. (Пачынаем новую тэму, ён прыйдзе пазней.)

Вучні зашамацелі доўгімі лістамі нямецкага падручнік.

Юлія прахаджвалася ўздоўж акна, зябка хутаючыся ў цеплыню шырокага пухнатага шаліка, накінутага на плечы.

У дзверы пастукалі, і ў аўдыторыю зайшоў новы вучань.

— Guten Tag. (Добры дзень), — сказаў ён з парога.

Гэта быў незвычайны суб'ект у чорным драпавым паліто з мяккім чорным мутонавым каўняром і ў чорнай шапцы-вушанцы на галаве. Вушы шапкі, загнутыя наверх, завязваліся матузамі на макаўцы. З выгляду — тыповы член Палітбюро камуністычнай партыі Савецкага Саюза.

— Guten Tag, Aleks, nehmen Sie, bitte, Platz. (Добры дзень, Алекс, сядайце, калі ласка), — як звычайна бадзёрым голасам запрасіла Юлія.

Усе павярнулі галовы да навічка. Таццяна здзіўлена ўтаропілася ў яго шапку-вушанку: маладыя людзі ў нас такія не носяць.

Алекс моўчкі расшпіліў паліто, размерана, нібыта лічачы, выпрастаў кожны гузік з пятліцы, павесіў вопратку на вешалку ля ўвахода. Гэтак жа павольна зняў шапку, зачапіў яе над паліто на адтапыраным шосціку вешалкі. Прыгладзіўшы рукой і без таго прылізаную светлую чупрыну, ён рушыў да стала і прыстасаваўся на вольным месцы побач з Таццянай, спрытна шчоўкнуў бліскучай зашчапкай чорнай, калянай на выгляд сумкі-партфеля і, адкінуўшы накрыўку, няспешна дастаў сшытак і асадку. Партфель ён паставіў на падлогу каля стула, і толькі пасля таго, як дакладна, выверана выканаў кожны свой рух, нарэшце абвёў ён вачамі курсістаў.

— Aleks, haben Sie schon Deutsch gelernt? (Алекс, Вы ўжо вывучалі нямецкую мову?) — надаўшы сабе сур'ёзнасці, спытала выкладчыца Юлія.

І тут Астапа панесла.

— Ja, ja, Naturlich! Ich habe Deutsch an der UNI studiert und noch habe ich ein Jahr in Deutschland gewont. (Так, так, вядома! Я вучыў нямецкую мову ў ВНУ, яшчэ я год жыў у Германіі), — сыпаў ён нямецкімі словамі як з рога дастатку, упэўнена выштукоўваючы ёмістыя славесныя звароты. У праграмістаў адпалі сківіцы.

— Навошта Вам вучыць нямецкую мову? Вы так добра шпрэхаеце, самі каго хочаш можаце навучыць! — сказала Таццяна, захопленая экспрэсіяй і аб'ёмам ведаў Алекса, і павярнулася да яго, каб лепш разгледзець.

Перад ёй сядзеў малады мужчына з аскетычным тварам і вузкімі рыскамі няўсмешлівых вуснаў, светлыя вейкі і бровы на яго лбе ледзь чыталіся. Некалі дадзеныя яму ад прыроды белыя валасы з гадамі пацямнелі, набыўшы дымную шэрасць. Ён зазірнуў Тацціяне ў твар самаўпэўненымі, невыразнымі, з туманным налётам вачамі:

— Я хотел учиться немецкий, я не очень хорошо говорить немецкий.

«Член Палітбюро» ў шапцы-вушанцы па-руску размаўляў з акцэнтам. Гэта быў госць з замежжа. З дапамогай свайго касцюміраванага прыкіда, скапіраванага са старых савецкіх фільмаў, ён хацеў мімікрыраваць і пераўтварыцца ў сапраўднага беларуса.

— Fragen Sie den neuen Studenten, wofur Sie sich interessiren. (Запытайцеся ў новага студэнта, што вас цікавіць), — налаштоўвала праграмістаў на размову Юлія.

Але іх нічога не цікавіла. Яны абыякава пазіралі на незвычайнага персанажа, які завітаў на курсы. Дзяніс наогул вачэй не падняў, а крэмзаў асадкай у сшытку.

Аліна перарвала маўчанне дзяжурным пытыннем:

— А з якой краіны Вы прыехалі?

— Bitte Deutsch, Alina. (Калі ласка, па-нямецку, Аліна), — павучальна стукнула пальцам па стале выкладчыца Юлія.

— Зараз скажу, дайце падумаць.

Аліна напружыла мазгі: спачатку думаць, а потым гаварыць. Цяжка. Яна правяла рукой па закінутых на адно о валасах, сабрала іх у шчыльную стужку, а потым зноў гулліва раскінула пасмы і спытала:

— «Адкуль» — гэта па-нямецку во-хін ці во-хер? (Wohin, woher — куды, адкуль.)

Глыбіня ведаў плавала на паверхні.

— Wo-her, — падказала выкладчыца Юлія.

— Woher kommen Sie? (Адкуль вы прыехалі?) — нарэшце здолела сфармуляваць сказ Аліна.

— Ich bin aus Niderland angekommen, es ist meine Heimat. (Я прыехаў з Нідэрландаў, гэта мая Радзіма), — без запінкі адтарабаніў Алекс.

— Задаём пытанні яшчэ, bitte, bitte (калі ласка, калі ласка), — заахвочвала выкладчыца вучняў да працягу бяседы.

У праграмістаў больш пытанняў не было. І так усё ясна: з Нідэрландаў чалавек — і досыць.

— Sind Sie verheiratet? (Вы жанаты?) — спытала па-нямецку ў Алекса Таццяна.

«Зараз пачнецца», — прачытала яна ў вачах выкладчыцы, якія радасна забегалі, Юлія не забылася, як Таццяна ў яе выпытвала, калі трэба нараджаць дзяцей. Вось цяпер няхай і Алексу дастанецца!

— Я жанаты, — адказаў Алекс і насцярожана скасавурыўся ў бок Таццяны: ці не хоча яна яго спакусіць?

— А дзеці ў Вас ёсць?

— Так, дачка.

— А колькі ёй гадоў?

— Два гады нядаўна споўнілася, — незадаволена, марудна прагаворваючы нямецкія словы, адказваў Алекс.

— А Вам колькі гадоў?

Алекс запнуўся, нібы састарэлая кабета, што хавае свой узрост.

— Трыццаць пяць, — вымавіў ён, крыху памуляўшыся.

— А даўно Вы жывяце ў Мінску?

— Sind Sie Polizistin?! (Вы — паліцыянтка?!) — усклікнуў Алекс, ва ўпор гледзячы на Таццяну. — Я мочь показать пашпорт, миня есть вид жительства!

Алекс перайшоў на рускую мову, здаецца, ён жартаваў, але ж раздражнёна, нават з бравадай і еўрапейскім снабізмам.

— Не, не трэба, — адмахнулася Таццяна. — Насамрэч, я проста хацела даведацца, як жывуць сем'і ў Нідэрландах. У мяне таксама муж і дзеці, беларуская сям'я.

«Гэткі мне шпак, калі і распытала трохі біяграфію, нічога з табой не зробіцца», — у думках паразважала Таццяна наконт Алексавай асобы.

— Моя жена из Беларусь, — паведаміў прысутным Алекс.

Жанаты на беларусцы, хоць нешта праяснілася. З сумкі-партфеля Алекс вывудзіў пашпарт і працягнуў праграмістам, дазваляючы праўдзіць наяўнасць дазволу на жыхарства ў Беларусі. Праграмісты манерна адмаўляліся. Выкладчыца Юлія ўзяла дакумент, пакруціла яго ў руках, дзеля прыліку пагартала старонкі з візамі і іншымі адзнакамі і вярнула ўладальніку. Праграма заняткаў зрывалася. Алекс, які адцягваў увагу ад яе выкладчыцкай персоны на сябе сваім знешнім выглядам, сямейным становішчам, пашпартам, за кароткі час надакучыў ёй па самыя Нідэрланды.

— Пачынаем новую тэму, — паспрабавала вярнуць вучняў да вывучэння нямецкай мовы бойкім голасам Юлія і шчыльней захінулася ў цёплы ўтульны шалік.

— А я быў у Галандыі, — ціха прамовіў Дзяніс.

— Нідерланды. Мой страна правильно называть по-русски Нидерланды, — павучальна паправіў Дзяніса госць з замежжа.

— Я быў у Нідэрландах два гады таму, — Дзяніс паслухмяна выправіўся. — Вельмі прыгожая краіна, навокал усё патанала ў зеляніне, а цюльпаны… — і пачаў дзяліцца ўражанямі ад паездкі, рассыпаючыся ў рэверансах перад Алексам.

— У нас таксама летам наваколле патанае ў зеляніне. Ёсць куткі некранутай прыроды, безліч азёраў, лясы і пушчы, я захапляюся нашай прыродай, — перацягнула коўдру з Нідэрландаў на Беларусь Таццяна.

Аліна зморшчыла твар: што Таццяна гародзіць, хваліць Радзіму — гэта зусім не «камільфо». Аліне было няёмка за суайчынніцу з яе аповедамі пра пушчы і куткі некранутай прыроды. Таццяна ж адчувала азарт, нахвальваючы беларускія азёры і лясы, яна падспудна пацвельвала кам-

панію аматараў замежнага. Яны ўпарта маўчалі, ніхто і словам не падтрымаў захапленняў мясцовымі краявідамі.

Пачуўшы, як Таццяна апісвае хараство родных мясцін, Алекс зацікаўлена зірнуў у яе бок, бо яму хацелася больш даведацца менавіта пра Беларусь, краіну, у якую ён пераехаў на сталае жыхарства.

— Deutsch, bitte, deutsch, gehen wir weiter! (Нямецкая мова, калі ласка, нямецкая мова, ідзём далей!)

У гэты дзень Алекс быў зоркай. Будуючы складаныя, напоўненыя эпітэтамі сказы, ён падоўгу на нямецкай мове размаўляў з выкладчыцай Юліяй. А Юлія закідвала яго пытаннямі пра еўрапейскае жыццё. У яе паводзінах дадалося шарму і нязмушанасці — гэткая абаяльная дасціпніца-балбатушка. Брэд Піт часова быў абрынуты з п’едэстала…

Едучы дадому пасля заняткаў, Таццяна думала пра замежніка, што нечакана ўзнік на курсах, з галавы не выходзіла адна акалічнасць: чаму ён пасяліўся ў Мінску? Няўжо ў Беларусі з яе пахмурным надвор’ем, золкай восеньскай слотай і суровай зімой лепш, чым у Нідэрландах? Забраў бы з сабой у Еўропу жонку, дачку і жыў бы прыпяваючы, патанаючы ў зяляніне сярод россыпу кветак, у краіне цюльпанаў…

**4**

Пацягнуліся нудотныя лекцыі. Алекс сумленна наведваў кожны занятак і бліскаў ведамі, завабліваючы выкладчыцу Юлію ў працяглыя нямецкія дыялогі. Часам ён выштукоўваў нумары: прыносіў у аўдыторыю з рынку мочаны часнок, закручаны ў цэлафанавы пакет, прапаноўваў паглядзець на яго і пытаўся нямецкі пераклад назвы часныка. Праграмісты моршчылі насы, адсоўвалі ад сябе пакунак, ад якога нават праз цэлафан прасочваўся ядраны пах засолу. Наступным разам замежнік Алекс

неспадзявана пачынаў распытваць іх пра квашаную капусту, уганяючы ў ступар камп'ютарны бамонд, што прэтэндаваў на вытанчанасць, уключна з выкладчыцай Юліяй.

Адну з лекцый Алекс усё ж прагуляў. Таццяна і прагмісты без яго разгрызалі тэму сусветных знакамітасцяў. «Ці хацелі б вы шпацыраваць па вуліцы, дзе калісьці жыла выбітная зорка кіно Марлен Дзітрых, пабачыць яе дом, палюбавацца садам, дзе вясной у квецені дрэў адпачывала Марлен. А можа, вы марыце сустрэць Ніколя Саркозі і спытаць яго пра планы на будучыню?» — прапаноўвала выкладчыца Юлія вучням выказацца на гэты конт.

Абапершыся рукамі аб спінку стула, яна пастуквала па ёй пальцамі і тлумачыла, як трэба будаваць аповед:

— Напрыклад: я іду па вуліцы, а насустрач мне…

— Брэд Піт, — тэлепатычна, не прамовіўшы ні гуку, падказала Таццяна.

— А насустрач мне Брэд Піт… Gehen wir zusamen ins Kafe und trinken die Tasse Kafee und schprechen. (Ідзём мы разам з ім у кафе, выпіваем кубачак кафы, размаўляем), — праспявала ялейным голасам Юлія.

«Бедны Брэд Піт, такую дзеўку правароніў! Шкада, што яго перахапіла Анджаліна Джалі, не даехаў з Амерыкі да Драгічына», — у думках пасмейвалася з Юліных летуценняў Таццяна.

Яна ўзялася за асадку і, паразважаўшы хвіліну, напісала ў сшытку спіс з дзвюх зорак, з якімі хацела б сустрэцца, і зрабіла караценькі накід зорнай размовы.

Юлія мякка ступала ботамі на высокіх абцасах па падлозе, праходзячы за нахіленымі над сшыткамі спінамі, зазірала ў запісы; «Gut, gut», — узнагароджвала вучняў гутгутамі.

Праз плячо ў канспект Таццяны цікавала праграмістка Лера. Сёння яна, адбамбардзіраваўшы нямецкім падручнікам стол, уладкавалася побач з Таццянай на месцы Алекса.

— Вы ўжо напісалі, з кім хацелі б сустрэцца? — шэптам запытала праграмістка Таццяну. — А я нешта ніяк не прыдумаю.

— Я адразу напісала. Гэта ж проста, вось, чытай, — падсунула Таццяна свой сшытак Леры.

Лера прыхінулася бліжэй, распаліўшы ў сабе крыху азартнасці і жадання падгледзець, якіх знакамітасцяў хоча пабачыць больш сталая за яе разважлівая Таццяна.

— Святлана Зелянкоўская і Сяргей Міхалок, — ледзь чутна, каб не замінаць іншым курсістам, прачытала Лера. — Ніколі б не падумала, — прамовіла яна азадачана і праз імгненне сумна перавяляла позірк на свае нататкі. — А я напісала пра Нікаля Сарказі… А чаму Вы напісалі, што хочаце сустрэцца з Зелянкоўскай і Міхалком?

— Чаму, чаму? Дзіўнае пытанне. Зелянкоўская — актрыса Купалаўскага тэатра, і Сірожа Ляпіс-Трубяцкой наш мясцовы беларускі музыка, — даходліва тлумачыла яна Леры. У Таццяніных запісах Сяргей Міхалок значыўся як «Сірожа Ляпіс-Трубяцкой», па назве папулярнага гурта, які ён ачольваў, ёй так больш падабалася. Заўважыўшы ў заўсёды млявай праграмісткі ў вачах агеньчык цікаўнасці, шчыра ёй даводзіла: — Яны ж свае, родныя знакамітасці. Уяўляеш, як мы можам з імі класна пасядзець за кубачкам гарбаты, паразмаўляць, — малявала Таццяна зорную сустрэчу. — А што ты будзеш з Сарказі абмяркоўваць, рост французкай эканомікі? — шэптам, змешаным з кпінамі, спытала яна нахіліўшыся да Лерынага закальцаванага двума срэбнымі кругамі завушніц вуха.

— А я таксама абяру Святлану Зелянкоўскую, — праніклася Лера ідэяй. — Паразмаўляем пра сваё, пра жаночае, — захоплена сказала яна і занатавала прозвішча Зелянкоўскай ў сшытак. — Міхалка пісаць не буду, абыдзецца, — ва ўяўленні Леры мужчына зусім не пасаваў да размовы пра жаночае паміж ёй і Святланай Зелянкоўскай.

Яна занурылася падбародкам у высокую гарлавіну вязанага ваўнянага світара і адалася мройным думкам.

— Gut, sprechen wir uber unseres Theme. Beginnen Sie Alina. (Добра, размаўляем пра гэту тэму. Пачынайце Вы, Аліна.)

Аліна падняла перад сабой канспект і, падслепавата мружачы вочы, агучыла змест пажаданых для яе аўдыенцый. З яе вуснаў пасыпаліся аповеды пра галівудскіх зорак і славутых на ўвесь свет замежных спартсменаў. Іншыя курсісты рапартавалі ва ўнісон з Алінай. Біла Гейтса, заснавальніка найбуйнейшай сусветнай камп'ютарнай кампаніі «Майкрасофт», ніхто з праграмістаў не згадаў, нецікавая для іх асоба.

Чарга адказваць па тэме дайшла да Таццяны, і яна паведаміла прысутнай тут кампаніі, з кім бы са знакамітасцяў хацела сустрэцца.

— Святлана Зелянкоўская і Сяргей Міхалок, — як выклік, прагучаў яе выбар. Аўтары опусаў пра галівудскіх зорак павярнулі да яе галовы.

— Ser original! (Вельмі арыгінальна), — узрушана павысіла голас выкладчыца Юлія.

Выбраць беларускае, надаць яму вагу — гэта ў нас ser original!

Уражаная нечаканым паваротам размовы, Юлія прысела на выкладчыцкае месца ля стала.

— Erzelen Sie bitte. (Расказвайце, калі ласка), — прамовіла яна тонам, якім выклікаюць да дошкі.

Таццяна, падбіраючы словы з небагатага дойчэмоўнага запасу, расказала пра сустрэчу з беларускімі зоркамі.

Аліна, кісла-лімонна зморшчыўшы твар, прыдзірліва разглядала Таццяну. Ёй не падабалася звычка Таццяны мець асабістае меркаванне з беларускім ухілам. На ярка-бэзавай кофце-байцы Аліны вылучаліся вышытыя англійскія літары, як пазнака яе арыенціраў. Пялегаваныя белыя рукі яна паклала перад сабой на стол, дэманструючы астатнім дэкаратыўна распісаныя пазногці. У Аліных манерах адчувалася пазёрства, змяшанае з інфантылізмам. Сямейная пястуха. Родныя пра яе празмерна клапаціліся — і мама з татам, і старэйшы жанаты брат,

што жыў з сям'ёй асобна, але не забываўся на бацькоўскі запавет «сястра за цябе меншая, ёй трэба дапамагаць». Сваякі насіліся з Алінай як з пісанай торбай, і яна да дваццаці васьмі гадоў захавала падлеткавыя звычкі з дамешкам капрызлівасці. Свет навокал Аліна разглядала праз акно ўтульнай бацькоўскай кватэры, дзе абстаноўка была прыстасавана выключна пад яе інтарэсы, каб дачцэ было зручна і камфортна. Тыя, хто бачыў жыццё па-іншаму, не так, як яна, Аліну ўнутрана раздражнялі, бо гэтыя людзі парушалі ўласнымі меркаваннямі свяшчэнны цяплічны спакой яе душы. Цяжка ўявіць, з якім грукатам абрынуўся б нетрывалы домік яе ілюзій, апынiся яна сам-насам з рэальным жыццём. Аліна карысталася ўсім гатовым і была вельмі прывязана да сям'і, прывязанасцю чалавека, які толькі спажывае і амаль нічога не дае ўзамен.

— Алекс, як Вы можаце знаходзіцца ў Мінску без блізкіх вам людзей, без бацькоў, без брата і сястры? — аднойчы спачувальна спытала яна ў замежніка.

— Я ім тэлефаную і ў госці часам прыязджаю, — неўразумела пацiснуў плячамі Алекс.

— Усё адно хочацца быць побач са сваякамі, — настойвала Аліна.

— У мяне жонка і дачка, я побач з імі, — тлумачыў Алекс і ніяк не мог уцяміць, чаму ён павінен жыць менавіта з бацькамі і знаходзіцца побач з братам і сястрой.

У аўдыторыі тым часам працягвалася апытанне па тэме ўяўнай сустрэчы вучняў з выбітнымі асобамі, выкладчыца Юлія падзарадзілася гуллівасцю, на мулкім стуле ёй не сядзелася, яна лёгка з яго падхапілася і ў прыўзнятым настроі пачала курсіраваць узад-уперад ля стала.

— Між іншым, на асобу кожнай знакамітасці і на любога іншага чалавека ўздзейнічае яго знак гараскопа, — пашырала межы лекцыі Юлія, яна наважылася ўразіць курсістаў кругаглядам і дасведчанасцю ў астралогіі. — Мы ведаем дванаццаць знакаў: Казярог, Авен, Леў… і гэтак далей. Асобы, народжаныя пад адным сузор'ем, маюць падобныя рысы характару, што выяўля-

юць іх сутнасць. Прывяду вам прыклад: мая сяброўка па знаку задыяка Вагі. Гэта — нешта! Збіраемся пайсці з ёй павячэраць у кафэ, то яна цэлы дзень будзе выбіраць месца, дзе б хацела прабавіць час. Вечарам гадзіну чакаю, пакуль яна прымярае сукенкі перад люстрам і ніяк не можа вырашыць, што апрануць. Даставу-у-чая! І наогул, выключная зануда і ныцік, — весялілася выкладчыца Юлія.

Звычайна няўважлівыя, праграмісты гэтым разам са стоеным дыханнем слухалі выкладчыцу. Аліна сціснула рукой закінутую на адно плячо шырокую стужку валасоў і незадаволена прымружыла вочы. Зануранны ў кніжку Дзяніс адарваў вочы ад старонак падручніка і ніякавата пазіраў у бок Юліі. Лера нервова церабіла каўнер світара. Адна толькі цяжарная Ксеня, падпёршы бараду рукой, абыякава глядзела перад сабой.

— Дату нараджэння згаданых вамі знакамітасцяў і іх астралагічны знак паглядзіце дома, пашукайце ў інтэрнэце. А вось ваш асабісты знак задыяка мы можам высветліць зараз. Erzehlen ihr uber eure Stemzeihen. Lera, bitte, Sie. (Раскажыце пра ваш знак. Лера, калі ласка, Вы), — заўзята спытала Юлія.

— Я — Вагі, — коратка адказала Лера і шчоўкнула асадкай.

— І я таксама, — наўздагон, нібыта выбачаючыся, ціха прамовіў Дзяніс.

— Ich bin auch. (Я таксама), — падкінула ў скарбонку Вагаў сваю асобу Аліна.

Такога «патрапінгу» выкладчыца Юлія не чакала, хоць пад стол хавайся.

— Und Sie Tazziana? (А Вы, Таццяна?) — з прывіднай надзеяй на лепшы сыход працягвала апытанне выкладчыца.

— Ich bin auch Wage (Я таксама Вагі), — падцвердзіла Таццяна.

Юлія паспрабавала стварыць на твары нешта падобнае да ўсмешкі, аднак выходзіла не вельмі.

— Nein Ich bin keine Wage. (Не, я не Вагі), — крыху аблегчыла яе долю посным голасам Ксеня, але ўсё адно гэта ўжо нічога не мяняла.

Юля не прадбачыла, што абсалютна розныя і па характары, і па паводзінах людзі, якія сядзелі зараз перад ёй, знаходзяцца пад уплывам аднаго знаку задыяка, ды яшчэ таго самага, якому яна так неабачліва адпускала кепікі. Яна на імгненне ў разгубленасці застыла ля акна, вочы яе ліхаманкава забегалі.

— Gehen wir weiter… Heute haben wir… (Ідзём далей… Сёння мы маем…) — уцякаючы ад здзейсненага, замітусілася, зашпрэхала актыўна выкладчыца Юлія па-нямецку, энергія захапіла яе і панесла наперад, занятак яна правяла на адным дыханні, такой экспрэсіі курсісты да гэтага дня не бачылі…

## 5

Наперадзе чакалі навагоднія святы, якія распачыналіся каталіцкім Раством. Перадсвяточныя справы зусім адбілі ў праграмістаў ахвоту вучыцца. Яны спаўзалі з пятага паверха да сярэдзіны занятку, выкладчыца Юлія сардэчна запрашала далучацца вучняў, што зазірнулі на агеньчык, часу хапала хіба, каб запісаць хатняе заданне. А Алекс да Новага года так і не з’явіўся.

Горад гэтымі днямі быў урачысты і прыгожы. У кожным доме запахла хвояй і мандарынамі. Наведвальнікаў курсаў захапіў вір разнастайных, яскравых падзей з Дзедам Марозам і Снягуркай, іскрыстымі рознакаляровымі гірляндамі, шумнымі феерверкамі, што ракетамі ўзляталі з белага снежнага долу гарадскіх двароў і россыпам зорак асвятлялі начное зімовае неба, з гуляннямі да самай раніцы ў ажыўленым вірлівым натоўпе ў ноч, калі стрэлкі гадзінніка пачалі адлічваць час новага года.

Толькі пасля таго, як адшумелі, адвіхурылі святы, у студзені месяцы заняткі аднавіліся ў поўным складзе. Аўдыторыя, дзе выкладалася нямецкая мова, зноў запоўнілася вучнямі.

Алекс застаўся верным іміджу члена Палітбюро і як звычайна з'явіўся апрануты ў драпавае паліто з мутонавым каўняром ды з шапкай-вушанкай на галаве. Начапіўшы на вешалку неразлучную пару, ён прайшоў уздоўж стала і чынна сеў побач з Таццянай.

— Alle sind heute hier. Das ist gut. Beginnen wir unere Lektion. (Усе сёння тут. Гэта добра. Пачынаем нашу лекцыю), — сказала Юлія, паправіўшы накінуты на плечы палатняны доўгі шаль колеру спелага граната, які вольна спадаў краямі да падола сукенкі. З надыходам халадоў Юлія ўпрыгожвала сябе шалямі. — Heute habeh wir eine gute Moglichkeit uber unsere Ferien sprechen. (Сёння маем мы добрую магчымасць паразмаўляць пра нашы канікулы), — выкладчыца Юлія ўзялася за апытанне накшталт школьнага: як ты правёў лета, толькі зараз тычылася яно зімы. –Алекс, калі ласка, пачынайце Вы.

Зусім нядаўна адгулі навагоднія святы, і было што дастаць са скарбонкі святочных прыгод.

Рысуючыся перад іншымі вучнямі багатым запасам нямецкіх слоў, Алекс шчыра і падрабязна падзяліўся гісторыяй падарожжа, як іх з жонкай на сваёй машыне вазіў у Германію на калядны распродаж яе брат. Па ўсім было відаць, што Алексу даспадобы шанаванне, з якім ставіліся да яго жончыны сваякі. «Mein Schwager, Mein Schweger» (мой швагер, мой швагер) раз-пораз паўтараў Алекс, узгадваючы жончынага брата. А дачку Алекс перадаў цешчы з цесцем, каб даглядалі. Вольнае жыццё. Не патрэбна яму Еўропа, даеш Беларусь! Закупіўся таварамі на распродажы ў еўрапейскіх крамах — ды назад у сінявокую. Алекс шукаў разнастайнасці ў жыцці, ён зусім не хацеў аддаваць маладыя гады заводу ў Нідэрландах ці завіснуць у нідэрландскім офісе планктонам. Уставаць кожную раніцу ў адзін і той жа час і ісці на працу для яго

было невыносна. Ён меў невялікі па еўрапейскіх мерках заробак, праз электронную пошту працуючы з паперамі і перакладамі, аднак гэты заробак дазваляў яму нябла-га існаваць у Мінску, дзе выдаткі на побытавыя патрэбы былі значна таннейшыя, чым у Нідэрландах. Удала карыстаючыся піетэтам беларусаў да замежнікаў, ён напаўняў асабістае жыццё прыемнасцямі і яскравымі фарбамі.

Аліна сустракала Новы год у моладзевай кампаніі. Завітала яна на кватэру да сяброўкі за пару гадзін перад яго надыходам і атрымала даручэнне падрыхтаваць талерку салаты аліўе. «Трэба было адкрыць банку зялёнага гарошка, моркву пачысціць і пакрышыць, дадаць іншыя інгрыдыенты. Я так стамілася», — манерна жалілася Аліна. Прыгатаванне банальнай салаты адняло ў яе шмат сіл. Больш за ўсё стамляюцца людзі, якія нічога не робяць.

Калядная тэма раскартурхвала, падбадзёрвала і выцягвала з нудотнага стану праграмістаў. Яны ажывіліся, пачалі перакідвацца рэплікамі. Дзяніс блытана пажартаваў пра любоўны трохкутнік і, засаромеўшыся праяўленай смеласці, заліўся чырванню ад чупрыны да каўняра.

— А почему вы не говорить беларуский мова? — раптам спытаў Алекс і дапытлівым позіркам прамацаў курсістаў.

Яго сустрэла зацятае глухое маўчанне.

Алекс добрасумленна наведваў заняткі нямецкай мовы, але не дзеля вывучэння мовы, ён даследаваў беларусаў, разглядаў, ацэньваў. У кемлівасці яму нельга было адмовіць, кемлівасць была яго прыроднай рысай, нарадзілася паперадзе Алекса. Пашпартам напаказ, мочаным часныком ды квашанай капустай ён правакаваў кампанію, што збіралася на курсах, і пільна сачыў за іх паводзінамі і звычкамі, вывучаў.

Першай загаварыла выкладчыца Юлія:

— Ведаеце, Алекс, гэта не такое простае пытанне, як здаецца на першы погляд, — сабрала яна ў замок пальцы рук, ціскала, выгінала далоні. — Калі я пачну размаўляць па-беларуску, людзі будуць думаць, што я — з апазіцыі.

Словы Юліі Алекса не пераконвалі, і ён засумняваўся наконт слушнасці яе меркавання:

— У вас говорить беларусский мова не один аппазиция. Моя жена есть на работа человек, он — не аппазиция, но он говорить беларуский мова.

— Усё адно гэта не так проста, — не знаходзячы аргументаў, хадзіла кругамі Юлія.

— Вас будуць садить турма? Вас будут арестовать, когда вы говорить белорусский мова?

— Не, канечне, не будуць, але… так… хм.. як гэта Вам растлумачыць, — пыкала-мыкала, запіналася Юлія.

Алекс паважна прываліўся да спінкі стула, быццам чытаў натацыю.

Таццяна рашыла, што трэба зрабіць невялікі экскурс у гісторыю Беларусі для замежнага госця:

— Алекс, нашым продкам за беларускую мову давялося шмат выцерпець. Вы кажаце: ніхто не садзіць турма, ніхто не арыштоўваць… Нашых дзядоў і прадзедаў арыштоўвалі і ў турму садзілі, і ў Сібір высылалі… Называлі нацыяналістамі, сярод іншага і за тое, што яны размаўлялі і пісалі на роднай мове. Асабліва пацярпела беларуская інтэлегенцыя. І цяпер Вы, Алекс, назіраеце наступствы мінулага, вынікі прымусовай русіфікацыі.

— Я не панимать. Это было раншэ, тэперь другой врэмя.

Алекс не хацеў разбірацца з дэталямі моўнай праблемы і не распытваў пра беларускую гісторыю, каб глыбей зразумець краіну, яму было прасцей і зручней спаслацца на іншы час.

«Дзе ўжо табе зразумець. Вы ў вашых Еўропах мінуэты танцуеце, а нашых баяраў не бачылі», — колка падумала Таццяна, маючы слабую надзею данесці хоць штосьці да свядомасці чалавека, які вырас у іншых гістарычных умовах, быў выхаваны ў краіне, што не зазнала ні паланізацыі, ні русіфікацыі. У краіне, дзе ён ад нараджэня размаўляў і адукацыю ў школе ды ВНУ атрымліваў на роднай мове, і дзяржава яму гэта забяспечвала.

— Я бы говорить белорусский мова, если быть беларус, — павучальна прамовіў Алекс.

Удалая пазіцыя — уяўляць сябе героем чужога змагання, у якім не ўдзельнічаеш, а назіраеш збоку, як глядач з глядацкай залы. Алексу здавалася, што ён бы лёгка і нязмушана размаўляў па-беларуску ў зрусіфікаванай краіне. І гэта чалавек, які знайшоў магчымасць утульна прыстроіцца ля жончынай спадніцы, пры тым ні разу не сцвердзіў сваёй грамадзянскай пазіцыі нават у абарону рэдкіх відаў птушак. Безумоўна, шмат у чым ён меў рацыю, але ж пачуць настаўленні ад асобы прынцыповай — гэта адно, а ад мышаняці, якое сядзіць у Беларусі пад венікам і забаўляе сябе курсамі нямецкай ды паездкамі на закуп у Еўропу, — зусім іншае. Імкненне зразумець сутнасць беларускага моўнага пытання перакрывалася ў Алекса самазадаволеннасцю: я ж у Нідэрландах — ды па-нідэрландску, а вы ў Беларусі — ды не па-беларуску, не дацягваеце да мяне. Мараліст з яго атрымліваўся ніякі, але Таццяне ён быў сімпатычны ўжо тым, што цікавіўся беларускай мовай.

— Я размаўляю па-беларуску з мамай і сваякамі, і з іншымі, хто па-беларуску размаўляе, — сказала Таццяна.

Астатнія слухалі, схаваўшыся ў футарал маўчання.

— Вы говорить дома?

— Не толькі дома, але і на вуліцы, і ў транспарце, усюды. Мая мама наогул па-руску не размаўляе, не ўмее, заўсёды — па-беларуску. Шмат людзей размаўляюць на беларускай мове, у асноўным яны жывуць у вёсках і малых гарадах, так склалася. Ды і ў Мінску дастатковая колькасць жыхароў валодае беларускай, але сябе не праяўляюць. Гэта, хутчэй, псіхалагічная праблема, чым праблема ведання мовы. Чалавек, які размаўляе па-беларуску ў зрусіфікаваным Мінску, адчувае сябе, як пад мікраскопам, людзі навокал пачынаюць прыслухоўвацца і прыглядацца да яго.

Аліна, якая выязджала за межы сталіцы ў асноўным на адпачынак у Еўропу і каб на байдарках пакатацца, якая

ніколі не бывала ў вёсцы, бо з далёкімі сельскімі сваякамі яе сям'я сувязяў не падтрымлівала, а райцэнтры Беларусі Аліна бачыла праездам і нават прыблізна не ведала, як і чым жыве краіна, наважылася прыняць удзел у размове.

— Я працавала перапісчыкам, — ганарліва прамовіла яна, намагаючы надаць голасу аўтарытэтныя інтанацыі. — Падчас перапісу насельніцтва шмат хто ў Мінску называў роднай мовай беларускую, а размаўлялі пры гэтым па-руску. Я лічу так: на якой мове са мной размаўлялі, тую і павінны запісваць роднай, — Аліна дэманстравала рашучасць даваць указанні іншым, як ім сябе паводзіць, каб ёй было зручна; яна ўнутрана натапырылася, узгадваючы, як падчас апытання ў сем'ях мінчан яна зрабіла для сябе адкрыццё, што жыхары горада часцяком маюць адрозныя ад яе погляды.

Аліна ўяўляла з сябе красамоўны ўзор русіфікацыі. Яна хвалявалася: а раптам запісаныя беларускамоўнымі грамадзяне патрывожаць яе зашклёнае рускамоўнае жыццё ў бацькоўскай кватэры? І давядзецца ёй вучыцца размаўляць па-беларуску, а яна ж гэтага не хоча. Нямецкую Аліна вучыць, а мову краіны, дзе жыве і матэрыяльнымі здабыткамі якой карыстаецца, засвойваць не жадае.

— А ты не думала, што людзі, якія нарадзіліся дзе-небудзь у правінцыі, ад нараджэння размаўлялі па-беларуску, а потым выраслі, пераехалі ў Мінск і вымушаны былі прыстасавацца ў зрусіфікаваным горадзе пад рускамоўных, бо ім не далі выбару, але першую сваю мову, беларускую яны называюць роднай. Ды і многія мінчане вызначаюць у якасці роднай беларускую. Пра гэта ты не думала?

Пажаваўшы ружовыя вусны, Аліна скрывіла іх і коса зыркнула на Таццяну, затойваючы незадаволенасць, тым больш, што ў яе два разы запыталіся: «Ты не думала?» Думаць і аналізаваць для Аліны было занадта складанай справай.

— Gehen wir weiter. (Ідзём далей), — скамандавала выкладчыца Юлія і спрытным рухам хутка разгарнула

падручнік. — Lernen wir heute neue Worter… (Вучым сёння новыя словы…)

Ёй трэба было працягваць лекцыю, каб выканаць план занятку.

Да гэтага моманту яна прыслухоўвалася да размовы, нічым сябе не праяўляючы і не каментуючы разважанні, аднак часам Таццяна заўважала, як Юлія ўспыхвала, наважваючыся нешта сказаць, і адразу гасіла спантаннае памкненне, быццам яе стрымліваў унутраны бар’ер, які яна не рашалася пераступіць.

Пасля заняткаў праграмісты гуртам пацягнуліся на працу на пяты паверх. Алекс марудна збіраў са стала кнігу, асадку, лісты з запісамі і складаў у партфель. У аўдыторыі акрамя яго засталіся выкладчыца Юлія і Таццяна. Юлія адчула сябе свабоднай ад «карэнных» мінчан-айцішнікаў, перад якімі яна рысавалася сталічнай штучкай, баючыся праявіць правінцыйнае паходжанне, і нарэшце выказалася.

— Мае дзяды і бабулі размаўляюць па-беларуску, — паведаміла яна. — Насамрэч, паскрабі любога беларуса, што па-руску размаўляе, і знойдзеш у яго беларускамоўных продкаў. А вось з моладдзю сітуацыя іншая. Мая стрыечная сястра Наталля выкладае беларускую мову і літаратуру ў ВНУ. Яна мне скардзілася на студэнтаў, уявіце, яны спрабуюць ёй здаваць экзамен па-руску, думаюць, дэманстраваць няведанне роднай мовы — гэта нармальна. Наталля смаліць ім двойкі, каб хоць крыху дастукацца да свядомасці. Толькі што яна можа ў зрусіфікаванай краіне? Студэнты з паветра не бяруцца, яны прыходзяць у ВНУ з рускамоўных школ, іх у краіне пераважная большасць.

Алекс уважліва слухаў, засяроджанасць накрэсліла на яго лбе прадольную баразну, але так да канца не зразумеў ні Таццяну, ні выкладчыцу Юлію. Азадачаны, спрабуючы асэнсаваць пачутае, ён выйшаў з аўдыторыі следам за Таццянай, яны спусціліся разам на ліфце на першы паверх. На вуліцы развіталіся: «Auf Wiedersehen!» (Да пабачэння!). І замежнік Алекс уласцівай яму разме-

ранай хадой чалавека, у якога дастаткова вольнага часу, у задуменні пакрочыў па тратуары, яго абганялі таропкія мінакі.

Таццяна засталася стаяць адна ля офіснага будынка, чакала сяброўку, каб разам пашвэндацца па мінскіх крамах. Побач гула вуліца імя выбітнага беларускага паэта Максіма Багдановіча, з раніцы да позняй начы шумела яна, запоўненая транспартам. Непаваротліва рухаліся па шырокай праезнай частцы зялёныя доўгія аўтобусы і тралейбусы, падчэпленыя на правады раздвоенай антэнай. Ці думаў паэт калісьці на пачатку дваццатага стагоддзя, што па-беларуску ў Мінску дваццаць першага стагоддзя на вуліцы, названай яго іменем, будуць гучаць выключна толькі аб'явы прыпынкаў?

Неба дробна церушыла сняжынкамі. Лёгкай цнатлівай беллю яны ападалі на шэры, брудны, збіты нагамі ў кашу ўчарашні снег, усцілалі яго свежым покрывам, парушынкамі садзіліся на каўняры і шапкі, ажурна аздабляючы футра на капюшонах мінакоў. Белы зімовы дзень марозам дакранаўся да твару. Таццяна лавіла сняжынкі на руку ў пальчатцы, разглядала карункавы крохкі малюнак.

З дзвярэй хола паказалася знаёмая постаць у джынсах і кароткай цёплай куртцы, шырока аздобленай па каўняры і адваротах на рукавах калматым футрам. На вуліцу выйшла Аліна. Яна на хаду нацягвала на галаву шапку. Шапка, фантазійна скроеная, на макаўцы разыходзілася двума рагамі. Аліна нізка насунула яе на лоб, прыкрыўшы вышчыпаныя тонкім паўмесяцам бровы, дзве доўгія стужкі валасоў, збегшы ўздоўж пухлых надзьмутых шчок, раскідаліся па каўняру. У рагатай шапцы Аліна нагадвала чарцяня. Гэткая дваццацівасьмігадовая пераспелая дзяўчынка-чарцяня кілаграм на семдзесят. Аліна прайшла міма Таццяны, абедзве яны стараліся не глядзець адна на адну.

## 6

На наступны занятак Алекс не з’явіўся. У аўдыторыі сабраліся ўсяго тры курсісты: Дзяніс, Таццяна і Аліна. Выкладчыца Юлія пачала лекцыю традыцыйна:

— Heute haben wir ein neues Thema. (Сёння ў нас новая тэма.)

Тэма эміграцыі і глабалізацыі. Калоніі, метраполіі. Свет змяняецца, развіваецца, шматгранны і разнастайны.

Юлія расказвала пра розныя дзяржавы, глабалізацыю, змешванне моў, уплыў эміграцыі на моўныя працэсы, становішча англійскай мовы ў сучасных афрыканскіх краінах.

Дачакаўшыся моманту, Аліна — «аддацца з поўнымі рукамі» з’едліва паглядзела на Таццяну і прамовіла:

— А беларуская мова хутка знікне, — вочы яе заблішчэлі радаснай тупасцю, якую сама Аліна выдавала за прасунуты інтэлект глабаліста.

«Даць бы ёй у рыла! — ахапіла Таццяну неўласцівае жанчыне жаданне, яна пачасала пад сталом кулак, які раптоўна засвярбеў. — Як яна можа так пра сваё, пра роднае?!»

— Ты занадта паспяшалася з высновай, гэтага не адбудзецца, — роўным голасам адказала Таццяна і расцягнула вусны ў халоднай, непрыязнай ўсмешцы, даючы зразумець сваё стаўленне да Аліны.

Ад абрынутага на яе ледзянога душа Таццянінай злоснай усмешкі Аліна сумелася і капрызліва прыкусіла ніжнюю губу.

Юлія не заўважыла схаванай за дзвюма кароткімі фразамі перапалкі. Яна была на выкладчыцкай хвалі і даводзіла лінгвістычнае бачанне пытання:

— Я думаю, не ўсё так адназначна, прынамсі, афрыканцы хутка размнажаюцца і размаўляюць, як ім падабаецца. Не факт, што англійская мова і надалей будзе мець у іх значны ўплыў. Магчыма, паступова яны яе заменяць

мясцовымі гаворкамі... — З афрыканскага кантынента Юлія перамясцілася ў Еўропу, краіны якой таксама не абмінулі моўныя праблемы: — А што тычыцца беларускай мовы, то я лічу, чым больш моў захоўваецца — тым лепш, свет ад гэтага толькі ўзбагачаецца.

# Эмацыйная закрытасць

Аўтобус з праспекта шырока і павольна паварочваў на вуліцу Валгаградскую. Людзі адклеіліся ад ларка «Белсаюздруку», ад лаўкі пад празрыстым дахам прыпыначнага пункта і, пралічваючы месца, дзе спыніцца аўтобус, пацягнуліся бліжэй да бардзюра. Ларыса Іванаўна, хударлявая ўвішная жанчына з дынамічнай стрыжкай у выглядзе асіметрычнага карэ ўглядалася ў шырокі зялёны аўтобусны лоб, пракрэслены лічбамі нумара. Веснавое сонца, гуляючы блікамі, адбівалася ў аўтобусным шкле. Аўтобус па краі праезнай часткі падплываў да прыпынку. Нумар 95. Ларыса Іванаўна павярнулася тварам да народа, што напіраў за спіной.

— Скажыце, калі ласка, я да трамвайных пуцей даеду на дзевяноста пятым? — разгублена-запытальна прамовіла яна да першага сустрэчнага.

На яе насоўваўся дзяцюк, вышэйшы на галаву, малады, укормлены. Вузкія ля шчыкалаткі джынсы абцягвалі яго лыткі, нізка правісалі на азадку і матнёй калыхаліся паміж ног.

— Калі ласка… дзевяноста пяты нумар у якім накірунку?.. — вырасла перад дзецюком Ларыса Іванаўна.

Дзяцюк, круцячы матнёй прыспушчаных штаноў і матляючы пры калене квадратнай, колеру хакі сумкай на доўгай лямцы, з затуманенымі вачамі, якія ва ўпор нічога не бачылі, адцёр Ларысу Іванаўну і панёсся насустрач аўтобусу. Танкам змятаў ён усё на сваім шляху. Ларыса Іванаўна спехам вызваліла дарогу маладым, адхінуўшыся ўбок, і ўгледзела ў вушах дзецюка чорныя круглыя клёпкі-затычкі навушнікаў ад плэера.

— Ай-я-я-й… Ён жа нічога не чуе, — па-мацярынску заклапочана захвалявалася Ларыса Іванаўна.

Аўтобус набліжаўся, шаргатліва прытармажваючы.

— Скажыце, дзевяноста пяты нумар да трамвайных пуцей?.. — кінулася Ларыса Іванаўна да дзяўчыны-студэнткі, што з адухоўленым тварам у задуменні стаяла паводдаль.

Мяккія валасы дзяўчыны, роўна расчасаныя на прамы прабор, надавалі твару карцінны пяшчотны вобраз: мадона з рэнесансных палотнаў.

— Я нічога не ведаю, — грубавата адшыла яе студэнтка, страціўшы адухоўленасць; не жадаючы турбаваць сябе адказамі на пытанні, яна шуганулася да ларка «Белсаюздруку».

— Дзетка, дзевяноста пяты паварочвае раней, да трамвая не даедзеш, — сівая рэдкавалосая сухенькая бабуля, ласкава называючы саракапяцігадовую Ларысу Іванаўну дзеткай, падкульгваючы, падышла да яе. — Дзетка, я табе зараз раскажу, як даехаць. Садзіся на сто трынаццаты… Як паверне — адразу выходзь, там побач убачыш трамвайны прыпынак, не заблытаешся.

Дзяцюк, уладар заглушаных навушнікамі вушэй, пругка, спартыўна заскочыў у аўтобус і, моцна ўхапіўшыся ў салоне за прут металічнай стойкі, шкляным позіркам утаропіўся скрозь акно паверх людскіх галоў у бяскрайнюю прастору.

— Вялікі дзякуй, — сардэчна дзякавала Ларыса Іванаўна бабулі, — здаецца, і ведаеш Мінск, а апынешся ў новым месцы — пра ўсё трэба распытваць.

— А чаму не спытаць? На тое ж і людзі, каб адзін аднаму падказваць, дапамагаць, — прамовіла бабуля.

Твар бабулі пад сівымі валасамі, збаранавалі зморшчыны, упоперак ля краёў вуснаў залеглі складкі доўгага няпростага жыцця, а ў вачах — спагада. Сухая рука з сінімі трапяткімі жылкамі трымала за ручкі танную сумку са штучнай скуры.

Аўтобус нумар 95 зачыніў дзверы і ціха выпаўз на праезную частку. Народ на прыпынку зноў зрушыўся, пасунуўся да бардзюра. Набліжаўся аўтобус нумар 113, напаўпусты, прасвечаны наскрозь праз вялікія шкляныя вокны.

— Дзякуй Вам… Пабегла, мой аўтобус, — прыветна кіўнула галавой бабулі Ларыса Іванаўна і з прыемным, натхняльным пачуццём, што яна для некага яшчэ дзетка, птушкай упырхнула ў салон.

Пасажыры валам павалілі ў аўтобус, пазаймалі ўсе вольныя месцы, пасталі ў праходах. Нумар 113 на мяккіх нягучных колах, без прыпынкаў, набіраючы хуткасць, паляцеў па Валгаградскай, навісаючы над нізкімі рознакаляровымі легкавікамі, прыдушваючы магутным корпусам выпендроністыя «Аўдзі» і «БМВ».

На вуліцы Валгаградскай у дварах старых, драўляных, з белымі ліштвамі прыватных дамоў, што яшчэ трывалі сярод сучасных катэджаў, абсыпаныя бела-ружовымі пялёсткамі буялі майскай квеценню яблыні. Ціхі ўтульны куток Мінска, выспа сярод падрослага як на дражджах горада са шкла і бетона, што пачаў выпіраць за ўласныя межы.

За паваротам, перакрэсліўшы рэйкі трамвайных пуцей, аўтобус павярнуў направа і на прыпынку спыніў лёгкаплынны палёт. Ларыса Іванаўна нетаропка выйшла з аўтобуса і ступіла чаравікамі на разагрэты сонцам чыста вымецены асфальт вуліцы. Пад нагамі валяўся недамецены акурак цыгарэты, дакор недасканаласці. Аўтобусны прыпынак зручна размясціўся побач з трамвайным, літаральна за некалькі крокаў. Апранутыя пад веснавы настрой людзі стоўпіліся на трамвайным прыпынку. Трамваяў доўга не было. Яны ішлі, скаланаючы рэйкі, з грукатаннем у бок Зялёнага луга, а назад не вярталіся. Людскія галовы былі павернуты наўздагон трамваям. Нарэшце, адзін, доўгачаканы, выплыў па рэльсах насустрач і, гледзячы жаночым тварам з акна кіроўцы, прагрукатаў да прыпынку, прызыўна расчыніў дзверы. Ларыса Іванаўна, прыціскаючы да сябе белую летнюю ў залацістых заклёпках сумачку праз сярэднія дзверы залезла ў салон. Пройдзе пара хвілін, і сюды на прыпынак прыгрукоча наступны трамвай, але людзям абавязкова трэба ўшчаміцца ў гэты.

Па салоне з трамвайнага хваста, вылузваючыся з цеснаты на больш вольнае месца, цягнуліся, прасоўваліся між пасажыраў дзве дзяўчыны-німфеткі ў аднолькавых сініх джынсах-стрэйч, што ўпіліся ў ногі цягучай гумавай тканінай. Прамыя як палкі доўгія валасы з роўна абсечанымі канцамі прыкрывалі іх спіны, а над вачамі навісалі густыя, нізкія, пад лінейку падрэзаныя грыўкі. Адна дзяўчына — русявая, другая — фарбаваная вугальная брунэтка з густа падведзенымі чорнай фарбай вачамі. Вобразы, спісаныя з модных часопісаў. Бессlавесныя, яны ні з кім не размаўлялі, ні ў кога не пыталіся: «Можна прайсці?.. Дазвольце?..» Моўчкі сунуліся між людзей, адчужана адціскаліся ад іх плячамі. Прышчаміўшы вузкія клубы Ларысы Іванаўны да пасажырскага сядзення, прасунуліся далей. Німфетка-брунэтка была прыпудраная да крэйдавай бледнасці, каб загасіць малады нястрымны румянец шчок ды схаваць нахабныя спелыя прышчыкі.

З сядзення, куды моладзь прышчаміла Ларысу Іванаўну, узняліся дзве кабеты і, спытаўшы, ці не выходзіць яна часам на наступным прыпынку, абмінулі яе, праціснуліся ў салон. Дзяўчаты-німфеткі юркнулі на вызваленыя месцы. Уладкаваўшыся на сядзенні, грывастыя сяброўкі як па ўзмаху чароўнай палачкі займелі ў руках шырокія навамодныя смартфоны, і дзявочыя гнуткія пальцы зашуравалі па экранах. Нічога не заўважаючы навокал, німфеткі ўтаропіліся ў сімвалы і малюнкі і, ганяючы іх пальцамі, загойсалі па смартфонавых прасторах.

«Эмацыйная закрытасць, — шчымліва думала Ларыса Іванаўна, гледзячы на дзяўчат, заадно пабедавала яна і наконт хлопца ў навушніках. — Такі ж небарака ў эмацыйнай закрытасці. Гаротныя дзеці, столькі на іх навалілася. Бясконцая плынь інфармацыі рознай, камп'ютары, мабільныя тэлефоны, з-за гэтага ім цяжка камунікаваць, яны ж не ўмеюць. Вось і з намі, з дарослымі не размаўляюць, усё маўчком ды маўчком. Канечне, раней дзецям было лепш, яны і ў скакалку разам

гулялі, і ў даганялкі, і ў хованкі, а цяпер яны такія закрытыя… гаротныя дзеці. Не ўмеюць камунікаваць. Як яны будуць жыць? Жыццё ж такое складанае… Эмацыйная закрытасць».

Раптам німфетка-брунэтка спыніла валтузню са смартфонам і, крутнуўшы зрэнкамі акрэсленых чорнай фарбай вачэй, торкнула вострым локцем у бок сяброўкі.

— На якім прыпынку нам выходзіць? Здаецца, тут недалёка.

Смартфон сяброўкі перастаў мільгаць малюнкамі і надпісамі, падмаляваныя бэзавым бляскам вусны расхінуліся і прамовілі:

— Фіг яго ведае, я назву забылася.

— Гэтак мы свой прыпынак праваронім. Трэба ў каго-небудзь спытацца!

Чорныя фарбаваныя вочы забегалі і асэнсавана агледзелі пасажыраў. У праходзе погляд зачапіўся за дзяўчыну-равесніцу. Камп'ютар у галаве брунэткі адсканіраваў аб'ект, выдаў адказ «для роспытаў не падыходзіць» і адразу пераключыўся на пажылую жанчыну. Жанчына, шырокая і грузная, у светлай пярэстай блузе навыпуск, размясцілася паблізу на развернутым насустрач, як у электрычцы, сядзенні.

— Скажыце, калі ласка, — на круглых пухлых шчаках юнай брунэткі з'явіліся дзве мілыя ямачкі ад усмешкі, лісіны голас прасіў сыру, — нам патрэбна паліклініка, гэта на якім прыпынку выходзіць? — распытвала яна пажылую жанчыну.

Белагрывая сяброўка схавала смартфон і, імгненна сканцэнтраваўшы ўвагу, пазірала праз акно на вуліцу, прыкмячаючы, дзе яны едуць.

«Бацюхны мае… размаўляюць! — брынькнула ў галаве Ларысы Іванаўны. — А як жа эмацыйная закрытасць?» — вярэдзіла пытанне.

— Дзяўчаткі не хвалюйцеся, я выходжу на тым прыпынку, дзе паліклініка, я вам дарогу пакажу, — запэўніла жанчына.

— Добра, мы выйдзем з Вамі, а Вы пакажаце, куды ісці, — лісіны голас кемліва чапляўся за бабулю.

«Вось табе і скакалкі, хованкі, камунікацыі. Я ж ўяўляла, што яны з камп’ютарамі, плэерамі ў абдымку… зусім нямыя!» — здзіўлена падумала Ларыса Іванаўна і пачала пільна сачыць за юнымі сяброўкамі.

А дзяўчаткі трапна ўзялі бабулю ў абарот і прызначылі ў праважатыя. Тая паднялася з сядзення.

— Вы выходзіце? — спыталася яна ў пасажыраў і шырока зайшла ў натоўп, які расхінуўся перад ёй, дзяўчаты шмыгнулі следам ва ўтвораны фарватар. Ухапіўшыся слабай рукой за поручань, жанчына цяжка саступіла з трамвайнай прыступкі. Дзяўчаты зайкамі павыскоквалі следам.

«Маглі выйсці першымі і падаць старой руку, — дакорліва глядзела на іх Ларыса Іванаўна. — Эмацыйная закрытасць!» — падкузьміў унутраны голас.

— Ё-маё, мне ж выходзіць! — паглынутая глыбокім псіхааналізам лёсу будучых пакаленняў, Ларыса Іванаўна ледзь не праехала патрэбны прыпынак. — Дазвольце… прапусціце… можна прайсці? — пёрла яна да выхада, пасля з прыскокам гопнула на асфальт, трамвайныя дзверы зачыніліся за яе спіной.

Пажылая жанчына пераходзіла вуліцу павольнымі крокамі і паказвала кірунак жэстам правадыра. З двух бакоў, як крылы анёла, яе атачалі дзве лёгкія маладыя постаці.

# Змест

Літаратурна-мастацкае выданне

**Доля** Зоя

# ЧАС ПАСЛЯ САЮЗА

Аповесць, фельетон, апавяданні

Адказны за выпуск *А. Невінская*
Рэдактар *І. Шаўлякова*
Камп'ютарны дызайн, вёрстка *Е. Дубовік*
Дызайн вокладкі *Э. Іодо*
Карэктар *І. Шаўлякова*

Падпісана да друку 22.03.2018. Фармат 60x84 1/16.
Папера афсетная. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 12,4. Улік.-выд. арк. 10,1.
Наклад 300 ас. Замова 7328.




Выдавец і паліграфічнае выкананне:
таварыства з абмежаванай адказнасцю «Медысонт».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюджвальніка друкаваных выданняў
№ 1/142 ад 09.01.2014,
№ 2/34 ад 23.12.2013.
Вул. Ціміразева, 9, 220004, Мінск.